# Полымя Рэвалюцыі

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

Орган
Праўлення Саюза
Совецкіх пісьменнікаў
БССР

*КНІГА СЁМАЯ*

МЕНСК ЛІМ
ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
1935

## ЗМЕСТ

## *Рэдакцыі часопіса „Штэрн“*

*Рэдакцыя часопіса „Полымя рэвалюцыі“ ад імя сваіх супрацоўнікаў і чытачоў, горача вітае свайго таварыша па барацьбе за соцыялістычную культуру—часопіс „Штэрн“ з дзесяцігоддзем яго існавання.*

*Дзесяць год існавання „Штэрна“ — гэта дзесяць год барацьбы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі супроць яўрэйскага нацыяналізма, супроць контррэволюцыйнага троцкізма, бундызма і вялікадзяржаўнага шавінізма, за стварэнне яўрэйскай совецкай літаратуры. Гэта дзесяць год барацьбы за рэалізацыю прынцыпаў ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі.*

*Тысячы чытачоў часопіса, дзесяткі маладых, выяўленых з радоў пролетарыята аўтароў часопіса, — гэта вынік работы часопіса, вынік барацьбы за высокую якасць, за кадры маладой совецкай яўрэйскай літаратуры.*

*Вітаючы з дзесяцігоддзем, жадаем яшчэ больш упартай і настойлівай барацьбы, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, за стварэнне совецкай яўрэйскай літаратуры.*

*РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА „ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ“.*

Янка Купала

# БЕЛАРУСІ ОРДЭНАНОСНАЙ

## Да гадавіны вызвалення ад белапалякаў і дня ўручэння ордэна Леніна

I

Чым ты была, Беларусь мая родная—
Хіба-ж не бачылі нашыя вочы!
Вечна абдзёртая, вечна галодная,
Сонца не ведала, а толькі ночы...

Людзі твае, ў беднаце гадаваныя,
З торбай жабрацкай век дажывалі...
Злосна стагналі вятры над курганамі,
Хмары насіліся чорнаю хваляй.

Цар, цараняты нагайкамі няньчылі,
Пан і панята пaслі бізунамі,
Турмамі песцілі, петлямі лашчылі,
Розгамі seклі, цямрылі багамі.

Цар, генералы і панства вяльможнае
З гікам і свістам спраўлялі банкеты...
Вёску абдзёртую думкі трывожылі,
Блукаўся старац разуты, раздзеты.

Годы ішлі, ўслед ішло гора—злыбеда,
А прад вачамі заклятыя далі...
Ой, хто крутыя шляхі гора выведаў,
Песні чаму ўсё аб горы складалі.

. . . . . . . . . . . . . .

Грозна завылі гарматы хаўтурскія,
Цёплая кроў арасіла прасторы:
Горы Карпацкія, багны Мазурскія,
Роднай краіны даліны і горы.

Скрэжат і смерць. А там... бежанцы, бежанцы...
Густа пашлі за магілай магіла.
Хоць бы ўжо ў царскае горла урэзацца,
Хоць бы кроў з панскіх выпусціць жылаў!

Так аблілося крывёй поле роднае,
Так балявалі чужацкія госці.
Вецер заводзіў малітву жалобную,
Чорны груган збіраў белыя косці.

Але змяніла навалу германскую
Подлае панства ад польскай кароны,—
Скрыпнулі вісельні, путы забразгалі,
Кроў палілася... Пажары, пагромы.

Зноў пацяклі слёзы горкія ўдовіны,
Дзеці-сіроткі бацькоў не знаходзяць...
Гэй, паны-шляхта! народ вамі скованы,
Ён вам адпомсціцца жудка ў прыгодзе.

II

І сягоння помняць, помняць, не забудуць
Людзі Беларусі, пазбыўшыся панства,
Як іх катавалі, як чакалі цуду,
Як прышло з Усходу вызваленне з рабства.

Людзі Беларусі помніць будуць добра
Аб гадох няволі, аб нядолі горкай,
Як мінула ліха, як не гнуцца горбам,
Як жыць стала лёгка пад чырвонай зоркай.

На поле выходзяць вольнаю дружынай,
Дзірваны ўзнімаюць, заводзяць машыны,
Сеюць чыстым зернем, нішчаць пустазелле,
Дзе глянь, сады садзяць... Зацвітай прыселле!

Зелянее жыта, жыта і пшаніца,
А так буйна, буйна, як даўней ніколі.
Вось дык будзе радасць у ясных святліцах,
Калі грамадою збяруць дабро з поля!

Калгасныя смела засяюць загоны,
Не баяцца зграі панскай недабітай,
Бо вартуюць межаў арміі чырвонай
Жалезныя роты, гартаваны ў бітвах.

А калі што прыдзе, возьмуць стрэльбы самі,
Як адзін паўстануць на ворагаў дзікіх,
І вызваляць брацяў, што йшчэ кайданамі
Звоняць у няволі ў муках вялікіх.

III

Шум і гоман у сталіцы,
Сцяг ля сцягу ўецца,
Як на градах мак чырвоны,
Ажно сэрца б'ецца.

Сэрца б'ецца і пытае:
А што за навіна?
— Вызваленне ад палякаў
Сёння гадавіна!

А сталіца—дзіву дайся!—
Паўстала з руінаў,—
Менск—сталіца гордасць наша,
Слава ўсёй краіны.

Дзе дымелі папялішчы—
Сляды панскай ўлады,
Гмах ля гмаху вырас новы,
Чыстата, парадак.

Дзе крывавы баль спраўляла
Хэўра інтэрвентаў,
Ходзяць з песняй пераможнай
Тысячы студэнтаў.

Дзе была вакол пустэча,
Як тая магіла,
Ўсталі фабрыкі, заводы—
Рэспублікі сіла.

А народ там гераічны,
Наш народ рабочы,
Рукі моцны, бы са сталі,
Арлíныя вочы.

Беларусь мая радзіма,
Як-жа расцвіла ты
За час гэты, за кароткі,
Як выгнала катаў!

Не злічыць тваіх здабыткаў
І не змерыць меркай...
Чалавек твой на свабодзе
Стаўся чалавекам.

Каласіся-ж, расцвітайся,
Краскаю чырвонай
У Саюзе у савецкім,
У законе роўным!

Знай, сягоння дзень твой важны
Важнай нагароды;
Святкуй весела, шчаслів
Ў полі і ў заводах.

У вадзіцы, ў крынічнай
Чысценька памыйся,
Прыбярыся ў кветкі-краскі,
Сонцам атуліся.

За ўсё тое, што стварылі
Шчыра твае людзі,
Ордэн Леніна сягоння
Твае ўквеціць грудзі.

Рана, позна—гэта ведай,—
Ці сонца, ці зоры,—
Мудры Сталін падзяляе
Твае шчасце й гора.

Ляўкі. Аршаншчына.
Чэрвень. 1935 г.

Янка Купала

# ПАРТЫЗАНЫ

Як ішлі ў лясы партызаны
На заклятага ворага—пана,—
Расступаліся долы і горы,
Шляхі значылі сонца і зоры.

Як табун разграмілі варожы
Партызаны ў сваім падарожжы,—
Задымелі агні на начлезе,
Зашумеў кучаравы бярэзнік.

Як-жа свой партызан адзін здрадзі
І навёў ліхадзеяў к засадзе,—
Пашоў гул па зялёных імшарах,
Паплылі небам чорныя хмары.

... А на вогнішчы попелу горсці,
А ў тым попеле чорныя косці...
Выюць ночкай ваўкі на палянцы,
Касцякі даядаючы здрайцы.

Як прышла перамога над панам,—
Ішлі з песняй з лясоў партызаны,—
Расступаліся долы і горы,
Шляхі значылі сонца і зоры.

Ляўкі. Аршаншчына.
Чэрвень. 1935 г.

Янка Купала

# ДАРОГІ

Дарогі вы шасэйныя,
Шчаслівыя дарогі,
Істужкамі пасламіся
На нашыя разлогі.

Праз поле ўраджайнае,
Тарфяныя балоты,
Праз пушчы векавечныя
Ляглі вы пазалотай.

Ніколі вы не дрэмеце,
Ад ранка і да ранка,
Па вас машына коціцца
І конная фурманка.

І пешаходам весела—
Малодшы ён, ці старшы,
Байцы Чырвонай арміі
Ідуць паходным маршам.

Грузавікі з таварамі
Бягуць ва ўсе староны,
З лістамі віншавальнымі
Шнуруюць паштальёны.

Злучылі з гулкім горадам
Спакойныя разлогі,
Дарогі вы шасэйныя,
Шчаслівыя дарогі.

З бяспуцця непраходнага,
З калдобін—катлавінаў
Прышла, ордэнаносная,
На роўны шлях краіна.

Ляўкі. Аршаншчына.
Чэрвень. 1935 г.

Міхась Лынькоў

# АБ ЧАЛАВЕЧЫМ СЭРЦЫ

Ноччу забілі паручніка, вядомага графа Бжызэцкага.

Цела яго дазволілі пахаваць у фамільным склепе ўласнага маёнтку графа. Суровая і маўклівая хадзіла па старых пакоях графіня. З ёй баяліся сустрэцца зрокамі, абыходзілі яе, не перашкаджалі ёй выказваць сваё гора, свае пачуцці. Тут была своеасаблівая павага да гаспадыні дома, да жанчыны, страціўшай блізкага чалавека. Як-ніяк яна ветліва, ці правільней будзе, намагалася ветліва абыходзіцца з намі, не досыць гасцінна заняўшымі яе дом, яе маёнтак, яе лясы і палі, урэшце, заняўшымі больш паловы яе айчыны. Графіня старалася быць стрыманай, вонкава-спакойнай, яна знаходзілася ў тым стане душэўнай роўнавагі, дзе сказваліся векавыя традыцыі і навыкі вонкавых паводзін чалавека старой аджываючай культуры. Прыслухоўваючыся да грознай кананады над Віслай, яна магла гадзінамі гаварыць аб самых звычайных дробязях—аб судаку па-польску на заўтрашні дзень, аб перасоленым супе, аб добрым надвор'і, аб некаторых слабасцях цяперашняга папы і вялікім умельстве мясцовага арганіста. Яна асцярожна спрабавала гаварыць і аб вайне, падкрэслівала своеасаблівую аб'ектыўнасць да гэтых падзей.

— Ну, што-ж вайна, заўсёды вайна. Вайна—нязбежная кара на людзей, на народ, вайна—няшчасце, але і ў няшчасці ёсць доля карысці—вайна вучыць народ, праз вайну разумнеюць людзі, праз вайну ідзе вялікае яднанне чалавечых душ, чалавечага сэрца. Вось пра польскі народ... Хто разумее яго... Хто ведае аб вялікім яднанні яго сыноў, ад славутых людзей да апошняга хлопа... Адны думкі ў іх, адна воля, адно сэрца...

Камісар палка таропка аплятаў судака, рассеяна слухаў і думаў аб нечым сваім, вельмі далёкім ад графіні, ад маёнтка, ад яднання душ. Каб захаваць адзнакі звычайнай пачцівасці, ён кідаў рэплікі:

— Так, так, гаспадыня...

Часам яны былі неўпапад і тады, схамянуўшыся, камісар рэзка абрываў графіню:

— Які-ж дурань так можа гаварыць?

— Гэта я гавару...—мякка, але настойліва падкрэслівала графіня.

Камісар незручна чырванеў, разгублена кідаў:

— Ах, выбачайце... Але-ж гэта няправільна, вы зусім не ведаеце свайго народа... Да рэчы, у мяне тэрміновыя справы, павінен пайсці...

— А салодкае, пан начальнік?

— Няма часу, выбачайце.

Камісар кідаў полудзень ішоў у штаб. І там адводзіў душу.

— Вось кара на маю галаву! Хутка перастану абедаць, да чаго ўсё гэта апрыкрыла. І чорт падштурхнуў стаць тут са штабам... Салодкае, салодкае... Яна ўтапіла-б цябе ў гэтым салодкім... Ходзіць, тапырыцца,

як мяшок з іголкамі, а яшчэ пнецца—салодкае... салодкае... Да ты мне проста скажы, у вочы скажы—ненавіжу вас, чырвоныя д'ябалы... вялікаю чалавечай ненавісцю ненавіжу... І я-б сказау: так графіня, у бога твайго, у барабан—вораг ты наш да апошняга твайго ўздыху... Чаго-ж тут фіглі-міглі круціць—салодкае, салодкае...

... І вось ізноў яна стаяла перад камісарскім сталом. Камісар ёрзаў на стуле, нэрвова перабіраў розныя паперы на стале, злосна адкідаў некаторыя, пакутная міна не сыходзіла з яго твару, з тайнай надзеяй пазіраўшага на дзверы.

— Хоць бы ардынарац які, хоць бы якая жывая душа чалавечая вызваліла-б з гэтай напасці... Хоць бы па тэлефону хто паклікаў...— безнадзейна думаў камісар і адчуваў, як разбальваецца, ные зуб. То-ж заўсёды, калі якая-небудзь непрыемнасць. І ліха яго ведае, чаму не можа вось ён пераносіць прысутнасці гэтага чалавека, гэтай жанчыны. Ён, ... сар бранскіх заводаў, які не баяўся ні бога, ні чарцей, ні паноў, ні панскае кулі, сядзіць вось збянтэжаны. Перад кім? Канешна, каб не быў камісарам, мо' пагаварыў бы трохі інакш. Але-ж начальнік, трэба ўсё-ж фасон трымаць—і мы, маўляў, не лыкам шытыя, і мы можам разгаворы разгаварываць і на ўсякія словы адказ трымаць і не толькі адказ але і за вялікія справы адказнасць мець і вас запытаць, у бога вашага, у барабан... Так...

— Дык слухаю вас...—і рукой левай махнуў, ні то запрашаючы сесці, ні то проста так ад усёй гэтай безнадзейнай бузы. Правай шчаку падпёр, каб зубу спрытней, ды каб ямчэй касавурыць вока ў адчыненае вакно, дзе гудзелі шмялі, дзе шалелі задзірыстыя вераб'і з немудрашчымі справамі сваімі, вераб'інымі.

— Так... слухаю...

Яна паглядзела на стул, перавяла позірк на запыленае распяцце на сцяне—ах, божа-ж мой, ізноў гэтая бязуля Цэрэза не працерла ног Хрысту, уся ў павуцінні галава пана-бога—і нібы ў тон мімабеглым думкам выціснуліся скупыя словы:

— Ах, божа, божа...

— Та-ак... я слухаю вас... Я слухаю вас, гаспадыня...

— Ах, вы слухаеце... Як гэта добра... Вы... усё-ж культурны чалавек...

— ... Чаму ўсё-ж... і ці не можна часам без прадмоў... І без кампліментаў...—хацелася супярэчыць камісару, але, да болю заціснуўшы зуб, ён прамаўчаў і толькі ножкі крэсла пад ім скрыпнулі нецярпліва, камісар ямчэй павярнуўся да акна.

— Так, вы ветлівы чалавек, і, як відаць, вы паважаеце закон і я хацела-б сказаць, вялікую чалавечую справядлівасць, якой кіруецца свет, з якой людзі жывуць і з якой адыходзяць людзі да міласэрнага панабога...

— ... Бог то тут не пры чым... а справядлівасць—гэта яшчэ як паглядзець, з якога боку да яе падыходзіць...—падумалася камісару.

— ... І вось свенты пан Езус наканаваў мне вялікі і цяжкі іспыт. Вы напэўна ведаеце майго мужа?

— Чуў, чуў...

— Учора, вы ўзялі яго ў палон... Я не буду спрачацца з вамі... І мне няма чым папракаць вас... У вайны свае законы старыя, адвечныя законы... Учора вы ўзялі яго, а пазаўчора, выбачайце мяне, пане начальнік, вы-б, скажам, маглі патрапіць у палон да яго...

— Гм... гэта як сказаць...

— Гэта я да слова... Вайна—яна ёсць вайна... Але зачым-жа, божа мой, такая бязлітасная расправа, такая нахабная смерць... Не смерць

у байцы, не смерць са зброяй у руках, а такое непатрэбнае і гідкае забойства... Забойства абяззброенага, бездапаможнага чалавека... Вы падумайце, пане начальнік, чалавека...

— Так... так...—кідаў безуважліва камісар.

— Мне сказалі, што яго забілі ноччу... Забілі як апошняга злачынца, як, даруйце мне, няшчаснага бандыта. Дзе-ж пытаю, вас, звычайная чалавечая справядлівасць, дзе боскія і чалавечыя законы. Вы-ж пан начальнік... Я прашу вас быць справядлівым... Я прашу вас сурова пакараць злачынцаў... Я прымушана буду скардзіцца вашаму вышэйшаму начальству, калі вы не задаволіце мае просьбы... Вы-ж самі разумееце, што гэта забойства не робіць гонару, выбачайце, арміі...

— Так, гэта забойства... Забойства, нічым неабгрунтаванае...

— О, як я рада, я вас прашу... Я малю вас аб суровай кары...

— Так... Мы сурова пакараем злачынцаў... Я разбяруся, хто правы і вінаваты... У нашай арміі няма забойцаў, вы гэта павінны памятаць, гаспадыня... А злачынцу, калі ён ёсць, мы пакараем... Мы дамо самую жорсткую кару, ад якой здрыганецца зямля... Мы таксама за справядлівасць, за самую вышэйшую, за самую святую, калі гаварыць вашым словам... Я кончыў, гаспадыня... Бывайце...

Яна ўстала, маўклівым уклонам аддзякавала камісара, старанна змахнула насоўкай пыл і павуцінне з прасветлага пана-бога і пашла, нясучы з сабою ўрачысты шэлест шоўку і няўлоўныя пахі парфумы.

У дзвярах прыпынілася на хвіліну, спытала:

— Вы можа, пан начальнік, пакаштуеце слівак? Найлепшыя сліўкі, зараз Цэрэза прынясе з лёдніка...

— Не, не... барані божа! Зуб, зуб, гаспадыня!

Пайшла.

Тады камісар падняўся рэзка з крэсла, выпрастаўся, разняў зацёкшыя ногі і, высунуўшыся ў вакно, глыбока ўдыхнуў свежае паветра, набрыняўшае ўсімі пахамі спелага лета. Уздыхнуў і чыхнуў на ўсю моц сваіх лёгкіх, напалохаўшы статак вераб'ёў, дружна ўзляцеўшых з кустоў парэчак.

— На здароўе, таварыш камісар!

— А каго тут ліха носіць? А-а... слаўныя ардынарцы... Вас заўсёды, у бога вашага, у барабан, няма, калі трэба, ходзіце неўпапад...

— А мы, таварыш камісар, учарашняга чырвонаармейца хавалі!

— А-а... Ну ладна... Пакліч-ка да мяне каменданта, да жыва, на аднэй назе каб...

— Слухаюся, таварыш камісар...

* * *

Прыхіліўшыся да дзвярэй стаяў на варце чырвонаармеец і абыякава пазіраў і на злачынцу, стаяўшага недалёка перад ім, і на муху, якая ўселася на штык і вот ходзіць сабе, поўзае поскудзь...

— А ну, халера...—і ён так злосна падзьмуў на муху, што аж закалыхаліся фіранкі на вакне. І тады нібы палегчала вінтоўка, спрытней прыліпла да далоні рукі. І здзіўлена запытаў камісар:

— Ты чаго?

— А нічога, таварыш камісар...

Чырвонаармеец быў яўна не ў настроі. Стаяў такі прыгожы і светлы дзень. У празрыстым кусочку неба, што заглядаў у вакно, беглі светлыя белыя воблачкі, кружыліся белагрудыя ластаўкі і ішоў ад вакна хмяляві пчаліны гуд—густы такі, цёплы, бадзёры. Ды дзесьці блізка ўрачыста бухалі цяжкія гарматы і тады вясёлым хрустальным звонам адгука-

ліся ваконныя шыбы і аднекуль здалёк прылятаў прыглушаныя адгалоскі: гу... г-гу-гу-у-у... Шкло акон не адказвала на іх. Але чырвонаармеец бачыў, як настарожваўся твар камісара, як на хвіліну спыняліся яго задуменныя вочы і спыняліся на нечым нябачным і нерухомым. І чырвонаармеец ведаў, аб чым думае цяпер камісар, бо і сам лічыў пра сябе:

— Раз, два, тры... дзесяць... Ну і смаляць, вот дзе сягоння прыпарка... А ты швэндайся тут з гэтымі арыштаванымі...

І чырвонаармеец робіцца пахмурным. Але гутарка, якая адбываецца паміж камісарам і арыштаваным, пачынае цікавіць яго. Бач ты, справы якія! І ён прыслухоўваецца да скупых слоў, якімі абменьваюцца людзі перад ім.

Вось ён сядзіць гэты забойца. Чырвонаармейцу не відаць яго твару, але па таму, як б'ецца сіняя жылка на скронях гэтага чалавека, як дрыжаць пальцы далоні, пакладзенай на калена, відаць, што чалавек моцна хвалюецца, усё намагаецца аб нечым давесці, аб дужа важным для яго, дужа патрэбным.

— Дык як-жа так?—дапытвае сурова камісар, не спускаючы воч з чалавека, з яго ссутуленай постаці, з светлага пуху валос, пакрыўшага няголены твар.—Хто вам дазволіў? Як гэта вы зрабілі?

— А так, начальнік...—скупа адказвае чалавек і, раптам ажывіўшыся, пасуваецца бліжэй да стала і пачынае гаварыць хутка, хутка, стараючыся, як мага хутчэй выгаварыць усё, давесці аб самым важным, аб самым галоўным.

Чырвонаармеец слухае гэты голас, пачынае спачуваць яму і калючая непрыязнь да гэтага чалавека пачынае нікнуць, раставаць. Ён пачынае цікавіцца лёсам гэтага чалавека, жыць яго перажываннямі, яго пачуццямі.

— Я ўсё, усё раскажу, начальнік... Я хачу вам многае расказаць... І аб тым, як учора вы жорстка пакрыўдзілі... так... Пакрыўдзілі мяне... Вы не зразумелі мяне ўчора, вы падумалі бог ведае што... Але-ж бачыце, я зусім не той чалавек, не такі чалавек, якім вы мяне ўяўлялі...

Чалавек таропка гаворыць і дрыготкімі пальцамі рукі папраўляе з'ехаўшую абмотку.

І чырвонаармеец, прыглядаючыся да гэтых пальцаў, да ўпартай абмоткі, якая не паддаецца пальцам, прыглядаючыся да чужога, варожага мундзіра, успамінае ўчарашні дзень. Дзень як дзень, якіх багата на фронце. Але адным здарэннем ён усхваляваў надоўга чырвонаармейцаў і шмат каго з жыхароў польскіх вёсак. І ён успамінае да апошняй драбніцы ўчорашнія падзеі.

* * *

Некалькі дзён полк стаяў на адпачынку ў рэзерве. Раніцой камісар узяў некалькі чалавек з коннай разведкі і паехаў у суседні гарадок, дзе стаяў штаб брыгады. Паехаў з людзьмі, бо вядома было, што па тылах лютуе адстаўшы ў лесе ці знарок астаўшыйся эскадрон польскіх уланаў. Была надзвычайная пагода, адна з тых ласкавых раніц, якімі дорыць нас канец жніўня, калі лета пачынае ламацца напал і стомленае сваім пышным цветам, багатымі ўбёрамі, пачынае ціха-ціха сумаваць, мо' аб блізкай восені, мо' аб першым, праўда яшчэ рэдкім і непрыметным, лісту, завялым, паблеклым. Тады бываюць гэтыя раніцы, спакойныя, задумныя, з празрыстым халадком, з яснымі прыгожымі далямі, з урачыстай цішынёй, якую парушыць хіба толькі праляцеўшы бусел ці неўгамонны верабей на дарозе.

І вось там, дзе кучараівўся за маёнткам малады бярэзнік, знайшлі яго. Ён ляжаў каля дарогі, шырока раскінуўшы ногі і падкурчыўшы

пад сябе руку. Другая была на спіне неяк недарэчна выгнутая з задужа белымі ашклянелымі пальцамі. Ляжаў ён ніцма, уткнуўшыся тварам у жмук саломы. Шынель на плячы быў рассечаны і адтуль выпіраў абрубак косці, чарнеўшы мухамі і запеклай крывёю. Ніхто не здзівіўся знаходцы, ці мала сустракаліся штодня з забітымі. І камісар загадаў паглядзець чалавека, паглядзець дакуманты, з якога палка баец, каб сказаць, перадаць аб гэтым. Некалькі чалавек саскочылі з коняй, узяліся за чалавека, перавярнулі яго.

— Эх, ты, небарака, надумаўся на адзіноце смерць прымаць, не па таварыску гэта, чалавеча...—пажартаваў адзін з хлапцоў. Але ніхто не адказаў на жарт, усе маўчалі. І здавалася, што гэта маўчанне нарастала, набракала нейкай пагрознай цішынёй, якая бывае перад вялікімі навальніцамі, вырастала ў грозную сілу, перад якой расступаецца, нікне ўсё звычайнае, шэрае, непрыметнае.

А чалавек ляжаў цяпер, уперыўшы прыжмураныя вочы ў трапяткую сіняву неба. Быў ён нерухомым, маўклівым. Адна нага была перасечана ў калене і так і ляжала надломаная. Рубец запекшайся крыві прайшоўся па валасах ад лба і да самага вуха. Хлопцы паправілі далонь рукі, яна вісела бездапаможная і непатрэбная цяпер на брудным шматку скуры. Тапырылася рассечаная ад самага пляча шынель. Хлопцы рассунулі полы шынеля, каб дастаць з гімнасцёркі дакументы і ціха падаліся назад. Зіяючая рана была на грудзях, яна ішла ад самага пляча і праз чорныя запеклыя берагі раны відаць было яно, звычайнае чалавечае сэрца. Чалавек быў нерухомы, а яно білася ціха, павольна. Хлопцы адвялі вочы і прыкрыўшы шынелем рану адышліся ў бок. Моўчкі злез з каня камісар, ціха агледзеў чалавека. І тады парвалася цішыня. Камісар вылаяўся. Ён памянуў і бога і барабан і шмат чаго горшага за барабан. Было тут і пра сусветную сволач, і пра польскую гідру, і пра гада, а не чалавека... якога трэба да ногця... І самы старэйшы разведчык, стары франтавік Апанас, які быў гонарам палка і героем, раптам збялеў увесь і закрычаў непрытомным голасам, асядаючы на прыдарожную траву.

— Даць яго, ірада, мне... Я скуру спушчу з яго, хто не ўмеў дарубіць чалавека...

Голас пракаціўся глухімі пагалоскамі па лесе і знік, паглынуты кучаравай зелянінай бяроз. Апанас сядзеў на траве і неяк хістаўся з боку на бок, падпёршы далоняй шчаку, па якой скачвалася незвыклая для разведчыка сляза.

— Гэта-ж ардынарац з брыгады, я яго памятаю...—глуха вымавіў ён урэшце супакоіўшыся і канфузліва сціраючы шчаку.

— Ну, ну, раскіс ты, стары... Справа бачыш, не ў тым, што нехта не ўмеў, а не хацеў,—вось у чым яна справа...—каротка кінуў камісар і загадаў пашукаць вады—трэба-ж прамачыць чалавеку засмаглыя вусны.

— А цяпер, бярыце асцярожна ў шынель, ды айда назад, не пакідаць-жа тут паміраць аднаго...

І калі бралі на разгорнуты шынель, чалавек упяршыню застагнаў і паварушыў галавой. Спыніліся, улілі некалькі кропляў вады ў засмяглыя вусны раненага і той прыадкрыў вочы і глядзеў нерухома—на людзей, на кучаравую зелень бяроз, на лёгкія белыя хмурынкі, што беглі ў празрыстым блакіце, засцілі на якую хвіліну чыстае, яснае сонца. Тады па твары праходзілі таропкія цені і ён рабіўся бледным, выцягнутым, з узлахмачаным надломам брывей, з завойстраным носам. І чалавек сказаў тады свае першае слова:

— Холадна...

І замоўк.

І хаця ярка свяціла сонца, і цёпла гулі пчолы, і зялёнаю цяплынёю веяла ад бяроз, і весела іскрыўся залацісты пыл пад капытамі нецярплівых коней—усе адчулі гэты халадок і мімаволі сцялі плечы. Стары разведчык ненатуральна суровым голасам, у якім прабіваліся аднак іскаркі цяплыні і жалю, глуха запытаў раненага:

— Хто-ж гэта цябе так?

І ўсе маўчалі, чакаючы адказу.

Ранены з натугай адкрыў рот і ціха-ціха—чуваць было, як шалясцяць пад лёгкім ветрыкам лісты бяроз—прамовіў:

— Уланы...

Усе расправілі плечы, селі на коняй і павезлі раненага назад да штаба. Усю дарогу маўчалі, хаваючы позіркі воч у насупленыя бровы, думаючы аб нечым цяжкім, прыгнятаючым. Аб гэтых думках гаварылі словы аднаго з разведчыкаў, які кінуў ні да каго не звaрачаючыся:

— У-у... гады... звяры...

Ля самага паваротку ў маёнтак сустрэліся лоб-у-лоб з вялікай групай людзей. Вялі пад канвоем палонных, відаць, толькі што ўзятых. У самым канцы калоны ішоў афіцэр. Ён цяжка соп, не прывыкшы хадзіць пехатою, крыху пакульгваў на адну нагу. Цмяна пабліскавала сонца на пазументах пагон і лампасаў. Пазументы былі ў пыле, прапыленыя былі боты і на адным з іх ціха дзвенькала шпора. Другая была адарвана і, матляючыся на адным раменчыку, чырыла па дарозе, уздымаючы ружовыя клубкі пылу.

І гэтая шпора нейк змяніла настрой разведчыкаў. Усміхнуліся, павесялелі:

— Шпору, прывяжы, кавалерыя! Іш ты, пузан, запацеў на шпацыру!

І нехта, угледзеўшыся, крыкнуў:

— Братва! Гэта-ж уланы...

Як віхарам змяло разведчыкаў з коняй і не паспеў схамянуцца камісар, як пабеглі разведчыкі, як завіхрыліся галасы і слупы пылу ўзняліся ля калоны палонных.

— Бі іх, крышы на капусту...

— За здзек! За надругу над жывой душой... У расход ірадаў бога не нашага...

І нехта стараўся перакрычаць:

— Пастой, пастой! Паказаць ім работу іхную, супастатам... Няхай нацешацца, наглядзяцца...

Ад нечаканасці змяшаліся канваіры.

І ранены ляжаў ужо на зямлі. Наўкруга стаялі палонныя, цяжка дыхалі, палахліва азіраючыся па баках і ўцягвалі галовы ў дрыготкія плечы, адчуваючы халадок на спінах.

— Шапкі далоў, гады!.. Іш ты, залачоныя...

І нехта цягнуў афіцэра, падштурхоўваў яго бліжэй да сярэдзіны, да раненага. Паручнік мякка, бязвольна падаваўся наперад, быў бледны, на смерць напалоханы. Неспакойна бегалі яго шчэлкі-вочы, шукаючы спагады. І гэтай спагады не было. Вочы настромліваліся на калючыя позіркі і ў гэтых позірках ён бачыў, адчуваў наканаваны свой лёс, свой апошні дзень. Збялелыя вусны шапталі:

— О, свенты пан-бог, о, свентая матка...

— Свентая... растуды тваю ў бога... Ён—сабака—памінае яшчэ бога... Ён... ён...—і раптам збялеўшы, адскачыўшы на крок назад хапіўся за шаблю стары Апанас-разведчык. Яна ўзвілася з шыпучым свістам угару і не паспелі людзі ўгледзець яе сонечны блік, як выпала яна з рук, з ціхім звонам упала на пясок, выбітая рукаяткай нагана падбегшым камі-

сарам. Стала ціха. І тады пачуліся прыглушаныя, амаль не шопатам, словы камісара:

— Звяр'яцеў. Палонных біць, стары дурань...

Апанас стаяў разгублены, абмякчэлы. Урэшце вымавіў:

— Вінават, таварыш камісар... Калі-ж такія справы...

— Справа? Ты ў баю крышы іх... А вы?—звярнуўся камісар да канваіраў.—Службы не ведаеце хіба?

Канваіры стаялі, патупіўшы вочы ў зямлю.

Бледныя, напалоханыя твары палонных пачалі набірацца чырванню, цяплынёй. Нехта першым загаварыў з іх, горача, усхвалявана:

— Пане начальнік... Пане таварыш...

— Што?

І раптам загаварылі ўсе разам, загулі, зашумелі:

— Пане начальнік, зачым крыўдзіце вашага салдата? Ён харошы чалавек, ён правільна хацеў зрабіць...

І тычучы рукамі, паказваючы на збянтэжанага паручніка, ужо крычалі некаторыя, стараючыся перакрычаць адзін другога:

— Ён вялікі звер... Ён гад... Забіць яго—мала...

І ўжо мітусіліся кулакі, у вялікім запале крычалі палонныя, злавесна гарэлі вочы і нехта памкнуўся з іх неведама для чаго выхапіць штык у канваіра.

— Ну, ну!—грозна крыкнуў тут камісар і ўсе сціхшыліся.

— А цяпер, канваіры, збярыце людзей і вядзіце на нач у камендацкую... А вы—па конях!...

Праз колькі хвілін прыехалі ў маёнтак. Раненага чырвонаармейца не давялося давезці жывым, памёр на дарозе. Сумавалі хлопцы, не ведалі нават адрасу нябожчыка, каб паслаць скупы ліст яго сям'і.

* * *

А чалавек у варожым мундзіры расказваў:

Уважліва слухаў яго камісар.

— Я ўчора выхапіў быў вінтоўку... Вы маглі падумаць, вы падумалі бог ведае што... Я тады ўжо наважыўся... Умяшаліся вы, перашкодзілі... Ён жорстка здзекваўся над людзьмі, будучы памешчыкам... Як ведаеце, ён тутэйшы памешчык, гэта-ж яго маёнтак... Ён страшна ненавідзеў нас, простых людзей, хлопаў... Аб гэтым вы можаце запытаць тутэйшых людзей, яго парабкаў. Вось сёння ніхто з іх не быў на пахаванні свайго гаспадара, так любілі яго... Я таксама з гэтых-жа яго парабкоў... Дык вот... І зусім лютым, бесчалавечным быў ён на вайне. Смерць чырвонаармейца—работа нашага эскадрона... Ці, хутчэй, работа паручніка. Ён рубіў так, каб чалавек яшчэ колькі часу потым пакутваў... Дык вот... Мы доўга спрачаліся ўчора. Ноччу. Ён пагражаў нам лютай расправай за нашы ўчорашнія паводзіны, ён гнусна лаяў нас, нібыта мы прадаліся бальшэвікам, прадалі веру і айчыну, здрадзілі вялікай Польшчы... Так... бальшэвікам... Я трохі ведаю бальшэвікоў... Польскіх... Ведаў і расійскіх... Калісьці быў бежанцам, быў у Расіі, у восемнаццатым годзе вярнуўся ў Польшчу... Так... Мы не сцярпелі... Я першы. Мы разлічыліся... За ўсё—за дзікае забойства, за здзек, за радзіму... Я забіў... Вось і ўсё...

Чалавек уздыхнуў, уздыхнуў і камісар. І голасам, у якім не было ўжо строгага абвінавачвання, а быў папрок, камісар запытаў:

— І вы лічыце, што правільна зрабілі, забіўшы паручніка, свайго афіцэра, разам з вамі трапіўшага ў бяду, у палон?

— Мне цяжка што-небудзь сказаць вам. Адно, што магу сказаць: ад зробленага не ўцячэш, яно—факт...

— І вы не падумалі аб тым, што вам прыдзецца ўсё-ж панесці суровую адказнасць... Адказнасць перад намі, перад нашым судом? Якое-ж вы, уласна кажучы, мелі права... На... на забойства?..

Дапытваемы маўчаў.

Быў задуменны і разгублены твар у яго. Чалавек нібы сабіраўся з думкамі, лавіў іх, даводзіў да парадку. І ўрэшце загаварыў:

— Права? Я ўжо казаў вам аб многіх прычынах... Я не сказаў вам яшчэ аб адным, мо' аб самым галоўным... Мне было загадана паручнікам дагнаць учорашняга чырвонаармейца, калі мы спаткаліся з ім у лесе. Мне было загадана затрымаць яго жывым. І я выканаў заданне... Некалькі крокаў аддзяляла нас адзін ад другога. Чалавек быў узброены, чалавек не здаваўся, ён адстрэльваўся на кані... Мне было зручней, я даганяў яго. І я ўжо выхапіў шаблю, каб, прышпорыўшы каня, кончыць урэшце гэту вар'яцкую пагоню... Мяне спыніў паручнік. Ён абагнаў мяне і падстрэліў каня ў чырвонаармейца. Чалавек упаў на зямлю. Хвіліны з дзве быў ля яго паручнік. Мы не былі там, паручнік не любіў, каб мы перашкаджалі яму «па прыяцельску гутарыць», як казаў ён. Мы не бачылі ў твар таго чалавека. Праз якую гадзіну—дзве мы трапілі ўсе ў палон. І вось, калі вашы разведчыкі прывялі нас да знявечанага чалавека, я пазнаў яго... У апошні раз мы бачыліся і развіталіся ў восемнаццатым годзе, калі я выехаў з Расіі. Чырвонаармеец, якога вы сёння пахавалі...

Расказчык раптам змоўк, дрыготкія пальцы схапіліся за гузікі мундзіра, адшпільвалі іх і зноў зашпільвалі. Ён памыкаўся нешта сказаць і не мог і па тым, як захадзілі цені на твары, як звузіліся расніцы, самкнуліся некалькі раз—хутка, хутка, відаць было, што чалавек хвалюецца. Але ён сабраўся з сіламі, выпраставўся на крэсле і загаварыў, стараючыся надаць свайму голасу спакойную ўпэўненасць, цвёрдасць. Гэта не зусім яму ўдавалася, голас ламаўся, ападаў, словы былі няроўнымі, крывымі, яны неяк не пасавалі свайму зместу і сэнсу. Яны былі прыглушаныя, неўвароткія, шурпатыя.

— Так... Дык вот... Я ўсё гаварыў і гаварыў... Вы паслухайце... Пане начальнік... гаварыш... Гэта... Гэта... быў мой брат...

Камісар ціха кіўнуў галавой, нібы пацвярджаючы гэтыя словы.

— Мой родны брат...—праказаў яшчэ чалавек і змоўк.

І тады страпянуўся камісар. Ён не здзівіўся апошнім словам. Не ў кроўным сваяцтве ён бачыў пружыны ўсёй гэтай, як называў ён, бузы. Усёй гэтай гісторыі са смерцю паручніка. Было нейкае другое сваяцтва, якое заўважыў ён у гаручым бляску воч некаторых з уланаў, якія абзывалі апошнім гадам пана паручніка, якія гатовы былі прыкончыць з ім у прысутнасці камісара. І гэта сваяцтва было куды вышэй звычайнага, кроўнага.

— Ідзіце... Ладна... разбярэмся, як-небудзь...

Чырвонаармеец-канваір весела стукнуў вінтоўкай.

— А ну, пойдзем... Ды ты, чалавеча, плеч не гні, ступай весялей... Яно, браце, усё прыдзе ў меру...

І пра якую меру думаў чырвонаармеец, ён і сам не сказаў-бы выразна аб гэтым. Але ён моцна адчуваў нейкую вялікую сувязь з гэтым ссутуленым чалавекам у варожым мундзіры. І таму гаварыў весела і не баяўся гаварыць з арыштаваным у прысутнасці камісара, начальніка.

Адчуванне той-жа нябачнай сувязі было і ў камісара і напоўніла яго ціхай радасцю, праз якую шырылася, расла вялікая ўпэўненасць, бадзёрасць, спакойная мужнасць і роўнавага.

З гэтай роўнавагі не вывела і гаспадыня, якая прышла даведацца

аб выніку сваёй просьбы. Ён успомніў яе словы аб яднанні душ, аб народным сэрцы. Ён знарок сурова і проста сказаў ёй, што муж яе, паручнік польскай арміі, забіты польскім салдатам. І зусім не здзівіўся яе жахам, яе сумненнем.

— Я не магу гэтаму верыць, пан начальнік... Вы жартуеце... То не можа быць... Вы... вы проста выгараджваеце сваіх салдатаў, вы хочаце зрабіць іх не вінаватымі...

І гэта не вывела з роўнавагі камісара і не здзівіла яго. І ён расказаў яшчэ гаспадыні аб смерці чырвонаармейца, аб нечуваных лютых здзеках над ім, аб чалавеку, учыніўшым гэтыя здзекі... Аб чалавеку, вартым самай чорнай, сабачай смерці...

Тады яна ўзнялася са стула і стаяла ганарыстая, гнеўная, з грэбліва прыжмуранымі расніцамі.

— Гм... Я... дзіўлюся, пан начальнік, хто даў вам гэтую высокую годнасць... Дзе-ж ваша хвалёвая справядлівасць, на якую я так спадзявалася... Быць такім вялікім начальнікам... і не разумець простай рэчы, не разумець розніцы паміж лёсам афіцэра арміі і... звычайнага салдата... Вайна ёсць вайна, і што знача тут жыццё якога-небудзь салдата, жыццё якога-небудзь, выбачайце мяне... цёмнага хлопа...

Нібы цяжкі знарад узарваўся ў пакоі.

Як падхоплены выбухам, падскочыў камісар са стула і, адхіліўшы яго ў бок, стаяў перад ёй, сударгава сціскаючы кабуру з рэвальверам.

— Вы!.. Вы!..—задыхнуўся ён, глытаючы словы.—Вон!.. Зараз-жа вон, пакуль не позна!..

Як ветрам выдула яе з пакою. Не паспела нават дзверы прычыніць. Камісар аблягчона ўздыхнуў і, аддыхаўшыся, пачаў хадзіць шырокім размераным крокам, які гулка аддаваўся ў пустых пакоях. У суседнім пакоі прыціхлі ардынарцы, і весела падміргвалі адзін другому:

— Ну, і разышоўся-ж цяпер камісар! Не на жарты!..

— У бога... і ў барабан...

Хлопцы ведалі свайго камісара.

Андрэй Александровіч

# ТАВАРЫШ СЕРГО...

Галасілі хвалі зверам,
Раскідалі гнеўны гул.
Выплыў месяц з хмары шэрай,
Стаў з байцамі ў караул.

Ноч напоена пагрозай,
Кулі сыплюцца, як град.
Засцілалася Бяроза
Чорным дымам ад гармат.

І зямля стагнала горам:
Недабіты гойсаў пан.
Чуў я плач дзяцей Дукоры
Над магілай партызан...

Плач народа—гнеў народа,
Слёзы гнева—грозны шквал.
Хай спраўляла непагода
Свой крывавы карнавал.

Курганы Напалеона
Сталі гнёздамі акоп.
Ноч ахутвала заслонай
Беларускі Перакоп.

* * *

Пад Барысавам палонным,
За Бярозаю ракой,
Войска арміі Чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

— Ледзь над лесам сонца ўзыйдзе
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар—
Вырашаў Орджанікідзе
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі,
Над ракой туман стаяў.
Рапарт пятае разведкі
Ў гэту ноч Серго прымаў.

Быў ён здзіўлены дакладам;
Весткі розныя ва ўсіх.
І сазваў ён на параду
Камандзіраў баявых.

— Сілу ворага не знаем,
На які ступіў ён шлях?..
А ліпнёвая, густая
Ноч шавеліцца ў кустах.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланілі грамаду.
І сказаў Серго: — ў разведку.
Сам, таварышы, пайду.

* * *

І таемна ў непрыкметку,
Цераз брод і шыр балот,
Вёў Серго атрад разведкі
Тылам ворага ў абход.

За балотам — лес бескраю,
І бяскрайняя імгла.
За вярстой вярста мінае,
Ноч густая, што смала.

Пад нагамі голле хрушчыць,
Гоман хвой кладзецца ніц.
Ўзлёт агня гармат над пушчай,
Як трывожны ўзлёт зарніц.

Шлях расчысціў куляй меткай,
Вёў атрад у стоме сіл.
Дваццаць вёрст прайшоў разведкай,
Дваццаць вёрст зайшоў у тыл.

На дапрос за трэцім — следам
І чацвёрты ўзяты пан.
Ад паноў Серго разведаў
Пра апошні польскі план.

З думай дум сваіх, з развагай
Пад кустом Серго ляжаў.
Беларускіх смачных ягад
Першы раз пакаштаваў.

* * *

Дзень мінуў. Зноў ноч стагнала
Віратлівым гулам хваль.
Ноч—дарогі ў змрок схавала,
Змрок—як срэбраны паркаль.

Па расе паўзуць сапёры,
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць бляск свой залаты.

Знаў Серго сакрэт недарам,
Полк байцоў адвёў тайком.
І прарваў ён фронт—ударам,
Закідаў ліхім агнём.

І ў атаку — на палякаў,
На акоп — штыкамі ў лоб.
Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп!

Насцігалі кулі пана
З-за кустоў, з лясоў, з балот.
Білі пана —партызаны,
Біў—узброены народ.

* * *

Сонца рукі працягнула
Баявым сынам зямлі.
Поле радасна ўздыхнула,
Ветла сосны загулі.

Дзеці сёл, нібы на крыллях,
Выбягалі з хат на шлях
І байцам ваду насілі
У збанах і спарышах.

Праз Барысаў гордым маршам,
Перамогай праз Мазыр—
Наш паход, паход бестрашных,
Нёс свабоду, шчасце, мір...

З пакалення ў пакаленне
І адвечна з году ў год
Шлях герояў вызвалення
Ўславіць песнямі народ.

Ліпень, 1935 г.

Сямён Фіры

## ЧЫРВОНЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

Перада мной пажоўклыя лісты невялікай газеты «Беларуская Праўда»— баявога органа чырвоных партызан. З пакамлычаных старонак нясуцца гарачыя прызывы да барацьбы, да апошняга рашаючага бою. Забытыя радкі ўзнаўляюць у памяці агнявыя падзеі грамадзянскай вайны.

Побач з газетай некалькі выцвілых фотаздымкаў. З іх на мяне глядзяць родныя твары франтавых таварышоў, байцоў за справу вызвалення рабочых і сялян Літвы і Беларусі.

Вось прылёг на траве, сціснуўшы бомбу ў дужай руцэ, Мацьвей Бандура. Пра яго мы толькі і ведалі, што ён матросам праплаваў па марах усяго свету, што толькі лютаўскі штурм расчыніў перад ім вароты катаргі, у кіпучае жыццё непаўторнага 1917 году. Больш мы нічога не ведалі аб ім, старым рэволюцыянеры, які насіў у халодным мужным сэрцы палаючую ненавісць да ворага. Яго цудоўная біяграфія абарвалася ў сонечны веснавы дзень 1919 году, калі Мацьвей, імчучыся на чале коннай лавы, быў забіты варожай куляй пад Уцянамі.

Каля Мацьвея выпрастаўся на траве яго закадычны друг Ваня Зелянюк, слёсар з Менска, весельчак і балагур, ён аддаў сваё маладое жыццё і палкае сэрца ў барацьбе супроць польскіх легіонаў генерала Рыдз-Сміглы. Асенняй раніцай мы пахавалі яго ў брацкай магіле пад Нова-Александраўскам, каля закінутага акопа германскай вайны. У здубянелыя пальцы Вані мы ўлажылі пышны чырвоны бант, які да апошняй смертнай хвіліны ўпрыгожваў багатырскія грудзі партызанаў.

А вось ганарліва выпрастаўся каля кулямёта Мажынтас, у фарсістым кажушку, з фанабэрыстым позіркам нахабных вачэй. Пасля мы выкрылі ў ім белагвардзейскага афіцэра, падасланага да нас класавымі ворагамі, каб пасварыць нашу дружную баявую сям'ю. Дарэмна! Наша верная дружба была мацней за варожую атруту. Не дамогшыся свайго, змяя выслізнула.

З левага боку абапёрся на кулямёт у вялікай папахе Казік Трайніс, які прыехаў на фронт ранняй вясной 1919 году і разам з атрадам прарабіў рад сур'ёзнейшых аперацый. Незвычайны лёс старога большэвіка Казіміра Трайніса, сына літоўскага каменшчыка: ён стаў сур'ёзным навуковым дзеячом і працаваў на пачэснай пасадзе рэктара Маскоўскага універсітэта.

Каля Мажынтаса дужая фігура Пецькі—Кулямётчыка. Адной рукою ён сціснуў вінтоўку, а другой любоўна гладзіць кулямётную рулю. Буйныя кудзеры задзёрыста ўюцца з-пад шапкі старога салдата, а над пераносіцай залегла знаёмая глыбокая складка. У хвіліны жорсткіх сутычак з-пад гэтай упартай складкі вострае вока Пятра заўсёды беспамылкова насцігала і быстралётнай куляй страчыла па ворагу. Яго «Максімка» надоўга

запомніцца панскай зграі. Не давялося Пецю дажыць да нашых пераможных дзён, не давялося яму вярнуцца ў родную Мазыршчыну, пра якую ён любіў падоўгу расказваць і песні спяваць. У тыфознай гарачцы ён быў засечан польскімі ўланамі ў часе «ліхога» наскоку на беззбройны палявы лазарэт...

У галаве таўпяцца ўспаміны, нестройныя, але яркія. Аб некаторых з іх мне хочацца расказаць.

* * *

У Расіі перамагла пролетарская рэволюцыя. На змену крыклівай і бесхрыбетнай керacншчыне прыйшлі навальнічныя Окцябрскія дні. Рабочы клас і працоўнае сялянства маладой краіны Советаў арганізоўвалі ўзброены адпор узняўшай галаву белагвардзейшчыне. Рабочая і батрацкая моладзь масамі ішла ў Чырвоную гвардыю, на бой са ўнутранай і сусветнай контррэволюцыяй. Хвалі Окцябрскай рэволюцыі дакаціліся да разбуранай Літвы і Беларусі, якія стагналі пад пятой кайзераўскіх акупантаў. Стыхійна пачалі ўзнікаць рэволюцыйныя ячэйкі і паўстанскія групы. Старыя маткі дрыжачымі рукамі выпраўлялі сваіх любімых сыноў у далёкую невядомую дарогу. Маладыя рабочыя і сяляне таемна прабіраліся да совецкіх межаў і ўліваліся ў рэволюцыйны паток восемнаццатага года. Многія з іх атрымаўшы баявое хрышчэнне ў першых сутычках з Каледзіным і Карнілавым, звярталіся на радзіму, каб расказаць таварышам і аднасельчанам аб большэвіцкай праўдзе, каб падняць іх на барацьбу пад сцягам Леніна—Сталіна.

У Вільні, у клубе чыгуначнікаў, на Вронняй вуліцы, узнік нелегальны баявы цэнтр большэвікоў Літвы і Беларусі. Адсюль па ўсёй краіне разыходзіліся пасланцы—арганізатары большэвіцкага падполля.

Большэвіцкае падполле наладжвала сувязь з рэволюцыйнымі ячэйкамі і нелегальнымі советамі нямецкіх салдат. Дзесятая германская армія пад уплывам большэвіцкай прапаганды быстра разлагалася. У прадажных германскіх афіцэраў і інтандэнтаў баявое падполле на кроўныя рабочыя грошы купляла аружжа,—вінтоўкі, патроны, маўзеры, кінжалы і нават куляметы. Так былі ўзброены першыя чырвоныя партызанскія атрады.

Лістападаўская рэволюцыя ў Нямеччыне ў 1918 годзе адгукнулася ў прыдушанай Літве і Беларусі шырокім паўстаннем рабочых і сялянскіх мас. Баявыя дружыны вышлі з падполля...

Так пачалася гісторыя нашай чырвонай партызаншчыны...

* * *

Партызанскі атрад, якім мне давялося камандваць, названы пасля атрадам імя Розы Люксембург, аперыраваў у густых лясах Віленшчыны і Ковеншчыны. Яго ўзнікненне адносіцца да таго часу, калі нямецкая ваеншчына яшчэ гаспадарыла ў нас, як у сваім доме.

Спачатку колькасць атрада, які вырас пазней да 600 чалавек, складала паўтара дзесятка, пераважна віленскіх рабочых і ваколічных батракоў. Не гледзячы на сваю маладосць, большасць партызан прайшла цяжкую школу акопаў імперыялістычнай вайны і безрадаснае жыццё царскай казармы. Гэтыя выпрабаванні пакінулі глыбокі след у свядомасці нашай партызанскай групы: усе мы былі поўныя пякучай ненавісці да буржуазіі і гарачай рашучасці змагацца да канца за совецкую Літву і Беларусь.

Зброя атрада спачатку складалася з некалькіх дзесяткаў гранат, чатырох маўзераў і дзюжыны вінтовак усіх нацыянальнасцяй. Вінтоўкі былі ўпрыгожаны штыкамі і цесакамі. Патронаў хапала толькі на нямецкія карабіны і на адзіны кулямёт «Максім».

* * *

Ядро нашай партызанскай групы складалі некалькі большэвікоў. З іх найбольш віднымі фігурамі былі Мацьвей Бандура і Іван Будрэйка.

Мацьвей Бандура, пра якога я крыху сказаў вышэй быў фактычна ваенным арганізатарам нашага атрада. Ён вельмі добра ведаў стралковую справу і з любасцю адносіўся да нашай ваеннай маёмасці, асабліва да кулямётаў, лік якіх да часу нашага прыхода ў рэгулярную Чырвоную армію дасягнуў 32 адзінак. Ён зусім бесцарамонным чынам «раздзяваў» нашых маладых фарсуноў, якія любілі абвешваць сябе бомбамі і аперазвацца кулямётнымі істужкамі. Ён навучыў усіх партызан берагчы зброю атрада, як свае вока. У ім спалучалася нястрымная асабістая храбрасць з клапатліва-гаспадарчай смякалкай. Ён, які рэдка ўсміхаўся, хадзіў з неразлучнай плёткай у правай руцэ і быў бязлітасны да ворага,—быстра набыў рэпутацыю суровага і нават жорсткага чалавека. Але гэта было няверна-Мацьвей быў чулым і нават пяшчотным таварышом, ён цяжка перажываў страту і раненне кожнага байца.

Іменна яму атрад быў удзячны за стварэнне выдатнага палявога лазарэта, на чале з падслепаватым, але талковым лекарам з Панявежа. Апрача лекара ў лазарэце былі дзве сястры: пажылая сялянка са Свенцян і жыццярадасная комсамолка Маруся, якую любіў увесь атрад. Маруся трагічна загінула ўлетку 1919 году ў часе захопа лазарэта палякамі, самаахвярна абараняючы Пецю—Кулямётчыка і другіх раненых. Мацьвей Бандура за час сваіх вандраванняў па царскіх турмах і заморскіх краінах навучыўся ўсякім медыцынскім сакрэтам. Ён добра ведаў перавязку і арганізацыю першай дапамогі, што аказала атраду неацанімыя паслугі. Калі мы наляталі на белагвардзейскія абозы і на маёнткі, гаспадарлівы Мацьвей у першую чаргу адбіраў для атрада, разам са зброяй, коньмі і сёдламі,—аптэчную маемасць. Ён рэўніва сачыў за здароўем сваіх байцоў, што было асабліва важным ва ўмовах нашага бівуачнага жыцця.

Скромны і патрабавальны да сябе, Мацьвей Бандура, быў аднолькава патрабавальны і да ўсіх партызан. Яго за гэтае ў атрадзе паважалі, але і баяліся. Аднойчы ў перыяд, калі наш атрад пачаў быстра папаўняцца прышлымі і неправеранымі людзьмі, да нас далучылася цэлая пачка нейкіх крымінальных дзяльцоў. Важаком гэтай кампаніі быў чорнавокі тып, апрануты чамусьці ў чаркеску з кінжалам за поясам. У часе аднаго налёту, якім кіраваў Бандура, гэтая кампанія занялася падлейшым зладзействам сярод мясцовага насельніцтва. Бандура паімчаўся на жаночыя енкі, якія чуліся з аднаго дома, і засціг там брыдкую карціну адкрытага грабяжа. На прапанову неадкладна спыніць сваволъства, чарнявы, важак крымінальнікаў спрабаваў замахнуцца на Бандуру кінжалам. Мацьвей застрэліў бандыта і звярнуў награбленую маемасць перапалоханым жыхарам, растлумачыўшы ім сэнс таго, што здарылася. Калі праз суткі Бандура далучыўся да атрада, і далажыў мне аб гэтай падзеі, я ўхваліў яго дзеянні і сабраў партызан. Увесь атрад адзінадушна асудзіў бандыта і пастанавіў выгнаць з атрада яго шпану. На шчасце гэта быў адзіны выпадак, калі да нас спрабаваў прымазацца крымінальны элемент. Аўтарытэт Бандуры пасля гэтага здарэння яшчэ больш вырас.

Іван Будрэйка, які трапіў у атрад значна пазней, уяўляў поўную процілегласць Бандуры па характару, але карыстаўся не меншым уплывам на партызан. Такі-ж вялікі і плячысты, Будрэйка вызначаўся выключнай роўнасцю характара і прыветлівасцю. Яго дабрадушны адкрыты твар падкупляў усіх ад першага позірку, а ўласцівая яму мяккасць выклікала партызан да адкрытасці і задушэўных гутарак. Будрэйка, ужо не малады

чалавек, калі быў металістам у Піцеры, яшчэ да рэволюцыі далучыўся да большэвікоў. Ён фактычна быў сярод нас адзіным, добра граматным партыйцам, уладаўшым марксісцкай падрыхтоўкай. Для мяне ён з'яўляўся асноўнай апорай у справе палітычнага кіраўніцтва ў атрадзе. Заўсёды спакойны і ўдумлівы, Будрэйка ў той-жа час быў вельмі жыццярадасным чалавекам, кроў у ім біла крыніцай. Ён любіў танцы, песні, арганізоўваў нашых гарманістаў. Будрэйка займальна расказваў старажытныя народныя казкі. Партызаны качаліся ад смеху, слухаючы яго незаўсёды цэнзурныя апавяданні аб злых прыгодах міраеда-кулака і дурнога папа. Пад выглядам казак, у якіх няўхільна бічаваліся багацеі, і расказвалася аб горкім лёсе рабочага народа, Будрэйка праводзіў вялікую прапагандысцкую работу сярод партызан.

Некалькі слоў пра майго памочніка Уладэка Войцэхоўскага. Ён сябе празываў «большэвіком у душы», што адпавядала сапраўднасці.

Падлетак—столяр з Вільны, у часе імперыялістычнай вайны, з-за любові да прыгод пайшоў добраахвотнікам у старую армію. Яго прытулілі ў нейкай кавалерыйскай часці, якая праходзіла каля Вільні на германскі фронт. Уладэк прыйшоўся ка двару. Адчайны хлапчук, вельмі палюбіўся кавалерыстам, а за ліхія справы Уладэк вельмі хутка аказаўся ўзнагароджаным георгіеўскім крыжам, якіх да канца вайны ён назбіраў цэлых тры штукі. Цікава, што, не гледзячы на сваю сапраўдную і гарачую адданасць рэволюцыі, Уладэк любіў час-ад-часу пахваліцца сваёй прыналежнасцю да «георгиевских кавалеров». У царскай арміі ён быў два разы ранены і адзін раз досыць цяжка. Гэта было пераломным момантам у яго жыцці.

Калі «георгиевский кавалер» апынуўся ў лазарэце на сабачым становішчы «ніжняга чына» ў той час, як афіцэрскія палаты паблісквалі ўсякімі выгодамі і беласнежнай чыстатой, Войцэхоўскі паспрабаваў пратэставаць, справядліва лічачы, што ён заслужыў хоць-бы ўважлівага медыцынскага дагляду. Спачатку ён гаварыў аб гэтым пацііху, а потым больш горача з уласцівай яму прастатой і рэзкасцю. Скончылася гэта ўсё дрэнна. Пасля дзесяцімесячнага прабывання ў лазарэце Войцэхоўскі адразу на кастылях быў адпраўлен у дысцыплінарны батальён у сяло Мядведзь каля Ноўгарада.

Вялікая крыўда глыбока запала ў сэрца Войцэхоўскага і чад ваеннай рамантыкі хутка выветрыўся з яго буйнай галавы. Ён моцна затаіў злосць супроць афіцэрства і багацеяў. Гэта злосць перарасла ў свядомую класавую ненавісць у мітынговыя дні 1917 году, і яшчэ больш умацавалася, калі, прабраўшыся таемна на радзіму, ён знайшоў сваю сям'ю ў страшэннай галечы. Ад пякучага гора ён напіўся і збіў да крыві першага, які яму трапіўся на вуліцы, нямецкага фельдфэбеля. Войцэхоўскі ў хмелі быў нястрыманы. Родзічы ледзь угаманілі разбушаваўшага салдата, але не засцераглі яго ад немцаў. У былым царскім вучастку на Сніпішках немцы доўга калечылі Уладэка і непрытомнага зацягнулі ў халодную. Праз месяц ён вышаў на волю з пачарнелым тварам, вельмі схудалы, але з сухімі палаючымі вачыма. Дома ён спешна развітаўся з заплаканай маткаю і пайшоў зноў у бурлівую, абнятую рэволюцыяй, Расію.

Октябрскую рэволюцыю ён сустрэў, як доўга чаканую пару салдацкай расправы над афіцэр'ем і панамі. Адчуванне помсты за ўсе абразы і прыніжэнні, якія пражыў у салдатах, гарэла ў ім ненасытным агнём. Пры яго нястрымнай натуры гэта часта даводзіла да неабдумана-рызыкоўных дзеянняў, што ўрэшце мела для яго нядобры канец. Аднойчы, захапіўшыся праследваннем белалітоўцаў, ён быў захоплены ворагамі ў палон і па прапанове Пагірскага ксяндза, спалены жывым. Гэта было ў лютым 1919 году.

Наш атрад ужо меў за сабою невялікае баявое мінулае і рад крывавых сутычак з паасобнымі нямецкімі заставамі, калі здарылася падзея, якая стварыла вялікую славу чырвоным партызанам.

Аднойчы ў Вількамір, дзе атрад заснаваў сваю базу, з'явіўся невядомы літоўскі батрак, які расказаў нам амаль неверагодную гісторыю.

Дзесьці ў Шырвінскім кірунку быў буйны маёнтак багатага шляхціча, калі не памыляюся,—Родзвядоўскага. Як належыць дастойнаму патомку Заглобы, гэты пан вызначаўся вялікай фанаберыяй, ганарыста круціў доўгі вус і свята шанаваў шляхецкія традыцыі. Прыдушаныя батракі жылі ў яго ў цемры і галечы і пакорліва цягнулі падвойнае ярмо: пана і ксяндза. Цалаванне ручак гэтым абодвум панам узаконена старажытным звычаем. У адарваным на дзесяткі кілометраў ад чыгункі глухім маёнтку квітнелі норавы прыгонніцтва. Вінаватых сялян паны лупцавалі на канюшні, а найбольш прыгожыя вясковыя дзяўчаты і жанкі ніколі не маглі выратавацца ад нахабных прыставанняў пана і ксяндза. Сяляне моўчкі цярпелі ўсе гэтыя прыніжэнні, як няўхільную кару боскую. Вакол любоўных прыгодаў блудлівых самадураў узнікла непранікальная броня добраахвотнага маўчання, асвечаная рабскімі традыцыямі шляхецкага мінулага.

Хлапец, які прыбег у атрад, са слязьмі ў напалоханых вачах, блытаючыся і хвалюючыся, расказаў жудкую гісторыю. Гэты хлопец незадоўга да гэтага ажаніўся на прыгожай дзяўчыне з суседняга фальварка. У час скромнай вясельнай вячэры ў бедную хату да маладых нечакана ўварваліся гаспадар маёнтку ў суправаджэнні двух паноў. Усе яны былі добра выпіўшы. Маладыя пазіралі разгублена. Але старыя, нізка кланяючыся, прывіталі незваных гасцей. Паны, урачыста пакланіўшыся, прыселі да вясельнага стала і ўдастоілі сваіх хлопцаў высокім гонарам: яны выпілі па чарцы самагонкі. Старыя не ведалі куды дзецца ад шчасця, як раптам гаспадар маёнтка рэзка ўзняўся з лаўкі і, схапіўшы маладую за руку, быстра пацягнуў яе да выхада, мармычучы штосьці пра свае свяшчэнныя правы. Маладая ўзняла крык і паспрабавала аказаць супраціўленне, але спадарожнікі пана паслужліва прыйшлі яму на дапамогу. Смяючыся, паднялі яны дзяўчыну на рукі. Дзяўчына была як непрытомная. Вясельныя госці маўкліва наглядалі гэтую дзікую сцэну без усякай спробы аказаць супраціўленне самаўпраўству. Калі жаніх апамятаўся і выскачыў на двор, панскай брычкі і след прастыў.

На працягу некалькіх дзён жаніх і старыкі без вынікаў абабівалі панскія парогі. Бегалі скардзіцца ксяндзу, але «духоўны айцец» развінаў рукамі і толькі абяцаў уздзейнічаць на грахаводнікаў. На чацверты дзень бацька нявесты быў выклікан у панскі дом, дзе эканом—кіраўнік маёнткам,—такі-ж шаноўны шляхціц, як і сам пан, доўга і блытана расказваў старому хлопцу аб здарыўшымся няшчасці. Эканом пусціў крывадушную слязу, сунуў у рукі разгубленага старога пачку нямецкіх марак і павёў яго ў дальні флігель, дзе ў невялікім пакоі на прыбраным ложку бацьку быў паказан... труп яго дачкі. Гору старога не было меры. У пошуках правасуддзя ён пабег да ксяндза; той абяцаў разабрацца ў гэтай справе па божаму. Маладую хавалі без усякага шуму. Умяшанне ксяндза давяло толькі да таго, што пан яшчэ крыху раскашэліўся і падкінуў бацькам нябожчыцы некалькі нэндзных грошай.

Што адбылося за час прабывання маладой у пана—невядома. Ці памерла яна ўласнай смерцю, альбо была задушана, засталося невысветленым. Жаніх рашыў патрабаваць тлумачэння ў пана. У першыя разы яго проста праганялі з двара, а потым на яго напушчалі сабак. Да

смерці абражаны, ён кінуўся шукаць управы над прыгоннікам, і па парадзе добрых людзей, прышоў у наш атрад.

Калі Вагоніс, сам моцна хвалюючыся, пераклаў нам апавяданне батрака, атрад быў увесь ахоплены глыбокім абурэннем. Нам і ў галовы не прыходзіла, што ў наш час магчыма такое варварства. Распытаўшы батрака, мы даведаліся, што немцы ўжо з месяц як пакінулі маёнтак. Застаўся толькі адзін нямецкі афіцэр, з якім гаспадара звязвалі дружацкія адносіны, ды некалькі салдат, якія наняліся ў якасці часовай варты.

Зборы атрада былі нядоўгія. Чалавек дваццаць селі на коняй, і да начы мы былі паблізу маёнтка. Двох партызан пайшлі на выведку, разам з хлопцам. Праз некаторы час яны паведамілі, што шлях свабодны. Мы наляцелі на маёнтак, захапіўшы пана, які сядзеў з гасцямі за картачным сталом. У гэтым імклівым налёце нам аказаў супраціўленне толькі адзін чалавек—нямецкі афіцэр. Ён паспеў цяжка параніць аднаго партызана, за што быў засечан Зелянюком. Вартаўнікоў—нямецкіх салдат—мы не знайшлі: як відаць, яны проста ўцяклі. Паводзіны самога пана былі агідныя: ён роў, як бялуга, поўзаў па падлозе і хапаў партызан за ногі, размазваючы густую сліну на нашых ботах. Яму раскроіў чэрап наш новы партызан, жаніх забітай батрачкі. Такая-ж доля выпала і панскім гасцям. Уся дворня разбеглася, у тым ліку і эканом. Не знайшлі мы і ксяндза, не гледзячы на ўважлівыя пошукі ў яго кватэры і касцёле. Пасля налёту, аб якім даведаліся многія сяляне, мы адкрылі багатыя засекі і пачалі раздаваць беднаце панскую маёмасць.

Праз двое сутак мы, пакідаючы маёнтак, пакінулі там сельска-гаспадарчую комуну, створаную з бяднейшых сялян і батракоў. Наш атрад папоўніўся трыма дзесяткамі дужых хлапцоў, якія ішлі ў партызаны, і іх радасна праважалі сяляне. Яны былі добра забяспечаны панскім дабром і гарцавалі на завадскіх конях, выведзеных са шляхецкіх канюшань. Коні, як і нябожчык пан, былі благароднай крыві, шустрыя і добра ўкормленыя.

Навіна аб гэтым налёце вельмі хутка абляцела акругу і штурханула к таму, што ў наш атрад прышло яшчэ многа новых батрацкіх папаўненняў.

* * *

Класавы вораг не драмаў. Ад страху перад бурным ростам чырвонай партызаншчыны, буржуазія пачала ліхаманкава рыхтавацца да адпору.

Дзесьці ў Панявежскім кірунку з'явілася вялікая банда барона Мантэйфеля, якая вызначалася асаблівым зверствам у адносінах да беднаты. Банда складалася пагалоўна з балтыйскіх дваран. Польская шляхта таксама не зевала і спешна знаражала ўзброенае супраціўленне ўзброенаму паўстанню. Такое-ж становішча было на Літве і ў Беларусі.

І ўсюды буржуазія скарыстоўвала ў якасці ваеннага касцяка для сваіх белагвардзейскіх фарміраванняў кадры германскай арміі. Пасля лістападаўскіх падзей многія нямецкія афіцэры ніжэйшага рангу былі без справы. Перспектыва звароту ў ахопленую пролетарскай рэволюцыяй Германію іх мала радавала. З рабочым класам ім было не па дарозе. За гады вайны нямецкае афіцар'ё прывыкла да свайго рамяства і не ўяўляла сабе жыцця без парахавога дыму і ваеннага грабяжу. Але армія распадалася. Германскае афіцэрства, ператварыўшыся ў прафесійных забойцаў, шукала сабе падыходзячых гаспадароў. Яны наймаліся разам з адданымі ім салдатамі ў якасці ўзборенай аховы да буйных зямельных магнатаў. Хвалёныя і фанаберыстыя афіцэры кайзераўскай арміі ператварыліся ў наймітаў, як царскія казакі ў часе аграрных хваляванняў

1905—1906 гг. Гэтыя-ж нямецкія афіцэры наймаліся інструктарамі ў фарміруемую белую армію кулацкай Латвіі, дзе яны з асаблівым стараннем аказвалі класавую дапамогу сваім братам па крыві—остзейскім баронам.

Мала чым адрознівалася іх чорная работа ў белай Літве ад іхняй ролі ў Латвіі. Спачатку, калі літоўская буржуазія яшчэ не паспела сабраць сваю ўласную белую армію, наёмнікі з нямецкайваеншчыны дапамаглі ёй утрымаць хісткую ўладу. За вялікія грошы гэтыя авантурысты абаранялі інтарэсы памешчыцка-капіталістычнай Літвы супроць рабочых і сялян.

Некалькі іншае становішча было ў Польшчы і часткова ў Беларусі. Там спешна арганізоўвалася польская белагвардзейшчына, якая мела шырока разгорнутыя шпіонскія шчупальцы па ўсёй краіне, дзякуючы таемнай рабоце арганізацыі пілсудчыкаў—ПОВ *). Гэтая шавіністычная арганізацыя мела гатовую армію польскіх легіянераў, сфармаваных яшчэ ў часе вайны генеральнымі штабамі Аўстрыі, Германіі і Расіі.

Беларусь і Літва ў тыя часы былі як бурны вулкан палітычных страсцей, дзе павінна было вырашыцца пытанне: або пераможа рэвалюцыйны пролетарыят, або пад атрутнай заслонай нацыяналізма на шыі працоўнага народа, як і раней, замацуецца панскае ярмо.

Рэвалюцыйнае паўстанне нарастала. Злева ад нас аперыраваў партызанскі атрад Жана і больш дробныя партызанскія групы, якія быстра выраствалі па гарадах і вёсках Беларусі. Дзесьці на правым флангу дзейнічалі латышскія чырвоныя партызаны, якія ўкладалі ў сваю адважную барацьбу ўсю рэвалюцыйную страсць «лясных братоў» 1905 года. Ягенды ішлі па пятах коннага атрада Нікалая Кушныра. Ужо сфармавалася і дзейнічала на польскім кірунку заходняя дывізія Чырвонай арміі. Паміж ёю і Чырвонай латвійскай арміяй узнікла чырвоная стралковая літоўская дывізія, якая распалажылася са сваім штабам у Вільні і расцягнулася па ўсім польска-літоўскім фронце. Грамадзянская вайна разгортвала свае гераічныя франты...

* * *

Дзеянні нашага партызанскага атрада моцна ўстрывожылі памешчыцка-шляхецкія колы. Хутка гэта трывога ахапіла і нямецкае каманданне. У атрад пачалі перабягаць нямецкія салдаты, з якіх нястомны спартакавец, нямецкі кавалерыйскі ўнцер-афіцэр Буднік, які далучыўся да майго атрада ў самым пачатку яго арганізацыі, пачаў фарміраваць асобны эскадрон. Па прапанове Будаўніка атрад быў назван імем выдатнай германскай комуністкі Розы Люксембург, зверскі забітай нямецкай контррэвалюцыяй у часе барыкадных баёў у Берліне ў студзені 1919 года. Тады-ж у лютым 1919 года пры атрадзе была створана ячэйка пад старшынствам Будніка, якая насіла гучную назву: «Спартакоўская арганізацыя дзесятай германскай арміі». Пасланцы гэтай ячэйкі прабіраліся ў самае сэрца нямецкіх акупацыйных войск і таемнымі шляхамі прыводзілі адтуль у наш атрад новых і новых байцоў разам са зброяй. Так да нас у атрад трапіў былы старшыня салдацкага камітэта дзесятай арміі ў Коўні, член германскай незалежнай рабочай партыі, рыжавалосы Галлер, які разам з Буднікам разгарнуў значную работу сярод германскіх салдат.

Немцы ўспалашыліся.

На высокіх варотах мястэчковых касцёлаў і на сценах валасных упраўленняў з'явіліся шырокавяшчальныя аб'явы на нямецкай, беларускай,

*) Польская ваенная арганізацыя.

польскай і літоўскай мовах, якія абвяшчалі насельніцтву, што за злоўленых чырвоных партызан і дастаўку іх—жывымі альбо мёртвымі—мясцовыя жыхары будуць шчодра ўзнагароджаны. За галовы камандзіраў партызанскіх атрадаў абвяшчаліся асобныя прэміі. Гэтым справа не абмяжоўвалася. Белагвардзейшчына пачала спешна ствараць свае ўласныя белыя партызанскія часткі.

Супроць нас аперыраваў белагвардзейскі атрад, які насіў траскучую назву «Белага воўка». Атрад складаўся з сынкоў буржуазіі, памешчыкаў і часткова з кулакоў. Ваеннымі інструктарамі атрада былі ўсё тыя-ж нямецкія афіцэры. Атрад быў сабраны з некалькіх банд, на чале якіх былі каменданты. Аб адным з іх—каменданце Рыкало я хочу расказаць.

* * *

Банда капітана Рыкало мела сваю базу ў мястэчку каля станцыі Янова. Белагвардзейцы спачатку наладзілі ў гэтым мястэчку яўрэйскі пагром, выразалі палавіну мірнага насельніцтва. Пасля чаго голасна абвясцілі аб паходзе для заваявання совецкай Расіі. Ніякага зразумела паходу банда каменданта Рыкало ды і ўвесь атрад «Белага воўка» не рабіла. Абмежаваліся раскватараваннем сваіх бандытаў па буйнейшым маёнткам, ды ўрачыстымі парадамі пад звон мястэчковых касцёлаў. Банда Рыкало засталася ў Янове, дзе пасля пагрому жыццё пачало па крысе ўваходзіць у нармальную каляю.

Аднойчы ў Вількаміры, нам у атрад было падкінута невядома кім пісьмо на рускай мове. У гэтым пісьме капітан Рыкало паведамляў нам прыкладна аб наступным. Ён пісаў, што ў яго атрадзе няма вельмі патрэбных паходных барабанаў. І вось ён запрашаў чырвоных партызан да сябе ў госці для таго, каб садраць з іх скуру і зрабіць для свайго атрада барабаны. Пісьмо было замацавана закавырыстай пячаткай і нахабным размашыстым подпісам.

Мы парашылі запрашэнне прыняць неадкладна і награнуць на Рыкало ўсім атрадам. Дарэчы ў Янове павінен быў быць кірмашны дзень. Досвіткам паўтара дзесятка падвод, на якіх знаходзіліся партызаны, прыехалі ў Янова. На партызанскіх вазах усё мела мірны выгляд: верашчэлі парасяты, у збанках плёскалася малако, ільснілася смачнае сметанковае масла, пахла свежае сена. Каб прыехаўшыя на вазах сяляне не змаглі выкрыць падазроных канкурэнтаў, мы парашылі неадкладна прыступіць да дзеянняў. Вазы па тры-чатыры раз'ехаліся ў бок апорных пунктаў распалажэння праціўніка. На кожную партыю падвод быў адзін воз, на якім з-пад зялёнага сена непрыкметна выглядвала стальное рыльца кулямёта. Партызаны зараз-жа па загадзя ўмоўленаму сігналу адначасова адкрылі стральбу па беляках. У разбітае акно штаба Рыкало Мацьвей Бандура кінуў дзве пачкі звязаных ручных гранат, якія разарваліся з такім громам, што аж зямля задрыжэла. Адначасова, выскачыўшы з суседняга лясочка, з гіканнем і свістам рассыпалася па вуліцах мястэчка партызанская конніца.

Пачаўся зусім неапісальны кавардак. У бледным ранішнім святле кубарам ляталі па вуліцах дзесяткі белагвардзейцаў у сподняй бялізне. Яны спрабавалі арганізаваць супраціўленне, але больш займаліся бескарыснай стралянінай. Іх усюды даганялі вострыя саблі партызан, якія заслалі трупамі белагвардзейцаў усю галоўную вуліцу мястэчка. Самога Рыкало прыкончылі ў штабе.

Нашаму поспеху многа садзейнічала бесклапотнасць Рыкало: уся яго банда была захоплена нечакана, а яго вартавыя пасты бяздзейнічалі. У выніку гэтага налёту мы атрымалі багацейшыя трафеі. Адных кулямё-

таў было ўзята восем штук, прычым адзін з іх з запасам набітых істужак быў знойдзены кінутым на званіцы касцёла. Характэрна адзначыць, што калі-б з гэтага кулямёта наш атрад быў абстраляны, дык невядома, чым скончылася-б наша аперацыя, таму што са званіцы можна было біць у любы пункт мястэчка. Бандыты проста парапалохаліся і, кінуўшы баявы пост, разбегліся.

Янова знаходзілася каля чыгуначнай станцыі. Гэта стварала сур'ёзную пагрозу атраду. Забраўшы захопленыя трафеі і хутка пусціўшы чырвонага пеўня ў белагвардзейскім штабе, партызаны з песнямі пакінулі прытоенае мястэчка. Апоўдні зноў былі ў родным лесе. Так без славы загінуў самаўпэўнены камендант белай банды—капітан Рыкало.

* * *

У Вількаміры наш атрад значна папоўніўся. Умацавалася большэвіцкае ядро атрада. Да нас улілася цэлая група рабочых механічных майстэрняў, на чале з пажылым майстрам, доўгавусым «бацькам» Клімашэўскім. Гэтая група партызан, кадравых пролетарыяў, унесла жыватворчы струмень рабочай таварыскай спайкі і дух калектывізма ў нашу партызанскую сям'ю.

У быту яны моцна ўзяліся за выкарчоўванне перажыткаў анархічнай вольніцы, настроямі якой былі заражаны многія партызаны. Гэтыя настрої былі моцныя, яны нарадзіліся ад салдацкай ненавісці да рэжыма старой армії, з якім было звязана залішня многа крыўдных успамінаў. Наша партыйнае ядро праводзіла асцярожную, але настойлівую барацьбу за новую свядомую рэволюцыйную дысцыпліну, барацьбу супроць разваг, як напрыклад, «хачу—ваюю, не хачу—касіць на ўсе чатыры стараны!» У гэтым важнейшым пытанні навічкі з механічных майстэрань аказалі нам каштоўнейшыя паслугі.

У баю яны моцна трымаліся адзін за аднаго, выручаючы таварышоў, калі якая бяда, і ў той-жа час дзейнічаючы з выключнай смеласцю і находлівасцю. Яны ўсе раўняліся па сваім кіраўніку старыку Клімашэўскаму, які вызначаўся непаказной, а сапраўднай большэвіцкай адвагай. Ён быў ворагам няпэўных авантур і непрадуманай рызыкай, але калі рашэнне прымалася, ён дзейнічаў з халоднай непахіснай цвёрдасцю.

Улетку 1919 года, калі партызаны ўжо ўліліся ў рады рэгулярнай першай Чырвонай літоўскай брыгады, у баю пад Каварскам каля палаючага маста Клімашэўскі быў цяжка паранен. З гаркотаю развіталіся мы з выпрабаваным і верным салдатам пролетарскай рэволюцыі.

Не меншую ролю ў справе ўмацавання палітычнай стойкасці атрада адыграла група комсамольцаў з Вільні, якая прыбыла да нас значна пазней. Хлапцы праглі подвіга і рваліся ў бой. Важакі гэтай групы—Валодзя Трайніс, Альдона Матулайціс і Авідэн хутка давялі сваю гарачую адданасць справе Леніна—Сталіна. У першых-жа баях яны беззаветна змагаліся з белапалякамі і немцамі і не дрогнулі, калі пад націскам праціўніка мы вымушаны былі адступіць. Не пахіснула іх стойкасць і цяжкае выпрабаванне, якое пасцігла іх у першай-жа сутычцы: пагібель іх таварыша Авідэна. Хлапцы мацаваліся, глыталі слёзы, але не выпушчалі вінтовак з маладых рук. Страта блізкага таварыша, загартавала іх для будучых баёў з класавым ворагам. І сапраўды пасля з гэтай групы вышаў не адзін моцны большэвік. Сваю вернасць заветам Леніна яны не раз яшчэ даказалі на франтах грамадзянскай вайны і ў барацьбе з контррэволюцыйнымі вылазкамі трацкісцка-зіноўеўскай падалі.

Подлы класавы вораг рабіў дарэмныя спробы змяіным джалам паразіць партызаншчыну знутры. Сарвалася прадажніцкая спроба Мажынтаса,

які сваім разлагаючым уплывам употай стараўся адштурхнуць ад нас літоўскіх батракоў, іграючы на іх адсталых нацыяналістычных поглядах. Здраднік быў выкрыты, але змог пазбегнуць расплаты. Ён уцёк напярэдадні расстрэлу пры дапамозе членаІлькамірскага рэўкома Пукаса, які, як высветлілася пазней, быў таксама тайным агентам ворага.

Аднойчы ў атрадзе з'явіўся новы чалавек—Оскар Орло, латгалец з Апочкі, Пскоўскай губерні. Навічка адразу не ўзлюбілі партызаны, не ведаю нават чаму. Ён быў вельмі ласкавы, хоць і здаваўся прытарнай плямай са сваім выглядам херувіма на фоне агрубелай партызанскай сям'і.

Орло, аказалася, вельмі ведаў ваенную справу. Мы яго адразу прыспасобілі ў якасці ваеннага інструктара для навучання новабранцаў. Мне так і не давялося высвятліць яго мінулае, але ён, судзячы па ўсім, быў афіцэрам, хоць старанна гэта скрываў. Вельмі ўжо складна умеў ён расказваць партызанам аб асновах тактыкі і іншых ваенных прамудрасцях. У яго выкладанні не было нічога падобнага на безграматныя тлумачэнні нашых партызан з былых унцераў. Яны па старынцы ўбівалі ў галовы навічкоў абрыдлыя «пунтики» аб неабходнасці дапамагаць таварышу, «огнем, штыком и лопатой», не ўмеючы простымі словамі перадаць свой ёмісты вопыт вайны. Орло, наадварот, павольна і складна вытлумачваў складанейшыя бакі неабходнага мінімума ваеннай тэорыі. Слухаць яго збіраліся не толькі навічкі, але і старыя партызаны. Можа быць іменна гэта спецыфічная граматнасць і настаражыла партызан. Камандзір эскадрона былы гусарскі унцер Карнейчук нават языком шчоўкаў ад захаплення, калі слухаў, як Орло праводзіць свае гадзіны з новабранцамі. Але тут-жа, апамятаўшыся, ён падазрона прыжмурваў сваё шэрае вока на новага інструктара. Так, прымітыўная зайздрасць параджала недавер'е,—вельмі ўжо гладка ў Орло ўсё выходзіла.

Іван Будрэйка адкрыта не давяраў Орло, не захоўваючы сваёй насцярожанасці да новага прышэльца. Апошні нават пакрыўджана скардзіўся мне на несправядлівыя прычэпкі Будрэйкі.

Хутка ў атрадзе адбылася невялікая валынка. Зелянюк даведаўся, што ў Орло завязваюцца залішне інтымныя адносіны з атраднай сястрой Марусяй. Ён рашуча накінуўся на Орло. Той, заўсёды спакойны і падатлівы, на гэты раз узбеляніўся і груба адшыў Зелянюка. Пытанне аб гэтай сутычцы было перададзена на абгаварэнне. Партызаны пачалі смяяцца над Зелянюком—многія з іх ведалі, што ён таемна ўздыхае па Марусі. У часе гэтай заварухі раптам высветлілася, што Орло за кароткі час паспеў у атрадзе набыць многіх прыхільнікаў, асабліва сярод навічкоў.

Праз некаторы час Будрэйка, які неадступна, як воўк, сачыў за Орло, паведаміў мне аб падазроных яго паводзінах. Па-першае наш інструктар аказаўся пад уплывам незразумелай страсці,—ён не даваў нашым кашаварам рэзаць жывёлу для атрада і прасіў перадаць яму гэтую малапрыемную работу. Будрэйка аднойчы пацікавіўся і ўбачыў досыць агідную карціну. Орло з асалодай, не спяшаючыся, рэзаў кароў. Яго звычайна мяккія блакітныя вочы, у якіх свяцілася дзіцячая туга, гарэлі на гэты раз звярыным бляскам. Зарэзаўшы карову, Орло пачаў яе абдзіраць і зусім асатанеў. Закасаўшы рукавы, Орло літаральна рваў вантробы каровы і з асалодай купаўся ў крыві. На Будрэйку ўся гэтая сцэна зрабіла агіднае ўражанне.

Другое здзіўляла ў Орло—гэта яго невядомыя знікненні з атраду ў часе нашых стаянак па мястэчках. Ён два разы загадкава знікаў на некалькі гадзін. Будрэйка расказаў аб гэтым Мацьвею. Бандура менш гібкі

ў адносінах да людей, як Будрэйка, без усякай дыпламатыі, паставіў перад Орло пытанне аб прычынах яго знікнення.

Орло, нікольні не здзівіўшыся, весела расказаў Бандуры аб сваіх перамогах сэрцаў мясцовых красунь. Мацьвей Бандура зарагатаў і на гэтым тлумачэнне скончылася. Будрэйка наракаў на Мацьвея за яго спешку. Ён запэўняў мяне, што пасля гэтай гутаркі Орло зрабіўся больш асцярожным і замкнёным, чым гэта было да гэтага часу. Я крыху пажурыў Будрэйку за празмерную падазронасць, але і сам адчуў у паводзінах новага інструктара штосьці нядобрае.

Праз некаторы час на наш атрад пачаліся сістэматычныя напады з боку працiўніка. Мы падзяляліся на асобныя групы, рассыпаліся па частках, але ўсё-ж з вялікай цяжкасцю адыходзілі ад ворага, які насядаў. Часам нам удавалася ашукаць белагвардзейцаў і ў хвіліны, калі белыя праследвалі частку атрада, думаючы злавіць партызан у пастку, мы нечакана навальваліся на праследвальнікаў з флангаў і з тылу, наносячы ім цяжкія ўдары. Тым не менш вораг біў нас часцей, чым мы яго. У часе адной з такіх сутычак трагічна загінуў Уладэк Войцэхоўскі, якога пасля пакутлівых здзекаў белагвардзейцы спалілі жывога ў Пагірах.

У атрадзе з'явілася неўласцівая партызанам хваравітая нервовасць. Частыя ўдары ворага пазбаўлялі неабходнай для людзей у баявой абстаноўцы ўпэўненасці. Усхвалёваныя воклічы: «Абышлі!» чуліся ўсё часцей і параджалі паніку. Мімаволі думка аб наліччы сярод нас здрадніка закрадвалася ў галовы партызан.

У гэтыя дні адбылася падзея, якая пацягнула да выкрыцця правакатара. Конны раз'езд партызана Янкоўскага выкрыў у лесе на вільготнай іглiцы сляды конскіх капытоў. Па гэтых слядах Янкоўскі дабраўся да Ковенскай шашы, па якой ён, асцерагаючыся, пусціўся даганяць невядомых коннікаў. Хутка партызаны ўбачылі наперадзе дваіх незнаёмых, якія, згледзеўшы праследванне, прышпорылі коней. Янкоўскі націскаў. Невядомыя пачалі аддаляцца. Тады партызаны на хаду адкрылі па іх агонь. У невядомага закульгаў конь і адзін з коннікаў спрабаваў перасесці ў сядло свайго спадарожніка. Партызаны спыніліся і пачалі страляць часцей. Адзін коннік зваліўся, а другі пусціўся на ўвесь кар'ер уцякаць. Хутка ён зусім знік.

Партызаны пад'ехалі да чалавека, які ляжаў у прыдарожнай канаве. Як-жа яны здзівіліся, калі забіты аказаўся маладой жанчынай, апранутай у мужчынскія брыджы. Партызаны апасаючыся непрыемнасцяй, з боку таго, што ўцёк, спешна вывярнулі ўсе кішэні і ўважліва абшукалі забітую. На грудзях пад гімнасцёркай у яе знайшлі ўшыты ў ніжнюю рубаху невялікі пакет. Янкоўскі распароў яго сабляй. У пакеце аказалася некалькі шыфраваных запісаў, чарцяжоў і некалькі акуратна складзеных вялікіх лістоў паперы. Глянуўшы на гэтыя лісты, Янкоўскі паблядneў: гэта былі спіскі людзей і зброі нашага атрада. Партызаны зараз-жа пагналі сваіх змучаных коней і праз некалькі гадзін дабраліся да атрада.

Навіна аб знаходцы Янкоўскага ўмомант абляцела ўвесь атрад. Партызаны заварушыліся і, не чакаючы сігнала, наладзілі імправізаваны сход. Будрэйка, як апантаны, неадкладна кінуўся адшукваць Орло, які нечакана знік. Не знайшоўшы яго сам, ён пасадзіў на коней партызан, якія веерам рассыпаліся на пошукі. Тры гадзіны шукалі без ніякіх вынікаў. Будрэйка са сваімі партызанамі вярнуўся ні з чым. Да гэтага часу мы паспелі ўжо параўнаць шпіёнскія запісы з почаркам Орло—яны былі аднолькавыя.

Мінула шмат часу і ўлетку 1920 года ў часе пахода на Варшаву Орло выпадкова трапіў у рукі чырвоных. Правакатар панёс заслужаную кару.

* * *

Вялікай і радаснай падзеяй для партызан з'явілася злучэнне з конным атрадам Нікалая Кушныра. Аб гэтым атрадзе, які пазней вырас у асобны конны полк, варта расказаць больш падрабязна. Нават у тыя часы Кушныроўцы мелі досыць цікавы выгляд.

Нікалай Кушныр, вахмістр Чэчэнскага палка Дзікай дывізіі, пасля дэмабілізацыі старой арміі, рашыў не ехаць дахаты, таму што за час яго седні ў царскіх акопах уся яго сям'я перамерла. Чэчэнскі полк быў раскватэраваны дзесьці ў Магілеўскай губерні. Калі Карнілаў на чале Дзікай дывізіі ўвосень семнаццатага году рушыў на Петраград, Кушныр быў у ліку нямногіх салдат Чэчэнскага палка, якія адкрыта абурыліся супроць генерала авантурыста. Яшчэ да таго, як Карнілаў дабраўся да Гатчыны, Кушныр адкалоўся ад палка.

Кушныр пачаў збіраць свой атрад ад шасці чалавек аднапалчан, якія, як і ён, пасля вайны засталіся каля разбітага карыта. Такім чынам ён навярбаваў у атрад каля поўсотні салдат, якія не расставаліся пасля развалу царскай арміі са сваімі баявымі коньмі.

Атрад Кушныра ўяўляў сабою надзвычай стракаты людскі зброд. Уланы, гусары, драгуны, кавалергарды, пагранічнікі, усе былі прадстаўлены ў гэтай коннай групе. Рэбята пры дзяльбе палкавых цэйгаўзаў у часе дэмабілізацыі запасліва ўзялі сабе па пары лішніх камплектаў добрага параднага абмундыравання. Пасля мы апранулі ў гэтую уніформу нашых домарошчаных кавалерыстаў. У часы, калі нам асабліва хацелася здзівіць мясцовае насельніцтва, альбо напалохаць праціўніка,—Кушныроўцы, падмацаваныя нашымі коннікамі, нацягвалі на сябе парадныя мундзіры. Малінавыя, белыя, чырвоныя, жоўтыя доломаны, уланскія «грудзі», менцікі, зялёныя шапкі пагранічнікаў і рознакаляровыя чахчары— уяўлялі сабою аслепляючы феерверк.

Аднак кушныроўцы пры гэтым аперэтачным выглядзе былі выдатнымі байцамі. Служба ў царскай конніцы і працяжны вопыт сусветнай вайны не прайшоў для іх дарма. Асноўныя кадры атрада Кушныра складаліся з вельмі добра вышкаленых кавалерыстаў. Яны адзначаліся баявым духам, самаадданасцю і выключнай смеласцю ўсяго складу. Трэба было бачыць разгорнутую лаву адзінай у сваім відзе кавалерыйскай часці, якая імчалася на ворага, на чале са сваім адважным камандзірам Нікалаем Кушныром і яго нязменным ад'ютантам Барысам Краўцовым, каб зразумець, якім набыткам для нашага атрада з'явілася далучэнне да нас гэтай коннай групы. Трэба было бачыць тыгравы поступ Кушныра, у часе начной выведкі ў лесе, пад самым носам праціўніка: трэба было чуць яго баявы кліч перад пачаткам атакі, трэба было хоць раз убачыць бліскучую ігру вертлявага клінка ў руках Нікалая ў часе рубкі,—каб дастойна ацаніць баявыя якасці гэтага камандзіра. У колькіх баях мы абавязаны былі перамогай гэтым храбрэцам! Таўяны, Сісікі, Пагіры, Кейданы, Уцяны, Делюны, Курклі,—усе гэтыя глухія мейсцы ператварыліся ў арэну жорсткіх крывавых сутычак і разгрому белых толькі дзякуючы таленавітым, а часта вар'яцкім па дзёрзкасці дзеянням коннікаў Кушныра.

У паходным маршы конная група Кушныра ўяўляла досыць забаўнае відовішча. Рослы дародны кавалергард, які вывез з Полацка белы, шыты золатам, мундзір, заламаў на патыліцу чорную кепку. Побач з ёмкім гусарам, які складна сядзеў у страявым сядле, пагушкваўся на дзеравянным самаробным сядле, новаспечаны кавалерыст—партызан з мясцовых батракоў. Хвост калоны замыкаў шчупленькі прысадзісты ветэрынарны фэльчар, заўсёды ў вялікім чорным фетравым капелюшы і ў новенькіх жоўтых крагах на нагах.

Стракатасці прыбрання коннай групы адпавядала і шматнацыянальнасць яе складу. Гэта аднак не перашкаджала ўсёй групе дружна і сакавіта распяваць баявыя песні. Хораша спявалі кушнpiроўцы. Яны ўвесь атрад прывучылі любіць шырокую стэпавую песню і украінскія мелодыі. Хораша было ноччу ў векавым лесе, альбо на прывале, калі над галавою распрасцерлася бязмежнае зорнае неба, падцягваць пералівам старажытнага казацкага напеву, альбо прыслухоўвацца да сумных трэляй тонкага падгалоска, які ўторыў басу, у песні аб Ярмаку Цімафеевічу, загінуўшым ад злыдня цара Кучума.

Белагвардзейцы добра ведалі баявыя якасці Кушныра, вельмі баяліся яго арлоў. Кушныр ніколі не губляў упэўненасці ў сваіх сілах, ніколі вялікая колькасць праціўніка не спыняла яго адчайнай дзейнасці. Сярод коннікаў Кушныра лічылася за сорам уступаць у адзінаборстве з роўным па сіле ворагам,—як правіла, яны заўсёды грамілі лепш узброеныя і большыя па ліку белыя часткі. Баявая слава кушныроўцаў была імі заслужана з гонарам.

* * *

У канцы сакавіка наш атрад, які ўстанавіў рэгулярную сувязь з камандваннем Чырвонай арміі, атрымаў сур'ёзнае баявое заданне: да часу наступлення літоўскай Чырвонай арміі нанесці ў тыле ворага сакрушальны ўдар адборным часткам белых, якія ўладалі двума рашаючымі пунктамі—Сісікамі і Пагірамі, справа павінна была быць сур'ёзнай, настрой узняўся і работа закіпела.

Асабліва хвалявала нас перэспектыва захопу Пагір. У партызан часаліся рукі. Мы цвёрда парашылі расправіцца без усякай літасці з пагірскай белагвардзейшчынай і ксяндзом, па прыказу якога быў зверскі замучан і спален наш любімы Уладэк Войцэхоўскі. Думка пра час блізкай расплаты за нашага баявога таварыша не давала нікому спакою. План аперацыі быў распрацаваны да танчэйшых дэталей. На гэты раз мы парашылі не даверадь зменнаму ваеннаму шчасцю, не рабіць стаўкі на выпадковую ўдачу. Усё было разлічана і выверана. Тут мы ўпяршыню па сапраўднаму выкарысталі нашы шырокія выведныя магчымасці. Па ўсім шляху прасоўвання атрада былі разасланы нашы лазутчыкі з мясцовай бедна́ты, яны давалі нам ва ўсіх этапах аперацыі своечасовыя і дакладныя весткі пра сілы і намеры праціўніка.

Разам за нашай асноўнай задачай мы парашылі расправіцца са старым князям Радзівілам, уладарам вялізнага маёнтка Таўяны, што паміж гарадамі Вількамірам і Паневежам. На гэтага старога шляхецкага зубра партызаны ўжо даўно вастрылі зубы.

У Таўянах прыгонніцкія перажыткі былі асабліва моцныя. Збіванне батракоў у часе славутых княжаскіх субот былі там звычайным з'явішчам. Вайна ўнесла толькі невялікія ноўшаствы ў гэтыя забавы: лазу замянілі шампаламі. Але не гэтае толькі было прычынай ярасці партызан супроць таўянскага пана.

Справа заключалася яшчэ і ў тым, што той князь Радзівіл вызначаўся асаблівай нечалавечнасцю ў адносінах да захопленых ім партызан. Буйная белагвардзейская банда, якая ахоўвала яго маёнтак, па ўказу князя, дапытвала палонных партызан з д'ябальскай жорсткасцю. Незадоўга да нашай расправы з Таўянамі там былі жывымі закапаны ў зямлю чатыры батракі, западазроныя ў тайнай сувязі з намі. Гэта зверства было незвычайным нават для садысцкіх нораваў польскай белагвардзейшчыны. Апрача таго, пры сутычках з намі радзівілаўскія апрычнікі стралялі толькі разрыўнымі кулямі, малейшае параненне якімі прычыняла нясцерпныя пакуты

партызанам. Вось чаму разам з нашай асноўнай задачай, мы парашылі паленым жалезам высмаліць і гэта асінае гняздо.

Для гэтай аперацыі была вылучана пад камандай Кушныра кавалерыйская група з дванаццацю кулямётамі, якая рыссю пашла наперадзе атрада. На перакрыжаванні дарог, дзе адвечны панскі спакой вартаваў паколаты ад часу крыж, з выцвілым Ісусам, Кушныр, нервова пакусваючы ільняны вус, развітаўся з намі і хутка знік з позірку, пакінуўшы ў празрыстым марозным паветры цёплую хвалю конскага поту.

Уначы, калі радзівілаўскія малайцы гэта менш за ўсё чакалі, кавалерысты Кушныра ўварваліся ў княжацкі замак і за поўгадзіны аўладалі ім. Расправа з насельніцтвам замка была кароткая, але бязлітасная. Гадзін праз шэсць асноўныя сілы атрада падышлі да Таўян. Усё ўжо было скончана. Абоз падвод ваколічных сялян, даверху нагружаных багаццем з княжацкіх паграбоў, весела расцякаўся па прасёлачных дарогах. Партызаны выкарысталі толькі багатыя радзівілаўскія канюшні ды бархатную абшыўку раскошных гасцінных,—яна пайшла на цёплыя анучы, бо быў досыць моцны сакавіцкі мароз.

Атрад не затрымаўся ў Таўянах. Пасля кароткага прывалу мы досвіткам крануліся ў дарогу, крута павярнуўшы ў бок ад княжацкай рэзідэнцыі. Дарогу нам асвятляў цудоўны касцёр: вялізны белы княжацкі палац быў запален намі адначасова з чатырох бакоў.

* * *

Ліквідацыя Таўян, апрача расправы над мясцовымі белагвардзейцамі, мела яшчэ характар ваеннай дэманстрацыі. Як мы і разлічвалі, пажар радзівілаўскага палацу і знішчэнне яго белагвардзейскай псарні выклікалі вялікі перапалох у праціўніка. Як мы высвятлілі пазней, з Панявежа ў Таўяны была хутка перакінута буйная дапамога з адборных бялякоў. Але прыбыўшы на месца, яна знайшла толькі вогнішча Таўянскага палаца,— партызанаў і след прастыў.

У зусім іншым кірунку мы ў той час ужо набліжаліся да першай мэты нашай генеральнай аперацыі—былі блізка каля Сісікаў, дзе заселі значныя сілы белых.

Позна ўвечары выведка данесла, што на хутары блізка Сісікаў згрупаван вялікі атрад праціўніка. Гэты хутар быў найбольш высокім камандным пунктам над наваколічнай мясцовасцю і ад аўладання ім залежаў лёс далейшай аперацыі. Весткі аб зборы на гэтым хутары варожых сіл паступалі значна раней і ад нашых мясцовых сяброў. Данясенні былі досыць трывожныя: белыя ўмацавалі хутар па ўсіх правілах ваеннай тэхнікі і нават паспелі загарадзіць падыходы да яго двума радамі калючага дроту. Адзіны бок, кудэй можна было дайсці да хутара, быў з боку Сісікаў і аддзяляўся ад бліжэйшага лесу досыць глыбокай рэчкай. Белыя, як відаць, не чакалі ўдара адсюль. Мы парашылі скарыстаць гэта па свойму.

Коннікі Кушныра, падмацаваныя кулямётным узводам, яшчэ ўначы адправіліся ўверх па рэчцы, каб досвіткам пераправіцца на другі бераг і непрыметна падыйсці да хутара, дзе ён быў не ўмацаваны.

Другая група, пад камандаю Бандуры, была кінута на перарэз шашы, якая вяла да Сісікаў, каб перашкодзіць белым у выпадку нашай удачы, адступіць да Сісікаў. Гэта група павінна была замаскавацца ўздоўж шашы і цярпліва чакаць адыходу белых. Толькі ў выпадку зацяжкі бою, што магло сведчыць аб нашай няўдачы, Бандура меў права падыйсці да хутара і ўвязацца ў бой. Асноўныя сілы атрада былі прызначаны для лобавага ўдару на хутар з боку леса.

Кушныр і Бандура са сваімі часткамі ўжо адправіліся ў паход калі вы-

ведка данесла нечаканую навіну: у белых на хутары ёсць артылерыя. Гэта паведамленне напоўніла нас і трывогай і надзеяй. Мы даўно ўжо марылі аб уласных пушках і наліčча на хутары артылерыі адкрывала нам зусім нечаканыя магчымасці. З другога боку гэта ўскладняла аперацыю. У прыватнасці для мяне не было ясным, як будуць весці сябе пад артылерыйскім агнём нашы навічкі-партызаны.

Досвітак толькі-толькі займаўся над непрыветнай мясцовасцю. Далёка працяжна заспявалі санлівыя першыя пеўні. Як бы ў адказ ім траскучай чачоткай засакаталі нашы кулямётныя гнёзды. Шаснаццаць кулямётаў палілі аднačасова. Трэск ад стрэлаў і падобныя на маланку агнёвыя зігзагі разбудзілі санлівую мясцовасць і вясёлым рэхам адгукнуліся ў сэрцы партызан, якія ляжалі на ўскраіне леса, за поўкілометра ад хутара. Праціўнік не адказваў. Чвертку гадзіны працягвалася кулямётная падрыхтоўка, пасля гэтага атрад пачаў перабягаць. Праціўнік маўчаў.

Па загадзя вызначанаму плану нашы кулямёты аднačасова спынілі стральбу. Яшчэ не змоўк грукат стрэлаў, калі партызанскі ланцуг, як адзін чалавек, узняўся і з воклічам «ура» пайшоў у атаку. Тут шалёна заляскаталі і лінулі агнявым ліўнем кулямёты ворага. Мясцовасць крокаў за дзвесце ад хутара закіпела. Яна, як відаць, загадзя была добра прыстраляна. Калі нашы байцы падыйшлі да гэтай паласы смерці, кулямёты праціўніка пачалі касіць амаль без промаху.

Імклівасць белагвардзейскага адпору была зусім нечаканай. Наша атака была збіта і партызаны залеглі на аблядзянелую кару зямлі. Прарваўшыся праз паласу агня, партызаны вымушаны былі хавацца за малейшыя бугры, каб выратавацца ад няшчаднага агня праціўніка, які пачаў біць па жывых цэлях. Зноў загаварылі нашы кулямёты. Пачалася тлумная вінтовачная страляніна. Вакол партызан з сумятлівым жужжаннем і візгатам лажыліся кулі, уздымаючы грудкі бруднага снегу. Праціўнік люцеў. Злосна—важна запелі знарады. Над ланцугамі партызан страшным градам рассыпалася шрапнель. Частка нашых кулямётаў выбыла са строю. Становішча было вельмі цяжкое.

Думка аб няўдачы разанула ў галаве і напоўніла сэрца пякучай трывогай. Для нас рабілася ўсё больш і больш відавочным, што Кушныр спазніўся. Гэта магло прывесці да разгрому асноўных сіл атрада. Па ланцугу мне перадалі, што Будрэйка, які знаходзіўся на краі правага фланга, каб дарма не губіць людзей, лічыць мэтазгодным пачаць адыход да лесу. Чуліся стогны параненых і непарушна чарнелі трупы забітых партызан.

Я ўжо сабраўся быў даць згоду, як раптам на хутары пачалося замяшанне. Першай змоўкла артылерыя. Потым адразу прыціхлі кулямёты. На змену ім узняўся невыразны гул многіх чалавечых галасоў, які дакаціўся да нас, як хвалі далёкага прыбою. Затрапятала ў грудзях сэрца ад радаснай надзеі. Мы яшчэ не апаматаліся, як убачылі праз парахавы дым, што слаўся над хутарам, бліскучыя клінкі і знаёмыя даламаны кушныроўцаў. Без усякай каманды наш ланцуг, зароўшы «ура»!, узняўся, і, скакаючы праз купіны і карчы, нястрымна паімчаўся на хутар.

Страляніна зусім спынілася. Пачаўся рукапашны бой...

Хутар быў узят.

* * *

Перамога на хутары была поўная. Нам удалося захапіць значную частку зброі і тры кулямёты. Белыя разбегліся ва ўсе бакі. За імі рассеяліся праследваўшыя іх партызаны. Кушныр з конніцай быў кінуты за групай белякоў, якая адзіная з усіх абаронцаў хутара адступала ў баявым па-

радку. Гэта конная група акружыла дзве палявыя пушкі і, не аглядваючыся, уляпётвала ў бок Сісікаў.

Але тут іх і чакаў са сваімі партызанамі Бандура. Мацьвей ледзь стрымліваў партызан ад неабдуманых дзеянняў. У апошнюю хвіліну партызаны не сцярпелі і, убачыўшы ўцякаючых па шашы белых, выскачылі насустрач. Гэта была цяжкая тактычная памылка, якая каштавала жыцця дзесятку партызан. Бандура рваў на сабе валасы ад роспачы. Белыя, як чэрці, віхрам наляцелі на партызан, якія перагарадзілі шашу. Стралою мільганула пушка. Белякі адкінулі партызан і ўцяклі-б напэўна ў Сісікі, калі-б коні другой гарматы не спалохаліся і не кінуліся ўбок з дарогі. У гэты час навальніцай наляцелі на іх кушныроўцы. Завязалася смяротная бойка. Астаткі белякоў, бачучы поўную безнадзейнасць далейшага супраціўлення, рассыпаліся па шашы і па полі, шукаючы паратунку. Нямногія з іх вышлі цэлымі з гэтай бойкі.

Праз некаторы час кушныроўцы выцягнулі з снегу гармату і, брэнчучы зараднымі скрынкамі, урачыста пагналі яе на хутар. Грамавым «ура» сустрэлі партызаны на хутары гэты доўгачаканы трафей.

* * *

Падзеі ў гэты дзень развіваліся з надзвычайнай хуткасцю. Белыя не чакалі такога націску з боку партызан. Яны як відаць, разлічвалі сіламі, якія былі згрупаваны на хутары, спыніць наша прасоўванне і разграміць атрад.

Мы-ж, не затрымліваючыся на хутары, паімчаліся на блізкія Сісікі.

Там была поўная разгубленасць. Партызанам, якія ўварваліся ў мястэчка, ніхто і не думаў аказваць супраціўленне. Па вуліцах мястэчка ляталі вырваўшыяся абозныя коні, мітусіліся нейкія людзі і панаваў поўны верлах. Хутка высвятлілася, што прыляцеўшыя ў Сісікі коннікі, якія ўцяклі ад смяротных удараў кушныроўскіх сабель, нагаварылі незвычайных жахаў пра полчышчы Чырвонага войска, якія пасоўваліся з боку хутара. Белыя панікёры аказалі нам каштоўную паслугу. Храбрыя ваякі неадкладна рвануліся з Сісікаў і ганебна ўцякалі, кінуўшы мястэчка. Мы парашылі праследваць праціўніка па пятах, тым больш, што Пагіры былі не вельмі далёка ад Сісікаў.

Нашых раненых мы сабралі ў Сісікі, разгарнулі ў панскім доме палявы лазарэт, мабілізаваўшы на дапамогу нашаму лекару і сёстрам, мясцовага фельчара і некалькі жанчын для неадкладнай арганізацыі хуткай дапамогі нашым параненым байцам. Пасля гэтага мы наладзілі сувязь з нашымі лазутчыкамі і спешна пакарміўшы коняй і падмацаваўшы людзей, выступілі на Пагіры.

У Сісіках пакінулі заслону пад камандаю лёгка параненага ў руку Мацьвея Бандуры.

* * *

Удача следвала за намі ў гэты сонечны веснавы дзень.

Калі наша выведка падышла да дружацкі настроенага к нам карчмара, за некалькі кілометраў ад Пагір, партызаны знайшлі ў пакрыўленай будыніне, як гэта было загадзя ўмоўлена, двух нашых лазутчыкаў. Яны паведамілі нам аб страшным перапалоху ў Пагірах.

Пасля заняцця намі хутара, белыя пачалі тэрміновую эвакуацыю Пагір. Мясцовы ксёндз, які славіўся па акрузе за святога, спрабаваў сабраць парафіян да касцёла і заклікаў узброіцца і даць адпор антыхрыставаму войску. Сяляне, аднак, на гэты раз аказаліся непадатнымі да ксяндзоўскіх нагаварванняў. Тады белыя парашылі ачысціць Пагіры і прыступілі да эвакуацыі.

Як данеслі нашы лазутчыкі, белыя замацаваліся пры ўваходзе ў гарадок на могілках каля касцёла. Кулямётныя гнёзды былі устаноўлены імі таксама на званіцы галоўнага касцёла Пагір і ў двухпавярховай каменнай школе на гары, у заходнім канцы гарадка. Трохцалёўку, якая ўцалела ад нападу кушныроўцаў на хутары, яны пагналі разам з эвакуіраванай маёмасцю ў бок Коўны, быццам адчуваючы свой разгром.

Партызаны хоць і шкадавалі, што такі ласы кусочак уцякае, але весела пасміхваліся над страхам белых.

Калі наш галоўны атрад падышоў да карчмы, мы пасля кароткай нарады парашылі абыйсці белагвардзейскую пазіцыю на могілках і ўварвацца ў гарадок з боку школы, папярэдня ліквідаваўшы кулямётнае гняздо на званіцы галоўнага касцёла. Сярод партызан аказаліся старыя артылерысты. Іх мы прызначылі за нумароў да захопленай пушкі. У той дзень ёй належала атрымаць партызанскае хрышчэнне.

Паходнай калонай мы спускаліся ў Пагірскую даліну. Белыя яшчэ за два кілометры ад Пагір распачалі зусім бессэнсоўную пальбу. Гэтая стральба не прычыніла нам ніякай шкоды, але як відаць, яна павінна была ўзняць дух белагвардзейскіх абаронцаў Пагір, які значна пахіснуўся. Праз бінокль відаць беспарадкавая мітусня на вуліцах гарадка.

Атрад пачаў поўкругом разгортваць лаву. Наша адзіная пушка пад прыкрыццём двух дзесяткаў кавалерыстаў вылецела наперад і, разгарнуўшыся на хаду, пачала біць прамой наводкай па касцёлу. Першыя стрэлы былі няўдалыя. Знарады то не даляталі да касцёла, то давалі пералёт. Але, прыкладна, пяты ўдар пушкі паказаў усё майстэрства старых артылерыстаў. Знарад трапіў у цэль. На званіцы ўскруцілася воблака пылу: знарад прабіў вялізную дзірку. У гэты час партызанская лава з гікам і посвістам разлілася па завулках Пагір.

Да часу нашага налёту белых у Пагірах засталося нямнога. Галоўныя іх сілы не аглядваючыся ўцякалі да Коўны. Тыя, што засталіся ў горадзе, няўдачлівыя абаронцы белага сцяга, не аказалі нам супраціўлення. Яны ўцякалі, як зайцы, куды вочы глядзяць, па дарозе зрываючы з сябе пагоны і іншыя атрыбуты сваёй белагвардзейскай прыналежнасці. Ад страху яны ўсё пакідалі. Партызаны былі нават расчараваны неўтаймоўнай панікай белых. Ранішні бой каля хутара абяцаў сур'ёзны бой і за аўладанне Пагірамі. Але напалоханыя белякі не прынялі боя. Як нашкодзіўшыя дзеці, яны ўцякалі ў розныя бакі, кінуўшы горад на волю лёсу.

* * *

Не давялося нам пабіцца і на могілках каля Пагір. Калі асцярожна наблізіліся мы да гэтай найбольш умацаванай пазіцыі аказалася, што могілкі былі панічна пакінуты імі.

Толькі праз двое сутак белагвардзейцы, ачухаўшыся і атрымаўшы значныя падмацаванні, павярнулі зноў на Пагіры і спрабавалі нас адтуль выбіць. Гэтая спроба, якая каштавала белым шмат крыві і нанесла досыць значны ўдар партызанам, не завяршылася поспехам. Прарваўшыся ў Пагіры з боку Ковенскай шашы, ударны атрад белагвардзейцаў, не гледзячы на здольнасць і адвагу іх камандзіра быў намі поўнасцю знішчаны. У сумцы забітага белага камандзіра мы знайшлі дакументы, якія сведчылі, што іх уласнік, лейтэнант Фрэйн храбра ўдзельнічаў у трыццаці шасці штыкавых атаках у перыяд сусветнай вайны. Дзве трапныя кулі чырвоных партызан спынілі асляпляючую ваенную кар'еру гэтага гастралёра. Адзіная добрая памяць пра гэтага наёмніка—пабліскваючы халоднай сталлю пісталет «Парабелум» перайшоў да мяне па праву старшынства.

* * *

Не давялося нам расквітацца з пагірскім ксяндзом за пагібель Войцэхоўскага. Боскі прахвост уцяміў, што ад чырвоных партызан яму не будзе літасці і своечасова схаваўся. Знікненне гэтага ката некалькі зачарніла радасць нашай перамогі.

Уварваўшыся ў гарадок група партызан галопам паскакала да дома ксяндза, які стаяў у цяні каштанаў, каля самага касцёла... Жаданне захапіць жывым забойцу Войцэхоўскага было такім моцным, што мы, забыўшы ўсякую асцярожнасць, саскочылі на хаду з коняй, і гурбою ўваліліся ў дом. Але... віноўніка нашага візіта ў доме не аказалася. Ксёндз збег.

У доме ўсё сведчыла аб поўнай нечаканасці нашага налёту: на стале была падрыхтавана смачная страва чалавек на пятнаццаць (як відаць, ксёндз прымаў белых начальнікаў). Раскошная featна рознастайная закуска была ўстаўлена па ўсім стале. Вялікая міса з яшчэ цёплымі піражкамі прываблівала партызан. Ад гора яны накінуліся на піражкі і тое, што было ў талерках, і стоячы ўпісвалі смачную страву. Калі партызаны ўжо ўволю наеліся некаму прыйшла ў галаву думка, ці не атручана ежа? На шчасце ксёндз не здагадаўся або не паспеў гэтага зрабіць.

* * *

Страшная сіла каталіцкага духавенства ў Беларусі і Літве. Верныя сабакі мясцовых магнатаў і пакорныя выканаўцы чорнай волі Ватыкана, ксяндзы былі злейшымі ворагамі чырвоных партызан. Яны настрайвалі супроць нас цёмных сялян і прыдушаных батракоў вялізных уладанняў князей Радзівілаў, графоў Тышкевічаў і больш дробных памешчыцкіх плотак. З амбона яны выказвалі свае грамавыя прамовы аб прыходзе антыхрыста, а ў цішыні сваіх касцёлаў хавалі зброю і знаражэнне для белагвардзейскіх фарміраванняў, якія пачалі ўзмоцнена стварацца ў адказ на рост чырвоных партызан. Праз адданых людзей і фанатычна настроеных веруючых яны наладжвалі таемную сувязь паміж белагвардзейцамі і шырока раскінулі здрадніцкія сеці шпіянажа. Часта яны пераходзілі і да актыўнага супраціўлення.

Змагацца з гэтым разлагаючым уплывам варожай клерыкальнай агентуры было тым больш цяжка, што ў нашай прысутнасці ксяндзы вялі сябе самым нахабным чынам. Яны прыніжана кланяліся, сюсюкалі розныя любезнасці і поўзалі на пузе перад чырвонымі партызанамі. Не было ні аднаго выпадка, каб ксёндз у захопленым намі маёнтку альбо мястэчку трымаў сябе з чалавечым дастоінствам.

Мы мелі справу з подлым і каварным ворагам.

Шмат смеху сярод партызан выклікаў наступны кур'ёзны выпадак.

Калі ўсё супакоілася ў гарадку, мы парашылі добра перетрэсці дом ксяндза. Барахла ў яго аказалася многа. Кладоўні хутка перайшлі ў карыстанне гаспадарлівага Бандуры, які не сцерпеў і, пакінуўшы замест сябе камандзіра заслону ў Сісіках, з перавязанай рукою прыкаціў на панскай брычцы ў Пагіры. У ксяндзоўскіх паграбах мы выкрылі цэлыя склады цудоўных прадуктаў. У папяловых ямах хаваліся ад вялікадня да вялікадня тысячы яец. У вялізных чанах, у капусце, былі сакавітыя квашаныя яблыкі. Сцены кладовак былі завешаны карычневымі свінымі сцягнякамі і застаўлены банкамі рознастайнага варэння. У асобным пограбе хаваліся цэлыя батарэі віна, налівак усіх колераў радугі і пузатых бочачак з хмельным пахучым мёдам. Нядрэнна жылося пагірскаму «святому»!

Пакуль Бандура прыводзіў у хрысціянскі від ўсе ксяндзоўскія кладоўні, мы з Будрэйкам ўзняліся ў мезанін, дзе змяшчалася спальня ксяндза.

Адчынілі дзверы і... мімаволі спыніліся. У цёмным пакойчыку, скупа асветленым адным вакном, пад нізкай столлю панавала густая ўрачыстая

цішыня. Убогае ўбранства пакою складалася з грубога вясковага ложка, пакрытага даматканай шорсткай коўдрай ды простага ўслона, прыстаўленага да сцяны, якая была абіта цёмна-шэрымі шпалерамі. Каля пасцелі—невялікі табурэт, падсвечнік з агаркам і лацінскі малітвеннік у скураным пераплёце. Над ложкам ад падлогі да столі—вялікае распяцце Хрыста.

У галаве мімаволі заварушылася думка: «фанатык»! Хоць зараз жа мы ўспомнілі пра багатыя ксяндзоўскія кладоўні, якія рэзка супярэчылі гэтай келлі адшэльніка.

Раптам пачуўся моцны рогат. Будрэйка, які машынальна перагортваў малітвеннік, выпадкова знайшоў у ім некалькі здымкаў аголенай маладой жанчыны, сфатаграфаванай у самых рознастойных позах. Здымкі здзіўлялі сваёй цынічнай адкрытасцю. На адным з іх яна была сфатаграфавана з развінутымі рукамі і распушчанымі валасамі, стоячы на ложку ксяндза і закрываючы сваім целам раскрыжаванага Хрыста. Здымкі былі аматарскія, зробленыя, як відаць, самым ксяндзом.

Мы парашылі скарыстаць гэтую незвычайную находку дзеля антырэлігійнай прапаганды сярод мясцовага насельніцтва. Увечары мы сабралі у мясцовай школе досыць шматлюдны мітынг. Вагоніс на літоўскай, а я на польскай мове расказалі сабраўшымся, што ведалі пра шкоднасць рэлігіі. У часе нашых выступленняў сярод сабраўшыхся пачуліся раздражненыя воклічы. Мы ведалі, што прakлaненне перад панамі і касцёлам сядзіць глыбока, як праказа, і востра, як атрута, але разлічвалі, што выкрытыя намі фатаграфіі развеюць усе сумненні абдураных парафіян. Якое-ж было наша здзіўленне, калі пасля паведамлення аб знаходцы мы ўбачылі, што жыхары Пагір, асабліва жанчыны, абурана пачалі разбягацца са школы, торапка, па мышынаму, хрысцячыся на хаду.

Якая цемра! Толькі пяць смельчакоў з палахлівай цікавасцю разглядалі здымкі голай жанчыны. Яны ў ёй пазналі богабаязлівую эканомку ксяндза...

* * *

Сутак праз чацвера белыя пачалі націскаць усё мацней. Наступленне чырвоных войск па фронту затрымлівалася. Сувязь з чырвонай літоўскай дывізіяй у нас перарвалася. Наша становішча рабілася ўсё больш крытычным. Партызаны амаль не спалі. Аседланыя коні не адпачывалі, знаходзячыся ў сталай баявой гатоўнасці.

Бачачы безнадзейнасць далейшага ўтрымання Пагір і адчуваючы, што на фронце чырвоных адбываецца штосьці неладнае, мы на шостыя суткі асцярожна зняліся і, выслаўшы ў бакі вартавых, пакінулі Пагіры. Белыя хапіліся вельмі хутка і пачалі моцна націскаць.

Так мы з боем адступалі на працягу трох тыдняў, абкружаныя агнявым кольцам агалцелай белагвардзейшчыны, сілы якой перавышалі нашы ў дзесяткі разоў. Адбіваючыся, мы то адступалі, то прарываліся ў бок, нязменна адкачваючыся да чырвонай літоўскай дывізіі. У часе гэтага адыходу атрад нанёс не адзін смяротны ўдар белякам, але і мы панеслі ў гэтых сутычках цяжкія страты. Многа блізкіх і дарагіх таварышоў мы тады пахавалі па лясках і ўздоўж дарог Літвы. Хваёвымі галінамі, пакрытымі скрываўленымі фуражкамі забітых партызан, прыбралі мы іх адзінокія магілы.

Нашай рухавасці і манеўранасці вельмі перашкаджаў павялічаны лік параненых таварышоў. Мы не хацелі і не маглі пакінуць іх на надругу ворагу. Гэта скоўвала наш адыход, замаруджвала наша пасоўванне і, адступаючы вярста за вярстою, мы цярпелі адну страту за другой. Дні праходзілі ў няспынных сутычках. Вораг націскаў на нас, спераду, з флангаў і ззаду. Чорныя ночы, асветленыя заравам пажараў, успышкамі перастрэлак,

таваў: «знайшлі хлапчука, як той гузік адарваны». Ад гэтага і выдумалі прозвішча «Гузоўскі». Так і пайшло—Гузоўскі ды Гузоўскі. Так і ў спісы загадам залічылі:

«Из'явившего добровольное желание сражаться в рядах Красной гвардии против контрреволюции гр-на ССРБ Гузовского Николая Ивановича, зачислить разведчиком в пулеметную команду, для связи с командиром отряда и на все виды довольствия, в том числе и денежное...»

* * *

Мінула тры месяцы і атрад Гарбатава перафарміраваўся ў кавалерыйскі полк. Полк называўся жалезным кавалерыйскім палком Смаленскага Совдэпа. Юны кулямётчык Коля Гузоўскі ўжо не падобен быў на абарванага хлапчука, калі ён беспрытульны соваўся дзе-небудзь у кутку оршанскага вакзала. Гэта быў маленькі чырвонаармеец, у шэрай папахе, у шынялі, пашытым па росту, у боціках са шпорамі. Спецыяльна для яго ботаў ружэйны майстар зрабіў з паламанага шомпала шпоры. З левага боку маленькая шашка, таксама зробленая ружэйнікам з паламанага клінка. Не было толькі вінтоўкі.

З кулямётнай каманды камандзір палка перавёў яго ў каманду сувязі пры штабе палка.

Цяжкое на фронце баявое жыццё: пераходы, баі. Стомяцца і людзі, і коні. Бывае, што конь з-пад сядла увесь тыдзень не выходзіць. Часцяком, у паходзе конь ледзь-ледзь нагамі ступае, а коннік дрэмле, вось—вось, здаецца, зваліцца. Але Колю не асабліва стамлялі цяжкія паходы. Ёмка сядзеў ён на сваім гнядым жарэбчыку «Гузіку» і калі толькі паспеў навучыцца ездзіць: а клічку жарабка падабралі пад Коліна прозвішча. Жарабочак акуратны такі быў, і Коля так даглядаў яго, што ён не худзеў ніколі—гладкі быў, як агурок. Мудрэй, як свае вока даглядаў Коля свайго баявога таварыша, гнядога жарабочка, трохлетку Гузіка. Сам не даесць, а каня дагледзіць. Хлеба скарынка засталася—Гузіку.

Заўсёды насуплены і сярдзіты з выгляду камандзір палка Гарбатаў, пяшчотна, як маць, палюбіў Колю. Сам пра яго клапаціўся, трымаў каля сябе заўсёды.

— Вось, Нікалай Іванавіч, скончыцца вайна—накірую цябе на курсы, выйдзеш на камандзіра—жартаваў Гарбатаў.—Мяне падменіш, палком будзеш камандаваць.

І Коля, які ўжо да гэтага часу асвоіўся з правіламі дысцыпліны (а дысцыпліна ў палку, трэба сказаць, была моцная), выпростаўся і адказваў:

— Слухаю.

— Карабін каб табе невялічкі затрафеіць дзе,—гаварыў Гарбатаў аглядаючы Колю, які сядзеў на кані.—Ды ўзброіць хлопчыка канчаткова, страляць уж навучыўся...

Сур'ёзны твар Колі расплываўся пры слове «карабін» ад усмешкі, чорныя вочкі паблісквалі. Пра карабін, маленькі карабін, якія носяць польскія кулямётчыкі, Коля заўсёды марыў. Яго ўжо і страляць з вінтоўкі навучылі чырвонаармейцы. Ды ўся бяда, што ў палку не было ні аднаго карабіна.

— Ну вось я цябе другім разам у разведку пашлю,—гаварыў Гарбатаў,—і дастанеш сабе карабін... А сам думаў: «Куды там у разведку малога. Адаслаць бы яго куды далей ад фронта, ды няма куды. Накіраваць хіба, да таварыша Лур'е, у Смаленск, але выпадак ніяк не падвернецца.

Успаміны пра Лур'е заўсёды выклікалі ў Гарбатава цёплае пачуццё ўдзячнасці да гэтага чалавека. У даным выпадку яны выклікалі апрача ўдзячнасці яшчэ і пачуццё вялікай адказнасці за Колю, шкадаванне дзіцяці, адзінокага на ўвесь свет Колі. Гэтак жа калісьці і Лур'е, яшчэ як быў студэнтам, падабраў яго, Борку Гарбатава. Выхоўваў яго некалькі год, даў яму магчымасць жыць, сагрэў яго чалавечым пачуццём, падзяляў з ім мізэрны заработак ад урокаў. Быў яму маткай і бацькам. А калі Гарбатаў вырас, ён увёў яго ў партыю большэвікоў, выхаваў з яго комуніста. Гэта было ўжо ў часе імпэрыялістычнай вайны. Цяпер Лур'е працаваў ў Смаленску, у губкоме. І Гарбатаў лічыў, што калі ён заняты на фронце, дык Лур'е павінен паклапаціцца пра Колю і ён ведаў, што Лур'е не адмовіцца. А то малы тут можа і загінуць.

Успамінаючы пра Лур'е, ён зноў успамінаў свае дзяцінства галоднае і беспрытульнае. І сябе, успамінаючы свае дзяцінства, ён параўноўваў з Коляй. Коля станавіўся яму больш блізкім і родным. Усплыў перад вачыма Гарбатава твар Лур'е, пастарэлы ўжо, з вялікімі шэрымі і добрымі вачыма, у акулярах. Добра было-б Колю ў Лур'е, пакуль ён Гарбатаў вернецца, а калі не вернецца... не вернецца, дык таксама не загіне Коля.

Не адзін раз ён збіраўся накіраваць Колю ў Смаленск, ды ўсё спадарожнікаў з фронта не было.

... І вось аднойчы трэба было пасляць у Смаленск каманду чалавек сем—восем, па коняй, у конскі запас. Вырашана было адправіць і Нікалая.

— Ну, Колюша, збірайся...

— Слухаю... Куды загадаеце, таварыш камандзір палка?

— Эх, ты, слухаю,—Гарбатаў прытуліў да сябе Нікалая, пасадзіў на калені і, ласкава гладзячы па галаве, сур'ёзна быў пачаў:—Цяжка тут, Коля. Фронт тут, усё бывае, а табе ўчыцца як-бы пара. Ды і наогул тут не для цябе... Ну, агулам, хачу я цябе адправіць... А вайна скончыцца, я да цябе прыеду, або цябе да сябе выпішу... грамату табе пара...

Нікалая як не было на каленях. Ён, выцягнуўшыся, прылажыўшы руку да папахі, па ўсіх правілах дакладваў:

— Дазвольце, таварыш камандзір палка, ад Смаленска адмовіцца...

— Адкуль ты ведаеш, што ў Смаленск?..

— Ды людзі сёння туды едуць... а грамаце мяне і тут навучаць, я з настаўнікам клубным гаварыў...

— Колюша, не можна табе тут, не можна, родны, шкадую я цябе. Дзеці не павінны цярпець бядот баявога жыцця...

Губы Колі задрыжэлі, затуманіліся вочы. І ў адзін момант яго твар быў ужо на каленях кампалка Гарбатава. Коля ўздрыгваў. Коля плакаў.

— Дзядзька Бора, я не хачу ад цябе ехаць. Я збягу ў дарозе. Дзядзька Бора, не адпраўляй, міленькі дзядзька Бора...

Доўга гладзіў па галаве Колю суровы Гарбатаў, комуніст-камандзір, пяшчотна і ласкава гладзіў. А ў самога набегла на вока нечаканая сляза...

Нікалай надоўга застаўся ў баявым палку.

* * *

У часе наступу на Варшаву, за ракою Заходні Буг, полк, акружаны з усіх бакоў праціўнікам, узмоцненай разведкай намацваў выхад з варожага кальца. Але вакол былі палякі і, здавалася, выхаду не было. Тры разы хадзілі ў лобавую атаку, але апрача забітых, параненых,—вынікаў ніякіх. Патрэбен быў выхад і для выхаду трэба было сілы зберагчы, а разведка глыбока ў стан праціўніка прабрацца не магла. Склікаў Гарбатаў эскадронных камандзіраў. Полк вакол штаба наўкруга стаіць. Чутны частыя стрэлы—ахоўваючыя ўзводы з праціўнікам перастрэльваюцца.

Раніца толькі пачыналася. Вялікае кола сонца ўсплывала над лесам. Лес поўніўся шчабятаннем птушак.

— Да вечара трэба выбрацца,—сурова насупіўшыся, сказаў Гарбатаў.—Адзін выхад, намацаць найбольш слабае месца праціўніка і ўдарыць, як зойдзе сонца. Але як намацаць: разведка гэтага не зробіць, выведка стыкаецца толькі з першай лініяй ворага, а трэба залезці глыбей. Інакш паны збяруць яшчэ больш сілы і канчаткова сціснуць нас тут. Добра, што яшчэ ў лесе стаім—трымаемся, а каб было такое абкружэнне ў полі—каюк быў-бы...

Маўчалі камандзіры. Адзін прапанаваў: «пераапрануць і паслаць».

Махнуў рукою Гарбатаў. «Гіблая справа»,—прабурчэў і яшчэ больш суровым твар зрабіўся. Галава ніжэй апусцілася ад задумення.

— Выхад трэба знайсці, выхад. Яшчэ дзень, а там—позна ўжо будзе...

— У атаку яшчэ рванем, чаго там, была не была—крыкнуў камандзір чацвертага эскадрона, татарын Губайдулін.—І эх... а сам за шашку і чакае адказу, пазіраючы на Гарбатава.

Не глянуў нават Гарбатаў, толькі рукой махнуў—«кінь гэтае».

Рука Губайдуліна сама па сабе ад шашкі адарвалася і асеў ён на карачкі.

Пазіралі камандзіры на камандзіра свайго Гарбатава і чакалі. Лёгкі ветрык дыхнуў па лесу, ласкавы такі, шавелячы лістом зялёным і ветрык гэты як-бы галаву асвяжыў.

Выпрастаўся Гарбатаў.

— Колюш!..

Не трэба было адшукваць Колю, ён быў тут, ён заўсёды быў каля дзядзькі Боры, асабліва ў хвіліны небяспекі. І ўбачыўшы Нікалая, дзядзька Бора ўсміхнуўся.

— Колюш, а калі мы цябе за пастушка апранем і ты нам жывым манерам...

Людзі здзівіліся, як гэта сур'ёзны Гарбатаў у такую крытычную мінуту жартаваць можа. Але камандзір палка, міргануўшы акружаючым, сказаў:

— Абыйдзеш лес і ўсе дарогі ды і дазнаешся, дзе палякі, колькі іх...

Камадзір эскадрона, які прапанаваў пераапрануць чырвонаармейца ды пусціць, падсунуўся да камандзіра бліжэй: «а што на наша вышла».

Людзі зразумелі рашэнне камандзіра і адразу цесна абступілі Гарбатава і Колю.

— Па-беларуску ты ўмееш добра гаварыць, пугу ў рукі і ніхто цябе не затрымае. Пойдзеш адною дарогаю, прыдзеш другою. Больш падрабязна я табе растлумачу. Толькі запомні і выбяры дарогу ў гэты бок, у кірунку, дзе менш палякаў,—і Гарбатаў паказаў рукою на поўночны захад.

Чорныя вочы Колі гарэлі, як вугалькі, твар зрабіўся заклапочаным і сур'ёзным. Не гаворачы нічога, ён скідваў з сябе вайсковае абмундзіраванне. З абозу прынеслі старыя палатняныя штаны, рубашку, усю тую невядома як захаваную вопратку, што была на Колю ў часе яго першай сустрэчы з Гарбатавым.

Камандзір эскадрона Губайдулін з двума чырвонаармейцамі падганяў сюды з палкавога гурта рудую бязрогую карову.

— Гэта яшчэ што?—дапытліва зірнуў камандзір палка.

— Пускай карова вазьмёт. Гоніт па лесу. Больш польскі даверай будзіт. Легчэ задача выполняй.

— Здорава, Губайдулін, выдумаў! Вось чорт...

Колька ператварыўся з чырвонаармейца ў вясковага хлопчыка. Хтосьці з байцоў прынёс з абоза вясковую пугу. Коля быў гатовы. Сваім

выглядам, ды яшчэ разам з каровай, ён быў сапраўды падобны на вясковага пастушка.

Гарбатаў прыхіліў да сябе Колю і рэзка ўзняў на руках. Горача пацалаваў ў шчаку. Пацалунак быў доўгі, людзі нахмурыліся.

«Ці мае ён права пасылаць дзіця? Але-ж полк, полк. Не выбяруцца— смерць усім і разам з усімі—Колю».

Людзі стараліся не глядзець на развітанне компалка з горача любімым выхаванцам. Перад людзьмі толькі цяпер паўстаў страх за жыццё Колі. Людзі не баяліся самі смерці, але жыццё іх любімца было для іх даражэй. Пацалаваўшы Колю, Гарбатаў адвярнуўся.

Сонца ўжо досыць высока ўзнялося ў небе, было каля сямі-васьмі гадзін раніцы. У гэты час хлопчык-пастушок падганяў у лесе безрогую карову, якая адбілася ад статка. Пуга шчоўкала і пасвіствала. Сонца трапятала, і паблісквала ў кроплях халоднай расы. Колю было весела і страшнавата. Толькі захаваная ў вачах сур'ёзнасць і клопаты—напаміналі, што пастушок гэты—незвычайны пастушок.

Гнаў ён карову, як навучыў дзядзька Барыс: у левы бок вярсту, а пасля ў правы—вярсту, так, каб поперак леса ўвесь час вялікімі зігзагамі ісці, і аддаліцца ад палка вёрст на пяць—на шэсць і ўвесь лес перабраць.

Ды ў галаве цвярдзіў назвы бліжэйшых вёсак. Дзядзька Бора з карты вычытаў яму навакольныя вёскі на выпадак, калі палякі пытаць будуць з якой ён сам?

Трэці паварот не паспеў зрабіць, як крык з правага боку пачуўся:— «стой, пся крэў...» Душа ў пяты ўскочыла, у вушах горача зрабілася, а ў грудзях быццам камяк нейкі да горла падкаціўся і быццам голасу не хапіла, і дыхнуць не было чым. Але гэта толькі спачатку, а потым смеласць адкуль толькі і ўзялася. І пугай зноў свісь—свісь, далей рушыў, быццам і не чуў нічога, і на хаду азірнуўся—няма нідзе нікога. Ужо думаў, што мусіць ад страху тое здалося.

— Стой, пся крэў!

З кустоў вышаў з вінтоўкай на спагатове салдат у шэрым мундзіры, на галаве шапка пазнанская піражком, і проста на Колю...

— Сконт ідзеш, сопляк? Гдзе ідзеш?

— Жывёла, паночку, разбеглася....

— Гдзе ідзеш, пся крэў?

— Да хаты, да хаты.

— З якой вёскі?

І тут ледзь не забыўся Коля на ўсе вёскі. Усю дарогу паўтараў, а тут як калом было выбіта з галавы.

— З... з... з Рудні Забалацкай.

— Чырвонаармейцаў бачыў?

— А як-жа бачыў, пане, бачыў. Ай, колькі іх. Шмат. Ялаўку адабраць хацелі, ледзь адчапіліся...

— Дзе бачыў?

— А вунь там—і Коля паказаў у зусім супроцьлеглы бок. Паказаў туды, дзе полк нават і не паварочваўся.

— Ну, уцякай прэнтко.

Коля, сцебануўшы пугай, падскакваючы, пагнаў палкавую карову. Карова, гойдаючы бакамі і хапаючы на хаду траву, паслухмяна рушыла наперад.

За гадзін дзве ў Колі адбылося тры сустрэчы, падобныя адна да другой, пакуль не нарваўся ён на раз'езд уланаў. Убачыў уланаў—на дрэва. Карова спынілася на лужку і нячутна шчыпала сакавітую траву, зусім задаволеная сваім лёсам і падарожжам па лесе.

Уланы віхрам праімчаліся, не ўбачыўшы не толькі Колі, але не заўважыўшы і каровы.

Сонца ўжо збіралася хутка зайсці, а Коля не вяртаўся. Ва ўсім палку толькі і гаворкі было, што пра небяспечнае падарожжа хлопчыка. Думалі і гадалі, уяўляючы дзе ён цяпер:—вось ён ідзе, вось на караул наткнуўся. А вось у распалажэнне польскай роты трапіў або на раз'езд наткнуўся і што ён робіць пры сустрэчы. А можа яго падстрэлілі? Гарбатаў ні з кім не размаўляў—ён панура сядзеў у штабной тачанцы і не зводзіў вачэй з карты. Можа не варта было і пасылаць? Можа працаўнік адцягнуў свае сілы, паслабіў пільнасць. А каб у атаку яшчэ раз—на прарыў? Але добра, каб добра скончылася. А так у апошнюю атаку ён-бы знясіліў полк і многа людзей і коняй магло загінуць. Камандзір глядзеў на карту—вярстоўку і хацеў здагадацца, дзе цяпер Коля. А можа ён ужо і не жывы? Сэрца сціснулася ад болю і на карце з назваў вёсак, з лясных масіваў выплываў твар Колі і быццам таварыш Лур'е пазіраў з карты і дакорліва ківаў галавой.—Гэта замест таго, каб пасланць да Лур'е, ён накіраваў хлопчыка ў лес... да ворага... Не, ён не меў права...

А Коля ў гэты час сядзеў на дрэве. Як-бы пара і вяртацца—думаў ён, і стараўся добра запомніць, дзе і як ён ішоў, дзе палякі, дзе войска чырвонае павінна быць, полк яго. Палякі мусіць з пройдзенай ім паласы сышлі, пакінуўшы караулы. Ужо злазіць з дрэва сабраўся, як пачуўся шум. Угледзеўся. Па невялікай дарозе, якая была недалёка ад Колінага наглядальнага пункта, ішлі паходным строем салдаты, у шэрым, у абмотках, і было іх многа. Яны падаваліся ў той бок, адкуль Коля прышоў. Коля стаіўся на дрэве і пачаў лічыць: адзін, два і зблытаўся. Пачаў лічыць рады, зноў зблытаўся. Тады па групкам—дзесяць групак налічыў і групку адну ці дзве пералічыў. У кожнай групе чалавек дзесяць—дванаццаць, а за імі дзве двуколкі з кулямётамі. І афіцэр, верхам на кані, у хвасце.

«Гэта на полк наступаць»,—падумаў Коля і каменем з дрэва скруціўся. І пашоў следам за салдатамі, пакінуў карову палкавую, рукою махнуў—«няхай»...

Рота ішла, а за ёю сажняў на сто—Коля. Ніхто яго не толькі не спыніў праз ўсю дарогу, але і насустрач не трапляўся. Коля, як кажуць, быў у бяспечнай паласе прасоўвання калоны. Але Коля ведаў, што дазоры могуць быць і ззаду, таму тыл свой без увагі таксама не кідаў—азіраўся і назад. Ішлі вярсты тры і. парашыў Коля, што да палка ўжо недалёка. Пачаў подбегам абыходзіць роту: ад куста да куста, ад дрэва да дрэва. Увесь час азіраўся і прыгінаўся да зямлі. Але рота спынілася і Коля збоку ўбачыў, як ад яе аддзялілася адна групка і пашла наперад. Тут Коля, асцерагаючыся яшчэ больш, хутка пабег наперад. А калі пачуў польскую гаворку і ціхае ржанне коняй—папоўз, дзівячыся, як хутка пачало цямнець. Трэба было яшчэ разглядзецца, што за мясцовасць: ён прыўзняўся, але не паспеў добра азірнуцца—як адзін за другім зусім блізка грымнулі тры стрэлы. Свіснулі каля вушэй кулі, не паспеў галаву павярнуць у бок стрэлаў, як яшчэ грымнула разы два...

— Ну, прапаў, заўважылі...—ужо чуўся трэск голля і тупат чалавечых ног. Коля прысеў, а потым лёг...—Прапаў... і крутнуцца няма калі. Што-ж рабіць?..

А ў палку ўжо ўсякая цярплівасць лопнула: сабраўся Гарбатаў раз'езды пасылаць—адшукваць Колю... Ці будзе які толк? І паклікаў да сябе камандзіраў эскадронаў на нараду: як-жа быць?

... І не ведалі, што рабіць. А рабіць трэба было штосьці неадкладна—адна справа Коля, і другая справа—што-ж з палком будзе? Першыя вечаровыя цені выпрасталіся ўжо на зямлі... І парашылі яшчэ пачакаць.

Твар у людзей цямнеў ад чакання невядомага. А калі сонца абліло густою чырванню небасхіл, у галаве Гарбатава складаўся апошні і рашаючы план выхаду.

* * *

Што-ж рабіць?—думаў Нікалай.

Ён выпрастаў ногі і за нешта зачапіўся, як бы за купіну. У адзін момант падаўся ў бок, зноў пачаў намацваць нагамі і раптам зваліўся ў канаву ці яму...

Гэта была глыбокая канава, падобная да акопа, яна зарасла лопухам і кустамі. Ён стаіўся, бо побач пратопалі нейчыя ногі ў цяжкім абутку. Тупат аддаляўся ў левы бок.

Чакаць не было калі... Выскачыў з канавы і проста, стралою, прабег сажняў з пяцьдзесят так, што аж дух заняло. З разгону ўпаў у кустах, падмінаючы пад сябе голле. І тут усё пахаладзела ўнутры, ледзь не самлеў: каля куста салдат польскі на жываце ляжыць, высунуў вінтоўку на перад, выглядвае.

— Дзя-дзя... Дзядзечка.... пане...

Але салдат маўчаў. Маўчаў і Коля... Салдат нават не паварушыўся.

— Спіць...—і назад хацеў Коля падацца, аж узяла цікавасць.—Спаць ніяк не можа.—Асмялеўшы, падсунуўся да салдата бліжэй, зірнуў на яго збоку. А ў салдата адно вока заплюшчана, а другое, як шкляное—адкрыта, але без выразу.

— Ага, мёртвы, забіты...—здагадаўся Коля, рукою пакратаў салдата.—Мёртвы, так і ёсць...

Коля шмат бачыў забітых у вайну і таму, упэўніўшыся, што салдат нежывы—супакоіўся.

Крадкам, асцерагаючыся яшчэ больш, напружваючы слых і зрок, папоўз. А праз гадзіну ён быў ужо ў сваім палку. Нават каля сваіх пастоў прапоўз так, што вартавыя не заўважылі.

* * *

Калі-б яшчэ хвілін на дзесяць спазніўся, раз'езды выехалі-б яго адшукваць.

Пра карову ніхто і не пытаў. Сабраўся полк, цесна абступілі Колю, разглядвалі яго, быццам першы раз убачылі, але не пачыналі гаворкі. Камандзір Гарбатаў прышоў. Коля расказваў:

— Рота прышла, стаіць вунь дзе і два кулямёты ў іх,—узняўся і пальцамі стараецца паказаць праз лес, а Гарбатаў за пальцамі сочыць і на карту пазірае.—А ў гэтым баку таксама салдаты,—Коля паказаў рукою,—коні іржуць, а ў гэтым баку тры караулы спаткаў. А пяць вёрст напрамкі—нікога няма—толькі карова пасецца.

Твар Гарбатава пасвятлеў і адзін раз ён скупа ўсміхнуўся. Абстаноўка ясная. Праціўнік, відаць, рабіў перагрупіроўку альбо сілы адцягнуў, бо, мусіць, добра не высветліў сілы і месца чырвонага палка. Але чакаць больш нельга. За ноч праціўнік усё дакладна выведае і тады зусім сцісне. Прыход новай роты гэта паказвае. Цяпер вось з гэтага боку праціўнік сілу адцягнуў, караулы толькі пакінуў, а потым пачне і наступаць. Паклікаў Гарбатаў камандзіраў, адрывіста праказаў:

— Пакуль збяруцца на нас ударыць, мы стукнуць пастараемся.

Зразумелі камандзіры, што азначае «стукнуць»... Сабраўся ўжо Гарбатаў каманду падаць, як зноў Коля азваўся:

— Дзядзька Бора, есці хачу.

— Гады,—і Гарбатаў сябе па ілбу рукой ударыў, сцвярджаючы гэтым, што і ён гад.—Хлопчыка выправілі, а шамоўкі не далі. Паўсутак галодны быў.

І адкуль толькі што ўзялося. Хто цягне банку кансерваў, адкрываючы на хаду, хто хлеба кавалак, хто цукру прыгаршчы, цукеркі. Невядома, як гэта ўсё апынулася ў сядзельных сумках. А старшына другога эскадрона, Худоба, усіх здзівіў—тры вараныя яйцы перад Коляй паклаў. Кіянаў Шакір, канавод Губайдуліна нават кісет з махоркай і кавалак газеты выцяг з кішэні. Хацеў прапанаваць Колю. Але ўспомніўшы, што ён дзіця яшчэ і не курыць, з прыкрасцю паклаў свой пачастунак зноў у кішэню. Вылаяўшыся па татарску, ён адышоў да коняй.

— Ну, навалілі, як на вясковым вяселлі. А адпраўлялі, дык кавалка хлеба з цукрам ніхто не здагадаўся даць,—ужо не злуючы, бурчэў Гарбатаў.—А ну бяры, Нікалай, колькі з'есці можаш, ды ў каманду сувязі каці, у тачанку спаць.

Павярнуўся да палка, камандзір не моцна, але выразна і цвёрда гукнуў:

— Па конях!.. Стройся па-эскадронна!..

Полк імкліва рушыў у той бок, дзе разведаў Коля.

Вырваўшыся з акружэння белапольскага войска амаль без страт, даўшы праціўніку два кароткіх баі, чырвонаармейцы выйшлі ў распалажэнне сваёй арміі. Праз два дні полк далучыўся да дывізіі.

* * *

Ад Менску да Баранавіч пад націскам Чырвонай арміі ўцякалі палякі, кідаючы па дарогах абозы, пакідаючы на чыгуначных станцыях паязды, нагружаныя прадуктамі і баявымі прыладамі. Каля Баранавіч затрымаліся на некалькі дзён. У старых германскіх акопах адсядзецца думалі— нічога не вышла. Ні сіл, ні патронаў не хапіла—зноў давялося пяты падмазваць, ды за Буг перабірацца. Пераможна ішлі палкі Чырвонай арміі. Арыергарды палякаў так ляцелі, што Чырвоная конніца ледзь паспявала даганяць ды па хвастах біць.

І ўжо за Бугам, блізка ад Варшавы, белапольская армія пачала стрымліваць свой імклівы бег. Тэрыторыя дзеянняў змяншвалася. Польскі тыл павялічыў падачу папаўненняў.

У гарачы жнівеньскі дзень полк Гарбатава, вядучы разведку, падыходзіў да Гарволіна. Дывізія на-хаду перастрайвалася. Кавалерыйскаму палку загадана было заняць подступ да Гарволіна і чакаць прыходу галоўных сіл. А подступы заняць—значыць, з-пад Гарволіна палякаў выбіць.

Полк паходным строем ішоў, пакідаючы па дарозе воблакі цяжкога пылу. Добра ў паходзе ехаць наперадзе—пыл ззаду застаецца, а вось што глыбей ў калонну—людзі на людзей не падобны. Увесь пыл ад тых, што едуць наперадзе, на задніх асядае. Вымазваюцца як камінары ў карычневую сажу. Каб гэтае было ў тыле альбо ў мірны час, дык не адзінбы баец бурчэў і лаяўся. А тут на пыл ніхто і ўвагі не звяртаў. Не да пылу, калі праціўнік наперадзе і задача баявая.

Наперадзе пачулася страляніна. Па калоне каманда прайшла:— Сто-о-й!..

Ад раз'езда дазорныя з данясеннем імчацца да камандзіра палка. Праз кароткі момант зноў каманда:—узмоцненым спешваннем злазь!..

Там, дзе кавалерыя ў конным баі не возьме—пеша б'ецца.

Завязаўся бой. Палякі не хацелі адыходзіць—выгадная ўжо вельмі пазіцыя была. Полк упарта пасоўваўся наперад. Гарбатаў па тэлефону дакладваў начдыву аб становішчы. Начдыв загадаў: «Памры, а выбі, праз тры гадзіны галоўныя сілы падыйдуць, а ты каб да гэтага часу пад самым Гарволінам быў...» Не скончыў гаворкі Гарбатаў з начдывам—згінуў начдыў, ні гудка, ні голасу. Зірнуў Гарбатаў на начальніка сувязі, а той ужо

здагадаўся ў чым справа, рукамі развінуў: сувязь парвалася, а тэлефаніста ні аднаго, на лінію няма каго пасладзь... У гэты момант дзесьці пад Гарволінам бухнула раз, а потым яшчэ раз. У паветры два знарады прасвісталі.

— Батарэя. Шрапнель. Па іх ударыць трэба. Сувязь, чорт... Перадаць няма як... Батарэя ў іх каля горада...

Адзіночныя знарады з візгатам рэзалі паветра, разрываючыся то далёка ззаду палка, то ў левым баку.

— Ды ты разумееш, чорт, дай мне сувязь! Батарэі не выб'ем—з-пад горада палякаў не прагонім...—закрычаў Гарбатаў на начальніка сувязі

— Таварыш камандзір, я на лінію пайду,—гэта выгукнуў Коля. Не паспеў Гарбатаў слова сказаць, ён ужо ішоў, прыгнуўшыся, уздоўж кабеля.

Праціўнік спрабаваў перайсці ў контратаку двумя ротамі, але яго і блізка не дапусцілі. Хіба жарты—больш як дзесяць кулямётаў распачалі такую страляніну, што не было дзе дзецца. Але знарады праціўніка пачалі рвацца ўсё бліжэй і бліжэй. Тэлефаніст дзьмуў у трубку—вынікаў ніякіх. І раптам на провадзе зноў з'явілася дывізія.

— Вяду ўзмоцнены бой, распачынаю атаку. Праціўнік слабее. Але, чорт, батарэя пад Гарволінам. Перашкаджае, чорт... мяркую, што на вышыні 93,8°... так, так, лявей мызы Альверцінаўкі...—дакладваў начдыву Гарбатаў. Начдыв адказваў:—З галаўным атрадам лёгкі артдывізіён, цяпер аддаў прыказанне распачаць агонь... Як распачне артдывізіён агонь, пераходзь у наступленне...—і зноў згінуў начдыв. Але галоўнае было дапожана і прыказанне атрымана. Гарбатаў ускочыў на каня і наперад паскакаў, да перадавой лініі палка.

Два разы Коля звязваў кабель. З вярсту, мусіць, аддаліўся ад палка, а можа і больш. Шкадаваў, што кантрольнага тэлефона спяшаючыся не захапіў—праверыць, можа дзе далей, прарывы ёсць. Але падумаў, што далей провад пашоў ужо дарогаю і тэлефаністы павінны ехаць назад і аглядаць лінію—павярнуў у полк. Але перш, чым ісці, парашыў адпачыць. Ад хуткага бегу ўздоўж лініі ногі змарыліся. Сеў у высокай траве каля затокі невялікай ручаіны.

Сонца пякло няшчадна. У траве стракаталі цвыркуны. Ручаіна весела журчэла, прабягаючы па каменнях. Пот густа каціўся з твару. Коля падаўся бліжэй да ручаіны, скінуў шапку і, чэрпаючы прыгаршчамі халодную ваду, пачаў плёскаць ёю ў твар. Твар асвяжаўся. Колю спадабалася—пачаў плёскаць у твар вадою ўсё больш і больш і ўжо не для прахалоды, а проста так, балуючыся. Пад рукамі, у змутненай вадзе затокі, зашавяліліся каля пальцаў, прыемна іх шчыкочучы, нейкія істоты... Спярша не зразумеў, у чым справа і рукі выхапіў з вады.

— Угры... уюны...

Успомніў, што ў Начы, каля Барысава, у рэчцы былі ўюны і ён з другімі хлопцамі лавіў іх штанамі. Завяжуць калашыны і стаяць у замутненай вадзе. Вылазяць з гразі ўюны і шныпараць каля ног, каля пальцаў. І вось асцярожна падвядзеш разбухлыя ў вадзе штаны да ўюноў, нагою балтыхнеш і р-раз—штаны ўгару. А там трапечуцца і выкручваюцца з дзесяць уюноў...

Не мінула і двух хвілін, як адважны сувязіст жалезнага палка, толькі што паправіўшы з уласцівым яму геройствам кабель у двух месцах, ужо стаяў у вадзе. Сінімі кавалерыйскімі штанамі ён лавіў уюноў. Шапка і боты ляжалі на беразе.

Не чуў ён, як білі ураганным агнём кулямёты. Не чуў ён, як наша артылерыя страляла. Не чуў ён, як і «ура» крычалі, калі ў атаку ішлі. Схамянуўся, толькі, калі шапка напоўнілася ўюнамі. І як яно цікава: падвядзеш штаны пад уюноў—выхапіш,—дзесятак, а то і больш ёсць. І ўюны ўсе такія вялікія. Падводзіш, падводзіш, а яны—адкуль столькі бя-

рэцца! У Начы рэчка вялікая, а такіх уюноў буйных не было, і столькі шмат не было.

А калі схамянуўся, дык ні страляніны, ні шуму ўжо не пачуў. Журчэла толькі ручаіна, трашчалі цвыркуны ў траве, але толькі сонца ўжо збавіла гарачыню. Ды недалёка, па дарозе, колы грукалі.

Пакуль апрануўся, дык яшчэ не думаў, што ён зрабіў, захапіўшыся ўюнамі. А як толькі апрануўся—адразу рынуўся провад у траве адшукваць. Знайшоў і крыху супакоіўся: значыць, сувязісты яшчэ не прайшлі! А можа адступілі?

Кінуўся да палка бегам. Прыбег, а там, дзе канаводы з коньмі стаялі—адзін гной конскі і ні жывое душы.

Па дарозе грукаталі калёсы. Падбег да дарогі, глянуў—абоз праходзіць.

— Ды свае-ж,—і настаўнік, што вучыць яго пачаў, едзе. І з шапкай, напоўненай уюнамі, Коля кульнуўся ў павозку.

Настаўнік растлумачыў, што Гарволін яны ўжо занялі і едуць проста ў горад.

Гарадок невялікі, полк знайшлі адразу. Полк стаяў на пляцы, ужо коняй байцы рассядлоўвалі. І дзядзька Барыс ходзіць з ад'ютантам каля конавязяй.

— Усё гэта добра,—думаў рыбалоў, паглядаючы з-за вугла дома на пляц, — але што дзядзька скажа? Сорам...

У часе баявой гарачкі Гарбатаў забыўся на Колю, а як занялі горад і спыніліся, каб адпачыць—успомніў. А спытаць няма ў каго: ніхто не бачыў, усе ў баю былі...

Пазірае Коля з-за дома і не ведае, што рабіць, і ўюны ў шапцы— куды іх дзець? Гэтым часам старшына Худоба блізка праходзіў—гукнуў яго Коля. Худоба як убачыў,—бягом да Колі, ды за руку, і пацягнуў Колю, крычучы на ўвесь пляц:

— Таварыш Гарбатаў, без весткі загінуўшы знайшоўся.

Сорамна Колю, позірк у зямлю, шапку ў руках круціць. Народ сабраўся навакол. Раптам калі зарагочуць усе. А гэта ад таго, што Коля круціў, круціў шапку, забыўшыся на рыбу, потым павярнуў яе, дык усе ўюны камяком на брук...

— І сувязь справіў, і рыбы налавіў, малайчына,—ні то жартаўліва, ні то сур'ёзна праказаў Гарбатаў.—Ну, ладна, пойдзем вячэраць, Нікалай Іванавіч. Вырасцеш, не забудзься мне напомніць; дысцыплінарнае спагнанне накласці.

А ўсё-такі, вячэраючы, Коля не сцярпеў і расказаў дзядзьку, як уюноў лавіў. Гарбатаў спачатку хмурыўся, а потым і сам расказаў, як ён некалі ў Дняпры, у Смаленску, пескароў кошыкам лавіў.

Колю так захацелася мець свой карабін, што ён выпрасіўся, каб дзядзька Барыс хоць раз пусціў яго ў выведку.

І вось у часе боя пад Тартаком, каля Слоніма, Коля пайшоў з узводам у разведку. Не вельмі хацеў пускаць яго Гарбатаў, але Коля ледзьве не заплакаў. І ўздыхнуўшы так, каб людзі не пачулі, сярдзіты дзядзька Барыс махнуў рукою: ладна ўжо... Ведаў Гарбатаў, што зноў яму за Колю хвалявацца давядзецца, але пусціў. Старшыну Худобу адвёў у бок, папярэдзіў:—глядзі-ж, чорт... І Кіянаву, конаводу, міргануў—«дескать». А што гэта за «дескать» Кіянаву растлумачваць не трэба было. Кіянаў толькі галавою заківаў—зразумеў «дескать»... якшы...

Як чарцянё лятаў з дазорамі Коля на сваім Гузіку, ад куста да куста, ад узгорка да ўзгорка. А калі палякі ў палон караул бралі—ледзь не трапіў на штык азвярэлага капрала. Добра, што старшына Худоба падскочыў і па руках капралавых шашкай праехаўся, а Кіянаву давялося на баку

капралавым клінком распісацца. Але затое дастаў сабе хлопчык маленькі карабін і з карабінам гэтым не раставаўся. На кожным прывале чысціў яго, змазваў.

* * *

Вайна скончылася. Быў падпісан з палякамі мір, але палку да вясны не давялося адпачыць. Зашавяліліся па лясах банды: каля Парычаў, каля Брожы, Старых Дарог, каля Чэрвеня, на Случчыне, Мазыршчыне.

Бандыты баяліся адкрытай барацьбы, у лесе, у балоце, як ваўкі, хаваліся. Тут на мястэчка налляцяць, там сельсовет спаляць, а ў другім месцы разню працоўнага яўрэйскага насельніцтва пачнуць. І потым як зайцы труслівыя—у лес непраходны, у логава.

І хто-ж быў у бандах? Кулаччо, дызертыры, былыя балахоўскія афіцэры і нават папы. Уся сволач контррэволюцыйная.

Полк Гарбатава з бандытызмам змагаўся. Трудная гэта справа—нагоніш банду, вось здаецца і злавіў-бы, а яна і рассыпалася па лесе. Шукай, свішчы, а дзе там у лясных нетрах іх зловіш—цяжка. А яны зноў дзенебудзь з'явяцца і зноў, пачуўшы, што чырвонаармейская часць наганяе, рассыплюцца.

Адным словам хітрасць лісіная, нораў воўчы, храбрасць заячая. І полк раздзяляўся на атрады, упартымі пошукамі, пры дапамозе беднаты, пры дапамозе адданых совецкай уладзе людзей і органаў ЧК знішчаў банды. Але як цяжка гэта было: людзі верхам прызвычаіліся ваяваць, а тут трэба поўзаць па балоце, ды ў цёмныя ночы.

Ад вясны невялікая банда каля Глуска арудавала. Бандай запраўляў Абрамовіч, былы балаховіцкі афіцэр. Хадзілі чуткі, што ён у свайго цесця, вечарковіцкага папа, часта бывае. І банда вельмі слізкая была. Усё ў лесе грабіла. Аднойчы нават на палкавы абоз напала. Абоз вёз авёс з Бабруйска ў Глуск. Наляцелі ноччу, мяшкі парэзалі, увесь авёс па дарозе рассыпалі. За імі туды-сюды, а іх і след прастыў.

Хацеў Гарбатаў за папа ўзяцца—ды няма ўлік. Пачуў гаворку пра гэтага папа Коля і кажа дзядзьку Барысу:

— Пайду я да гэтага чорта доўгагрывага,—так і кажа да «доўгагрывага»—можа і праведаю што. Прытваруся, што з другой вёскі і пастараюся ў яго пераначаваць.

Гаворыць і план абмяркоўвае, як у дом да папа трапіць.

Не такія справы вытвараў Коля на фронце, ды і падрос ужо, зрабіўся сур'ёзны. Таму і пусціў яго Гарбатаў.

У вопратцы вясковай прышоў Коля ў Вечарковічы пад вечар. Зайшоў у хату адну, яго распытваюць: чый, ды адкуль? Назваў вёску вёрст за дзесяць (вёскі суседнія ён ведаў добра) і дадаў, што за пастуха наймацца ідзе. А калі ўжо дзе работа не такая цяжкая, дык і за парабка. Тады яму адзін стары:

— Валі, хлопец, да бацюшкі. Яму пастух патрэбен.

Пайшоў да папа. Толькі на двор адною нагой ступіў, як накінулася на яго зграя сабак, ды такія сабакі, што і дарослы спалохаецца: вялікія, як ваўкі калматыя, злыя—невядома чым толькі поп іх корміць.

Гаспадарка ў папа, па будынках згледзеў Коля, моцная. Пачуўшы, што забрахалі сабакі, вышаў на ганак поп, невысокі ў падрасніку з грубога шэрага палатна. На галаве ў папа капялюш саламяны. Крыкнуўшы на сабак, што тыя аж хвасты падкурчылі, поп спытаў праз двор у Колі:

— Ты, сыночак, чаго?

— Ды к вам, бацюшка...

— Хадзі сюды, сыночак!

Падышоў Коля, шапку зняў.

— Чуў, што пастуха, бацюшка, шукаеце?

— А ты чый?

— Я з Чыкілёў, Самусёў сын,—адказаў Коля, ведаючы, што такі ёсць у Чыкілях. Коля нават тры дні прабыў ў Самусёвай хаце. І дзеці ў гаспадара таго былі і адзін—аднагодак з Коляй.

— Дык ты, хлопец, наняцца хочаш?

— Ага, бацюшка.

— А госпаду богу ты молішся?

— А як-жа... і малітвы ведаю,—і тут схамянуўся. А што калі поп загадае праказаць якую-небудзь малітву? Коля не толькі не ведае, але і не чуў ніколі ніводнай малітвы.

Але поп наймаў яго не малітвы чытаць, а пасвіць свіней, і таму допыт на гэтым і спыніўся.

Кухарцы Агапе поп загадаў накарміць новага пастуха, сказаўшы, што паглядзіць заўтра, як ён з работай спраўляцца будзе. А пасля і пра заробак і аб іншым дамовяцца, ці сам ён да бацькі яго з'ездзіць.

Кухарка пасадзіла Колю ў кутку, хлеба лусту ды малака кіслага ў гладышы дала яму. Бачыць наш разведчык—на кухні вараць і смажаць, парнасць дугою, дым—каромыслам, і пытае ў Агапы:

— Хіба свята заўтра?

Агапа на ходу буркнула:—зяця чакаем!

Ходзіць па кухні баба маладая, вясёлая, прыбраная. «Напэўна, дачка гаспадарова,—зірнуўшы на вопратку, падумаў Коля. А вясёлая, што мужа чакае. І папіха хударлявая такая, жоўтая старушэнцыя разы са два на кухню прыходзіла. Нават крыкнула на Колю: «не разувай воч, пад'еў ды ідзі, у сенцах спаць можаш». Кухарка следам за ім кажушок кінула.

«Якраз трапіў, зяця чакаюць,—разважаў наш герой.—Да ночы прыдзе напэўна... А кухарка-дурніца, не ведала, каму казала. Але што ёй...

Прачнуўся Коля ноччу. Брахалі сабакі, месяц прабіваўся праз шчыліны сцен. Праз сенцы нехта ў ботах прайшоў на двор. Сабакі сціхлі. Праз мінуту ў дом ўвайшлі ўдвох. Адзін-жа поп, —думаў Коля,—а другі зяць...

Сон зняло, як рукою. Коля затрапятаў ад баявога зуду. Вось каб ведаў дзядзька Барыс!

Поп забыўся замкнуць засаўкай дзверы, нават не прычыніў іх добра. Доўга не думаючы, кінуўся Коля да дзвярэй. Не, чакай, сабакі забрэшуць. З правага боку ад ганку нейкая агарожа. У адзін момант апынуўся Коля за загародкай: яму ўжо не трэба было ісці праз двор, сабак трывожыць.

Але што за чорт? Саскочыў з плоту і пад нагамі заварушылася штосьці цёплае і жывое і ногі босыя ўкалола. Потым справа і злева зашавялілася нешта і... захрукала. Спярша Коля спалохаўся, а потым ледзь не зарагатаў—у свіную загарожу трапіў...

І, выбраўшыся за вёску, кінуўся бегчы да дзядзькі Барыса. Гадзіны праз дзве Коля быў у палку.

Самым моцным і салодкім сном спаў бандыт, калі яго ўзялі з ложка. І папа разам захапілі з сабою. Зяць папоўскі ўсю банду выкрыў: хто дзе жыве, у якой вёсцы. Кулаччо адно ў бандзе было—чалавек дваццаць.

Поп ледзь пазнаў свайго пастуха ў ваеннай форме і ўжо не пытаўся, ці моліцца ён богу.

З'явілася праз два тыдні пасля гэтага банда адна новая. Атаманам быў кулак Карабкевіч, «Кісель у гаршку», як яго празвалі. Ганяўся за гэтай бандай Гарбатаў сам і доўга ганяўся. Вось-вось банда ў руках, ды не тут было—рассыпалася па лесе, па адным чалавеку пашла.

Ведаў Гарбатаў, што банда хаваецца ў лесе, між Падлужжам, Брожай і Вільчай, але як яе пералавіць—задача вялікая. А банда была без меры шкодная і злая, таму Гарбатаў сам за ёю і ганяўся.

Парашыў тут дзядзька Барыс зноў Колю скарыстаць.

Пераапрануўся Коля зноў за хлопчыка вясковага, торбу за плечы, а ў торбу кавалак сала, хлеба булку і пайшоў. Мясцовасць навокал была з'езджана атрадам уздоўж і ўпоперак, і Коля добра ў ёй разбіраўся, альбо, як кажуць, па вайсковаму, арыентыраваўся. Толькі аднойчы ён памыліўся, загадзя не разгледзеўшы добра папоўскага двара ў Вечарковічах і трапіў з ганку ў свінячую загарадку.

Пайшоў Коля з вечара, кірунак абраў на вёску адну—Прудзішчамі празывалася, ды не дарогаю, а лесам. Страшна ў лесе ноччу аднаму: цемра, шолахі, філін як дзіця плача, па палянках мышы лятучыя снуюць. Другі не ведаў-бы, куды дзецца, а для нашага Нікалая—хоць бы што. Няхай сабе ноч увесь тыдзень цягнецца, было-б сала ды хлеб.

Ноч улетку кароткая. Не паспеў, здаецца, некалькі вёрст прайсці, як пачало развідніваць. Птушкі прачнуліся—заліваюцца па лесе, ад моху, ад кветак—пахучая парнасць. Калі сонца ўзнялося вышэй—Коля узлез на дрэва, на хвойку тоўстую, з'еў хлеба з салам і парашыў да вечара паспаць. А хвойка выгодная, невысокая, а вершаліна ва ўсе бокі сучча распасцерла. Паміж суччаў як гняздо—пляцоўка, на рост Колі. Прывязаўся ён рамянем да сука, папярок жывата, торбу пад галаву і спаць...

Прачнуўся Коля ад нейкага шуму. Ужо заходзіла сонца. Прыслухаўся—як-бы гавораць недзе недалёка, але нічога не разабраць. Гаворка невыразная і часамі шум, падобны да смеху. Запахла гарачым варывам, дымам працягнула. Парашыў Нікалай да вечара прасядзець, а потым «зрабіць што-небудзь». Гэтак гаварыць ён навучыўся ад дзядзькі Барыса.

Вечаровая прахалода і туман спушчаліся на зямлю разам з цемраю. Гаворка мацнела і між дрэў каля агня можна было згледзець рухавыя невыразныя фігуры. Гэта было сажняў за сто ад дрэва, на якім сядзеў Коля.

«Ну, было-не-было—пашлі...»

Нячутна саслізнуўшы з дрэва, наш герой накіраваўся да агня. Ішоў асцерагаючыся, ад аднаго дрэва да другога: прытрымліваўся досыць мудрага для дзяцей яго ўзроста правіла: «ці мала што...»

На палянцы каля трох кустоў сядзела дзесяткі тры людзей і людзі ўсё яшчэ прыходзілі аднекуль. Коля наглядаў і думаў: «народ прыбывае з боку Кабыліч, а да Кабыліч адсюль вёрст, напэўне, дзесяць, да Прудзішчаў—пяць» Далёкія паходы, асабліва паход на Варшаву, навучылі Нікалая Газоўскага вылічваць адлегласць і ён гэтае рабіў не горш за якога чырвонаармейца. І задумаўся Коля, што рабіць? Бегчы да дзядзькі Барыса? Дык пакуль яны сюды прыедуць ці прыдуць—банда ўцячэ... Да людзей падацца, выходзіць?

... а людзі сядзелі і ляжалі на палянцы. Яны былі ў пінжаках і кажушках, у шапках і картузах шляхецкіх, адзін, што прахаджваўся каля агня, насіў падобны на ўздзетае на галаву вядро капялюш. Такіх капялюшоў Коля ні разу не бачыў.

І нядоўга вырашаў Коля—назад, ці наперад. Дастаўшы з кішэні зробленую з лазы старшыною Худобай дудку (зробленую, як сказаў Худоба для «маскіроўкі») ён рушыў на палянку.

* * *

Цяпер Гарбатаў ужо не так, як раней, трывожыўся за Нікалая. Ён быў упэўнены ў яго сметлівасці і лоўкасці. Ведаў дзядзька Барыс, што з пустымі рукамі хлопец не вернецца і вернецца самае позняе—паслязаўтра.

І захацеў дзядзька Барыс зрабіць што-небудзь прыемнае для Колі, такое прыемнае, як для дзіцяці. А што можна было зрабіць дзіцяці прыемнае—ён ніяк не мог дадумацца. Быў ён сам дзіцем—ніхто, апрача Іосіфа Саламонавіча Лур'е, яму ніколі нічога прыемнага не рабіў. А Коля яшчэ дзіця, але вайна скончылася і, расправіўшыся з гэтымі гадамі, праз год мы зажывем з Нікалаем—думаў Гарбатаў. Ён парашыў яго ўсынавіць. Але што-ж зараз зрабіць Нікалаю такое прыемнае? Гэтая думка авалодала маўклівым Гарбатавым так неадчэпна, што ён дзве гадзіны хадзіў з ёю. І ўспомніў—але гэтае было вельмі даўно, калі яму было год дванаццаць: Іосіф Саламонавіч аднойчы падарыў яму плітку шакалада... Так, плітку. А якога яна была смаку—ён забыўся. Пасля гэтага яму, здаецца, і не даводзілася есці шакалад. І ён прыжмурыў павекі, успамінаючы пра шакалад. Смаку ён сапраўды не памятаў, але колькі радасці было! І яму хацелася, каб гэтую радасць перажыў і Коля.

— Вось чорт!—вылаяўся пра сябе.—Дваццаць з лішкам год мінула—смак успомніць надумаўся.

Але плітка шакалада ў чырвонай паперы з сярэбранай абводкай усплыла перад вачыма і надпіс на ёй:

Ды чорта надпіс—Сіу ці Кіу, штосьці падобнае Кіу ці Сіу, альбо разам Сіу-Кіу,—і загадаў Гарбатаў паклікаць неадкладна з другога эскадрона Кіянава.

А калі Кіянаў прышоў, паміж байцом і камандзірам адбылася такая гаворка:

— Раней вось, да вайны, быў такі шакалад, разумееш?

— Панімаім, таварыш камандзіра. Адзінцоўскай фабрыкі казаньга бар, шакалад торговывал... якшы шыколада...

— А ты еў?

— Ёк, бырат мая Араслан разноска торговывал, шыкалада Адзінцоўскай...

— Ну дык чаго-ж гаворыш—якшы...

Твар Кіянава расплыўся ад шырокай усмешкі і ён перабіў камандзіра: «ну, то так якшы... Я малінькая был, відал—брат торговывал, барышна гімназісткі покупал, хваліл—якшы шыколада, відал, ей-богу, товарыша Гарбатаў,—і Кіянаў, як-бы спрабуючы смак шакалада, які ён бачыў дзесяць год таму назад, калі яго елі другія, зашчоўкаў языком, прыгаварваючы:—якшы шыколада, якшы...

— Дык вось, Шакір. Раней елі гімназісткі шакалад, а хутка мы яго есці будзем, як хлеб, для таго і рэволюцыя, Шакір. Зразумеў...

Шакір Кіянаў яшчэ раз шчоўкнуў языком: «бар, камандзір...»

— А вось цяпер трэба, Шакір, шакалада, ну хоць бы адну плітку дастаць... Коля, ты ведаеш...

— О, Кола, Кола, нады дастаць... шакалад бар для Кола...

— Ды пачакай. Вось табе, Шакір, грошы, з'ездзі ў мястэчка, скура мехам, а дастань адну плітку... такога, разумееш, у чырвонай паперы і сярэбраныя абадкі і надпіс Кіу-Сіу...

Шакір задумаўся. Задумаўся і Гарбатаў—дзе, у чарцей, шакаладу цяпер дастанеш? Выдумаў-жа, чорт!..

Але Шакір адказаў: «будзем даставай»,—і пайшоў.

Шакір Кіянаў быў з ліку тых байцоў, пра якіх кажуць «з-пад зямлі выкапае, а дастане». Гарбатаў быў упэўнен, што Шакір дастане, купіць, з-пад зямлі нарэшце, выкапае.

Да мястэчка недалёка. Шакір хутка заляцеў туды і неўзабаве ўжо зноў стаяў перад камандзірам, усміхаючыся: вось, выкапаў. І шакалада плітку падае, у зялёнай паперцы, а на паперцы надпіс: ...Дессертный Эй-

нем и К°. Не паспеў здзіўлены Гарбатаў шакалад у руку ўзяць, як у хату ўбег ад'ютант палкавы:

— У лесе хлопчыка павешанага знайшлі. Я сам пакуль што не бачыў, да сельскага выканаўцы прывезлі.

Ледзь на нагах стрымаўся Гарбатаў—так ашаламуціла. «Так канешне, гэта Коля. І як ён адважыўся пусціць яго да звер'я лютага».

Гарбатаў, Кіянаў, а за імі і ад'ютант бягом кінуліся да сельскага выканаўцы. І здавалася Гарбатаву, што за ўсю грамадзянскую вайну ён перажыў менш, як цяпер за некалькі хвілін.

* * *

На палянку Коля вышаў і нерашуча да агня падаўся. Двох усхапіліся.

— Што трэба? Чый? Адкуль? Куды ідзеш?

— А ну, давай сюды,—пачуўся хрыпаты голас з-за агня. На вывернутым кажуху па той бок агня ляжаў здаравенны рыжы, з сівырыжымі вусамі мужык. У той момант ён прыўзняўся з кажуха, абапёрся рукамі на зямлю і быў падобны на зверыну невядомай, але страшнай і драпежнай пароды. Можа такой пароды і зусім няма, але чалавечага падабенства ў ім зусім не было. І Коля апыніўся перад доўгімі, як у маржа вусамі. На Колю з-пад густых калматых брывей пазіралі злыя, вострыя, як іголкі, вочы. Пругкія гузякі варушыліся каля сківаў. Водблескі агня надавалі гэтым вачам падабенства да рысіных. Вочы ўпіліся ў Колю і яму здалося, што з-пад вусоў чуецца пагрозлівае вурчанне. І ледзь вытрымаў Коля гэты позірк, але бандыт першым перавёў позірк на зямлю. Паглядаючы з-пад ілба, ён сярдзіта прахрыпеў:

— Чый ты?

Ад яраснага голасу, ад страшных вачэй бандыта, ад маўклівых насцярожаных людзей, якія пасталі наўкола, сэрца ў Колі балюча сціснулася. Здалося яму, памылку ён зрабіў, што не вярнуўся назад. Сабраўшы ўвесь дух, хлопчык адказаў:

— Карову ў лесе шукаю, адбілася, дзядзечка,—гаварыў і думаў адкуль лепш сказаць: з Продвіна, з Брожы?

— Продвінскі я...

— Чый ты ў Продвіне?—захрыпеў бандыт.

Пытанне было нечаканае. Колю здалося, што маўклівасць цягнецца бясконца і першае, што на язык трапіла, імя праказаў:

— Сы-сы... Сымонаў я...

— Сымонкаў, ага, Рыжага?

— Сымонкі Рыжага.

— Што бацька робіць цяпер?

Але Коля тут ужо не разгубіўся. Смела, хоць і неазначальна, адказаў:

— Збіраецца...—ці мала куды мог збірацца рыжы Сымонка, якога ён не ведае.

— Ага, правільна. Кладзіся, хлопец, спаць, а заўтра раніцай дуй у Продвіна і скажы бацьку, каб паслязаўтра ў Калючы быў. Зразумеў? Загадаў, перакажы, бацька Кісель...

Коля ад здзіўлення вытарашчыў вочы, аж рот раскрыў. Ён упершыню бачыў гэтага няўлоўнага «Кіселя ў гаршку». Было і цікава і страшна.

— Зразумеў, хлопец?

— Добра... а карова?..

— Чорт з ёй, з каровай. Калі наша возьме—не адна ў бацькі будзе...

Кісель матнуў галаву ўніз і на гэтым гаворка скончылася. Коля выбраў сабе мейсца каля агня, сярод бандытаў, якія не вельмі ахвоча рассу-

нуліся, прымаючы ў свой круг сына свайго дружакі па ліхіх справах— Сымонкі Рыжага з Продвіна.

Банда, як відаць, зрабіла сёння вялікі пераход, бо людзі ляніва і скупа перагаварваліся і паступова засыналі.

Коля не спаў і цвёрда парашыў не спаць да самае раніцы. Ён—надумаў прытварыцца, што спіць. Слабыя водбліскі ад вогнішчаў поўзалі па раскіданых па палянцы людзях. Людзі варочаліся, хрыпелі, храплі пасвістваючы, і нешта мармыталі праз сон. Палянка танула ў цемры і цішыні. Банда дрыхла, набіраючыся сілы на заўтрашні пераход.

Раптам у цішыні пачуліся непадалёк крокі, захрусцела голле. «А што калі цяпер Сымонку рыжага чорт прынясе?—падумаў Коля. Трэба быць на спагатове, каб уцячы. Але не прыдзе, — пераконваў ён сябе. — Калі загадаў Кісель прыйсці, значыць, не чакаюць.

Пачуўшы тупат, нехта нямоцна, але выразна крыкнуў:

— Стой! Хто?!

— Хлебам не кармі,—адказаў яму з цемры прыцішаны голас.

— А бліноў дай,—азваўся тады першы і дадаў:—Каля млына карова стаяла...

— А на рагу кольца кілбасы,—зноў адказаў другі і праз некалькі секунд на палянку выйшаў чалавек. Коля з-пад рукі сачыў за яго рухамі. Пакруціўшыся сярод санлівых, мусіць, некага шукаючы, ён мацюгнуўся і кінуўся на зямлю. Да агульнага храпу далучыўся яшчэ адзін голас—хрыпаты і клекатлівы.

Коля стараўся ўцяміць пра «бліны» і «карову з кілбасою»—адклік і пропуск—паўтараючы нячутна:—хлебам не кармі, хлебам не кармі, а бліноў дай, а бліноў дай... Каля млына карова стаіць, стаіць, а на рагу кілбаса. Кілбаса на рагу, калбасы кольца, кольца...

Яшчэ досвіткам банда «Кіселя ў гаршку» пачала прачынацца. Наш хлопец быў ужо на нагах і ішоў у бок Продвіна.

На дарогу «Кісель у гаршку» яшчэ раз напомніў:

— Не забудзься бацьку сказаць. У Калючы, ён мейсца ведае.

— Ладна, дзядзечка...

І адышоўшы з вярсту да Продвіна, падаўшыся ў бок, Коля накіраваўся ў Падлужжа, да дзядзькі Барыса. Да абеда наш герой ужо быў у дзядзькі Барыса і расказаў усё.

Дзядзька, пасадзіўшы Колю на свае калені, як гэта было ў часе ўгавору ехаць у Смаленск, ласкава ўзлахмаціў валасы. Потым дастаў з кішэні і падаў Колю плітку шакалада. Коля спачатку не зразумеў, што гэта. Дзядзька Бора растлумачыў.

— Раней вось у разноску Кіянава брат прадаваў і гімназісткі елі, а праз некаторы час і ўсе мы будзем есці, на тое і рэволюцыя... Як хлеб...

А ў гэты час Кіянаў увайшоў, усміхаючыся ўсім тварам. З кішэні другую плітку шакалада дастаў і падае Колю. І ўбачыў Гарбатаў чырвоную паперу з сярэбранымі абадкамі. Глядзіць—надпіс: «Сіу и К°». «Чорт, а... Шакір, а мне іншы купіў!..»

Шакір, хітра ўсміхнуўшыся, адказаў:—нэ сэрдыс, таварыша Гарбатаў, я хацеў Коле лушчай чым твой... люблу... люблу Кола...

І ў гэты момант Гарбатаў адчуў, што ён і камандзір, ён-жа і таварыш Кіянаву. Яму здавалася, што ён раней толькі разумеў, а вось цяпер гэтае адчуў. Моцна паціснуў руку і, падражаючы Кіянаву, сказаў:

— Казаньга бар, Коля якшы. Шакалад мястэчка бар, якшы шакалад.

— Бар, бар таварышу Гарбатаву, Казаньга бар. Адзінцоўскі шакалад... раньшэ брат Арасланка, гімназісткі барышна, а сейчас Кола... Якшы Нікалай... Ты мне сказаў Сіу-Кіу, я знайшоў і табе і сабе, і ўзялі сабе Сіу шукаў Сіу-Кіу—ёк...

Гарбатаў зразумеў, што Шакір схітраваў і ад хітрасці гэтай някрыўднай яму стала весела. Коля не з'еў сам шакаладу. Адну плітку, якую даў Шакір, ён схаваў, а другую разламіў і пачаставаў дзядзьку Барыса і Кіянава. Дзядзька Барыс успомніў смак шакалада, а Шакір языком зашчоўкаў і пра казанскіх гімназістак зноў штосьці пачаў гаварыць.

Паўстала перад Гарбатавым задача, якую трэба было неадкладна вырашыць. Неабходна спешна арыштаваць Сымонку ў Продвіне, але трэба было гэта зрабіць так, каб ніхто з насельніцтва не ведаў, не бачыў, каб Кісель не пачуў. Як гэтае зрабіць?

Увайшоў ад'ютант і далажыў, што нейкі селянін хоча камандзіра бачыць.

— Няхай зайдзе.

Селянін ступіў у хату. Вочы яго былі заплаканы, апрануты бедна. Гэта быў бацька забітага хлопчыка. І прышоў ён прасіцца, каб яго прынялі ў атрад. Ён хоча дапамагчы знішчыць бандытызм. Сілы ўжо не хапае цярпець ад сволачы гэтай,—заявіў селянін.

Мільганула ў галаве камандзіра думка.

— Ты ведаеш Сымонку ў Продвіне?

— Рыжага?

— Вось яго нам трэба ўзяць.

Здзівіўся член сельсовета, што Сымонка ў бандзе. Ніколі-б ён і не думаў.

Парашылі, што ён да Сымонкі пойдзе, як-бы па да дарозе, у сельсовет яго павядзе. А ў Сымонкі была справа ў сельсовеце. Сымонка вельмі любіў спрачацца і судзіцца з суседзямі. Якраз і заява яго нейкая ў сельсовеце ляжала. Калі пойдуць яны ў сельсовет, яго па дарозе і арыштуюць. Ніхто і ведаць не будзе.

Пад вечар Сымон Рыжы, па прозвішчы Дымкевіч быў арыштаваны і прыведзены да камандзіра палка Гарбатава.

На допыце Сымонка выкручваўся, як вуж: быццам ён нічога не ведае. Чуць чуў, што ёсць такі кісель, а што гэта, трасца яму ў бок, за Кісель—невядома. І каб запэўніць у гэтым камандзіра, кляўся і бажыўся: «дальбожачка, дальбог, мае даражэнькія, браткі мае...»

— Ну ты, браток такі: адзін на адзін не трапляйся табе ў лесе,— адказаў яму, хітра ўсміхаючыся, Гарбатаў.

— Пан, таварыш камісар... Дальбог, не ведаю.

— Няўжо ты сапраўды не ведаеш?..

— Каб мне свету божага не ўбачыць!...

— Цябе хлебам не кармі...

— А бліноў табе дай,—падскочыў бліжэй Коля.

Сымонка шырока раскрыў рот. Зубы заляскалі.

— Ну?..—падганяў Гарбатаў.

Сымонка маўчаў. Губы яго трэсліся, зубы бранчэлі. А Коля заспяваў на матыў, як байцы частушкі спяваюць:

Каля млына карова стаіць,
Ой, стаіць, стаіць, гаротная...
А на рагу колца кілбасы,
Кілбаса першы сорт.

Спяваў як-бы для самога сябе, як-бы ні на каго не звяртаючы ўвагі.

Свету не згледзеў Сымонка, так к нагам Гарбатава і бахнуў.

І рукі ловіць—пацалаваць.

— Устань!

Сымонка ўстаў, потым зноў—да ног.

— Даруйце, даражэнькія...

— Кінь свае шляхецкія звычкі... а ну, устань!

Зноў устаў, калені калоцяцца.

— Жыць хочаш?

— Д-д-да-ражэнькія...

— Ды не скуголь сам па сабе—няма часу разгаворы з табою разводзіць. Слухай, Рыжы: банда заўтра вечарам будзе ў Калючы. Ты нас завядзеш на тое месца, дзе яны збіраюцца. Зразумеў? А калі мудрыць пачнеш, дык гаворка кароткая будзе. Зразумеў?

Сымон расказаў, дзе бандыты збіраюцца. Гарбатаў на карце адзначыў. І што банда заўсёды тры кастры распальвае, як сігнал.

На другі дзень, блізка Калючы, акружаная чырвонаармейцамі, банда «Кіселя ў гаршку» была абяззброена і ліквідавана. Ад «Кіселя ў гаршку» застаўся толькі адзін успамін да запіс аб ліквідацыі банды ў гістарычным спісе палка.

Бандытаў судзілі. Кіселя і блізкіх яго хаўруснікаў ваеннарэволюцыйны трыбунал прыгаварыў да расстрэла.

* * *

Як паганыя грыбы пасля дажджу з'яўляліся то тут, то там белабандыцкія шайкі. Але ўпарта і настойліва змагалася Чырвоная армія з бандытызмам. Чырвонай арміі дапамагалі бедвякі і серадвякі. Да восені дваццаць першага года Беларусь была амаль ачышчана ад паразітаў, як раптам каля Гарбацэвічаў з'явілася банда Сенкевіча—Вялічка. Гэты кулацкі сын, з вёскі Крукаўшчызны, што каля Глуска, быў балаховіцкім афіцэрам, золатапагоннікам. Выведка паведамляла, што ў бандзе чалавек сто, усе ўзброены вінтоўкамі, ёсць два ручных кулямёты.

Банда Сенкевіч—Вялічка, хаваючыся ў цемры асенняй ночы, наляцела на Сялібу, каля Бабруйска. Полк Гарбатава галопам паімчаўся да Сялібы, але банды ўжо там не застаў. Гарэлі хаты ды асірацелыя дзеці плакалі па бацькох, якіх зверскі замучылі бандыты.

І далі клятву байцы—кавалерысты знішчыць гэтую апошнюю банду да апошняй галавы, далі клятву суровую і цвёрдую.

І дрыжэў ад ярасці перад строем голас Гарбатава. І водбліскі пажарышчаў падалі на строй кавалерыйскага палка і плакалі дзеці і жонкі замучаных. Гэта была страшная ноч. Даў у гэтую ноч клятву адпомсціць гадам і Коля.

Але пакуль полк быў у Сялібе, бандыты падпалілі Гарбацэвіцкі валвыканком і пайшлі на Ляскавічы.

Бандыты, напоеныя атрутай помсты да совецкай улады, рабілі падпалы і помста гэтая была страшная. Ліквідаваць банду трэба было неадкладна, зараз-жа.

Не даўшы перадышкі коням, полк Гарбатава ірвануў следам за бандай. Але банда ўцякла. Адлегласць паміж палком і бандай павялічылася да аднаго сутачнага пераходу (50 кілометраў). Коні прысталі.—Што тут рабіць?—задумаўся Гарбатаў. Станеш на прывал—след зусім згубіш, адарвешся ад банды—выпусціш гадаў. Не, ён на гэта не пойдзе. Банда, жывая, ці здохлая, павінна быць у яго руках. Банда павінна быць ліквідавана. Згубіць след?... Не, ён гэтага не дапусціць. Інакш ён, Гарбатаў—не Гарбатаў.

Выбраў Гарбатаў дзесяць лепшых коннікаў з палка, дзесяць адданых байцоў—комуністаў, на чале з палiткіраўніком Валуем і старшыною Дубінкіным: а ўсіх дванаццаць коннікаў на самых дужых конях. Загадаў гэтай смелай дзюжыне: учапіцца за банду, ісці за ёй следам, сябе не паказваць і яго, Гарбатава, паведамляць. Ён праз чатыры гадзіны следам пойдзе,— і памаўчаўшы, ціха, каб толькі адзін Валуй чуў, дадаў.—А калі трэба, Валуй, ахвяруй сябе, а банду патрымай, пакуль я прыду...

Дванаццаць байцоў на лепшых конях—душылі. Толькі ад палка адыйшлі—дазоры шчупальцамі наперад...

А палку каманда: рассядлаць коняй, каб спіны конскія адпачылі, корму даць. Потым падмацавацца людзям і крыху адпачыць.

У коннікаў так заведзена—спачатку баявога друга—каня дагледзь і накармі, потым сам можаш есці, адпачываць. Без каня ў паходзе і кавалерыст—не кавалерыст.

Ад'ехаў раз'езд з вярсту ад палка, як чуе Валуй грукат ззаду. Паехалі павальней. Пачало развідніваць. Угледзеўся Валуй—імчыцца нехта. Вось ужо зусім блізка коннік. Коля! Даганяе галопам і карабін, як заўсёды, за спіной.

— Ты чаго? Прыказанне якое?

— Я з вамі...

І парашыў Валуй, што камандзір палка пасылае, распытваць не стаў. Ды не было калі.

Пачыналася раніца туманістая і хмурная. Падыходзілі да невялічкай вёскі. Валуй на карту зірнуў—трыццаць пяць вёрст адмахалі ад палка. А да гэтага разам з палком вёрст трыццаць, а то і сорак увабралі. Коні ступалі зморана, панура апусціўшы вушы. Парашыў Валуй даць адпачынак свайму атраду. Распыталі ў людзей. Бандыты паўсутак таму назад прайшлі. Пасля трох гадзін адпачынку Валуй зноў рушыў за бандай.

Адлегласць паміж бандай і атрадам скарачалася. На другі дзень раніцы па свежаму ўжо следу ішлі. У вёсцы Ямінак дзяўчаты вешалі на платах лён. Яны расказвалі, што не больш гадзіны таму назад прайшоў натоўп, узброены вінтоўкамі і кулямётам. Галоўны, у скуранай куртцы, ехаў верхам. Некаторыя адсталі, каб напіцца вады, казалі, што гэта атрад жалезкома. Але які-ж гэта атрад жалезкома, калі ўзброены яны ўсе?—здзіўлена пыталіся дзяўчаты ў Валуя.

Аднаго байца Валуй накіраваў з данясеннем да камандзіра палка, аднаго пакінуў для маяка ў вёсцы і даклада камандзіру, калі полк падыйдзе. Сам з астатнімі рыссю шырокай рушыў.

Паўгадзіны не прайшло, як прыімчаўся дазорны да Валуя і далажыў: «банда чалавек са сто, спынілася каля вялікай канавы за вярсту адгэтуль, не больш. Але стаяць, як відаць доўга не думаюць, бо не расклалі агня. Хаця каб не ўцяклі, бо за канаваю балота, шукай тады іх чарцей...»

— Ці не каля маста на канаве спыніліся?—пазіраючы на карту, запытаў Валуй.

— Каля маста...

— Ядры іх качалку!—Валуй так жорстка лоб паскроб, што шапка ледзь не звалілася і валасы, некалькі дзён нечасаныя і пакамлычаныя, чубам з-пад казырка вылезлі.

— Ну, хлопцы, трымайцеся. Займем іх агнём. Затрымаюцца яны, а тут і полк падыйдзе. Пайшлі! Вядзі, Парцянкін!

І галопам па дарозе лясной адзін за другім. Спыніліся.

Саскочылі з коняй і, падзяліўшыся на дзве групы, папаўзлі. Коля за конавода застаўся каля дзесяці коняй. Свой, Гузік—адзінаццаты.

Пачалася перастрэлка. Паўгадзіны адстрэльвалася банда. Згледзеў Сенкевіч-Вялічка, што слабы агонь праціўніка, і акружыў чырвонаармейцаў. Па конях бандыты агонь адкрылі. Вузей і вузей пятля агнявая сцягваецца. Два коні параненыя наперад упалі. Бачыць Нікалай і людзей, што ад дрэва да дрэва перабягаюць. Капут справа, і палка не чуваць. І сваіх, з атрада, не відаць. І вось двух у світках выскачылі з-за дрэў, сажняў за пяцьдзесят ад яго і па ім смаляць. Пачаў Нікалай коняй адвязваць ды пушчаць. Калі пусціць іх—можа будуць цэлыя, а так загінуць. Адвязаў коняй і з карабіна ў світкі страляць пачаў. Свішчуць кулі

каля галавы, а дзецца няма дзе. Схаваўся за дрэва і думае, як дзядзьку Барыса паведаміць, каб хутчэй ён прыбыў. А дзве світкі ўсё набліжаюцца і набліжаюцца. Рынуўся бегчы. Кулі засвісталі наўздагон і людзі за ім топаюць. Левую руку апякло. Цяжкая рука стала, як балванка чыгунная, як чужая, да зямлі цягне руку. І галасы ўжо чуе за сабою... А тут канава на шляху і, нядоўга думаючы, у ваду скочыў. Да шыі схаваўся. Прыслухаўся. Страляніна не спынілася. Канаваю падаўся Коля. На дарогу пасля выбраўся. Не памятае колькі часу бег. Толькі памятае: сустрэў дзядзьку Барыса і расказаў пра ўсё. Прыпомніў, як гаварыў Валуй з дазорным, што ёсць мост цераз канаву, банда можа ўцячы і следу не знойдзеш, дадаў:

— Па той бок канавы трэба конных пасляць, мейсца мелкае ёсць, а то знікне банда...

Паваліўся непрытомны.

Гарбатаў адразу зразумеў, у чым справа.

Пачулі бандыты агонь свежы, здагадаліся, што прыбыла сіла баявая, галоўная—да маста адступілі. Біцца з такой сілаю Сенкевіч не захацеў, рушыў шайку сваю цераз мост, а калі ўсе перайшлі, пачаў бурыць яго.

Прыказанне ўжо атаман даў: «дзве вярсты пройдзем, разыходзься хто куды, па адным збіраецца праз тыдзень у Бібачках». Не паспелі разабраць маста, як з усіх бакоў страляніна такая пачалася, што чэрцям жудасна зрабілася. Ашаламуціўся Сенкевіч, калі адчуў, што абкружан, і не мог здагадацца, якім чынам чырвоныя з таго боку канавы маглі падыйсці. Адыход быў адрэзан. Паніка ўзнялася, а разбягацца няма куды. Адстрэльваліся бандыты ў нябачанага праціўніка, а самі былі, як на далоні ў чырвонаармейцаў. Падалі бандыты ад куль забітымі, параненымі, кідаліся ў канаву і як жабы стойваліся, высунуўшы з вады толькі галаву. З поўгадзіны працягваўся бой і ад банды палавіны не засталося. Закрычаў «бацька» Сенкевіч-Вялічка: «Здаюся, Гарбатаў!» Узняў рукі ўгару і за ім усе бандыты, трасучыся ад страху, пакідаўшы вінтоўкі. Тыя, што ў канаве сядзелі, таксама рукі ўгару паднялі.

Банду абяззброілі. Дапытваючы Сенкевіча, Гарбатаў пасмяяўся з яго:—«Кулямёты цягаеце, а не страляеце». У часе бою кулямёты, аказваецца, не былі выкарыстаны. Кулямётчыкі, як толькі бой пачаўся, першымі хацелі ўцячы. Маўчаў Сенкевіч. На запытанне Гарбатава, адкуль ён ведае яго прозвішча, адказаў: «ведаю, ды і ўсё!» А калі пры вобыску знайшлі ў яго запісную кніжку, там у спісе совработнікаў, якія былі вызначны для знішчэння, аказаўся занатаваным і Гарбатаў: супроць прозвішча знак + стаяў. На бандыцкай мове гэта азначала—безумоўна ліквідаваць.

Параненыя—Коля ў руку, і Валуй—у нагу ў адной хаце ляжалі. Коля ачуняў і пачуў, што нехта стогне. Прыўзняўся—Валуй. Гукнуў:—Валуй!.. Адны толькі стогны ў адказ. Устаў, у руку закалола, але боль перамог і да Валуя падышоў. Валуй расплюшчыў вочы і пазнаў Колю, усміхнуўся. Коля правую руку ў кішэню ўсадзіў. Дастаў кавалкі шакаладу ў абшарпанай, палінялай ад вады паперы, падаў Валую. З вачэй Валуя, сцякаючы па твары, хаваючыся ў маршчынках, выплыла некалькі дробных слязінак. Валуй упяршыню бачыў такую пяшчотнасць да сябе, пяшчотнасць дзіцяці. Гэта было незвычайна і дзіўна і ён заплакаў.

Пажурыў-жа потым Гарбатаў Колю за самавольны ад'езд з атрадам. Спярша думалі—куды згінуў маленькі баец, але Кіянаў расказаў: паехаў-жа следам за Валуем, ён бачыў, як імчаўся.

Праз год Нікалай Іванавіч Гузоўскі ордэн Чырвонага сцягу за заслугі і геройства сваё атрымаў. А ў 26 годзе ён быў ужо лоўкім маладым ка-

мандзірам узвода. Дзядзька Барыс слова свае стрымаў. Служыць ім разам не давялося, але Коля свой водпуск штогод праводзіў у дзядзькі Барыса. Цяпер Гузоўскі—памочнік начальніка штаба палка...

* * *

... — Ну, дзеці, я з вамі загаварыўся!—закончыўшы гутарку, камандзір устаў, паправіў знаражэнне, абцягнуў гімнасцёрку, на якой вісеў ордэн Чырвонага сцягу.—Замест паўтары гадзіны тры гаварыў.

Вучні маўчалі. Перад імі ўсё яшчэ стаялі карціны баявых дзеянняў Колі Гузоўскага. Уражанне ад апавядання было вялікае і кожны хацеў быць Коляй Гузоўскім.

— Вось, дзеці, вы павінны з такіх прыклад браць. І цяпер, каб быць такімі карыснымі, як ён, у часе вайны, вы павінны развіваць сваю сілу, лоўкасць, смеласць...

Дзверы ў клас расчыніліся. Увайшоў дырэктар.

— А вы, Нікалай Іванавіч, аказваецца, яшчэ тут?..

І вучні загудзелі. Нікалай Іванавіч? А ці не сам гэта Гузоўскі? І запытанне дырэктару:—Як прозвішча дзядзькі? Дырэктар, нічога не падазраючы, адказаў:

— Гузоўскі.

Ахнулі вучні. Камандзір накіраваўся да выхаду, а яго не пускаюць. Дырэктар здзівіўся.

Дык гэта ён, сам ён! Гузоўскі Коля. І скромна пра гэта змоўчаў. І абкружылі яны камандзіра з ордэнам Чырвонага сцягу. У вачах паблісквала і радасць і шчасце: з жывым героем Коляй яны цяпер побач стаяць. Пасыпаліся пытанні. І кожны хацеў бліжэй да Колі Гузоўскага стаяць. Дзівіўся дырэктар, пакуль вучні, перабіваючы адзін аднаго, не расказалі яму, у чым справа.

— Ну, дзеці, мне пара. Спазнюся ў полк, хоць і так спазніўся ўжо. Ну бывайце. Піонеры, у барацьбе за радзіму вашу будзьце гатовы!

І як адзін у адказ, узняўшы рукі: «Заўжды гатовы!»

Увесь клас са сваім Коляй і дырэктарам—на вуліцу. Абяцаў Коля, калі добра будуць вучыцца, яшчэ не адзін раз прыехаць, пра вайну грамадзянскую расказаць.

Падвёў чырвонаармеец гнядога каня. Сеў на каня камандзір Коля Гузоўскі.

А нехта з вучняў.

— Гэта не Гузік?

— Не. Я забыўся вам сказаць, Гузіка забілі каля канавы.

Захадзіў пад камандзірам Коляй гняды конь. Шыю выгнуў, як лебедзь, фыркае. Ноздры як агнём гараць, раздуваюцца. І галопам Коля з месца рвануў. Вучні зачаравана пазіралі ўслед—камандзіру і чырвонаармейцу.

Вучні стаялі і пазіралі, пакуль Нікалай Іванавіч Гузоўскі не павярнуў у другую вуліцу. І кожны шкадаваў, што так хутка скончылася гутарка з камандзірам Нікалаем Гузоўскім пра маленькага героя Колю Гузоўскага— удзельніка грамадзянскай вайны.

Сакавік-красавік, 1935 г.

Пятрусь Броўка

# МЫШАСТЫ

Што-ж не вышаў ты на пасту,
Ганарлівы наш, мышасты?
Поўсць устала вахлакамі,
Затуманіўся вачамі.
Што хвастом ты не матляеш,
«Му» свайго ты не гукаеш.
Свет, ці што, табе пастылы,
Меў-жа ты якую сілу,
Што па ўсіх тваіх калонах
сілы больш такой няма—
на сваіх рагах тачоных
ты паўнеба падымаў.
Апетыт-жа дзе свой дзеўшы,
з хлеву ты не вышаў першым,
І каровы, як сіроты,
ўсё завуць цябе з балота.
Каб-жа ты не лёг задарам—
прывялі ветэрынара.
І дазналі мы прычыну—
пераеў ты канюшыны.
Потым дзень цябе ад болю
ратавалі горкай соллю,
на жывот гарчычнік клалі,
шпіганарам націралі,
Каб глядзеў ты зноўку зорка—
лыжак пяць далі касторкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

І прашло, зляцела змора—
ачуняў наш вельмі хворы—
нас ласкавым вокам змерыў,
сам раскрыў напоўна дзверы.
І прайшоў, удзячны людзям,
з белым гальштукам на грудзях.
Праз кусты, ляшчыннік часты
да кароў памчаў мышасты.
Як прыбег-жа ён, плячысты,
затрубіў пастух ўрачыста...
Весялейшыя галовы—
паўзнімалі ўсе каровы,
і цяляты зухавата
заскакалі каля таты.

Чэрвень, 1935 г.
Ляўкі, Аршаншчына

Пятрусь Броўка

# ДВАЙНЯ

Брыгадзір Іван Букаты
сам усмешкай дзіўнай стаў—
Двух сыноў унёс у хату
урачыста у цвятах.

А за ім спяшалі шпарка
і сяброўкі і сябры—
абкружаючы даярку
парадзіху Маню Брыль.

За вакном бярозы, лісцем
зашумелі як мага,
як паклалі у калысцы
двух малых: «куга-куга...»

Калі-ж стол ядой накрылі,
Гаспадар гасцей прымаў—
ўсе сябры загаварылі,
выдумляючы імя.

Кожны здолеў там не мала
уселяк перагадаць...
Толькі бабка прашаптала:
— Пётру з Паўлам трэба даць.

Усе маўчалі. Што сказаць ей,
кожны ў думках выбіраў...
І ў адказ старэнькай маці
брыгадзір Іван сказаў:

— Што ты маці, дзе ты чула,
каб так зваць сваіх сыноў—
Два апосталы сапсулі
гэты назвішчы даўно.

А ў мяне другія людзі,
больш старому не ўставаць .
Аднаго мы Кімам будзем,
а другога Клімам зваць.

Яны шчасныя бясконца,
Хай іх туліць ціхі сон,
хай растуць у ясным сонцы—
ў бацькі хопіць працадзён.

Два-ж «апосталы» ляжалі,
даль ім светлаю была...
Між сабою развражалі
роднай мовай: аб-ляб-ля...

Чэрвень, 1935 г.
Аршаншчына

Пятрусь Броўка

# ВЕЧАР

Вечар. Гарманісты ходзяць...
Песні між дзяўчатамі стаяць.
Сем брыгадніц вышлі ў карагодзе,
Сёмая, каханая мая.

І пашлі кругамі па дарожцы...
Закружыў сукенак белы шум.
Што міргнулі з карагоду вочы
Я пакуль нікому не скажу.

Яна-ж помніць, я напэўне знаю—
Як сінеў прастор над галавой,
Як мы з ёю песню зачыналі
Як шумела жыта у жніво.

Як тады загадкавым паглядам
Мне сама надзею падала,
Як не раз у іхнюю брыгаду
Я прыходзіў шчыра пасабляць.

Як снапы мы з ёю там насілі...
Мне-ж адно спакою не дае—
Дзе, якой зарою чырваніла
Яна вусны тонкія свае.

Дык скачы сягодня, колькі хочаш,
Я цябе у сэрцы пранашу—
Што міргнулі з карагоду вочы
Я пакуль нікому не скажу.

К. Лордкіпанідзе

# ДАЛОЎ КУКУРУЗНУЮ РЭСПУБЛІКУ

## Урывак з рамана

Аграном Ладо Гегелія, вядомы ў Імерэтыі пад мянушкай «Крапіва», быў сынам хонскага купца.

У 1884 годзе, калі Ладо яшчэ вучыўся ў Цынамдзгварыскары, бацька яго, Бардга Гегелія, закінуў лічыльнік і аршын, пазнаёміўшыся з англічанінам—лесапрамыслоўцам Наіці.

Гэта было ў тыя гады, калі замежныя фірмы і канцэсіі толькі яшчэ пачалі працягваць свае шчупальцы к Грузіі і ў яе партах упершыню кідалі якары чужаземныя караблі.

Замежны капітал імпэтна цягнуў за сабой геолагаў, якія спяшаліся свідраваць багатыя выкапнямі горы Грузіі, аграномаў, якія прыносілі гарачыя подыхі субтропікаў у лагчыны Рыона і Калхіды, камерсантаў, якія спусташалі некаторыя пушчы ўзбярэжных лясоў. Рэкі Грузіі няспынна неслі да чорнаморскіх партоў самшыт Абхазіі, цёс Імерэтыі, арэшнік Гурыі і Мегрэліі. Па дарогах Імерэтыі трахцелі ў запыленых фаэтонах грэкі, якія спехам ладзілі ў Самтрэды і Хоні сушыльні для коканаў.

Падрадчыкі і пасярэднікі адразу пайшлі ў гору.

Вось тады і Бардга Гегелія сцяміў, што злачынна, яму, гэтакаму хвату, стаяць ля прылаўка і пазяхаць, чакаючы пакупніка. Гандаль ён прыпыніў і, узяўшыся за пасярэдзінства, шпарка займеў давер'я англічаніна Наіці.

Былы гандляр дзейнічаў мудра. Бардга не наследваў сваім недабачлівым калегам, якія з першага-ж дня пачалі ашукваць Наіці і на драбязі ламалі шыю. Бардга Гегелія ведаў, што больш пэўны ключ да нажывы—заваяваць давер'е гаспадара, і на працягу шасці месяцаў мужна і цярпліва стрымліваў сябе, каб ні на грош не саграшыць у вачах англічаніна.

Гэтакая прыстойнасць пасярэдніка надзвычайна радавала лесапрамыслоўца, і праз год Наіці ўжо зрабіў яго сваім давераным.

Бардга толькі таго і дамагаўся. Стаўшы даверанай асобай, ён хутка выпрастаў крыллі і за ўсё прыкладнае шасцімесячнае ўстрыманне ўраз узнагарадзіў сябе рублём за кожную прапушчаную капейку. Падзарабіў так, што ўжо праз некалькі месяцаў у Хоні, на Матходжскай вуліцы пабудаваў двухпавярховы дом.

Калі Ладо скончыў сельскагаспадарчую школу, яго бацька ўжо да таго нагрэў рукі, што здолеў выправіць сына прадаўжаць асвету ў Крым, у Нікіцінскую імператарскую школу садоўніцтва і вінаградніцтва.

У 1889 годзе ў Батуме Наіці пазнаёміў свайго даверанага з французам Андрые, прадстаўніком французскага акцыянернага таварыства ў Закаўказзі.

Зіма была на збытку. Дзяльцы сядзелі ў кавярні.

Андрые, паджылы, яшчэ дужы мужчына, які заўжды ўхмыляўся, з

ружовымі крамянымі шчокамі, быў падобны больш на выпеставанае дзіця, чым на шукальніка шчасця, які забрыў у чужыя, далёкія краі. На Бардга ён рабіў уражанне шчодрага і душэўнага чалавека, і таму былы гандляр ахвотна згадзіўся перайсці да яго на работу.

Прадстаўнік французскага таварыства шукаў у Ніжняй Імерэтыі зямель для вырошчвання рамі.

Умовы былі такія: за кожную кцэву француз плоціць арэнды дванаццаць рублёў у год. З іх два рублі—пасярэдніку. Апрача таго павінен выплаціць уладарам участкаў наперад за тры гады.

На гэту весну таварыству патрэбна дзве кцэвы, каб наладзіць расаднік. Увосень—трыста. А з наступнага году—дзве тысячы.

Прапанову француза Бардга палічыў за шчасце, скінутае з неба. Па два рублі з Андрые. Скольki ж злупіць ён з хонскіх памешчыкаў! Лепш і не прыдумаеш!

Падпісаў умову і выехаў у Хоні.

Участак для расады яму давялося шукаць не доўга.

Дзве кцэвы ён адмерыў аграному Македонскаму, якому Андрые даручыў арганізаваць даследчы пітомнік, у сваім жа маёнтку. І ўжо ў канцы красавіка Македонскі наняў сялян і пачаў рыхтаваць глебу.

На адведзены ўчастак прывезлі арб з дваццаць гною, глыбака ўскапалі глебу рыдлёўкамі і зрэзалі плошчу канаўкамі.

Тым часам Бардга паспеў наведаць усіх хонскіх земляўласнікаў.

У першую чаргу заглянуў да Растома Цулукідзе, які валодаў прасторнымі ўчасткамі, мала годнымі пад засеў кукурузы. Таму Бардга быў упэўнены, што Цулукідзе задаволіцца і дзесяццю рублямі за кцэву.

Але памешчык, пачуўшы французскае прозвішча, ад жадлівасці вытарашчыў вочы. Знюхаўшы выгаднага арандатара, надумаў збыць зязюлю за ястраба і загнуў такую цану, што Бардга паспяшаў з ім развітацца.

Цулукідзе схамянуўся, зразумеў што памыліўся толькі тады, як у Хоні пайшлі чуткі пра перагаворы Гегелія з Аваліяні. І, каб адпомсціць за няўдачу, пусціў пагалоску нібы французы разводзяць такую расліну, пасля якой і бузіна ўсохне.

Хонскія аматары для плётак заўзята падхапілі гэтую пагалоску, і Аваліяні захісталіся, ад нерашучасці. Няма дыму без агня. Французы так сабе не прыйдуць. Хіба ў іх сваёй зямлі не хапае?

Праўда, не кожны даверяў гэтай плётцы, аднак ніхто не намагаўся і абвергнуць яе. Усім яна была на руку. Цана на зямлю падымалася.

Такім чынам з арэндай у Бардга не шанцавала. Але ён не бедаваў.

«У камерцыі цярплівасць вырашае справу. Спяшацца мне няма чаго. Да восені яшчэ далёка, пачакаю»,—разважаў ён і не налягаў на фанабэрыстых памешчыкаў.

У пачатку мая Андрые і Гегелія выправіліся збіраць карэнчыкі кітайскай крапівы (рамі). Тысячы са тры закупілі ў былым маёнтку барона Лонгейля, з тысячу назбіралі ў садзе Шэмокмедскага манастыра (сюды рамі быў завезены з кутаіскай фермы, дзе яго ў 1869 годзе пачаў разводзіць англічанін Марр), трохі пашанціла дастаць у квахчырца Цулукідзе, які валодаў узорнай на ўсю Імерэтыю гаспадаркай.

Усяго назбіралі тысяч восем карэнчыкаў і вярнуліся ў Хоні.

Летнія канікулы Ладо праводзіў дома.

Прыехаўшы на вёску і ледзь паспеўшы падставіць шчаку для пацалунка бацькам, якія паспяшалі яму насустрач, юнак пабег на задні двор зірнуць на свой садок, у якім кожнае дрэўца было пасаджана яго рукамі.

Узброіўшыся кнігамі і садовым інструментам, Ладо праводзіў тут усе дні свайго летняга адпачынку. Поруч з мясцовымі пародамі пладовых дрэў, ён старанна гадаваў таксама, замежныя ранеты, палепшаныя гатункі персікаў і абрыкосаў, крымскую ігрушу. Яго мары—па сканчэнні асветы стварыць вялікую ферму для пашырэння ў Імерэтыі пладовых культур. Але прыехаўшы на вёску сёлета і кінуўшыся да сваіх дрэў, Ладо спыніўся, збянтэжаны незвычайным відовішчам.

Побач з яго садзікам, на ўчастку, які засяваўся з году ў год кукурузай, цяпер серабрылася нейкая дзіўная, чужая для гэтай мясцовасці расліна.

Ладо падышоў, прыглядзеўся і толькі варухнуў плячыма. Ён, студэнт апошняга курса вышэйшай сельскагаспадарчай школы, не мог пазнаць, што гэта за расліна. Сарваў лісток. Вельмі падобны да крапівы, але не кусаецца; зверху—цёмназялёны, знізу—серабрысты. Ранішні ветрык, прабягаючы па дзіўнаму полю, варушыць пялёсткі, выварочвае навыварат, і таму здалёк усё пераліваецца серабром.

— Што гэта ты тут пасадзіў?—крыкнуў Ладо бацьку.

— Што? Рамі, сынку,—з такой спакойнасцю адказаў Бардга, нібы рамі і не прывыкаць да тутэйшых палёў.

Ад Андрые Бардга неяк даведаўся, што з рамі французы выраблаюць шаўкавістую тканіну. Але, вядома, не даў веры, парашыўшы, што Андрые здурнеў. Бардга думаў пра іншае: каб толькі француз не набраўся розуму ды не знік. Плакалі тады два цалковых з кцэвы!

З таго дня Ладо не спушчаў з вока даследчай плантацыі. Яго зацікаўленасць рамі падтрымліваў і сам Андрые, які так захапіў маладога аграномa сваімі займальнымі апавяданнямі, што той стаў забывацца пра свой садок.

Прадстаўнік французскага таварыства рознымі спосабамі стараўся зблізіцца з мясцовай інтэлігенцыяй, каб з яе дапамогай пераканаць імерэцінскіх земляўласнікаў у выгоднасці пасеваў рамі. У гэтым стасунку Ладо Гегелія быў яму карысны, і ён моцна ўхапіўся за яго. Андрые правільна меркаваў, што ў гэтым глухім кутку такі дапытлівы чалавек, як Ладо, можа зрабіць яму вялікую паслугу. Тым больш, што малады аграном усёй душой імкнуўся аддаць свае сілы і веды росквіту сельскай гаспадаркі роднага краю.

Па думцы Андрые, глеба і клімат Заходняй Грузіі былі вельмі добрыя для культуры рамі. «Але гэтыя бедныя, жабракі імерэціны,—казаў ён,—займаюць палі нейкай кукурузай, збягаюць, каб стаць лакеямі, у гарады Закаўказзя, у той час як дзве кцэвы рамі далі-б ім столькі, колькі ніколі не дадуць дзесяткі кцэў кукурузы. Наша фірма азалоціць тутэйшых земляўласнікаў, калі толькі яны дапамогуць і возьмуцца садзіць рамі».

Наслухаўшыся Андрые і даведаўшыся ад яго пра планы французскага таварыства, Ладо пераканаўся, што французы сапраўды не жартуюць, што не здарма шныпараць яны ад Хоні да самага Чорнага мора.

— Я буду тут усё лета. Чым магу, дагаджу вам,—паабяцаў Ладо французу.

Пачынанне французаў захапіла яго, як вопыт, які можа быць карысным для сельскай гаспадаркі Грузіі. Ён згадзіўся дапамагаць Андрые таму, што гэты вопыт несла краіна, сельская гаспадарка якой была славутай на ўвесь свет.

Але такі ўдзел Ладо не падабаўся яго, бацьку, які стараўся як мага больш зарабіць на цяжкасцях, з якімі стыкаўся Андрые. У апошні час ён

знарок ускладняў арэндныя справы, і, вядома, умяшанне сына скарачала яго прыбыткі.

— Ты лепш свой сад даглядай. А Андро (так ён зваў Андрые) і без тваёй дапамогі перабудзе,—бурчаў Бардга на сына.

— Захады французаў справа дзяржаўнай важнасці, а не дойная карова для цябе і Аваліяні,—рэзка перапыніў яго Ладо.

Бацька з сынам так паспрачаліся, што за абедам ужо не размаўлялі. І хто ведае, калі-б яны пагадзіліся, каб не сляпы выпадак, які паклаў канец іхняй нязгодзе.

У жніўні, калі ён быў у Самтрэдзі, Андрые захварэў запаленнем лёгкіх і памёр. Жонка павезла нябошчыка хаваць у Францыю. Плантацыя засталася без гаспадарскага догляду. Давераны нябошчыка і аграном Македонскі напісалі французскаму таварыству некалькі лістоў, але адказу так і не атрымалі.

Аднак, не гледзячы на дрэнны догляд, рамі ўсё-ж добра падняўся. Ураджай скарыстаць не змаглі, бо не было машын для апрацоўкі валакна. Плантацыя не апраўдала ні выдаткаў за зямлю, ні працы Македонскага. Большую частку расады за нішто прадалі Чаквінскаму ўдзельнаму маёнтку, невялікую-ж колькасць і самы ўчастак Ладо выпрасіў у бацькі для сябе, паабяцаўшы яму на будучы год з лішкам звярнуць усе страты.

Атрымаўшы дыплом, аграном Гегелія парашыў узяцца за вывучэнне культуры рамі з тым, каб прадаўжаць справу, пачатую французамі. Ідэя гэтая так захапіла яго, што ён адмовіўся і ад службы і ад даўніх сваіх мараў—стварыць пладовую ферму. Яго таварышы па школе пышыліся ўжо чынамі ў кутаіскім зямельным упраўленні, а ён цэлымі днямі, не злазячы з каня, пыліў па выселках шукаючы аднадумцаў, каб падняць карысную справу. Сам ён не меў ніякіх іншых сродкаў, апрача яснага розуму і вялікай настойлівасці.

З рамі сваёй плантацыі Ладо Гегелія выпрацаваў валакно і паслаў у Францыю, дзе яго якасці былі прызнаны вельмі добрымі. Акрыяны такім поспехам, Ладо паслаў узоры валакна і ў іншыя краіны, і ў 1896 годзе адна з замежных фірм прапанавала яму заключыць кантракт на загатоўку сарака тысяч пудоў сырца-рамі.

Аграном, узяты ўдачай, адразу-ж пачаў дамаўляцца з імерэцінскімі земляўласнікамі пра арганізацыю таварыства. Але яго ўзнёслыя планы не займелі ніякага спачування. Тупагаловыя земляўласнікі ехідна аднекваліся:

— Зямлі пад крапіву дамагайся ў свайго бацькі!

Але Бардга таксама не захацеў дапамагчы сыну.

— Чаго дарэмна туляешся? Сам таго не варты, колькі грошай на тваю навуку патрацілі. Пашукай лепш службы ды вазьміся за справу,— і патрабаваў вызваліць участак ад «крапівы».

Пасля гэтага яшчэ гады са тры Ладо стукаўся ў форткі хонскіх памешчыкаў, але ўсё дарма. Ніхто не хацеў рызыкаваць ні грашамі, ні зямлёй для няпэўнага мерапрыемства.

І тады, знясілены няўдачай, аграном рассядлаў свайго каня і пусціў яго пасвіцца на плантацыю. Узрадаваны Бардга следам за канём пагнаў кароў.

Склаўшы накрыж рукі, Ладо стаяў на балконе і сумна пазіраў, як жывёла знішчала дарагую расаду.

Так няслаўна загінуў у Хоні першы даследчы пітомнік рамі.

* *
*

Рамі аказаўся вельмі ўпартай раслінай.

Як ні стараўся Бардга, але доўга не мог звесці з свае сядзібы французскае насенне. Напусціў у гадавальнік жывёлы, павысякаў кусты, пераараў участак, але ўвесну... рамі ізноў выбіўся з пад зямлі і зашумеў гус-

тым зараснікам. Увосень кусты пагнілі, а наступнай вясной зноў засрабрыліся сваім лісцем і так разрасліся, што івандынскія сяляне пачалі выдзіраць яго карэнні на апал.

Тады разгневаны Бардга паклікаў суседзяў і ўзяўся знішчыць упартую расліну плугамі і кіркамі.

Мінулі гады. Ладо працаваў настаўнікам на кутаіскай ферме, завёўся сям'ёй, стаў бацькам двох дзяцей. Але размеранае жыццё сем'яніна вельмі хутка абрыдзела яму. Народжаны для вечных шуканняў, выношваючы ў сабе мноства розных планаў, ён нудзіўся ад сямейнай утульнасці і рваўся на прасторы палёў. Ён яшчэ раз паспрабаваў наладзіць таварыства, звярнуўся за дапамогай у зямельны банк, але там яго нават не выслухалі.

Канчаткова развітаўшыся з рамі, Ладо хацеў быў зноў заняцца пладовым гадавальнікам, але тут краіну ўскалыхнула Лютаўская рэвалюцыя.

Аграном акрыяў.

— Цяпер Грузія належыць грузінам. Царскія чыноўнікі ўжо не будуць верхаводзіць лёсам мае краіны.

І пачаў бамбардыраваць габінеты кутаіскай управы лічбамі і планамі.

. . . — Для развядзення гэтай каштоўнейшай расліны да нас гвалтам лезлі з Еўропы. Давайце-ж нарэшце, калі мы дамагліся незалежнасці, самі возьмемся за сваю гаспадарку,—горача пераконваў ён, даводзячы сваё рознымі доказамі.

Яго выслухоўвалі, а пасля ў габінеце ўсталёўвалася доўгае маўчанне. Гегелія сапеў, рыпела крэсла, на якім ён круціўся чакаючы адказу. Нясцерпным было гэтае маўчанне, за час якога члены управы выдумалі матывы адмаўлення, каб адчапіцца ад звар'яцеўшага праз рамі агранома.

І калі Ладо выслухоўваў расхалоджваючае заключэнне, прыпраўленае ведамственай ветлівасцю, ён ускокваў і шпарка знікаў, нібы трапіў не ў той пакой.

Засмучоны аграном парашыў нарэшце звярнуцца за дапамогай да вядомага палітычнага дзеяча, меншавіка Грышы Цхомелідзе.

— Ну яшчэ, знайшоў час для вопытаў,—упікнуў яго палітычны дзеяч.— Нам цяпер свядомыя патрыёты і палітыкі патрэбны, а не вузкія спецыялісты. Відаць, рабіць табе няма чаго, дык мы знойдзем табе работу,— паабяцаў Цхомелідзе, і праз два дні кішэні агранома Ладо Гегелія былі напханы выбарчымі лісткамі і брашурамі, а яго самога сунулі ў камісію па выбарах.

Кацо, што я, Уратадзе, ці што? Навошта вы з мяне прамоўцу робіце? Дайце справу, якую ведаю,—пярэчыў аграном. Але, калі палітычны дзеяч пачаў сумнявацца ў яго патрыятызме, парашыў не затрымлівацца і загайсаў па вёсках.

У дыліжансе прагледзеў лісткі і брашуры і, дабраўшыся да першай вёскі, падставіў твар таму ветру, якому раней паказваў спіну.

Бадзяючыся па вёсках, аграном бачыў не адзін раз, як шмат дзе сяляне высякалі шматгадовыя насаджэнні—сады і вінаграднікі—і вызваленыя участкі засявалі кукурузай.

— Дзе ўжо тут пра рамі марыць, калі нават гэтага не можам зберагчы,—бедаваў Ладо і праз увесь тыдзень засыпаў управу і рэдакцыі лістамі, патрабуючы, каб мясцовыя ўлады неадкладна затрымалі пагрозную хвалю, якая змывае з улоння зямлі каштоўныя культуры.

Але ў «дэмакратычнай» рэспубліцы не ставала часу, каб займацца такімі драбніцамі.

У тыя часы спрактыкаваныя на банкетах і тостах жырандысты ўзводзілі на галоўных вуліцах гарадоў Грузіі ўпрыгожаныя зелянінай і сцягамі

аркі, рыхтуючыся да ўрачыстай сустрэчы «соцыялістычных міністраў Захаду».

У канцы 1920 года пасівеўшы ў барацьбе за рамі аграном парашыў падаць міністру земляробства вялікую дакладную запіску пра новыя валакністыя культуры. Назбіраў неабходнага матэрыяла, за два тыдні падрыхтаваў запіску, але... у Тыфлісе ўжо не было міністэрства земляробства. Гаспадарамі краіны сталі Советы.

— Запаскудзілі чыстае паветра Грузіі смярдзючымі шынелямі. Чорную манархію замяніла чырвоная дэспатыя,—прастагнаў Гегелія і спаліў свой даклад.

Зняможаны, у прыгнечаным настроі аграном пачаў зноў настаўнічаць і, стаіўшыся на ферме, абыякава сачыў за ходам незнаёмага, нецікавага для яго жыцця.

Совецкая соцыялістычная рэспубліка Грузіі... Лозунг нацыянальнага самавызначэння... Усё гэта—палітычныя прыёмы Леніна, каб заглушыць нацыянальнае самалюбства Грузіі. Лозунг росквіту нацыянальнай культуры—гэта мацнейшы наркоз, якім большэвікі хочуць уціхамірыць нашу ненавісць к Расіі. Стары яго змест. За совецкім сярпом і молатам тоіцца драпежны захопнік, які зноў ператворыць Грузію ў дзве-тры глухіх губерніі».

Так думаў аграном Ладо Гегелія і ў 1922 годзе, падбіты выкладчыкам былой кутаіскай дваранскай гімназіі, меншавіком Накашыдзе, арганізаваў вучнёўскую антысовецкую групу, якая праз некалькі месяцаў у гадавіну «26 мая» прыняла ўдзел у контррэволюцыйным выступленні на гарадскім бульвары.

На другі дзень у дзверы Ладо пастукала Чэка. «Мяне вышлюць, сям'я загіне, дзеці з голаду памруць»,—спужаўся Ладо і, дастаўлены ў Чэка, шчыра пакаяўся і даў абяцанне: ад гэтага часу ніколі не падніме рукі супроць совецкай улады.

Яго трымалі нядоўга. Дапыталі, узялі падпіску і вызвалілі. З фермы яго зволілі. Новай службы шукаць не стаў. Перасяліўся ў Хоні і заняўся гаспадаркай.

Засумаваў аграном. У мінулым нічога не дамогся, на будучае ніякіх надзей. Новым жыццём грэбаваў, упэўнены, што каб не большэвіцкая навала, дык мэта яго была-б дасягнута.

Варожа настроены да совецкай улады, ён знарок не хацеў успамінаць, як меншавікі, пазбавіўшы яго прафесіі, прымушалі да страты прытомнасці трапаць языком і галасіць каля выбарчых урнаў за «спіс нумар першы».

Застаўшыся без справы, Гегелія лічыў сябе за лішняга чалавека ў Грузіі і не ведаў, як вызваліцца ад гэтага балючага адчування сваёй нікчэмнасці.

Стаіўшыся ў сваёй сядзібе, паглыбіўшыся ў свае думкі, аграном цураўся таго свету, які, на яго думку, не толькі адкідаў карысных, падобных да яго людзей, але і зноў ператвараў яго радзіму ў заняпалую расійскую правінцыю. З тымі родзічамі і прыяцелямі, якія «навалу варвараў» не перажывалі гэтак балюча, як ён Ладо стараўся не сустракацца. З адным з сардэчных сваіх прыяцеляў ён палаяўся толькі таму, што ў доме яго не адмаўляліся ад весялосці.

У весялосці прыяцеляў Гегелія бачыў нешта грубае, звярынае, якое зневажала яго смутак. Жывёла—і тая мычыць, калі яе выпіхаюць з хлява і гоняць прадаваць. А мы-ж радзіму страцілі. Калі не можаце ўзняцца да чалавека, дык будзьце падобнымі да жывёлы. Завыйце хоць раз»,—абураўся стары.

Летась на хонскай біржы Гегелія сустрэў Тарасія, які прышоў з вёскі.

Перад Тарасіем стаяў друзлы стары ў зашмальцаваным пінджаку, спіна і каўнер каторага былі зацярушаны перхаццю. І па выгляду яго і па размове было відаць, што калісьці бунтоўны чалавек стаў цяпер да ўсяго абыякавым, і адзіным жаданнем яго было як небудзь спакойна і бестурботна дацягнуць да дамавіны.

Тарасі быў бязмерна ўзрушаны выглядам гэтага дачасна пастарэўшага рабацягі.

Краіна шалясцела смелымі планамі.

Блізка Тыфліса, у Зема-Аўчалах скрыгаталі экскаватары: большэвікі ўзводзілі палац белага вугалю. У Аджарскіх гарах, сціснутая дамбамі, Аджарыс-Цхалі са стогнам выбівалася з рук асмелеўшага чалавека: двойчы прарвала плаціну і размыла няскончаны катлаван. Ажыццяўляліся даўнія мары гурыйцаў: вось-вось свісток першага паравоза ўскалыхне закінутыя ў горы Озургеты.

Смелымі планамі шалясцела краіна. Але Ладо Гегеліяківаў галавой. Зема-Аўчалы, Аджарыс-Цхалі, Озургеты,—усё гэта далёка ад Хоні. Газетам жа ён верыў не больш, як снам. Ён быў цвёрда упэўнены, што ў руках большэвікоў Грузія зноў ператворыцца ў глухую расійскую губерню.

І толькі калі ў Кутаісе, супроць былой губернскай турмы, дзе раней стаялі казармы, выраслі чырвоныя карпусы суконнай фабрыкі, калі ад Рыона пацягнуліся абвадняльныя каналы Машвелі, якія занялі па магутнасці другое месца ў абвадняльнай сістэме Грузіі, калі нарэшце будаўнічая хваля дакацілася і да Хоні, дзе на Кутаіскай вуліцы заклалі фундамант грэнажнай фабрыкі, Гегелія пакінуў ківаць галавой і прыслухоўваўся. Здалося раптам, што краінай кіруе клапатлівая і моцная рука.

Здзіўлена аграном ледзь было не запытаўся: «Ці не змянілася ў Грузіі ўлада?»

... Пэўна, комуністы змянілі сваю праграму і замест абрусення парашылі заняцца нечым іншым. І гэтае «нешта» так захапіла агранома, што ён пачаў ужо запальвацца невыразнымі надзеямі.

У тым жа годзе недалёка ад Хоні адкрылася даследчая станцыя тэхнічных культур.

... Даследчая станцыя тэхнічных культур... Не, гэта немагчыма. Хлусяць газеты, хлусяць і сяляне—усе ўмовіліся выцягнуць з двара старога агранома.

Гегелія наняў рамізніка і паехаў на даследчую станцыю.

Неймаверныя робяцца рэчы! Да таго неймаверныя, што стары аграном застыў пасярод поля і замармытаў, нібы пабіты:

—Раней на ўсю імперыю было з дзесятак трактараў, а цяпер на адным гэтым полі колькі іх! І дзе? У Грузіі! Незразумела...

Цэлы дзень прабыў Гегелія на палях даследчай станцыі, гутарачы з дырэктарам і знаёмячыся з культурамі. Увечары вярнуўся да хаты з узбаламучанай галавой.

Каля крам яго каламажку затрымаў швагра Александр Гогоберыдзе.

— Што ж гэта ты, ехаў і не наведаў? Ну, цяпер ужо не выпушчу, прысягаю сынам, хрышчэнікам тваім,—папікнуў Александр адзічэлага родзіча, загадаўшы рамізніку павярнуць назад.

Языкастыя хонцы казалі, што 16 сакавіка 1921 года, калі з Кутаіса збеглі апошнія батальёны гвардзейцаў, начальнік гаспадарчай часткі Александр Гогоберыдзе на Орпірскай вуліцы ўрваў ад абоза дзве арбы напакаваныя прадуктамі, і загнаў іх у сваю вёску.

Ва ўсякім разе верна тое, што, калі ў дваццаць першым—дваццаць другім годзе ў свірнах Імерэтыі не заставалася ні адной галоўкі кукурузы нават на ўцеху пацукам, у былога гвардзейца было ў волю і рысу, і цукру, і масла, і вопраткі. Кукурузу ён прывозіў з Мегрэліі. Кожны чацьвер ездзіў у Хета. Выязджаў туды ў англійскім шынялі, а вяртаўся без яго. Затое ягоная каламажка ўкатвалася ў двор даверху нагружаная цяжкімі мяшкамі.

У тыя галодныя гады сям'я Лады, якая гібела ў нястачы, ледзь-ледзь трывала, час ад часу карыстаючыся дапамогай былага гвардзейца.

Гогоберыдзе быў адзіным родзічам Ладо, у якога разам з шырокай гасціннасцю аграном знаходзіў спажыўнае і для душы ў бясконцых гутарках пра лёс «загінуўшай радзімы».

Ладо быў тут частым госцем. Але сёння, калі Александр прымусіў рамізніка павярнуць назад, ён чамусьці захістаўся.

— Ідзем, кацо!*) Ці-ж цябе трэба ўпрашаць і цягнуць за фалды?

Ладо быў тут чыстым госцем. Але сёння, калі Александр прымусіў дабрадзея траціць столькі часу на ўпрашванні. Але яго ўстрывожаны разум меў патрэбу цяпер ў адзіноце, каб разабрацца ва ўсім, што гэтак ашаломіла яго на даследчай станцыі.

Сёння ён не здольны выслухаць свайго швагра—у дзверы нейкага еўрапейскага міністра стукалася на мінулым тыдні грузінская эміграцыя і што ёй было абяцана. Толькі з павагі да швагра ён, нарэшце, не ахвоча згадзіўся сыйсці з каламажкі.

Распытаўшы пра хатніх, Александр з затоенай радасцю расказаў Ладо, што Макданальд прыняў Іраклія Цэрэтэлі і запэўніў яго ў найхутчэйшым «вызваленні» Грузіі. Аднак аграном не знайшоў і двух слоў, каб падзяліць радасць швагра. Ад гэтага ён адчуў сябе неёмка і, каб не пакрыўдзіць гаспадара, пайшоў па слізкай сцежцы шчырасці.

— Сумна тое, што мы зазіраем за мора, а што робіцца ў нас пад носам, не бачым,—сказаў Ладо і пачаў гладзіць па галаве падбегшага хрышчэніка.

— А што ў нас пад носам? На што ж тут глядзець?—адказаў Александр, загадаўшы, каб у альтанку прынеслі крэслы.—Ні якага чорта няма ані-ні,—прадаўжаў ён.

— Як ні чорта?—адхінуўся Ладо і памалу павёў гутарку пра даследчую станцыю.

Непакоячыся, што швагір па свойму вытлумачыць яго шчырасць і расчаруецца ў яго нечаканых развважаннях, Гегелія ў замяшанні пачаў здалёк; інтарэсы-ж адсталай сельскай гаспадаркі патрабуюць арганізацыі даследчых станцый. Так, Заходняя Грузія церпіць ад празмернага маладзямелля, змагацца з якім можна толькі праз палепшанне якасці апрацоўкі глебы і ўнядрэнне рэнтабельных культур. Адсюль зразумела, якое значэнне для інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі Грузіі маюць даследчыя станцыі.

Але калі Гегелія пачаў гаварыць пра хонскую даследчую станцыю і ў голасе яго пачала выяўляцца ўсё больш і больш прыметнае захапленне Александр, які да гэтага слухаў бязуважна, раптам заварушыўся на крэсле і кінуў на агранома такі позірк, нібы ў альтанку забраўся які незнаёмы.

«Нешта ён спявае сёння інакш»,—падумаў Александр і напружыў слых.

А агарном ужо выказваў сваё абурэнне, што некаторыя культуры даследчай станцыі церпяць ад неспрактыкаваных рук.

— Я даў сякія-такія ўказанні дырэктару, і ён са мной згадзіўся,—

задаволена заўважыў Ладо, дадаўшы, што ён ахвотна папрацаваў бы ў такой гаспадарцы, калі...

— Калі цябе паклічуць, хочаш ты сказаць?—груба перапыніў яго гаспадар.—Не разумею, дарагі Ладо, чаго ты лезеш у дарадцы да комуністаў. Ды хай яны згінуць са сваёй станцыяй!

Гегелія не чакаў такога раптоўнага нападу.

— Як гэта так?

— А так, каб і следу не засталося. Ну, што ж, хадзі давай парады, можа, злітуюцца, прымуць на службу.

Гегелія зірнуў разгублена і ледзь здолеў адказаць, што на станцыю пацягнула яго не служба, а любоў да сельскай гаспадаркі.

— Я не за комуністаў, хай згінуць,—замармытаў стары.—Але я не супроць такіх станцый. Яны нам патрэбны, нам, грузінам.

Александр зласліва пярэчыў:

— Ды з такімі палітыкамі далёка не паедзеш. Калі з сотню вас такіх набярэцца, ад Грузіі і пушынкі не застанецца. Ты, зразумей, што кожны камень закладзены комуністамі, кожная сцяна, якую яны муруюць, кожны сажань праведзенага імі канала толькі аддаляюць і паслабляюць надзею на наша вызваленне. Нельга дазваляць ворагу ўмацавацца, нельга даваць яму перадышкі. Яны ж акапваюцца на нашай зямлі, а ты ім дапамагаеш, раіш, ухваляеш. Але,—гаспадар зноў ухмыльнуўся,—ты, вядома, не такі наіўны каб пралічыцца ў такой простай арыфметыцы. У чым рэч? Чаго прэшся на ражон? Ты галадаеш? Гаруеш? Так? Тады ўсё зразумела. Быццё вызначае свядомасць, а трыбух—здраду радзіме. Ну, што ж, не ты першы, не ты апошні.

— Я... здраднік? Я, каторы праз усё жыццё...—стары закалаціўся, мітусліва пачаў азірацца, нібы шукаў якой падтрымкі.

Не чакаў ён ад швагра такіх суровых папрокаў. Але гэтая абраза надала яму больш смеласці. Тое, што да сённяшняга дня ён хаваў у сабе, асцерагаючыся, каб яго не палічылі за здрадніка, цяпер бурна прарвалася. Аграном сказаў:

— Я працягну руку кожнаму, хто дасць мне магчымасць прынесці карысць маёй радзіме. Меншавікі скасавалі мяне як агранома. І гэта тады, калі сельская гаспадарка гінула, яны прымушалі мяне бегаць з выбарчымі лісткамі, пазяхаць на сходах. Я верыў вам, калі вы называлі большэвікоў чырвонымі імперыялістамі, я таксама ненавідзеў іх. Але жыццё давяло іншае. Я нічога не маю супроць комуністаў, калі яны створаць яшчэ больш такіх гаспадарак.

— Ты забыўся, што ты грузін!—рэзка перапыніў Александр, стараючыся, аднак, не забыцца, што ён—гаспадар, а Ладо—госць. Гэта трэба было памятаць, каб не парушыць правіл гасціннасці і не выгнаць здурэўшага старога з дому.

— Не, не забыўся. Я—грузін і вось таму хварэю душою, калі бачу жабрацкую гаспадарку імерэціна. Але...

Гегелія разумеў, што падыйшоў да апошняй рыскі, і сам здзівіўся што так лёгка сек цяпер той вузел, каторы без ладу абмінаў тры гады. Аднак кожнае сваё слова ён узважываў, каб яго рашучы адказ не палічылі за ўпартасць, якая прыйшла ад запальчывасці, каб усё, што ён скажа сёння, яму не цяжка было-б з чыстым сэрцам падцвердзіць і заўтра.

Была адна хвіліна, калі Ладо здалося, што ўсё сказанае Александру, пярэчыць яго глыбокаму перакананню. Ён не мог пагадзіць у сабе агранома з палітыкамі, і гатоў быў пайсці не дагаварыўшы ўсяго, але зразумеў, што ўцекамі не вырвешся з абцугоў праклятага непакою, не паменшыш яго пакутаў.

Ладо, Гегелія не хацеў больш заставацца лішнім чалавекам у сваёй краіне. І пасля доўгіх хістанняў нечакана для сябе вырашыў: для яго, як агранома, павінна быць аднолькава, якога колеру сцяг лунае над Грузіяй. Абы тыя, што сабраліся пад гэтым сцягам, клапаціліся пра дабрабыт яго краіны.

—... Але калі быць грузінам—значыць адмаўляць неабходнасць такіх станцый,—рашуча казаў далей стары агранам,—тады я не хочу быць грузінам, таму што такі грузін—вораг Грузіі!

Абудвы змоўклі. Сваякі не маглі знайсці пагаджальных слоў, якія-б парушылі нудную цішыню. Гэтая цішыня яшчэ больш аддаляла іх адзін ад аднаго.

Яны зразумелі—больш ім гаварыць няма пра што. Усталі і з робленай ветлівасцю разышліся.

Была халаднаватая, светлая ноч. На шашы ляжалі цені высокіх чынар.

Ладо злез з каламажкі.

— Прыгожае надвор'е, пехатой дабяруся,—сказаў ён атарапеламу рамізніку.

Да Хоні было далёка, але агранома гэта ніяк не трывожыла. Ён не спяшаўся. Цяпер ён быў спакойны.

У тую ноч Ладо цвёрда вырашыў працаваць з комуністамі.

— Калі ты возьмешся за справу, ніякі сабака не адважыцца брахаць на наш лёс. Абое будзем на пенсіі,—цешылася Машыко, мізэрнага настаўніцкага заработка якой ледзь хапала, каб пракарміць сям'ю.

Да самай поўначы корпалася яна, выпраўляючы мужа ў дарогу. Прышыла гузікі к штанам, зацыравала шкарпэткі, а раніцай прынесла зіхацеўшую чыстатою, выпрасаваную бялізну.

— Уставай, збірайся! Чамадан не забудзься паправіць, не замыкаецца, пагубляеш яшчэ ўсё ў дарозе. А я зараз прыйду,—сказала яна і пабегла на біржу заказаць месца ў дыліжансе.

Ладо бялізну перамяніў, але зноў кінуўся на пасцель.

— Што ты робіш? Дыліжанс—зараз-жа пад'едзе,—закрычала Машыко, вярнуўшыся да хаты.

Ладо, заклаўшы далоні пад патыліцу, абыякава утаропіўся ў столь. Ён нібы і не заўважыў абурэння жонкі.

— Паслухай, пра што ты думаеш? Ці на-праўду парашыў замардаваць нас голадам? Зірні, колькі душ ты нішчыш сваёй упартасцю. Сам здыхляцінай зрабіўся!

Ладо прыўзняўся і пакорлівымі, вільготнымі вачмі зірнуў на жонку.

— Машыко, пашкадуй хоць ты мяне, не гань... Скажы, куды мне ісці, у якія дзверы стукацца? Памяркуй сама: толькі некалькі спагадных слоў вырвалася ў мяне пра комуністаў, як твой брат адрокся ад мяне. А што-ж скажуць прыяцелі, якіх і так у мяне не багата засталося? Яны ж узненавідзяць мяне, як толькі дачуюцца, што я паміраўся з комуністамі! Але нішто, я гатоў пасласць і прыяцеляў к чорту, хай ненавідзяць, усё знясу, абы толькі ведаць, ці зразумеюць комуністы маю шчырасць, ці працягнуць руку таму чалавеку, каторы два гады назад ганіў іх і ўдзельнічаў у антысовецкіх выступленнях? Падумай, які жах: пагубляць старых прыяцеляў—і не знайсці новых, адысці ад старога—і не далучыцца да новага! А я-ж у гадах, не лёгка мне адракчыся ад людзей, якіх ведаю з памятнай студэнцкай лаўкі. Але, паўтараю, я гатоў пакаштаваць і гэтай горкасці, я гатоў страціць старых прыяцеляў, але яны, новыя, прымуць?

— Значыць, з голаду загадаеш памерці?—завішчала Машыко, якая ўначы ўжо вылічыла, на што павярнуць першую пенсію мужа.

Такая недадуманасць жонкі да рэшты абразіла Ладо. У гэтую хвіліну самы блізкі чалавек раптам зрабіўся для яго самым далёкім.

І ён засмуціўся яшчэ больш. Як і раней праседжваў ночы на балконе, аплакваючы сваю маладосць, загубленую ў бязмэтных бадзяннях па сцежках Імерэтыі.

А хонскія анучнікі старанна спусташалі яго дом. Як толькі яны ўваходзілі ў двор, стары ўраз выскакваў, нібы ратуючыся ад землятрасення, каб толькі не бачыць дакорлівых поглядаў жонкі і дзяцей.

«Паміраць табе час, Ладо Гегелія. Тваё жыццё—толькі дым ад таго вялікага кастра, які калісьці раздзімала твая маладосць. Ты—лішні, ты—попел, які трэба выграбці і выкінуць з побыту новага пакалення. Нікому ты не патрэбен, без цябе абыйдуцца»,—стагнаў уначы стары аграном.

Ладо прызвычаіўся кожны дзень зранку бадзяцца па гарадскім саду. Заклаўшы рукі за спіну, ён цэлымі гадзінамі туляўся па зацененых сцежках, пасыпаных жоўтым мергелем. Калі стоміцца, прысядзе на лаўку пад чынарамі і слабым голасам гутарыць са знаёмымі купцамі, што сёлета не на лічыльніках шчоўкаюць, а перабіраюць ад суму чорныя пацеркі. Да хаты дабярэцца толькі а поўдні; хуценька паабедае і спяшаецца да каго-небудзь са знаёмых іграць у прэферанс.

Але аднойчы Ладо вярнуўся са шпацыру рана. Спалоханая жонка пабегла насустрач.

— Што здарылася? Ты змяніўся з твару. Колькі разоў казала—не выходзь з дому нашча. Нядобра табе?

— Дрэнна—ледзь перадыхнуў Ладо.—З радасці нядобра. Слухай...

Дрыглівымі рукамі разгарнуў газету і ў дзесяты раз перачытаў:

«Неабходнасць вызвалення тэкстыльнай прамысловасці ад замежнай залежнасці і пэўны недахоп плошчаў, годных пад пасеў бавоўны, ставяць перад намі задачу асваення новых відаў лубяных культур.

Аднак субтропікі Заходняй Грузіі, дзе бавоўна дае нязначныя ўраджаі, мы да гэтай пары не здолелі яшчэ скарыстаць пад іншыя тэхнічныя культуры, як напрыклад, кендыр, рамі, новазеландскі лён, кенаф і інш. Асабліва цікавым для нас з'яўляецца рамі, які дае ў нашых умовах высокія ўраджаі. Таму натуральна, што рамі павінен заняць у нас у радзе іншых тэхнічных культур першае месца. Маладаходную кукурузу павінны замяніць каштоўныя лубяныя!»

У той жа газеце невялікая заметка паведамляла пра адчыненне недалёка ад Кутаіса, у вёсцы Квахчыры, Закаўказскай навукова-даследчай станцыі «Кендыр-рамі», задачай якой з'яўляецца вядзенне даследчай работы з лубянымі культурамі і снабжэнне расадай соўгасаў і калгасаў.

Аграном чытаў газету і штохвіліны ўстаўляў свае заўвагі:

— Ну, наконт зялёнага рамі памыляецеся, ніяк ён не вытрымае замаразкаў... А гэта правільна... І зноў не так... Што да вырабу валакна, дык у мяне тут свае метады, і я даведу іх перавагу...

Нарэшце склаў газету і праказаў:

— Нібы зноў нарадзіўся. Бальшэвікі ажыццяўляюць мае мары. Яны павінны скарыстаць мяне, я ім патрэбен. Маё рамі кліча мяне.

І стары аграном загадаў навесці парадак у яго рабочым габінеце, які даўно ўжо быў ператворан у кладоўню. Ладо рэдка заходзіў туды, таму з восені жонка загрузіла яго спярша банкамі з сырамі і рознымі саленнямі, а пасля, калі ў лютым нечакана прыціснуў мароз, перацягнула туды з кухні і двох квактух.

На наступны дзень аграном замкнуўся ў сваім габінеце. Трэба было пачынаць усё нанава. Са скрынак пісьмовага стала выцяг перапіску з

замежнымі фірмамі, запыленыя сшыткі з выцвілымі запісамі і заўзята пачаў аднаўляць дакладную запіску, якую знішчыў быў у тую ноч, калі ў Грузіі ўсталяваўся савецкая ўлада. Стары дзівак прачнуўся...

Дакладную запіску паслаў у Камісарыят земляробства.

Стары стаміўся, чакаючы два тыдні адказу. Ён стараўся запоўніць вольныя дні якой-небудзь справай. Яго згорбленая фігура мільгала то ў садзе, то ў гародзе, то каля прыбіральні, дзе ён прыладжваў сарваныя свіннямі дзверы. Нарэшце, калі не хапала ўжо і цярплівасці, узлез на кухню і пачаў падпраўляць прагніўшую страху. Такім сваім спрытам ачуняўшы стары здзівіў усіх хатніх і суседзяў.

Увечары, стомлены, кідаўся ў пасцель і пакутваў ад неадчэпнай трывогі: «А што, калі не паклічуць?»

Трэці тыдзень канчаўся, калі раптам а поўдні аграном з неўласцівай для яго жвавасцю ссунуўся са страхі: ля форткі стаяў лістаносец.

Узяўшы дэпешу, стары аднак не адважваўся зараз-жа яе прачытаць. Прысеў на зямлю і толькі цяпер адчуў усю стому, што адольвала яго за доўгія дні чакання гэтага шматка паперы.

Цяпер ён адпачываў. Яго лёс вырашан. Зараз аграном або зноў пацягнецца ў гарадскі сад да лішэнцаў-гандляроў, або...

Павольна пачаў разгортваць дэпешу. Загнуў кончык і... разам разгарнуў.

На другі дзень Ладо Гегелія не відаць было ні на страсе, ні ў алеях гарадскога сада. Трэст «Кендыр-рамі» тэрмінова выклікаў яго ў Тыфліс.

Праўда, апрача некаторых указанняў гістарычнага парадку, у яго запісцы нічога новага не было, але яна была складзена з такім вялікім веданнем і з такой шчырай любоўю да справы, што паказала, які ёсць у Грузіі вопытны знаўца лубяных культур, не скарыстаны да сёнешняга дня, не гледзячы на вострую патрэбу ў такіх спецыялістах.

Праз два дні аграном Гегелія быў прызначан тэхнічным дырэктарам Закаўказскай навукова-даследчай станцыі трэста «Кендыр-рамі» ў вёсцы Квахчыры.

Пераклаў **Хв. Шынклер.**

Ф. Альшэўская

*Я. Коласу паэту—чалавеку прысвячаю.*

# НА ЧЫІМ БАКУ

## АСОБЫ

ШЛЁМА—мястэчковы кравец, 42 гады.
ХАЯ—яго жонка, 36 год.
ЛЕЙЗАР—19 год
МОТКА—11 год
БЕРКА—10 год
ЯНКІЛЬ—9 год
ЛЭЙКА—8 год
ЛЕЙБЭЛЭ—7 год
(іх дзеці)
КАНДРАЦІХА—бедная мяшчанка, 30 год.
КОСЦІК—сын яе, 12 год.
ПШЭСМЫЦКІ—паліцэйскі, 30 год.
„ПАННА КРЫСТА"—пані Дудзінская, ксяндзоўская гаспадыня, 32 г.
ПАРУЧНІК, 27 год.
САЛДАТ, 23 гады.
СТАСІК, комсамолец, 20 год.

Бедная яўрэйская хата раздзелена квяцістай фіранкай на дзве палавіны. У той палавіне, што ад уваходу, стаіць каля акна вялікі стол. Каля стала тры табурэткі, ля сцен зэдлікі. Каля адной сцяны камода, прыкрытая вязанай чырвонай старой сарвэткай. На камодзе самавар, каля яго—некалькі талерак. Над камодаю на сценцы некалькі заседжаных мухамі фатаграфій. На сцяне люстэрка, досыць вялікае і, як на такую бедную абстаноўку, досыць добрае. На сцяне каля люстэрка, на цвіках вісіць некалькі старых, абшарпаных журналаў мод, некалькі выкраек. Каля парогу на зэдліку вядро з вадой, міскі, лыжкі.

За фіранкаю стаяць два ложкі. Ложкі пакрыты каляровымі старымі коўдрамі. Шмат падушак у чырвоных навалачках. На ложку спіць Лейба—у першай палавіне хаты на стале ляжыць пакроены матэрыял.

Шлёма, з матком белых нітак і сантыметрам на шыі, складвае кускі, прымервае, фастрыгуе.

Лейзар сядзіць у канцы стала і ўвесь час рупна шые. Хая мые ў начоўках бялізну.

Шлёма *(спявае).*

Хоць кравец я здатны, модны,
А ўвесь век жыву галодным,
Ай-я-яй!
Хоць ад працы ныюць плечы,
А дзяцей карміць мне нечым!
Ай-я-яй!

Хая *(выпростваючыся каля начовак, у руках бялізна, гаворыць хутка).* Шлёма! Скажы ты мне, Шлёма, чаго гэта ты сёння расхадзіўся? У хаце кавалка хлеба няма, а ён пяе! Тут плакаць трэба.

Шлёма. Ай, ай, Хая, ты гэткая разумная кабета, а не цяміш, што калі я буду плакаць—дрэнныя людзі будуць з мяне смяяцца, а калі я буду пець, то гэтыя самыя людзі будуць мне зайздросціць. Хай-жа мне лепей зайдросцяць. *(Пяе паддабрываючыся да яе).*

Хоць галодны жыву век—
Я сумленны чалавек!
Ай-я-яй...
Мая жонка—адна ў свеце,
Разумныя ў мяне дзеці,
Ай-я-яй...

Хая. Шлёма, а Шлёма! Калі ты сціхнеш? Зусім з глузду з'ехаў. Разбудзіш Лейбэлэ, а той зараз есці. А чаго я яму дам? Чаго я яму дам?

Лейбэлэ *(прачнуўся, садзіцца, кліча).* Мама! Мама!

Хая. А што! Мішугенер! *(У бок фіранкі).* Іду, мой Лебэлэ, іду, маё золата! *(Кідае бялізну, ідзе за фіранку, лашчыць Лейбэлэ).*

Лейзар. Тата! Чаму ты, тата, не слухаеш мамы? Чаму ты ёй насуперакі? Чаму ты спяваў?

Шлёма. Я не слухаю? Я насуперакі? Чаму я спяваў? А няўжо-ж было-б лепш, каб я кусаўся? Каб я біў галавой аб сцяну? Рваў валасы? Ужо тры дні, як мы хлеба ў вочы не бачылі. Учора прыслалі дваццаць злотых падатку, а дзе ў мяне капейка? Дзе ў мяне капейка? Не сёння-заўтра апішуць падушкі і так, як машыну, прададуць, выкінуць з кватэры, бо ўжо за два месяцы не заплочана. А ты кажаш, я насуперакі... Я пяю, каб не крычаць ад роспачы! Ты, Лейзар, павінен гэта разумець.

Лейбэлэ *(усё яшчэ на ложку, пры ім Хая, цягне).* Е-э-эс-ці-ы! Е-э-эс-ці-ы! Мама, ес-ці-ы-ы. Хле-э-э-ба-а-а...

Хая *(лашчыць яго).* Ціха, маё золата! Не плач, мая рыбанька! Не плач, маё роднае! Мама твая вымые, высушыць, выгладзіць бялізну, а ёй за гэта дадуць грошы. Тады мама купіць свайму Лейбэлэ хлеба. Многа хлеба *(паказвае).* Во гэтулькі! І халы купіць.

Лейбэлэ *(плача).* Е-э-э-эс-ці-і-ы! Е-э-э-эс-ці-і-ы! Хле-э-э-ба-а-а! Ма-ла-ка-а-а!

Хая *(усхвалявана).* Якога хлеба? Якога малака? Адкуль малака?

Лейбэлэ. Малака ад козачкі-і-ы!

Хая. Што за козачка? Якая яшчэ козачка!

Лейбэлэ. Ты ўчора казала, што купіш козачку і яна будзе даваць салодке малачко.

Хая *(хапаючыся за галаву).* Ой, гора маё! Ой, гора! Калі я сёння бялізну скончу? *(Да Лейбэлэ злосна).* Перастанеш ты сёння, няшчасны! А то я табе зараз дам такога хлеба, такога малачка, што век не захочаш.

Лейбэлэ *(плачучы ва ўвесь голас).* Ма-а-а-ла-а-ка-а-а! Хле-э-эба-а-а-а!

Хая *(тармосячы яго за плечы).* Сціхні! Сціхні! Я табе кажу, сціхні!

Шлёма *(паспешна ідучы за фіранку да Лейбэлэ).* Ай, Хая! Хая! Гэтакая разумная жанчына, а не ўмее абыходзіцца з дзіцем. Хадзі да мяне, Лейбэлэ. Хадзі, сынок! Будзеш мне памагаць шыць. *(Хая, як толькі Шлёма ўвайшоў за фіранку, ідзе паспешна да начовак і заўзята мые. Шлёма зсаджвае Лейбэлэ з ложка, вядзе яго да стала).* Мой Лейбэлэ будзе вялікім майстрам. У яго будуць нажніцы. Ён імі

будзе чык-чык-чык! У яго будзе вялікі бліскучы напарстак *(садзячы на зэдлік)*. Мой Лейбэлэ сядзе во гэтак—і будзе шыць разам з сваім татам *(адзяе яму напарстак)*. Вось яму напарстак. А во гэта ён будзе трымаць *(дае матэрыял)*. Толькі добра трымай, а я буду шыць *(шые)*.

Лейбэлэ. Тата, я есці хачу.

Шлёма *(шыючы)*. Есці! Есці! На што табе есці! Няхай воўк есць. Няхай мядзведзь есць. Няхай пан есць! Няхай паліцыянт есць! У іх вырасце пуза *(паказвае)* во такое! А потым гэта пуза лопне: гухх-гухх! І не будзе ні пана, ні паліцыянта! А ў Лейбэлэ пуза не лопне і ён будзе жыць-жыць, жыць-жыць, гэтак доўга, як адгэтуль да лесу.

Лейбэлэ. Тата, я хачу малака.

Шлёма. Ты, Лейбэлэ, малака хочаш? Яшчэ наша козачка ў лесе бегае і наша малако ў яе.

Лейбэлэ. Чаму наша козачка ў лесе бегае?

Шлёма. Бо яна чакае, пакуль яе Лейбэлэ зловіць.

Лейбэлэ *(нейкую хвіліну маўчыць)*. Ес-ці-і-і-ы. Ма-ла-ка-а-а-а!

Шлёма. І зноў Лейбэлэ зацягнуў воўчую песню. Есці-ау-у-у-у! Есці-ву-у-у-у-у! Ты вось трымай мацней, ды давай, брат, заспяваем мы з табою, мо' козанька пачуе і да нас прыбяжыць. Ну дапамагай! *(спявае)*.

Пашоў Лейбусь у лясок.
Трай-лі-лі, бом, бом!
Зловіў казу за хвасток,
Трай-лі-лі, бом, бом!
Пойдзем, козка, да нас жыць,—
Трай-лі-лі, бом, бом!

Лейбэлэ. А дзе тая козачка? А дзе тое малако?

Шлёма. Яшчэ ў лесе.

Лейбэлэ. А дзе гэты лес?

Шлёма. Дзе гэты лес? Гэты лес у песні.

Лейбэлэ *(цягуча, жаласна)*. Ес-э-эес-ці-і-і- Ес-ээ-ці-і-і-ы-ы-ы-ы...

Хая. Ой, гора маё! Ой, ой-ой! Чаму мая доля ў вадзе не ўтанула! Чаму яна наверх лесу не пашла! Чаму я дажыла де таго, каб мае вочы глядзелі на голад маіх дзяцей, каб мае вушы слухалі іх галодныя енкі!.. *(Гаворачы гэта хутка накладвае на бярэмя бялізну, ідзе да дзвярэй)*.

Шлёма *(з трывогай)*. Хая! Хая! Куды ты, Хая?

Лейзар *(умольна)*. Мама! Мама!

Хая. Кыды я? Куды *(доўгая пауза. Хая акідвае пазіркай устрывожаных Шлёму і Лейзара, мякка, сардэчна, супакойваючы)*. Чаму вы думаеце што я ў вір галавой? Я-ж—Сара Беркава! У мяне яшчэ бог розуму не адабраў. Вы не думайце благога. Я іду бялізну паласкаць, на Курыны Брод.—Праз вакно відаць *(выходзіць)*.

(З хвіліну трывае цішыня. Лейзар і Шлёма шыюць. Абодвы час ад часу пазіраюць у акно. Лейбэлэ цягне сваё „есці").

Кандраціха *(уваходзіць у хату, за ёй Косцік. У руках у іх клумкі)*. Дзень добры! Як маецеся? Ці дужы-крэпкі!

Шлёма. Дзень добры! Дзень добры! Вялікі воўк у лесе здох, што пані Кандраціха да нас прышла. З поўгода, як вас не бачылі. Сядайце!

*(Падсоўвае зэдлік)*. А Косцік які вырас! Ну, як жывеце? Што добрае чуваць?

Кандрацiха. *(садзіцца, Косцік каля яе. Косцік вельмі несмелы)*. Няма пра што расказваць—не жыву, а гарую.

Лейзар. А як Кандрат? Піша? Што ў яго?

Кандрацiха. Надоечы пісьмо атрымала—адно за шэсць месяцаў—просіць клапатаць, каб суд хутчэй вышаў. Ужо чалавек-бы ведаў—ці тое, ці гэта. А так тое, што да суда сядзіць, не залічваецца. Не ведаю, куды што падаваць. Бегала да ксяндза, каб прашэнне напісаў —прачытаў. «Я—кажа—з большавіцкай заразай не размаўляю». Стасік Зарэмбаў, дай бог яму здароўя, паслухаў. Чаго-ж гэта дзіця ў вас ные?

Шлёма *(На твары боль—але Шлёма перамагае яго, спакойна)*. Ведаеце-ж дзяцей! Як заладзіць што, дык каб не збіцца.

Кандрацiха. Каторы гэта? Янкіль?

Косцiк. Лейбусь.

Кандрацiха. Бачыш ты, як яны адзін аднаго ведаюць. Ведаеце, з гэтымі дзецьмі і смех і грэх. Бадай цэлы ціятр быў з імі. Арганістаў хлопец—старэйшы, што ў гімназіі, ну ведаеце—гэты самы большы—дылда, ўжо роўны з бацькам...

Косцiк. Збышка.

Кандрацiха. Ну вось, гэты самы Быська пачаў шпурляць каменнямі ў вашых дзяце—ну, у вашых.—Ну, Бэрку, як даў, дык той і кроўю заліўся. Бачылі гэта ўсе. Док вось назаўтра, мой, Марцінавы, Нупрэяў згаварыліся—падышлі да гэтага Быські. «Давай—кажа—у рыбу». Адвялі да рэчкі, спусцілі там яму штаны, ды крапівой. Вось падшывальцы! А цяпер цэлая справа заводзіцца на іх—большэвікі. Што ты будзеш казаць!

Лейбэлэ, які спачатку слухаў апавяданне Кандрацiхі, цяпер зноў завёў сваю песню—„есці"!)

Кандрацiха. *(услухоўваецца)*. Дзвесці-дзвесці—Нічога не разбяру.

Шлёма. Не звяртайце ўвагі. Паплача і сціхне.

Лейбэлэ *(невыразна)*. Хле-э-э-ба-а-а-а!

Кандрацiха. Трэба! Чаго-ж табе трэба, мая ягадка?

Косцiк. Не трэба, а хлеба.

Кандрцiха. А мой ты галубок! Чаму-ж ты не сказаў адразу. Зараз, зараз. Ёсць у мяне хелб *(развязвае пакунак)*. Гэта-ж я сабрала Карольцы палуднаваць—яна сёння адпасвае. *(Дастала хлеб, ломіць папалам, дае)*. На, саколік, еж, мая красачка.

(Лейбэлэ сквапна бярэ і адразу пачынае есці).

Шлёма. Нашто гэта? Калі ў нас сёння хлеб вышаў—дык можна пацярпець. Мо' маці хутка прынясе.

Лейбэлэ *(ядучы)*. У цябе і малако ёсць?

Кандрацiха. А мая ты ясачка! *(Гладзіць яго па галоўцы)*. Малака, лябёдзіку, мы і не каштуем. Усё да звання прадаем, каб на падатак сабраць. Вось пазаўчора прыслалі пяць злотых за дым і дзесяць за вокны. На, табе, верабейка, маркоўку, агурочак яшчэ адзін.

Лейбэлэ *(радасна)*. Тата, бачыш, тата! *(паказвае)*. На табе, тата! А гэта Лейзару *(дае гуркі)*.

Шлёма *(адмахваецца)*. Адчапіся, Лейбэлэ! Еш сам, калі выпрасіў, сараматнік.

Лейбэлэ. Я без цябе не буду. Я адзін не буду.

Кандрацiха. А мая ты птушыначка! Еш, Лейбачка, еш! Тату я дам. У мяне яшчэ ёсць.

Лейбэлэ (*ядучы*). А хлеба?

Кандрацiха. І хлеба дам. Косцiк збегае да хаты, возьме Карольцы. І гуркоў у агародзе нарве. (*Кладзе развязаны клумак на стале—у iм хлеб, агуркi*). Калi ласка, пане Шлёма! Лейзар, бяры!

Шлёма. Што вы гэтаму шчанюку патураеце? Мала што дзiця ўздумае.

Кандрацiха (*запрашаючы*). Ды кiньце вы гэта! Бярыце! Бярыце! У вас-жа гароду няма, а ў мяне ў гэтым годзе, дзякуй богу, гуркi зарадзiлi. Заўтра я вам капы са дзве выбяру. Даўно трэба было, ды ў галаву не прышло.

Шлёма. Дзякую вам, дзякую. Але я есцi зусiм не хачу! А сыравiны я баюся. Калi ўжо вы так намагаецеся, дык я пару штук вазьму для Хаi. Яна ў мяне аматар на зелень.

(Лейзар прагна есць. Шлёма адлажыў два гуркi. узяў кавалачак хлеба, пашчыпвае яго i есць, нiбыта яму няма чаго рабiць).

Кандрацiха. Пане Шлёма, я да вас з вялiкаю бядой.

Шлёма. Ну, калi вашу бяду збядаваць можна, дык памагу.

Кандрацiха. Косцiку абавязкова трэба да першай споведзi, а то налета яго ў школу не прымуць. Пашоў гэта Косцiк да ксяндза на тую катахiзму, а той яго прагнаў, што ў гэткай адзежы (*пакручвае Косцiка*)—богу абраза. Вось, пане Шлёма, будзь бацькам, перашый гэта (*дастае з клумка, што быў у Косцiка, i расхiнае, паказваючы дзве спаднiцы*). Яму на касцюмчык, ды такiм фасонам, каб богу пад лад. Гэта яшчэ мае—дзявоцкiя.

Шлёма (*бярэ ў рукi, разглядае*). Чаму не перашыць! Можна, толькi шкода на малога гэткую адзежыну псаваць. Матэрыял дужа добры.

Кандрацiха. Пасажныя. І мне шкода, дый як шкода. А купiць-жа няма за што.

Шлёма. Ну, пане Канстанты, давай мерку знiмем. (*Бярэ мерку сантыметрам*). Ну стой-жа роўна, не дрыгай. О, гэтак!

Кандрацiха (*нясмела*). Пачакайце, пане Шлёма! Галоўнага я не сказала. Плацiць за работу ў мяне нечым... Хiба толькi, гароднiнай i бульбай.

Шлёма. Ну, чаго плацiць? Нашто плацiць? Цi мы не суседзi? Толькi не трэба гаварыць, што Шлёма абдзiрае, што ён тры злоты за работу садраў, каб не было часам прычэпкi.

Кандрацiха. А каб вам век бяды, гора не знаць! Каб вам век здаровымi быць! А то пашла я да Завалы—Кандрат-жа кожнае лецейка зямлю яму ўзрабляў. Так ды так, паночку! Дык i слухаць не захацеў! Гаварыць не даўся. «Няма—кажа—дурняў! Звялiся! Ды яшчэ каму каму, а то жонцы большэвiка, што ў турме сядзiць! Ідзi—кажа—да большэвiкоў, там табе гатовае дарма дадуць!» А яго чаляднiкi ў рогат.

Шлёма (*якi ўжо зняў мерку, схiнуў i палажыў у стол спаднiцы*). А калi вам трэба?

Кандрацiха. Ваша ласка, пане Шлёма! Яно чым хутчэй! Бо катахiзма тая кожны дзень iдзе. Каб гэта да фэсту—ксёндз ганiць. А прапусцiць мой—ксёндз зноў прычэпiцца.

Шлёма. Ну добра, добра—заўтра да абеду будзе гатова.

Кандрацiха. А каб вам здароўя. Век не забуду.

(У хату ўбягаюць: Мотка, Борух, Янкiль, Лэйка, Мотка без портак у кароткай кашулi. Як убачыў Кандрацiху, зашыўся за дзяцей).

Дзецi (*усхвалявана паспешна, усе разам*). Мама! Мама! Мама!

Берка. Дзе мама?

Шлёма. На што вам мама? Што зрабілася?
Янкіль. Мотка злавіў дзесяць ракаў.
Берка. І я яму памагаў.
Лэйка. Мы ўсе злавілі. Я іх у порткі заганяла.
Шлёма. Як у порткі? Чаму ў порткі?
Берка. Лавіць было нечым, дык Моська здагадаўся.
Янкіль. Скінуў порткі, ды завязаў калошы.
Лэйка. А порткі зачапіліся за корч, ды на дзве палавіны.
Янкіль. І ў нас зрабіліся два венцяры.
Шлёма. А дзе Мотка?
Дзеці *(расступаюцца)*. Вось ён! Вось ён!
Шлёма. Мотка, дзе твае порткі? *(Да дзяцей)*. Дзе яго порткі?
Лэйка. Яго порткі на дварэ.
Берка. Мы ў кожную палавіну па пяць ракаў.
Янкіль. І яны ў Мотказых портках па ўсім дварэ гарцуюць.
Шлёма. Ай-яй-яй! Што цяпер рабіць? *(Да Моткі)*. Я табе, гарэза, усе вушы паабрываю *(з роспачу)*. Адкуль я цяпер вазьму табе порткі! Ты мне скажы, адкуль я табе вазьму порткі!
Лэйка. Тата! За ракі можна ўсе порткі ў мястэчку пакупляць.
Янкіль. За фігу, а не за ракі. Я ўсіх ракаў не дам—пяць мама на абед зварыць.
Берка. І так будзе куча грошай, бо яны здаравенныя, як ксяндзовы жарабцы!
Шлёма. *(усміхаючыся сумна)*. Ах, вы шалапуты! Мільянеры амерыканскія. А пакуль ракі прадасце, як-жа будзе Мотка? Без портак—ані за парог—гразёю зашпурляюць, дый аштрафуюць.
Лэйка. А я яму сваю шабасовую спадніцу *(знімае з шаста квяцістую спадніцу)*. На, Мотка!
Мотка. Я не баба. Я свае порткі адзену: Адну калашу на адну нагу, другую на другую, вяровачкай падпяражуся, а кашулю паверсе—ніхто і не спазнае. Толькі дзе тая мама? Няхай яна хутчэй ракі забірае.
Шлёма. Мама бялізну палошча.

(Усе дзеці ў момант кідаюцца на двор, з імі і Косцік).

Шлёма. І бяда, і смех з гэтымі дзяцьмі.
Кандрацiха *(смяючыся)*. Дайце рады! Адна ўмора! *(Смяецца)*. Ха-ха-ха-ха! Трэба-ж прыдумаць. *(Перастаючы смяяцца)*. А вы, пане Шлёма, памяркуйце—мо', выйдуць двое—будзе і майму, і вашаму. Косцік! *(Аглядаецца)*. Куды-ж ён дзеўся?
Лейзар *(які ўжо даўно з усмешкай глядзеў у акно)*. Вунь ён! Каля ракаў.
Кандраціха *(глядзіць у акно. Шлёма—таксама. Усе смяюцца)*. Падэрвы—вось-вось што яны вытвараюць! Ну і заседзелася я ў вас. Бывайце здаровы. Дзякую вам, пане Шлёма. Я сёння прышлю вам дзецьмі кошык бульбы—скараспелку ўжо капаю.
Лейзар. Будзеце пісаць Кандрату—кланяйцеся ад Саўкі—і больш нічога. Разумееце?
Кандраціха *(ужо ад парогу)*. Добра, добра. Разумею. Усё разумею.
Шлёма *(калі Кандраціха вышла)*. Лейзар! На што табе, Лейзар, гэтыя паклоны? На што твая галава шукае гуза? І без таго цяжка. А калі, крый божа, што-якое, тады зусім прапалі! Паглядзі на што Кандраціха стала падобна.—Гэткая была жанчына, а цяпер як тая вадавозная кляча—ледзьве ногі цягае.
Лейзар. І не дзіва—сама месяцаў тры прасядзела. А цяпер адна—трое дзяцей.

Шлёма. Ну, пэўна Кандрат хутка вернецца.

Лейзар. Не, тата, адтуль хутка не вяртаюцца—з год пасядзіць да суда, а засудзяць, не менш, як на дзесяць, бо яго-ж прызнаюць комуністам. А цяпер, пасля таго, як нашлі ў лесе забітага гэтага даносчыка-правакатара Пжэтака, яны ўсе раз'юшаны, як сабакі шалёныя.

Шлёма. Лейзар! Чаму ты, Лейзар, так многа ўсяго ведаеш. Чаму табе ведаць, хто даносчык і хто шалёны? Лейзар? Я ўсё разумею, я ўсё ведаю. Кінь ты гэтую справу. Гэта страшная справа. Калі з табой што якое, і мяне тады возьмуць. А што тады зробіць маці з пяцярыма дзецьмі? З голаду пазаходзяцца. Ай-ай—мне страшна падумаць, Лейзар! Лейзар, не нам, бедным, у гэта мяшацца!

Лейзар. А каму мяшацца? Каму? Ксяндзу? Завале? Або Ясне і пану Чапскаму? А далей гэтак жыць нельга! Сілы няма цярпець! Ĭ здзек і голад. Тата, мяне сёння ад рання пад лыжачкай смокча, смокча, кішкі скручвае—так есці хочацца. Ĭ ў цябе таксама, бо і ты не жалезны. Калі сёння Лейбэлэ па сабачаму скавытаў «есці»—я не мог слухаць. Я ўсе губы пакусаў—іголкі дзве зламаў. А мама—як здань! Ад ветру хістаецца, а мусіць працаваць. Ĭ такіх, як мы, многа... Тысячы... мільёны... Ĭ ўсе мы працуем з апошніх сіл, да апошняга ўздыху на каго? На злыдняў-дармаедаў. За наш голад, за наш крывавы мазоль яны раскашуюцца—банкетуюць. Годзе! Годзе! Трэба рабіць канец! Як гэта зрабіць—паказаў нам Ленін.

Шлёма (*спалохана падскаквае да яго, закрывае яму рот рукою*). Ш-аа! Шаа! Лейзар, ты звяр'яцеў (*Трывожна азіраецца*). Цяпер сцены з вушамі! Што ты сказаў, Лейзар! Што ты сказаў?

Лейзар. Праўду сказаў.

Шлёма. Ой, ой! Што з таго, што гэта праўда? Перш за ўсё я твой бацька і табе не дазваляю губіць маіх дзяцей. Калі ты, Лейзар, мой сын, ты павінен мяне паслухаць.

Лейзар (*умольна*). Тата! Тата!

Шлёма. Шаа! Ані слова! Я сказаў. Ён хоча галавой сцяну прабіць. (*Хвіліну трывае цішыня, аводвы шыюць заўзята. На дварэ чуваць нехта пяе. Голас што раз набліжаецца. Ужо можна разабраць*).

Шлёма. Куды гэта Пшэсмыцкага нясе?

Лейзар (*Пазіраючы ў акно*). Да нас прэцца!

Шлёма. Ай бяда на нашу галаву! (*З грукатам расчыняюцца дзверы—Пшэсмыцкі, які ўвесь час пяе, з разгону стукаецца галавой у вушак*).

Пшэсмыцкі (*хапаючыся за лоб*). Холера сярчыста! Пся крэў!

Шлёма (*які ўжо ўскочыў і са страхам падбег да дзвярэй*). Ай, ай! Ай! Вяльможны пан не прыгнуў галавы.

Пшэсмыцкі (*трымаючыся за лоб абедзвюма рукамі*). Мільч! Гэта не дзверы, а пастка! У сабачай будцы большыя.

Шлёма. Няхай вяльможны пан чым халодным (*да Лейзара, які ўвесь час неўзаметку ўхмыляецца, засланяючыся шытай адзежынай*). Лейзар, чаго ты сядзіш, разявака! Падай хутчэй што-небудзь халоднае. (*Лейзар ускаквае, падае жэлязка*). Хай вяльможны пан гэтым прыложыць (*перадае ўзятае ад Лейзара жэлязка. Пшэсмыцкі прыстаўляе да лба*). Няхай, вяльможны пан, прысядзе. Яно зараз пройдзе, як бы і не было.

Пшэсмыцкі (*які нязграбна раскірачыўшыся садзіцца на паданым паслужлівым Шлёмай крэсле*). Хто вам, пся крэў, дазволіў такія будкі будаваць! За гэта трэба штрафаваць, у вастрозе гнаіць! Як бога едынага кохам.

Шлёма. Вось гэта, вяльможны пан, залатое слова сказаў! Сапраўдныя будкі ставяць, а грошы дзяруць, як за што добрае.

Пшэсмыцкі. А хто гэта з вас дзярэ?

Шлёма. Ясны пан Дзедзіц з Гаруцішак. Дзесяць злотых у месяц.

Пшэсмыцкі. А чаму такую арэндуеш? Вось пачакай, псявяра, хутка выйдзе закон, які абавяжа ўсіх краўцоў і іншых жыць у адпаведных кватэрах, бо гэта-ж месцы публічнага карыстання.

Шлёма. А плаціць кватэрныя хто будзе?

Пшэсмыцкі. Іш куды ён гне! Захочаш, каб к табе людзі хадзілі— заплаціш. Ну, ужо не баліць (*адымае жэляэка, ідзе да люстэрка, глядзіцца*). Балазе знаку няма, а то табе, Шлёма, не паздаровілася-б. (*Ухмыляючыся, у форме жарту*). Як бога едынага кохам, развітаўся-б ты са сваімі пейсамі!

Шлёма. Сто гадоў здароўя вяльможнаму пану за яго жарты. А што пану шчасце, то гэта больш як пэўна.

Пшэсмыцкі. Якое-ж такое шчасце?

Шлёма. Што вяльможны пан, хай ён на здароўе носіць, стукнуўся, ды яшчэ самым лбом.

Пшэсмыцкі (*падскакваючы*). Ты што, зладзюга? Смяяцца ўздумаў? Як бога едынага кохам! (*замахваецца*).

*Шлёма (Адступаючы, ухіляючыся)*. Чаго вяльможны пан у такой горонцай вадзе купаўся! Хай пан даслухае да канца. Стукнуцца ды яшчэ лбом, ды так ёмка, як вяльможны пан—гэта вельмі добрая прымета. Гэта значыць, што таму чалавеку ў нечым вельмі пашанцуе. У нас на ўсё ёсць тлумачэнне.

Пшэсмыцкі. Брэшаш, недаврак!

Шлёма. Чаго брэшаш! Нашто брэшаш! Я вяльможнаму пану з прыкладу раскажу. Вяльможны пан ведае Янкіля Залмана—ён вокны шкліць. Дык вось гэты самы Янкіль тры гады стараўся, каб яго сына ў гімназію прынялі. Што ні рабіў, нават у самую сталіцу ездзіў. І нічога! Ужо Янкіль і думаць перастаў. І вось мінулай восенню ідзе Янкіль позна ўвечары дахаты. Цемра была, хоць пальцам у вока. Ідзе Янкіль, ідзе, ды як гакнецца галавой аб слуп, на якім некалі ліхтар быў, ды так, што без памяці расцягнуўся. Дзякуй, людзі добрыя ішлі, няжывога дахаты прынеслі. І што, вяльможны пан, думае? Назаўтра зранння дазвол прышоў. Хоць пасля гэтага праляжаў Янкіль у больніцы тры месячы, хоць і аслеп на адно вока, бо на цвік, што ў слупе, напароўся, але аб гэтым здарэнні з радасцю ўспамінае. Во якая гэта добрая прымета. Дык вось, як я дабра сваім дзецям жычу, так жычу вяльможнаму пану хоць праз дзень так стукацца.

Пшэсмыцкі (*які ўважна прыслухоўваецца, задуменна, больш да сябе*). А для мяне, што-б гэта мела значыць?

Шлёма. Што мела-б значыць? А вось што. Праз два дні фэст. Наедзе многа паненак і гэтыя паненкі будуць біцца за вяльможнага пана. Вось што гэта значыць.

Пшэсмыцкі (*смяецца задаволена*). От уласне дзеля гэта фэсту я і прышоў да цябе. Пашый мне гарнітур, ды такі, каб сапраўды паненкі біліся.

Шлёма. (*напалохана*). Ай, ай, ай! Чаму так позна! У мяне ўся работа на фэст. Чаму, вяльможны пан, не раней?

Пшэсмыцкі. Гарнітур я мець павінен—і баста!

Шлёма. Ай, ай, ай! Што рабіць! (*Чухае патыліцу*). Прыдзецца іншую работу адлажыць. Ну, няхай вяльможны пан пакажа матэрыял. Дамовімся, які фасон.

Пшэсмыцкі. Матэрыял возьмеш ты. Ты спец—ведаеш. Цябе не ашукаюць. Або шэры каверкот, або цёмна-сіні бастон—толькі каб на зэкс.

Шлёма. Чаму мне не ведаць! Кожны матэрыял ведаю. (Во як ведаю. А ўжо для вяльможнага пана выбяру добры. Цяпер пойдзем?

Пшэсмыцкі. Я зусім здаюся на цябе, Шлёма! А хадзіць мне некалі! У мяне служба.

Шлёма. Ну, можна і так. Я пану рахунак прынясу: Колькі заплаціў: Хай вяльможны пан дае грошы. Я пабягу.

Пшэсмыцкі. Як ты не разумееш, Шлёма! Ты за свае, а потым—палічымся.

Шлёма. Каб у мяне бяды-гора не было, як у мяне капейкі за душою няма. Вяльможны пан жартуе!

Пшэсмыцкі. Можаш узяць у крамніка на павер. У вас-жа адна хэўра.

Шлёма. Хто цяпер дае на павер? Ды хто Шлёму дасць на павер! Вяльможны пан жартуе.

Пшэсмыцкі *(з ярасцю)*. Вось якая мне падзяка за тое, што цэлы тыдзень чакаю пакуль заплаціш падатак. Давай дваццаць злотых!

Шлёма. Ай-ай-ай! Я хацеў-бы ад шчырага сэрца, з дарагой душы пашыць і падарыць вяльможаму пану гарнітур за яго ласку да мяче, за яго далікатнасць. Але каб мне так бяды-гора не мець, як я і капейкі не мею. Я і падатак і пеню заплачу, толькі ў мяне цяпер ні гроша. А я вяльможнаму пану рад як... як... Я хацеў бы... Я...

Пшэсмыцкі *(перапыняе яго)*. Годзе! Знаем мы вас, хрыстапрадаўцы! Вы толькі бедніцеся, а ў кожнага—мяшок золата *(ускаквае, ідзе да дзвярэй)*. Калі да заўтрага не заплаціш,—прыду з панятымі. *(Дзверы адчыняюцца і ён наскаквае на Дудзінскую. У Дудзінскай вялікі пакунак)*. Што за чорт!

Дудзінская. Прыемна пан вітае, пане Пшэсмыцкі! Амаль з ног не збіў.

Пшэсмыцкі *(увесь ператвараецца, расплыўся ў шчаслівай ухмылцы—расшарквяецца)*. Панна Крыста! Як бога едынэга кохам! *(Цалуе яе ў руку, аглядае яе, есць вачыма, прылажыўшы руку да сэрца)*. —От шчэнслівы дзень! Даўно я пані не бачыў. А панна Крыста ўсё прыгажэе *(бярэ яе руку—лісліва)*. Так, ружа ружай—як бога едынэга кохам! А ў мяне сёння прымета была *(праціраe лоб)*, што мяне вялікае шчасце спаткае. І спраўдзіла.

Дудзінская. Што з панам было, пане Пшэсмыцкі? У апошні час нідзе вас не відаць. Мы ўжо з пробашчам нейк пра вас успаміналі—думалі, што вы выехалі.

Пшэсмыцкі. Працы *(паказвае)* па горла. Ведаеце-ж, які цяпер час. Выкрыццё забойцаў Пжэтака на маёй галаве. Поўмястэчка пасадзіў. А на кожнага матэрыял скласці—гэта не жарты.

Дудзінская. А ўжо-б вы лепш маўчалі аб сваіх дасягненнях. Што толку, што вы поўмястэчка пасадзілі, а сапраўднага забойца не нашлі-б, каб не пробашч.

Пшэсмыцкі *(усхвалявана)*. Калі пробашч нашоў, каго нашоў? Як нашоў?

Дудзінская. Каго нашоў—гэта пакуль што сакрэт, бо ён яшчэ не арыштаваны. А нашоў учора ў спавядальні.

Пшэсмыцкі. Вось дзе ён хаваўся! А таму я дагэтуль яго і не злавіў.

Дудзінская *(смяецца)*. Ха-ха-ха. Але-ж так і сядзеў. Ха-ха-ха! *(Заходзіцца ад смеху)*. Нейначай, як пан закаханы, пане Пшэсмыцкі, што пан такой простай рэчы не разумее. Перад фэстам народ спа-

вядаецца. Прышоў і бацька забойцы. А пробашч, вядома, як спавядае, каго мае на ўвазе. Трымае гадзіну, другую і да такой скрухі давядзе, што той усё вылажыць не толькі пра сябе, а і пра другіх. Сьвяты чалавек наш пробашч.

Пшэсмыцкі. Я бягу—даю пробашчу людзей, бо злачынца можа ўцячы (*Хоча бегчы*).

Дудзінская (*прытрымліваючы яго за рукаў*). Няхай пан не турбуецца. Усё зроблена. Пробашч яшчэ ўчора па тэлефоне паведаміў у павет. Сёньня прыдзе рота салдат, абкружаць мястэчка, зробяць аблаву,—і каго трэба возьмуць. Начальства на аўтамабілях прыехала ўжо. У плебані прыпыніліся.

Пачуўшы гэта, Пшэсмыцкі кулем кідаецца х хаты, ледзве не збівае з ног Дудзінскую. Яна схапілася за вушак).

Дудзінская. Вось апантаны, вось галган! І не разьвітаўся, і амаль з ног не збіў (*абцягвае сукенку, азіраецца, ці ўсё ў парадку, папраўляе палерыну—падыходзіць да стала*).

Шлёма (*шчыра з перакананьнем, штораз больш запальваючыся*). Ну, чаму ён галган? Ён зусім не галган, а чалавек, які службу ведае. Няхай вяльможная пані садзіцца. Пан Пшэсмыцкі гэта такі служака, такі служака, што ён не толькі вяльможную паню, а родную матку з бацькам з ног бы збіў, цераз іх пераскочыў і паімчаўся-б калі-б гэта было патрэбна для службы. Ён, як той кавалерыйскі конь, або як той вучоны сабака, які на сігнал з усіх ног. Так і пан Пшэсмыцкі. Гэта вялікі служака! Каштоўны служака. Дарма хлеба не есьць!

Дудзінская. А вы, Шлёма, спраўядлівы чалавек, умееце разьбірацца ў людзях і цаніць іх. За гэта я вас шаную і ўсю работу вам аддаю, хоць вы і жыд, а работа касьцельная, сьвянцоная. Я крадкам ад пробашча, бо ў мяне да вас слабасьць.

Шлёма. Ну нашто пра гэта гаварыць. Я сам гэта бачу і разумею.

Хая (*уваходзіць Хая з міскай бульбы ў мундзірах, ад парогу*). Вось бульбы прынесла. Ешце! Маладая ды такая смачная, што ў роце, ну, як цукар, растае. Кандраціха, дай бог ёй здароўя, прыслала (*ставіць міску на стол. Толькі цяпер заўважае Дудзінскую*). Ай, ай, ай! Які вялікі госьць! Багатая пані будзе, бо я адразу яе не заўважыла. Што ў пані добрага?

Шлёма есьць бульбу. Лейзар бярэ некалькі бульбін у прыпол і шмыгае праз акно. Шлёма ловіць яго за рукаў—пагражае пальцам, каб не смеў есьці. Лейзар так умольна глядзіць на Шлёму, што той пускае. І Лейзар бяжыць. Усёй гэтай сцэны не заўважылі ні Хая, ні Дудзінская, бо Дудзінская расказвае, а Хая, седзячы на краю зэдліка, з пашанай слухае).

Дудзінская (*смакуючы*). Нечым хваліцца. Працую, як катаржная. Усё на маіх руках. Асабліва цяпер перад фэстам—ужо дзесяць ксяндзоў прыехала, а ўсіх будзе дваццаць. Місіянер прыедзе, яшчэ малады, а ўжо цуды робіць, ксёндз Віслаўх, вы пэўна пра яго чулі. У гэтым годзе будзе фэст, як спрадвеку яшчэ такога не было. Пробашча дэканам павышаюць за заслугі.

Хая. Відаць, што ў пані турботаў шмат. Зьбляднела пані. Ну, але гэта нічога. Гэта да твару пані.

Дудзінская. Як тут не зьбляднееш! Дайце веры ці не, а я сёньня, слова гонару, усяго два разы ела і то на хаду. Раніцой пяць яек у смятку, дзьве шкляначкі кавы і кавалачак торту. Другі раз пробашч ужо мяне гвалтам да стала прыцягнуў, дык перакусіла просякам надзеваным. І вось яшчэ аб гэтым. І ўсё на нагах... Жарты—бо—сёньня

цяля, дзве авечкі зарэзалі, парсюка закалолі—ладны вяпрук, так пудоў са дванасце. І ўсё трэба прывесці да парадку.

Хая. Шлёма! Ці ты чуў, Шлёма, якая ў пані Дудзінскай галава? І як гэта галава аб усім думае, усё помніць і усё разумее! Вось у каго вучыцца! А твоей галаве, каб як чаго, з'есці.

Шлёма *(з дакорам)*. Хая, калі я табе што пра яду казаў?

Хая. Ну, калі ты нічога не кажаш, дык увесь час пра яду думаеш. Я гэта бачу.

Дудзінская *(з ухмылкай—у форме жарта)*. Гэта ўжо такое насенне—мужчынскае. *(Хіхікае, пры гэтым трасецца ўсё цела. Устае)*.

Хая. Чаго пані ўставаць? Чаму пані не пасядзець? У нас пані такі госць, такі госць, якога слухаць—мёд есці. А глядзець на паню—душа радуецца. Няхай пані пасядзіць.

Дудзінская. І так заседзелася, а ляцела на мінутку. *(Развязвае пакунак)*. Я да вас, Шлёма, як суседа. Гэтулькі ксяндзоў наехала, што не хапае ўбёраў. Пробашч сказаў пашыць, бо пазычаць не гонар. Дык вось пашыйце *(паказвае)* тры гэтакіх,—гэта комжа, пяць гэтакіх—гэта стула называецца і два такіх—гэта берэты. Гэта ўсё я вам пакіну на мерку і дзеля ўзору. А пад гэта—гэта пробашчава сутанна—трэба падкласці шоўкавую падкладку. Павышэнне на дэкана—зусім неспадзёўкі, абыяк адзецца не выпадае. А вось з гэтай *(паказвае, лісліва)*—мне сукенку. Такім фасонам *(паказвае ў прынесеным журнале)*. Гэта апошняя мода. Пробашч з Парыжу выпісаў. А я ўжо за гэта—не пакрыўджу. Усё шчацінне з вяпрука аддам, пер'е курынае...

Шлёма *(перабіваючы яе)*. Ай, ай, ай! Адкуль я вазьму часу? Чаму так позна?

Дудзінская. А хто-ж мог ведаць, што пробашчу дадуць павышэнне. Праўда, даўно абяцалі, але казалі заслужыць трэба.

Шлёма. Усяго гэтага пашыць я не змагу.

Дудзінская. А колькі тут таго шыцця! *(расхінае комжу)*. Што тут за работа? *(паказвае)*. Два швы, падрубіць, тут аблямаваць—і ўсё. Альбо стула—адно глупства! Выкраіць, сшыць, вывярнуць і на канцах нашыць крыжы. І гэтак усё. У крайнім выпадку сёння ноч не паспіцё.

Шлёма. Ай, ай, ай! Гэту работу за дзень з ноччу не зробіш. Я не бяруся.

Дудзінская *(раззлавана)*. А ўсё-ж не дурань выдумаў, што як воўка не кармі,—а ён усё ў лес цягне. Ты яму ласку робіш, а ён табе зло. Каб гэта было для рабіна, дык, нябось, з скуры-б вылузаўся. а зрабіў *(звязваючы ўсё ў пакунак)*. Пабачым, хто з нас пашкадуе! Аднясу Завале. Хоць пераплачу, а ўсё будзе зроблена. *(Адыходзячы)*. А гэта я ўспомню!

Хая *(хапаючы за пакунак, спалохана)*. Чаго вяльможная пані гневаецца. Няхай вяльможная пані на яго не звяртае ўвагі. На яго часамі находзіць і ён тады мішугенер. Ну, Шлёма! Чаго ты, Шлёма, стаіш, як той слуп? Кланяйся пані! Прасі прабачэння. *(Папіхае Шлёму да Дудзінскай, ды так крэпка, што ён ляціць потырч носам)*. А работу ён зробіць. Усё зробіць. Ноч не паспіць. Што для яго значыць ноч не паспаць? *(Адбірае пакунак)*. Няхай вяльможная пані будзе спакойна. Усё будзе ў пару. А сукенка будзе такая, што ўсе лопнуць ад зайздрасці. Я сама дапільную *(за акном клічуць)*.

Голас на двары—Панна Крыста! Панна Крыста! *(Што раз бліжэй)*.

Панна Крыста! А то скаранне боске! Куды-б яна дзелася? Гасцей сустракаць некаму, а она як до воды.

Дудзінская. Езус, Мар'я! Пробашч шукае! Дык я пакідаю. Толькі-ж каб было гатова! *(Выбягае)*.

Голас на дварэ *(ласкава)*. Цо ты собе мысліш, душачка. Цалы дом пожуціла! Госці едэн за другім—а прымаць некаму.

Хая *(вінавата)*. Шлёма! Я пабягу, Шлёма, да Меера, упрашу, каб прышоў памагчы шыць. Трэба дагадзіць скуле—і прыпарку і вату паверсе—каб не ўразіць. А ты адмаўляць! Хіба-ж можна! У іх фэст, боскае цела. А калі фэст—тады не пры нас казана,—нядобра бывае.

Кандраціха *(пакрытая вялікай хусткай праз расчыненае вакно)*. У мястэчку пагром! *(Дастае з-пад хусткі абразы, крыж кладзе на лаўцы, што каля акна)*. Завешвайце вокны, ды стаўце гэта! З хаты ані носу *(Пабегла)*.

З хвіліну цішыня. Хая і Шлёма глядзяць адзін на аднаго, як-бы не разумеючы. Калі ўжо дайшло да свядомасці, Хая хапае рукамі за галаву, галосіць).

Шлёма *(які схамянуўся, крычыць)*. Штыль! Хая, штыль!.. Давай чым вокны завешваць!

Хая кідаецца да камоды, дастае адтуль квяцістую хустку, нешта бслае. Удваіх завешваюць вокны, рукі іх дрыжаць. Шлёма ставіць у вокны абразы, крыж. За акном гул, грукат, што раз бліжэй).

Шлёма. Хая, дзе нашы дзеці?

Хая *(галосіць)*. Ай! Ай! Дзе нашы дзеці? *(Бяжыць за дзверы)*.

Шлёма *(ловіць яе на парозе, піхае за фіранку)*. Тссс! Шааа! Сядзі. Я пайду.

(Шлёма кідаецца бегчы. У дзвярах сустракаецца з Кандраціхай, якая з нейкім бедна апранутым мужчынай нясуць Лейбэлэ. За імі, плачучы, Мотка, Берка, Янкіль, Лэйка).

Кандраціха. Не палохайцеся! Не палохайцеся! Жывы! Толькі ножка зламана...

Хая *(выбягае з-за фіранкі, кідаецца да Лейбэлэ)*. Лейбэлэ! Сыночак!

(Шлёма хоча ўзяць Лэйбэлэ на рукі).

Кандраціха. Не чапайце! Не чапайце! Куды яго пакласці?

Хая *(у роспачы, галосіць)*. Куды яго пакласці? Куды яго пакласці? Сыночак мой, родненькі, куды цябе пакласці?

Шлёма. Сюды! *(паказвае на ложак)*.

Лейбэлэ *(енчыць яшчэ больш. Якоча)*. Ай-ай-ай! Баліць!

Кандраціха. Дайце яму падушку пад нагу *(Шлёма падкладае, Кандраціха ўкладае нагу)*.

Вось гэтак. *(Да Лейбэлэ)*. Не плач, каток. Я пабягу, прынясу табе малачка. А будзеш плакаць, то пачуе той дзядзя—і табе другую ножку... *(Лейбэлэ сціхае)*.

Хая *(праз увесь гэты час ломіць рукі, рве валасы, галосіць)*. За што цябе, родненькі? За што? За што ?

Кандраціха. Ціха, Хая! Дзякуй богу, што жывы... А вунь Борухава Фейга *(хапаецца за галаву, заплюшчвае вочы, уздрыгвае ад жаху)*. Галавой аб вугал... мазгі пацяклі...

(Дзеці, якія ўвесь час плакалі, сціхаюць. Хвіліна жудаснай цішыні. Дзеці кідаюцца двое да бацькі, двое да маткі. Хапаюцца за вопратку).

Дзеці *(з жахам усе разам)*. Ой, тата! Ой, мама!

Кандраціха. Ціха! Счуюць—на голас прымчацца. Хая з дзецьмі па-

вінна куды-небудзь схавацца. *(Выбягае. Той, што памагаў ёй несці Лейбэлэ, выбяг, як толькі Лейбэлэ паклалі на ложак).*

Шлёма *(кідаецца, адцягвае стол, што ў першай хаце, адчыняе пограб)*: Хая, лезь з дзецьмі! Сядзі там, пакуль не скончыцца.

Хая. А мой Лейбэлэ! Мой Лейбэлэ. Без яго я не палезу!

Дзеці. Лейбэлэ і ты, тата, з намі!

Шлёма *(загадваючы, грозна тупае нагой)*. Што я сказаў! Што я сказаў, Хая!

Хая *(лезе, а за ёю дзеці)*. Вой, вой.

Шлёма. Каб ані зыку. *(Паспешна зачыняе за імі дзверы, знімае з ложка коўдру, пасцілае яе наверсе, ставіць стол на месца, растрасае абрэзкі матэрыяла па коўдры, каб прыдаць выгляд, што на гэтым заўсёды працуюць.*

Лейбэлэ. Тата, хадзі сюды, я баюся.

Шлёма *(падыходзіць, садзіцца на край ложка. Перамагае слёзы, стараецца ўсміхнуцца. Голасам, які ломіцца ад болю)*. А чаго табе баяцца, калі твой тата з табой?

Лейбэлэ. На вуліцы кроў... Б'юць усіх. Б'юць. Дзядзенька, мяне абцасам ды нагамі. Ой, як балела! Моцна балела! Я баюся, тата!

Шлёма *(гладзячы яго па галаве)*. Там б'юць дрэнных дзяцей, якія таты-мамы не слухаюць. А цябе білі, бо не ведалі, што мой Лейбэлэ добры, што ён таты-мамы слухае, што ён свайму тату шыць памагае. А я свайму Лейбаньку нешта дам *(ідзе, бярэ са стала пару бульбін, якія там асталіся, абірае іх)*. На, Лейбэлэ, еш! Гэта такое смачнае, як мёд, як хала. Еш, Лейбэлэ! Я табе і солі дам!*(Ідзе па соль у першую палавіну).*

Лейзар *(убягае, трымаючы за руку Стасіка. Абодва бледныя ад страху, умольна)*. Тата! Тата! Памажы яго схаваць. Яго па ўсім мястэчку шукаюць. За яго галаву пяць тысяч злотых аб'явілі.

Шлёма *(як атарапеў, убачыўшы Стасіка. Хапаецца за галаву, з адчаем)*. Ай, ай, ай! Што ты зрабіў, Лейзар? Лейзар, што ты зрабіў?! Ты смерць нашу прывёў у хату, Лейзар! У мяне малыя дзеці! Яны хочуць жыць!

Стасік *(хоча нешта сказаць)*. Я... я...

Лейзар *(не дае Стасіку гаварыць. Умольна)*. Тата! Тата! Хутчэй падумай, куды яго схаваць! Тата.

Стасік *(вырываецца ад Лейзара)*. Пусці, Лейзар. Знойдуць мяне ў вас—вам усім смерць. Я адразу не хацеў ісці да вас. Я пайду. *(На вуліцы крыкі. Тупат. Стасік паспешна ідзе).*

Шлёма *(падбягае да яго, хапае яго за рукаў, сардэчна)*. Ты куды, Стасік! Па сваю смерць? *(Цягне яго назад, той спрабуе вырвацца. У часе тузаніны яны скідаюць са стала ксяндзоўскае адзенне)*. Які дужы ўтрапенец! Я ўжо надумаў, куды цябе схаваць. *(Зграбае ксяндзоўскае адзенне, дае яго Стасіку, якога трымае і Лейзар)*. На, Стасік! Ты ксёндз. Ты прыехаў на фэст! Ты прышоў *(запінаецца)*. Ты прышоў... Лейзара хрысціць! На-на! *(суне яму ў рукі)*. Лейзар, памажы вялебнаму ксяндзу. *(Бяжыць, зашчэплівае дзверы на кручок. Лейзар безрадна перакідае адзенне з рук на руку).*

Шлёма. Ну, хутчэй! Хутчэй! Трасца з вашых пячонак.

(Бегае па хаце, прыслухоўваецца, пазірае праз завешанае акно. У гэты час Стасік схамянуўся. Ен умела і спраўна апранаецца. Лейзар памагае, абцягвае адзежу. Ён ужо ў сутане, комжы, стуле і берэце).

Стасік. Вось, каб яшчэ крыж...

Шлёма. Чаму не! Можна і крыж. *(Асцярожна прахінае хустку, дастае*

*з вакна крыж. Падае).* Ідзеце туды *(паказвае за фіранку).* Сам ідзе наперадзе *(Стасік садзіцца пры стале, насупроць сябе садзіць Лейзара).*

Стасік. Садзіся, Лейзар, сюды! *(Ставіць крыцыфікс на стале).* Ну, як, Шлёма?

Шлёма *(уваходзіць у сваю ролю).* Ай, ай. Што я магу сказаць, калі цяпер такі свет пашоў, што дзеці бацькоў не слухаюць! Што я маю сказаць, калі цяпер такое права вышла, што дзеці могуць бацькоў не слухаць. Што я магу сказаць, калі святы ксёндз такую ўладу мае, каб хрысціць. Што я магу сказаць *(па дзелавому).* Рэхт зусім. *Падыходзіць да Лейбэлэ, гладзіць яго па галаве).* Ну, як твая ножка, Лейбэлэ? Яна павінна менш балець, бо вунь, бачыш *(паказвае пальцам на Стасіка)* у нас вялікі ксёндз! Святы ксёндз! Ён цуды робіць. Ён Лейзара хрысціць будзе. Гэта вялікі ксёндз.

Лейбэлэ. А малако ў яго ёсць?

Шлёма. А як-жа! У яго ўсё ёсць! І малако, і козачка. Толькі ён дома забыўся.

Стасік *(які ў гэты час падняў сутану і мацае сябе па кішэнях).* Малако я табе заўтра дам. А цяпер вось што ў кішэні знайшоў. *(Дае Лейбэлэ кавалачак цукру і хлеба).*

Лейбэлэ *(узрадавана).* Тата! Тата! Што мне святы ксёндз, вялікі ксёндз, ён цуды робіць, даў *(кусае цукар, паказвае Шлёме)* во цукар—ды які салодкі. Ты, тата, укусі, паспрабуй!

Стасік *(які стаіць каля ложка і рад радасці Лейбэлэ. Да ложка таксама падыйшоў Лейзар).* Лейбэлэ, баліць ножка?

Лейбэлэ. Мне дзядзенька абцасамі ножку адламаў.

Стасік. Пабачым. *(Адкрывае, закасквае калошу, абмацвае, пытае).* Тут баліць? А тут?

Лейбэлэ *(заенчыў).* О-ой-ой-ой...

Стасік *(да Шлёмы).* Нага незламана, а вывіхнута і моцна ўдарана: *(да Лейбэлэ).* Лейбанька, я табе зараз тваю адламаную ножку прылажу і ты зноў пабяжыш. Толькі ты не плач. Не крычы. Тады пойдзем ка мне малачко піць *(Прыгаварваючы пацягвае нагу. што раз мацней).*

Лейбэлэ *(немым голасам).* Ой, ой! *(і сціх).*

Стасік. Гатова—ножка прыладжана. Толькі паляжы яшчэ крышку *(Да Шлёмы).* Пакладзіце яму халодны кампрэс.

Шлёма *(Абнімае Стасіка).* Ай, ай. Які святы ксёндз! Які вялікі ксёндз. І які вялікі цуд...

(Стук у дзверы—Стасік і Лейзар паспешна садзяцца ў ранейшай позе. Шлёма бяжыць каб адчыніць дзверы, але не паспявае. Дзверы зрываюцца з завесаў. Убягае афіцэр і салдат).

Афіцэр *(разы тры перацягвае Шлёму бізуном, прыгаварвае).* Чаму ў цябе, псявера, дзверы на замку? Чаму ў цябе, нехрысця, абразы ў вокнах? Абманіць хацеў! *(Да салдата).* Самы старанны вобыск. Тут падазроная рэч! *(Салдат пачынае шукаць, заглядвае ў вядро, за люстэрка, вываарачвае усё ў камодзе).*

Шлёма. На што обыск? Які обыск? Я вам сам яго пакажу. Вунь ён за фіранкай.

Афіцэр *(утаропліваe позірк).* Дзе за фіранкай?

Шлёма *(паказваючы).* За гэтай.

Афіцэр *(настарожана, прыцішаным голасам. Салдат усё шукае).* Едэн?

Шлёма. Каб-жа едэн! Чаго-б я тады гаварыў!

Афіцэр *(палахліва).* Узброены ён?

Шлёма. Я ў гэтым мала разбіраюся. Некую прыладу паставіў перад сабой на стале. Сам бог яснага пана прынёс, каб помсціць за бацькаўскае гора.

Афіцэр. Ніц не розумем! Звар'яцеў жыд!

Шлёма. Як тут не звар'яцееш, калі на тваіх вачах родны сын выракаецца бацькаўскай веры!

Афіцэр *(да салдата)*. Чаго, галган, капаешся? Не чуеш, скаціна! Карабін на поготовю!

(Салдат бярэ карабін, як у бой. Афіцэр відавочна змагаецца са страхам. Ён падаецца крыху за жаўнера).

Афіцэр *(у бок фіранкі. Пераступае з нагі на нагу)*. Кто там ест? Здавайся, рукі ў гару! Выходзь!

Шлёма *(круцячыся каля афіцэра)*. Рэхт, рэхт, так яму і трэба. Век яснаму пану не забуду.

(У часе ўсей размовы Шлёмы з афіцэрам, Стасік нешта гаворыць Лейзару—ён яго вучыць, што той павінен гаварыць. Відаць толькі рухі.
З-за фіранкі паказваецца Стасік з крыжам у руках. Ён падымае правую руку з крыжам).

Стасік *(урачыста)*. Благословенство вам дзельні і гарлівы обронцы і кжэвіцеле вяры католіцкай. Благословенство вам панске пшэз негоднэга слугі его Леона Віслоўха.

Лейзар *(паказваючыся за ім)*. Амэн! Амэн! Амэн!

Афіцэр *(ашаламучаны, апускае карабін. Жаўнер у позе чакае загаду)*.

Шлёма. Вось гэта ён самы і ёсць святы ксёндз, а за ім мой сын Лейзар, якога ён тут на маіх вачах ахрысціў. Няхай ясны пан яго арыштуе за маё бацькаўскае гора! За мой сорам!

Афіцэр *(да Шлёмы)*. Мільч, жыдзе! *(Да ксяндза)*. Як-жа ваша вялебнасць тут апынулася, калі вас на плебані заўтра чакаюць?

Стасік. Кожны ходзіць сваім шляхам. І кожны па свойму выконвае божыя задачы. Я не шукаю хвалы сваёй, а хвалы боской. Вось сёння я ўжо злавіў у сець Пятрову адну душу. Вы, пане, маеце шчасце оглёндаць новага хрысціяніна, які з Лейзера стаў Лазажэм. Хвала пану богу! *(Да Шлёмы)*. Ты, ойчэ, адкінь смутак з твайго сэрца. Бог зрабіў табе вялікую ласку. Твой сын прыняў хрэст свенты і ён цяпер чысты, як нованароджаны дзіцёнак. Ён будзе працаваць найвышэйшага за цябе. Адчыняцца і твае вочы на праўдзівае святло вяры хрыстусовай.

Лейзар *(кідаецца да бацькі, абыймае яго, цалуе)*. Тата! Тата! Ты гэтакі добры, ты гэтакі мудры, як сам Саламон!.. Ахрысціся, тата!

Шлёма. Мішугенер! Авэк!

Стасік *(да Лейзара)*. Браце Лазажу, не так хутка *(Да Шлёмы)*. Ці подвода яшчэ не прышла?

Шлёма. Якая падвода? Адкуль падвода? Нідзе нікога не знойдзеш. Усе, як мышцы ў норах.

Афіцэр. А як-жа фэст? Вашу свентаблівасць усе чакаюць.

Стасік. Не для мяне радасці фэсту *(Дае знак афіцэру і адыходзіць на край сцэны. Афіцэр за ім. Таямніча)*. Я ўжо ў Увеньцы пару добрых гадзін. Праца мая не абмяжоўвалася навруцэннем аднаго жыда. *(Ціха)*. Я даведаўся тут, што комуністы—гэта племя шайтана, рыхтуюць д'ябэльскі замах. *(Гаворыць на вуха)*. Я мушу спяшацца, каб у час папярэдзіць. Пан разумее, пане поручніку? Толькі гэта я аднаму пану ў найбольшым сакрэце.

Афіцэр *(да салдата, які да гэтага часу стаяў з карабінам)*. Аўтомобіль мой падаць! Мігам! Язык на замку. Разумеш, галган!

Салдат *(бярэ пад казырок)*. Розказ, пане поручніку! *(Выбягае)*. Альфонс!

Афіцэр *(бярэ пад казырок)*. Естэм Козел-Ягода-Мехажынскі *(падсоўвае зэдлік)*. Няхай ваша свентаблівасць сядае.

(Стасік садзіцца з набожнаю мінай. Шлёма каля Лейбэлэ, гладзіць яго па галоўцы, гаворыць з ім шэптам. Лейзар стаіць каля акна. На яго твары блукае шчаслівая ўсмешка. У сапраўднасці ён услухоўваецца, што дзеецца на двары).

Стасік. Знаю гэты род. Зацны род. Заслужоны. Калі не памыляюся, адзін з гэтага роду, гэтак з месяц таму назад, калі жаўнеры адмовіліся расстрэльваць хлопаў-комуністаў—сам уласнаручна дзесяць застрэліў—гераічны ўчынак...

Афіцэр. Мушу сазнацца, што даканаў гэтага, кланяючыся, нягодны слуга, вашай свентаблівасці. У нашым родзе такая традыцыя—самаахвярнасць для айчызны. Дзе толькі айчыста патрэба, там род Козел-Ягода-Мехежынскіх—першы.

Стасік. Так, так. Як я ведаю, гэты род і пры Кацярыне II і пры Мікалаях умеў быць для айчызны карысным.

Афіцэр. За тое ў нашым родзе нікому матэрыяльна не шэнціць. Вось хоць бы сёння. Выехаў я сюды дабраахвотна. Тут патрэбна было злавіць аднаго гіцля, Станіслава Вавжака. Гэты большэвіцкі пёс два тыдні таму забіў надзвычай каштоўнага чалавека—Калікста Пшэтака. Пшэтак прытварыўся большэвіком і ўцёрся ў іх арганізацыю. Ваша вялебнасць разумее, які гэта быў для нас скорб. Паліцыя з ног збілася, а сапраўднага арганізатара гэтай зброднi не знайшла. І вось толькі ўчора мы атрымалі паведамленне, хто гэты злачынца. Улада зрабіла ўсё мажлівае. За галаву злачынца паложана пяць тысяч злотых. Сродак здавалася добры, бо ў Увеньцы адна галыцьба, жадны кавалку хлеба. І што вы скажаце! Ніхто не пазарыўся. А Вавжака нехта папярэдзіў. Бацька яго казаў, што быў дома і літаральна за дзве-тры мінуты да нашага прыходу пад акном закукавала зязюля. Счуўшы яе, Вавжак праз акно. Вось д'ябэльская сіла. Вось хэўра. Тут уся акруга кішыць комуністамі.

Стасік *(які праз увесь час вельмі ўважна слухаў)*. А хто паведаміў, што гэты... як ён... забіў?

Афіцэр *(засцярожліва прыцішаным голасам)*. Тутэйшы пробашч, ксёндз Ягеловіч!

Стасік *(да сябе)*. Для мяне цяпер ясна! *(Да афіцэра)*. А вы... добра ведаеце гэтага ксяндза?.. Ручаецеся за яго!..

Афіцэр *(устрывожана)*. Гэта самы гарлівы ксёндз. Заўсёды дасылае ў дыфензыву каштоўны матэрыял, бо з даставераных крыніц—са споведзі.

Стасік *(хвіліну глядзіць дапытліва ў вочы афіцэру)*. Я думаю, вы ўмееце захоўваць таямніцу?

Афіцэр *(кладучы руку на шаблю)*. Гонарам маёй шпагі!

Стасік *(таямніча, увесь час гледзячы ў вочы афіцэру, важка, спакваля)*. У мяне факты... Ксёндз Ягеловіч—сам большэвік... Мала таго—кіруе ўсім рухам. А ўсе яго рапарты—замыльванне вачэй. Я вязу матэрыял да біскупа. Яго расстрыгуць—тады можна будзе арыштаваць. Калі не змыецца.

Афіцэр *(на хвіліну ашаламучан, ускаквае. Усхвалёвана)*. Цяпер мне ўсё зразумела. Не змыецца! Праз пяць хвілін будзе арыштаваны. Нам не патрэбна чакаць, пакуль яго расстрыгуць. А можа гэты іх фэст—лоўка закансціраваны з'езд. Арыштую гэту сволач усіх да аднаго! Сам пан буг зжондзіў маё спатканне з вашай вялебнасцю.

Лейбэлэ. Вялікі ксёндз, святы ксёндз, мая адломленая нага сама падымаецца *(падымае, лежачы, у гару нагу)*. Во! Во! Во! Ї не баліць! *(Барабаніць нагамі па падушцы)*.

Стасік *(устае, узнімае малітвенна рукі і вочы ўгору на поўголаса ў захапленні)*. Хвала імянёві пана! Нех бэндзе імен его благасловёнэ од всходу слонца да захаду слонца. Тэдэум ляўдамус, тэ домінэ *(пераходзіць у шэпт. Відаць толькі як варушацца вусны)*.

Афіцэр *(падыходзячы да ложка, дзе Лейбэлэ)*. Што сталася?

Шлёма *(які ў гэты час разглядаў ногі Лейбэлэ, радасна)*. Што сталася? Дзіва на ўвесь свет сталася! Дзіва сталася!

Лейбэлэ *(паказваючы)*. Гэты вялікі ксёндз, святы ксёндз, ён цуды робіць, прыладзіў мне маю адломаную нагу *(паказвае на нагу)*, во, зусім добра, толькі знак чорны.

Афіцэр. Як гэта было?

Шлёма *(які прышоў да сябе)*. Поўгадзіны таму прынеслі яго сюды ў хату—і гэта нага была ў яго пераламана. Ї вось гэты, што майго Лейзара хрысціў, паглядзеў яго нагу, дакрануўся рукамі і нешта гаварыў да свайго бога. Ї цяпер у майго Лейбэлэ нага зраслася.

Афіцэр *(углядаючыся ў голую нагу Лейбэлэ. На ёй высока закасана штаніна і відаць вялікі сіняк. Пасля доўгай паузы да Шлёмы)*. Збярыце тых людзей, што бачылі—трэба злажыць акт новага цуду. *(На дварэ гул матора)*.

Салдат *(уваходзіць паспешна, бярэ пад казырок, рапартуе)*. Аўто падана! *(Выходзіць)*.

Стасік *(таропка знімае комжу, стулу, якую ён цалуе, складае ўсё. Лейзар паслужліва падае матэрыялы, што Дудзінская прынесла на стулы, каб абярнуць. Шлёма падыходзіць бліжэй)*. Я вам шчыра ўдзячан, зацны пане поручніку! Буг заплаць! Буг заплаць!

Афіцэр. Я лічу за гонар сабе, што мог услужыць вашай свентаблівасці. Ї каб не тое, што я мушу заняцца арыштам гэтых большэвікоў, правёз бы вас да станцыі.

Стасік. Хай вам бог дапаможа. Зостаньце з богем *(да Лейзара)*. Браце Лазажэ *(цалуе яго ў лоб)* бондзь мэнжны і не плям бялэй шаты свэй душы! *(Да Шлёмы)*. А ты, ойчэ, *(голас яго моцніца ад узрушання)* шчэнслівы, маючы такога сына. *(Паспешна ідзе к дзвярам)*.

Шлёма. А як ксёндз выедзе, калі мястэчка абкружана!

Афіцэр. А праўда! Ї я забыўся! *(Да Стасіка)*. Хвілінку *(дастае блокнат і піша. У гэты час Стасік акінуў Шлёму ўдзячным пазіркам. Афіцэр падае картку)*. З тым хоць заграніца *(Бярэ Стасіка пад руку, ідуць. Калі яны ўжо за фіранкай, Лейбэлэ крычыць)*.

Лейбэлэ. Вялікі ксёндз! Святы ксёндз. Ён цуду робіць! Пачакай! Я пайду з табой! Ты мне малака дасі. *(Ускаквае з ложка і бяжыць, пакульгваючы)*.

Стасік *(абарачваецца нахаду)*. Пачакай, Лейбэлэ! Я еду табе малака шукаць. Пачакай!

На дварэ: Да станцыі, каб к цягніку—да адыхода дваццаць хвілін.

ІІ. Розказ пане поручніку! *(Чуваць стук ад'яжджаючага аўто)*.

III. Да пабачэння.

IV. З богам.

У хаце: Шлёма *(Ад радасці схапіў Лейбэлэ, цалуе і вядзе яго назад у ложак)*. Паляжы яшчэ, паляжы, сыночак. Гэта табе цуда вялікі ксёндз зрабіў—ты ўсім, хто папытае скажаш, што ксёндз ножку прырасціў.

Лейзар *(які праводзіў на двор, убягае. Твар—адна радасць—кідаецца да Шлёмы, абнімае яго, цалуе, крутнуўся з ім некалькі разоў па хаце)*. Тата! Тата! Мой добры, разумны мой, залаты тата!

Шлёма. Пусці, пусці, мішугенер—задушыш!

Лейзар *(спыняецца, пускае бацьку. Гледзячы на яго з захапленнем значна)*. Цяпер я зусім ведаю, пэўна ведаю, што, калі што якое,—на чыім баку ты, тата, станеш!

Шлёма. А зохэн вэй! А зохэн вэй! Якую ты адкрыў Амерыку! Якую Амерыку ты адкрыў! Ты чуеш, Лейбэлэ, які наш Лейзар ахоім! Ён адкрыў такую Амерыку! Такую Амерыку! Што аж мне за яго сорамна. Ён толькі сёння, толькі сёння пэўна ведае, на чыім баку стане яго бацька, калі што якое! На чыім баку, калі што якое стане Шлёма, гэта ясна кожнаму, у каго ёсць хоць крыху клёку ў галаве. А вось ты, Калумба, скажы мне, што рабіць калі панна Крыста прыдзе па свой заказ? *(Глядзіць на стол, перабірае кавалкі)*.

Лейзар. Не бядуй аб гэтым, тата! Не да гэтага цяпер Крысце. Афіцэр як шалёны паімчаўся арыштоўваць усё кодла. І пра цуд ужо сказаў на вуліцы.

Шлёма *(адсоўвае стол, адчыняючы пограб)*. Хая! Хая! дзеткі! мы жывы!

Нахай бяда на галаву нашым ворагам.

*Заслона.*

А. Ершын

# У КАЗЛА

### З кнігі „Паўвека"

## I

Вось ужо шэсць месяцаў, як я беспрацоўны. Слова «беспрацоўны» яшчэ не жыло ў тую эпоху, калі гаварылі: «Ходзіць без справы», «шукае месца», а жартам—«шліфуе панелі», «ад сябе ветрам гандлюе» і г. д.

І шукалі месца тысячы выкінутых галоднай вёскай. Яны бадзяліся па Піцеру цэлымі месяцамі без граша ў кішэні. Асяроддзем іх існавання ў горадзе былі «землякі»: аднавяскоўцы, сваякі і проста знаёмыя з суседніх вёсак, якія знаходзілся на службе («на месцах»): дворнікі, разношчыкі, кішанёвыя «малойчыкі», нумарныя гасцініц, тракцірныя слугі, лодачнікі, вартаўнікі і шмат іншых. Гэта зямляцтва бездагаворна і пакорліва несла грамадскі абавязак: як мага падтрымаць беспрацоўных землякоў, зрэдку даць начлег, пакарміць, дапамагчы застацца на службу і, часткова, сабраць дзесятку на дарогу дадому, у вёску.

Але не ўсюды «гаспадары» скрозь пальцы глядзелі на прыём яго служачым сваіх землякоў, у большасці рабілася гэта цішком, хаваючыся.

Я даўно абышоў усіх, каго ведаў і абышоў не адзін раз. А месца ніякага не знаходзілася. Ганька Нікіфараў некалькі разоў спрабаваў мне давесці, што, бач, «не дрэнна было-б паехаць дадому, у вёску».

— Саб'ешся з адзежы—адзін шлях у залатародцы*)—гаварыў ён.

Але як-жа ехаць дадому, калі Васька Ванькоў, мой равеснік, адначасова прыехаўшы ў Піцер, «дасягнуў» «карыдорнага хлапчука» і пасылае бацьку што-месяц па 20 рублёў, і сабе гэткую адзежу справіў? А Мішка Шараў? Гэты прыехаў годам пазней, а паступіў хлапчуком да Салавьёва, у гастранамічны магазін, і праз пяць год будзе прыказчыкам... Надзея вабіла: я марыў пра нейкае раптоўнае шчасце, а якое?.. Ясна я ўяўляў сабе толькі сваю вёску, ды тракцір «Яраслаўль» і—усё.

Землякам я надакучыў. Я разумеў гэта і болей да іх не хадзіў. Боты мае разваліліся, кашуля сатлела на мне, а казінетавы хатні пінжак, з якога я вырас, давялося прадаць за 30 капеек... на яду! «Вось, вось знайду сабе добрую службу»—запэўняў я сам сябе. А цёплае лета, іранічна ласкавае, давала мне прытулак усюды: бераг новай канавы, востраў Галадай, Гарачае поле—незабаронены прытулак для бяздомных летам. Але голад... Ён жорстка штурхаў на пошукі кавалка хлеба, і не заўсёды можна было яго знайсці... Самы лёгкі спосаб быць сытым гэта—«страляць», але працягнуць руку за капейкай упершыню...—лягчэй памерці. Я гэта добра ведаю.

Мне пашанцавала. Зусім выпадкова на Камчатцы**), адна бабулька наняла мяне ўскапаць палісаднік.

— Пакапаеш мне вось тут, уздоўж плота, а я цябе пакармлю ды двугрывеннік дам. Ану!

*) Басякі.

**) Пасёлак каля Волкавых могілак.

Я пакапаў. Яна прымусіла мяне выкапаць за агародам забуяўшыя лапухі; потым нанасіць з рэчкі пяску. І я пракорпаўся ў яе двое сутак. Бабулька карміла мяне як на ўбой, а калі скончыў работу дала грашамі паўрубля.

— Ды ты хлопец старанны. Ты зайдзі да Шчукіна на гароды, ён цябе абавязкова возьме на штодзённую. У яго ўсё лета штодзенная...—парадзіла бабуля на развітанне.

І лета дзень у дзень, непрыкметна нават для мяне—праляцела. Пачало халадаць. Зверху дакучна і настойліва палівала; у канцы кастрычніка населі туманы, а потым узяліся зубастыя замаразкі. Пакуль было цёпла, я ішоў спаць на Волкавы могілкі, часам удавалася праскочыць пад Андрэеўскі мост. Цяпер-жа даводзілася ісці да Кобозева, у начлежку, а калі не было трох капеек, то на Гарачае поле, альбо на гароды Шчукіна, куды звазілі і складвалі ў кучы гной. Гной прэў, саграваўся. І калі знойдзеш зацішнае ад ветра месца, ды збярэш старыя рагожы—цёпла.

Да пакроў на гародах хоць і незаўжды, але можна было знайсці штодзённую работу, дваццаць капеек і пакормяць два разы. А цяпер: і холадна зрабілася, і работы нідзе не нойдзеш.

А сёмай гадзіне раніцы з начлежкі выганяюць. На вуліцы мароз. На нагах атопкі на босую нагу, падраныя корцікавыя штаны і парусінавая куртка на голым целе (кашулі і нагавіц даўно няма). Штаны і куртка закарэлі і прасмярдзелі ад спання на гною і на смецці. Холад пячэ—трэба куды-небудзь ісці, стаяць нельга. Без думкі ідзеш шукаць цяпла. У такім адзенні можна пастаяць у «піцейным доме» і можна зайсці на царкоўны цвінтар, калі ў царкве ідзе служба. Можна зайсці і ў харчэўню, і ў тракцір рамізьнікаў, але там трэба што-небудзь заказаць: чаю альбо капуснік... А да землякоў у такім адзенні ўсё адно, што этапам у вёску.

Неяк на Ростанай вуліцы наскочыў на Юрку Абрэзава. Пазнаў мяне, хоць і азірнуўся вакол, але загаварыў.

— Чаму-ж ты да Дзімітрыя Андрэевіча не зойдзеш? Ён-жа табе сваяк? Хай хоць у вёску адправіць...

— Баюся да яго, і ў вёску так нельга, сам ведаеш... Можа паступлю куды, адзенуся—і тады ў вёску.

— Хто-ж цябе такога возьме?!—здзівіўся Абрэзаў.—Ай-яй-яй! азірнуў ён мяне. Потым дастаў партманет, доўга мусоліў яго, злосна плюнуў—Ну і сваяк-жа ў цябе—воўк! На!—ён спешна сунуў мне папяровы рубель і кінуўся на другі бок вуліцы.

Думаў і я пра вёску, але толькі не таму, каб туды ехаць, у вёсцы і без мяне ў нас дзевяць душ; я нават з атрыманых пры разліку з Арсеневым 6 рублёў 40 капеек—4 рублі паслаў у вёску. Але-ж я ў Піцеры... Я так быў упэўнен, што паступлю куды-небудзь... Да таго-ж—патрэбен быў пашпарт, я жыў па адтэрміноўцы.

Па новай канаве, ад самага Рэзвага вострава зганяюць да замаразкаў парожнія баркі ў Няву, а старыя застаюцца на злом. Загоншчыкі «карэнныя» не грэбаюць такімі абшарпанцамі, як я, яны самі не дужа лепей адзеты. Па-першае мяне цягнуць да іх раскладзеныя грудочкі*), каля якіх можна пагрэцца; па-другое: на грудках вараць крупнік і мне ўдавалася некалькі разоў з імі пад'есці. Між іншым, ад іх я даведаўся, што супроць бавоўна-прадзільнай фабрыкі будуць ламаць чатыры баркі, якія купіў Андрэй Ілліч. Я ведаў Андрэя Ілліча і меў надзею, што ён возьме мяне на працу.

*) Кастры.

8 лістапада на новай канаве намёрзлі берагі ў сажань шырынёй. Ад вады ідзе пара. Над горадам лёгкі ранішні туман, абяцаючы сонечны дзень. У Івана Прадцечы звоняць у вялікі звон—сёння Міхайлаў дзень, а там прастол. Я вось ужо два дні, як зусім нічога не еў. На начлежку таксама не было ні граша, але перад самым вечарам на тратуары я знашоў пустую саракоўку (бутэлькі), занёс у скляпок і атрымаў тры капейкі.

А сёння... стаю на беразе, каля моста і ўсё маё цела нібы апушчана ў ледзяную ваду. Такі нязносны боль ад холада—вось-вось зойдзешся да непрытомнасці.

Гукі звана абяцаюць царкоўную цяплыню. У галаве мільгае думка: «А можа, якая міласэрдная купчыха дасць грыўню...» Другая свавольная думка дадае: «альбо капейку дасць, ды яшчэ павучыць, як трэба на свеце жыць». Усё-такі там цёпла. Падняўся. Зрабіў некалькі крокаў і тут з усёй моцы даў сябе адчуць жывот. Ад слабасці ногі не йшлі. А тое месца, дзе знаходзіўся страўнік, страшэнна ныла.

Каля самай вады, на палі, сядзіць хлапчук маіх год. Вакол яго раскладзены анучы і валяецца пусты мех. Хлапчук апрануты таксама брудна, як і я. Толькі цяплей. Ён есць хлеб з салёным гурком. Я кумільгам звальваюся да яго. Я ўсёй істотай чую пах хлеба, а ад гука гурковага хрусту мой рот поўны сліны.

— Дай мне хлебца!—прашу я. Сударга крывіць мне твар і ломіць скіўцы. Я ледзь не адкусіў сабе язык.

Хлапчук спалохаўся, перастаў есці, уважліва паглядзеў на мяне, потым хутка адламаў ад кавалка палову—падаў мне, таксама спешна вынуў з-запазухі гурок.

— Ты мабыць не еў доўга?—спытаў ён.—Вунь як ты ясі... уй-уй-уй!ківаў ён галавой, гледзячы на работу маіх скіўцаў.—Ты без работы відаць?

— Але... паўгода ўжо—глытаючы надаванае,—адказаў я. А ты ў каго служыш?

— Я? Я ў Казла, у Меламона, у анучніка, ну вунь, што побач з Жукавым, з фабрыкай... Мы ў яго ў кручашніках, нас больш як 80 чалавек у яго.

— У Казла?! дык я-ж яго ведаю. Ён чай да нас хадзіў піць. У «Яраслаў», да Арсеньева, што насупраціў Пратасава дома. Я там служыў за буфетам. А што ты ў Казла робіш?

— Кажу, кручашнік. Хаджу па памыйных ямах, па сметніках. Збіраю анучы, косці, жалеза, бутэлькі, ды ці мала што... Вось сёння пашанцавала: адзін раз з гораду прынёс, а гэта другі раз... зайшоў у Шамялёў завулак, да квасніка... а там уся яма запхана... Відаць матрацы старыя выкінулі. Дворнік убачыў мяне—крычыць: «ідзі, кажа, забірай». Цэлы мех напхаў. Толькі ўжо дужа пыльныя, проста ў нос лезе. Я ўзяў ды памыў—сушу, вось.—Ён паказаў на раскладзенае рыззё.

— А колькі табе заробку даюць?

— Заробку? Заробку тры рублі. Ды ў нас-жа і прыбытак ёсць: я ўчора зайшоў да Фекцістава на двор, а на заднім двары рымары гуляюць. П'яныя ўсе. Раскідалі па трэсках бутэлькі штук дзесяць. Я падкаціўся да іх: што, кажу, пасуду панясеце ў скляпок ці не?—«Бяры, кажуць, такі-сякі, хто будзе яе насіць». Я ўзяў ды да Ваські Жырнова—30 капеек ён мне выклаў, як адну манету.

Я не пад'еў гэтага куска хлеба. Гурок і паўфунта хлеба толькі раздражнілі мой апетыт.

— А мяне ўзялі-б у вас?

— Не ведаю. У яго ўсё Пскапскія, зямлякі... З-пад Порхава. Кукін-

скай воласці. А ты папрасіся. А то сам набяры тавару дый нясі да нас. Скапец прыме, усё адно як ад пакупцоў. Скапец—гэта дзядзька гаспадара, Дземян Ісаіч. Толькі ён не скапец, гэта толькі так дражняць яго, а ён не любіць, страх...

— А што-ж трэба браць?

— Браць? Рыззё бяры, косць, жалеза, бутэлькі. Бутэлькі калі фасонныя, з-пад ачышчанай, альбо з-пад піва—у скляпок, там па тры капейкі, а ў нас пакупцам па капейцы, а нам—так. Ну, дык мы толькі брудныя ды аптэчныя прыносім, а чыстыя заўжды ў скляпок.—Прыбытак.

Хлапчук падумаў, пакратаў сваё рыззё і гаварыў далей:—высахлі... Зараз збяру, ды пойдзем. Як-жа цябе завуць?

— Лёнька. А цябе?

— Мяне—Кузька. Кузька Біток... Толькі ты не кажы наконт бутэлек—не можна... Скапец адлупцуе!..

II.

— А табе чаго тут?!—груба гукнуў мяне каротканогі, з бабскім безвалосым тварам стары, год 50, у ватнай куртцы, падпяразанай пасярэдзіне парусінавым фартухом. Голас у яго быў тонкі, прарэзлівы—птушыны. За голас і безбароды твар празвалі яго «Скапцом». —Гэта быў Дзем'ян Ісаіч Казлоў—дзядзя самога Меламона Казлова, гаспадара рыззёвага прадпрыемства. У вочы Дзем'яна Ісаіча звалі ўсе «дзядзечка», а за вочы «скапцом».

— Да каго ты?—спытаў ён мяне.

— Гэта ён, дзядзечка, са мной прышоў.—Скідваючы мяшок з анучамі пад ногі, сказаў Кузька Біток.—Ён, дзядзечка, прасіцца прышоў... ён хоча па збору хадзіць... Ён без справы... Ужо каторы дзень не еўшы...

— А пашпарт у цябе ёсць?—утупіў Скапец на мяне свае мутныя злінялыя вочкі.

— У мяне адтэрміноўка. Мне-б з вёскі пашпарт прыслалі, калі-б я застаўся на месца.

— А дзе ты служыў?

— У тракціры ў Арсеньева, у «Яраслаўлі». Там зараз мой стрыечны брат у буфетчыках...

— Што?—здзівіўся Скапец.—Твой брат у буфетчыках? Гэта хто-ж, ці не Дзімітры Андрэявіч?

— Але.

— А-а-а! Ну, добра. Хадзі, працуй. Што людзям, тое і табе. Ты, Кузька, ідзі здай свой прынос, ды за адно звадзі да Барбоса хлапца. Скажы, каб запісаў яго, і каб дакумент у прапіску. Скажы, што я загадаў. Як цябе завуць?

— Лёнька.

— Ды, мабыць, у пашпарце не Лёнька?

— Ляксей Іванаў Яфімаў.

— Ну, вось.

Дзем'ян Ісаіч зірнуў на нас неяк бокам, па птушынаму і кіўнуў бабскай галавой.

— Ну, пашлі. Паабедаеце, ды звадзі яго...

Мы пашлі праз двор у флігель, дзе была «фацера» і кантора. Доўгі двор, ад Баравой да Варонежскай вуліцы, адным бокам межаваў з дваром фабрыкі Жукава, і на працягу цэлага квартала быў адгарожаны каменнай сцяною ў пяць аршын вышыні.—Гэта быў брандмауер...

Навакол сметнік? Не. На сметніках хаос, а тут, не гледзячы на поўнае знешняе падабенства, адчуваўся арганізацыйны парадак. Тут бруднае смецце было падзелена на катэгорыі, на гатункі. Вось гара, вышынёю 7—8 метраў,—баваўнянае рыззё, побач—палатнянае, а вось—шарсцяны бурт. Каля Жукавай сцяны конус з дом вышынёй—з касцей, а на дашчатым памосце груды жалезнага лому, і скрыня з жалезнай дробяззю. Сярод двара пабудаваная з барачнага лесу мыечная. Большая частка прыстасавана да мыцця рыззя, а меншая—пасуды. Сушыцца рыззё зімой і летам пад павеццю, на вяроўках, а пасуда—бутэлькі, флакончыкі і пляшачкі на «рагульках» і ў «гнёздах». Ад мыечнай да флігеля па абодвух баках двара стаялі павеці, пад якімі ляжаў гатовы тавар: вымытае і спрасаванае рыззё, упакаваная ў скрыні пасуда і рассыпаная па цукарных бочках косць.

Флігель—гэта нізенькае доўгае памяшканне, з аднапакатым дахам. Некалі тут была стайня на дзвесце коняй. Дом гэты Меламон Казлоў купіў у ўдавы Кукекавай, ліквідаваўшай рамізную справу пасля смерці мужа, і з канюшні абсталяваў кватэру для сваіх «хлапцоў», як ён называў нас кручашнікаў. Частка флігеля была адгароджана для канторы.

У канторы—нізенькім квадратным пакоі, з двума вокнамі, было зусім пуста: апрача яловага стала, двух доўгіх лавак удоўж сцяны, ды кароткай лавачкі сярод падлогі—нічога не было.

За сталом сядзеў азызлы нібы абскубаны гусак з доўгай шыяй, вузкаплечы чалавек, год сорак, апрануты ў вельмі зашмальцаваны форменны сурдут, на якім медныя з гербамі гузікі былі заменены рагавымі чорнымі. Даўно не голены твар быў падобны на абутковую шчотку. Схіліўшы галаву, ён нешта пісаў, прытрымліваючы языком насліненую і дакураную да самых губ «цыгарку».—Гэта і быў «Барбос»—сакратар, бухгальтар, рэгістратар і блазан Дзем'яна Ісаіча, а калі Меламон Казлоў запрашаў да сябе ў госці патрэбнага чалавека, дык Барбос «браўся» ў пакоі, у якасці «асвечанага» субяседніка для госця і ў якасці мажор-дома.

«Барбос»—Герасім Ілліч Куніцын, былы пісец з паліцэйскага ўпраўлення Раждзественскай часці, выгнаны за беспрасыпнае п'янства і скандальныя паводзіны, у чыне калежскага рэгістратара.

Убачыўшы нас, Барбос натапырыў вусы і выплюнуў цыгарку.

— Ну-у?

— Дзядзечка, Дзям'ян загадаў вам яго запісаць,—паказаў на мяне Кузька.

Барбос моўчкі працягнуў у мой бок руку. Я збянтэжана міргаю вачмі і гляджу і на Барбоса і на Кузьку.

— Ну, поскудь! Пашпарт, кажу, давай!

— У мяне адтэрміноўка.

— Давай!

Я выцягнуў з-за пазухі скамечаную, усю ў адзнаках з начлежкі, паперку і падаў Барбосу.

— З 15 лістапада, зразумеў?—разгладжваў на стале маю адтэрміноўку Барбос.

— Восьмае сёння,—нясмела напамятаў я.

— Кажу—з 15-га! Вош!

Кузька таргануў мяне ззаду за рукаў і мы вышлі з канторы.

— Ён б'ецца з намі, шчыпаецца... да сінякоў, а ты...—пойдзем на кватэру,—гаварыў Кузька.

Доўгая, нізкая ледзь асветленая малюсенькімі ў дзве шыбы вокнамі, стадола з цэлымі рыштаваннямі стоек і падпорак. Паабапал стадолы цягнуцца скрозь нары, заваленыя брудным барахлом. Пасярэдзіне між

нар уздоўж стадолы цягнуцца козлы, закладзеныя не габляванымі дошкамі.—Гэта стол. Паабапал гэтага стала стаяць доўгія і таксама не габляваныя лавы, дзеравяную падлогу цяжка адрозніць ад земляной, бо гразь нарасла на вяршок. У канцы стадолы дашчаная перагародка, за перагародкай кухня. У дзверы відаць край пліты і плечы ўмураванага бляшанага куба. Чуваць, нешта шыпіць. З кухні ў кватэру плыве пара. Пахне капустай.

Кузька падвёў мяне да канца нар.

— Вось тут пустыя. У цябе няма чаго паслаць?.. Ну добра: мы ўвечары... тады ў Саешкі... А цяпер, пакуль нікога няма, пойдзем да яе за мяхамі.

У кватэры, пасля вулічнага холаду, было цёпла. Я саслабеў ад цяплыні, раскіс. Было так прыемна. І ў атопках на босую нагу і ў калянай парусінавай куртцы выходзіць на вуліцу, на холад, не хацелася, а трэба.

Саешка—удава год 30, пляменніца Меламона, плячыстая, з чырвоным прышчаватым тварам і вялізнымі рукамі, была нешта накшталт загадчыцы мыечнай. Пад яе наглядам што-дзень паласкалі рыззё. Тры або і чатыры прыходзячыя прачкі, а хлопцы развешвалі яго па вяроўках, сушылі, потым прасавалі ў пачкі. Прасаваныя пачкі Саешка ўзважвала і здавала Дзем'яну Ісаічу. І абое яны—і Саешка і Скапец былі непісьменныя, ставілі на кавалках паперы нейкія крыжыкі, палачкі і кручкі і ўвесь гэты шыфр неслі да Барбоса для запісі ў кнігі.

Саешка сустрэла нас груба.

— Вы чаго тут без справы швэндаецеся?

— Я ўжо два мяхі сёння прынёс,—агрызнуўся Кузька. Сам дзядзечка Дзям'ян бачыў...

— Бачыў...

— А гэта вось Лёнька Яфімаў,—паказаў у мой бок Кузька. Дзядзечка загадаў яму са мною хадзіць, а ў яго меха няма.

Саешка скоса зірнула на мяне і кінула мне пад ногі мех. Я падняў яго і мы хацелі ўжо ісці.

— Пачакай!..—сціснула губы Саешка.—Іш... ногі... Як буракі сінія... голыя... на, вось закруці!—Яна яшчэ выкінула дзве анучы. Падышла да мяне, тарганула за лацкан маёй курткі і шмыгнула носам. І кашулі няма? Ах, басота, басота!

На кватэры, з дапамогаю Кузькі, я абкруціў свае здранцвелыя ад холаду ногі. Потым Кузька прынёс з кухні ў дзеравянай місцы капусты з саланінай і хлеба.

— Давай абедаць,—гаспадарыў ён.

Капуста была кіслая, а саланіна сіняя і пахла іржавым селядцом, але на мой згаладалы жывот усё гэта было незвычайна смачна. Пасля капусты елі кашу з канапляным алеем.

Покуль мы абедалі, пакрыху схадзіліся хлопцы-кручашнікі. Усё гэта былі падлеткі ад 12 да 15 год, перасаджаныя з Порхаўскіх пяскоў сюды ў Меламонаўскую гразь. Яны ўваходзілі не распранаючыся, напаўнялі смуродам памыек усю кватэру. Кожны ішоў да свайго месца на нарах, кідаў пад нары брудны мех і крук і, не памыўшы рук, ішоў па абед. На 85 чалавек хістаўся на вяроўцы ў куце адзін гліняны рукамыйнік, а вада стаяла ў кадушцы, у кухне.

Сышлося чалавек сорак. Абшарпаныя, з нагамі закручанымі ў анучы, без шума, без усмешкі, як вартаўнікі могілак, цягнуліся яны ў кухню і назад, сядзелі панура за сталом—чаўкалі і саплі.

Увайшла Саешка.

— Дзе тут у вас новенькі?—спытала яна.

А новенькага мяне яшчэ ніхто і не бачыў, апроч Кузькі. Я падняўся. Усе кінулі есці і глядзелі на мяне.

— Ідзі, забірай!—крыкнула мне Саешка, стоячы ля дзвярэй. У руках у яе вісела нейкае рыззё, цаглянага колеру. Я падышоў.

— Вось надзявай і цяплей будзе.—Кінула яна мне на рукі злінялы ад сонца абрывак ватнага лапленага палітона.

Я надзеў у рукавы «дыпламат» і адчуў, што акрыяў. Усё маё цела ўзрадавалася пяшчоце цяплыні. Што хламіда была з плеч вялікага дзядзькі, што рукавы былі амаль ці не ў два разы даўжэй за мае рукі, што полы былі адрэзаны і абшыты белымі суровымі ніткамі і што латы былі розных колераў і велічыні,—усё гэта здавалася дробяззю і глупствам у параўнанні з сіберным холадам!

Пасля абеду Кузька павёў мяне на «збор».

— Удзень нас у горад не пушчаюць,—удзень мы ходзім тут па нашых вуліцах, ды па сметніках. А на гарадскіх дварах—лафа. Там жыве чыстая публіка: там кідаюць усяго шмат, асабліва бутэлек і пляшачак... Я аднойчы зашоў раніцою на Знаменскую, знашоў добрую срэбраную лыжку і сталешнік,—інфармаваў мяне Кузька.

— А на гародах, на Гарачым полі быў?

— Не, на гародах не быў; а што там?

— Там зараз звальваюць гной і памыі. Там шмат рыззя... Сам бачыў, сказаў я.

Я павёў яго на Камчатку. За перадатачнай лініяй, каля Волкавых могілак, усцяж берагоў Волкаўкі, цягнуліся гароды, цягнуліся аж да Нобелеўскага складу газы. Каля Коханава перайшлі па кладках рэчку і ў кустах напалі на касцяк. Кузька не пашоў далей.

— Ды тут больш двух пудоў касцей!—крычаў ён, паціраючы адубелыя рукі. Касцяк быў не свежы, але косці яшчэ моцна сядзелі ў суставах і разабраць яго голымі рукамі было немагчыма. На гародзе мы знайшлі старую, зламаную рыдлёўку, прымацавалі да яе дзяржальна і гэтым інструмантам да цямна рубілі косці і набівалі імі свае мяхі. Першы мой выхад быў удачны: я прынёс паўтара пуда касцей.

А дзявятай гадзіне вечара ўсе былі ў зборы. Над галовамі вісела пара. Было падобна на лазню. Гул галасоў плёскаўся з аднаго канца памяшкання ў другі, сатрасаўся кашлем і лясканнем дзвярэй. Дзве вісячыя сямілінейныя лямпы прарэзвалі цемру.

Далі вячэраць. У адну міску на дваіх улівалі кружку квасу і ложку алею, давалі дзве галоўкі цыбулі, два салёныя гуркі. Усё гэта дробна рэзалася і ссыпалася ў квас, туды-ж крышыўся і хлеб.—Гэта называлася «мурцоўка».

Пасля вячэры клаліся спаць. Мокрыя анучы клалі сабе пад бок сушыць, накрываліся сваім брудным барахлом і без перастанку ўсю ноч расчухвалі да крыві свае цела, раз'едзенае вошамі.

Мне Кузька прынёс стары лямец і я ўпершыню за апошнія два месяцы спаў выцягнуўшыся на лямцы, пад ватным палітонам. Я быў падеўшы. Мне было цёпла. Я на рабоце.—Я быў шчаслівы.

III.

Каб пранікнуць у двары цэнтральных вуліц, мы ўставалі а трэцяйчацвертай гадзіне раніцы і шлі нашча. Я хадзіў з Кузькай. Мы разам шукалі, разам набівалі свае мяшкі і разам «адшуквалі прыбытак». Гэта значыць: знаходзілі чыстыя бутэлькі з-пад гарэлкі і здавалі ў скляпок. Часам шчаслівы выпадак пасылаў нам падкову, дзверную ручку, шпінгалет альбо стары тапор—такія рэчы добра бралі саматужнікі-кавалі. Гэты

«прыбытак» даваў нам магчымасць разы два ў тыдзень частавацца сітным, якога ў нашых харчах не выпадала, і збітнем.

Па нядзелях ні мы—хлапчукі—кручашнікі—ні «сур'ёзныя» пакупцы па збору не хадзілі, а ўсе займаліся разборкай і сартаваннем нарыхтаванага за тыдзень тавару. Па святах мы перакідвалі і перабіралі тысячы пудоў бруднага рыззя і касцей.

Два словы пра пакупцоў:

Пакупцы ў Казла былі двух катэгорый. Адны—«ад сябе», яны купляюць тавар на ўласныя грошы і прадаюць сабраны тавар каму захочуць і просяць за тавар што хочуць. Другія—«ад гаспадара», у даным выпадку ад Казлова, ходзяць па дварах і крычаць: «касцей, трапак, бутэлек, банак!» Гэтым звечара выдаецца па 5 рублёў. Да абеда яны павінны на гэтыя пяць рублёў прынесці тавару, здаць Скапцу і атрымаць чарговую пяцёрку. Цана на тавар устаноўлена. Купляць танна і шмат у інтарэсах пакупцоў: пакупцы жывуць на сваіх кватэрах і на сваіх харчах. Гаспадар страты ад іх не мае.

У Меламона Казлова такіх пакупцоў хадзіла 70 чалавек.

Тры дні вецер дзьмуў з мора і санная дарога сапсавалася. На акраінах яшчэ ездзілі на санях, але ў горадзе дворнікі зграбалі ўвесь мокры снег у кучы. Было напярэдадні Міколы. У Івана Прадцечы званілі да ўсяночнай і багамольныя парафіяне спяшаліся ў царкву.

Мы з Кузькай ішлі ўдоўж Сеннага пляца і маўчалі, у мяхах у нас было лёгка: трох мяхоў сёння не маглі сабраць, а трэба чатыры. Ад Скапца чакалі чуранкі... Засмуціліся.

Каля самай вагі на нас наляцеў п'яны хлапец у белым фартуху і з паўбутэлькай у руках.

— А-а! Анучнікі! Якраз вы мне і патрэбны! Чакайце, справа ёсць!—крычаў ён.—Ідзіце, забірайце барахло!

— У нас, дзядзечка, грошай няма, мы кручашнікі.

— Якія грошы!? Хто ў вас просіць грошы!?—Я сам вам дам двугрывенны, толькі забярыце. Заўтра—Мікола, свята, а тут барахло...

Ён прывёў нас на вагу, паклікаў у бакавушку, служыўшую складам для сена і, паказаўшы на кучу рыззя ў куце, загадаў.

— Забірайце! Сабака тут увечары здох, наш Лыска. Ён тут два тыдні ляжаў, запаскудзіў. Вось вам дваццаць капеек. І забярыце гэта...

Тут былі дзве прадзёртыя дзяругі, старыя гунькі, рваны брэзент і абрыўкі ватнай коўдры. Мы набівалі рыззём мяхі, а хлапец растлумачваў.

— Холадна было, ну і зачынялі. Ён хоць і скот, а шкада. Іш, накідалі якую гару... І добра, што вы падвярнуліся, то хоць ты сам нясі... Забірайце, каб і не адсвечвала! Бярыце грошы.

Дваццаць капеек у яго не выходзіла: была залатоўка і дзве траячкі.

— Ну, добра, няхай дваццаць адна капейка—падзеліце. Ну, каціцеся, а я зачыняць буду.

Мяхі нашы адразу разбухлі: так нечакана падвярнуўся такі цудоўны тавар.

— За гэты тавар пакупцы далі-б паўрубля, а тут нам яшчэ ў прыдачу адвалілі дваццаць капеек—гаварыў павесялеўшы Кузька.

Нам хацелася паказаць Скапцу наш тавар. Спяшаліся. Ён мог пайсці да ўсеночнай. Мы засталі яго ў канторы. Але ён быў заняты: ён сядзеў верхам на лаве і сварыўся на Сёмку, кудластага пераростка, год 16, які туліўся да дзвярэй.

— Як ты думаеш?.. дарэмна за цябе даюць бацькам па сорак рублёў у год, ды кормяць, ды поюць? А? Цябе як добрага ўзялі карысць гаспадару даваць, а ты па два мяхі!.. А? Усе па тры, ды па чатыры, а ён па два... Гультай!

— Нага ў мяне, вось яна...

— Маўчаць! Я выб'ю дурасць з тваёй галавы! Чуеш ты? За тваё гультайства пасля работы—у мыечную да Саешкі. Зразумеў?

— Зразумеў...—Бурчыць Сёмка,—а толькі...

— Што «толькі»?

— У мяне нага... Я гаварыў надоючы вам... Во, яна баліць дык...

— Нага ў яго... Я-ж цябе сукіна сына вывучу, як гультайнічаць ды размаўляць!—вішчэў Скапец.

— Ды вы паглядзіце!—заплакаў Сёмка.

Скапец ашалела ўскочыў з лавы, пачырванеў і даў Сёмку поўху.

— Марш да Саешкі—пырскаў ён слінай.

Сёмка, кульгаючы, вышаў, а Скапец зноў плюнуў на лаву.

— Глядзі ты, як размаўляць навучыліся! а?—круціў ён галавой, пазіраючы на Барбоса, грэўшага каля печкі сваю вузкую спіну.—Фу-у грахі нашы... Да ўсяночнай не папаў. А вы што прышлі?—звярнуўся ён да нас.—Хоць бы лампадку запалілі, нехрысці! А ты чаго? не бачыш ці што?—агрызнуўся ён у бок Барбоса.

— Сме-эрць, Дзям'ян Ісаіч! не да лампадкі... Смокча... Надыходзіць... Дай двугрывенны!

— Не дам,—зап'еш.

— Дай,—Дзям'ян Ісаіч! змілуйся!

— Ды ты даўно ўсё забраў.

— Дай! корчыўся Барбос.—Смертухна мая!

— Не прыдзеш заўтра?

— Прыду!—хрыпіць Барбос.—Ды ты так дай, не ўлік. Я-ж варты гэтага. Я-ж вам што-дзень больш за дзесятку на адным абважванні пакупцоў заганяю.

— Ну, на, адчапіся!—Скапец даў Барбосу манету. Той хутка, з нечаканай для яго постаці гнуткасцю, падхапіўся і, нацягнуўшы на сябе сваю паўформенную шынель, выскачыў з канторы.

* *
*

Уноч перад Міколай падмарозіла. Ладажскі вецер разам з марозам прынёс сухога снегу, пра які там кажуць, што: ён «дарогі не робіць, а вочы слепіць».

Нас шасцёрых паслалі на бойню па мяса. Нагрузілі нашы кошыкі кароўімі галовамі і вантробамі. Калі мы везлі свой груз ад быкоў да Кіеўскай вуліцы, усе сустрэчныя затыкалі насы. Наша «свежаніна» смярдзела, як асенізацыйны абоз.

Мы з Кузькай везлі свой кошык ад заду ўсіх. Мы гутарылі. Бронзавыя быкі каля будынку бойні нагадалі мне помнік Пятру першаму... успомніўся Эрмітаж. І я расказаў Кузьку пра самае цудоўнае, што бачыў у сваім жыцці—пра сходні... пра найшырэйшыя беламармуравыя сходні з цудоўным чырвоным дыванам...

— А наверсе слупы...

— А яшчэ што?

— Карціны. Але... мы іх не бачылі...

— Не паказваюць, відаць, задарма? а грошай ў нас... кот наплакаў,—дагадваўся Кузька.

Калі мы вярнуліся, на двары, не гледзячы на завіруху, капаліся паўтараста чалавек. Работа не ладзілася: у рукавіцах адбіраць было незручна, а голымі рукамі—холадна. Рыззё каля бурту прымёрзла пад нагамі, косць засыпала снегам. Па двары хадзіў Меламон у сваім тхаровым хутры і валёнках і чмыхаў носам, што ў яго азначала нездавальненне.

Мы каля кухні выгружалі смярдзючыя вантробы ў кладоўку, у ларок, а Саешка засыпала іх снегам. І да нас падышоў гаспадар, спыніўся, пацягнуў носам і прабурчэў:

— Прорва нейкая: не накорміш... Ці даўно саланіну бралі...

За абедам мне сказалі, што на маё імя прышоў ліст з вёскі.—Я чакаў пашпарта. Лісты атрымоўваў і раздаваў Барбос. Я пабег у кантору. На двары сцямнела, пакупцы пакідалі работу, але кручашнікі капаліся і папацёмку.

У канторы на лавах сядзелі дзесяткі два найбольш салідных пакупцоў, амаль усе барадатыя, а за сталом стаяў Барбос. Выгляд у яго быў надзіва незалежны, нават выклікаюча пагардлівы, і цыгарка вісела на губах неяк асабліва іранічна. Ён, абапершыся аб стол рукамі, з пагардай глядзеў на Меламона, нячутна хадзіўшага з кута ў кут па канторы.

— Дармаеды!.. усе вы дармаеды! не глядзіце гаспадарскай выгады. Не адчуваеце гаспадарскіх клопатаў!... Ну, што ты бельмы вытарашчыў? спыніўся ён супроць Барбоса.

— А што ты свае бельмы вытарашчыў?—ухмыльнуўся Барбос.

— Дурны ты Барбос!

— Меламошка, глядзі!—сціснуў кулакі Барбос.—Не дурны я і не Барбос, а цара майго імператара дваранін!—Хам! А ты хто? Ты ёсць плебой. Цябе пакладуць, знімуць штаны і ўсыплюць гарачых, а я ёсць асоба недатыкальная.

— А ты, дваранін, сам за рубель ляжаш, ды сам парткі знімеш. А сячы цябе я сваіх хлапчукоў прымушу, а сам і рук пэцкаць не буду,—смяяўся Меламон.

— Ты?! Каінава насенне.

— Не каінава насенне, мой андзел, а таксама слуга верны майго цара анпіратара. Ты дваранін без штаноў, а я паўтышчы ў год цару майму плачу, ды цябе, двараніна, утрымоўваю. Зразумеў?

— Утры-моўваеш?!.. Ды ты без мяне гадзіны не вытрываеш: пакіну цябе—заплачаш!

— Не заплачу. Дам лішнюю дзесятку—будзе чалавек на тваім месцы.

— Слабасць мучыць... Эх! А я-ж губернатарам мог-бы быць! Эх, ты...

— Усіх вас аблаедаў тонканогіх слабасць мучыць... на чужое... чужымі рукамі ўсе вы прывыклі... А мы, народ—самі цягнем. Я вось з пятачком з вёскі прыехаў, а цяпер дабрачынец усёй воласці: я паўтараста чалавек утрымоўваю, паю, кармлю і грошы плачу. Я з гною грошы раблю. Правільна я кажу?—пытае Меламон у сваіх пакупцоў.

— Ды ўжо гэта як ёсць, Меламон Пракопыч!

— У мяне зараз паўтараста чалавек, а праз год-два будзе пяцьсот! тысяча! у купцы ўкуплюся! Сын вучыцца ў раяльным, вучоны будзе... Свой за кнігі ў канторы сядзе!

Меламон расшпіліў хутра і застукаў па стале пальцам.

— А вас, дваран, усіх вон! Іш вы, крывапіўцы: парассядзецеся, як павукі па кутах, ды смокчаце кроў...

Увайшоў Скапец. Злосны. Засопся, нібы хто за ім гнаўся.

— Гаварыў тышчу разоў, каб паддашкі апалубіць. Усё грошы няма... А цяпер бачыў, што з таварам робіцца? Накінуўся ён на гаспадара.

— Добра. Летам апалубім. Выдаткі ўсё...

— Ды мамуню сваю ўгаварыце, ато-ж проста рады няма. Сам усё бурчыш: выдаткі... выдаткі... Іш: накінулася, навошта ў Піліпаўку скаромнае хлопцам даем... Убачыла мяса прывезлі—як цігра ўчапілася. Ды што вы, кажу? А чым-жа хлопцаў карміць?—«Капуста, кажа, ёсць, трэска, сама-

віна»... Ці не хочаце, кажу, асятрынкі? Тут пнешся, каб увагнаць душу ў тры рублі, і каб сытая была душа, а яна: антыхрыст, веельзевул!..

— Ну, старая граха баіцца. Добра, Ісаіч... Яна не разумее, што ў нашай справе мы не крадзем, не ашукваем і што за скаромнае нам бог даруе.

Сёмка не спаў па начах—стагнаў. Ледзь выходзіў раніцою. Аднойчы зусім не пашоў на збор, не пашоў і ў мыечную. Ён качаўся на нарах і брэдзіў. Заходзіў разы два Скапец, заходзіў Барбос. Скапец гаварыў, што Сёмку трэба адправіць у вёску да бацькі, а Барбос раіў да доктара. А Сёмка ўсё ляжаў. На трэці дзень каля яго ложка сышліся: Скапец, Меламон, Саешка і прышла старая маці Меламона. Трымалі нараду, што рабіць з хлопцам? Сёмка стагнаў і нічога не гаварыў. Нарэшце ад Сёмкі пачало нядобра пахнуць. Давялося наняць возчыка і звесці хворага ў клініку.

У Сёмкі выявілася гангрэна ступняў на абодвух нагах. Адмарозіў.

IV.

У першых днях лютага надышла адліга. Хлопцы хадзілі па калена мокрыя, а сушыцца не было дзе. На вяровачных чунях і лапцях мы нацягвалі столькі граві, што ногі вязлі ў ёй. Было сыра ў кватэры, і ад сырога рыззя, якое клалі пад бок сушыць, па начах трэсла. Сталі скардзіцца на трасавіцу і галаўную боль усё часцей і часцей. Аднойчы не вышлі на работу адразу дзесяць чалавек. Не вышлі і на другі дзень. Прыходзілі Меламон і Скапец, гналі з боем. Потым прышлі печнікі, паставілі ў куце лёгкую цагляную печ, падвесілі ўздоўж усёй кватэры жалезныя трубы, працягнулі вяроўкі для сушкі сырой адзежы іануч. Але... праз тыдзень яшчэ злегла пятнаццаць кручашнікаў. Некаторыя ляжалі ў гарачцы, другія ў непрытомнасці бадзяліся па кватэры, шлёпаючы босымі нагамі па бруднай і халоднай падлозе. Выбегалі амаль голыя на двор, па патрэбах. Хворыя спалі ўперамешку з здаровымі. Было жудасна. У ночы не гасілі лямп. Гаспадар з Скапцом заходзілі што-дзень і толькі сварыліся адзін з адным, але нічога не распачыналі. Скапец вішчэў:

— Я казаў табе! Казаў!..

— Што ты мне казаў? Ты распарадчык. Што ты вішчыш, як рэзаная свіння? Адлежацца—устануць. Ну, гарачка прычапілася, бывае.

На масленіцы злягла Саешка, прышлося паклікаць доктара. Доктар і ў Саешкі і ў хлопцаў устанавіў брушны тыфус.

— Усіх хворых зараз-жа, неадкладна, адпраўце ў больніцу, а здаровых перавядзіце ў другое памяшканне!—сярдзіта гаварыў доктар, абыходзячы нары і аглядаючы брэдзіўшых хлапцоў.—А тут...—акінуў ён вачамі ўсю кватэру—тут усё, і сцены, і нары, і падлогу—заліце вапнай... хлорыстай вапнай. Зразумелі?

— Ці-ж гэта жарты!..—нездаволена прамычэў Меламон.—А можа, пане доктар, яны і тут, дома, адлежацца?

— Вы чулі, што я сказаў?

— Сказаў, сказаў... Жарты сказаць: «адвязіце ў больніцу...», а хто за іх плаціць будзе?

— Прапісаны яны ў цябе альбо не?

— Ну дык, а як-жа...

— І бальнічныя заплачаны?

— Па рублю восемдзесят за пашпарт...

— Ну, значыць і ўсё.

— А мы думалі... Ах ты божа-ж мой!—лёгка ўздыхнуў Меламон.—Каб-жа мы ведалі... А вось памяшкання іншага няма. Не аддам-жа я ім сваю кватэру.

У той-жа вечар на чатырох фурманах у Александраўскія заразныя баракі адвезлі дваццаць восем чалавек. А раніцою злягла кухарка і яшчэ сем кручашнікаў. У завяршэнне ўсіх бед—адышоў Барбос, заявіўшы, што ён баіцца заразы. Скапец і Меламон хадзілі як абалдзелыя. Кручашнікі прыносілі не па чатыры, а па два, або і па адным мяху. Варылі самі сабе абед. Ад пакупцоў некаму было прымаць тавар. Яны самі і важылі, адзначалі крэйдай на сцяне...

Доктар паведаміў паліцыю пра масавае захворванне ў Казла. Прышла камісія: вучастковы прыстаў, думскі ўрач, гарадскі санітар, акалодачны назіральнік і два гарадавыя. Усе яны ў хутрах, прыбраныя, надушаныя, стаялі з прыхода каля стала між нар, стараючыся ні да чаго не датыкацца, і здалёку азіралі хворых і абсталяванне.

— Та-а-к!..—пацыскаў плячмі санітар, гледзячы на доктара.

Доктар сціснуў губы і падняў бровы.

— Тут, ведаеце, сур'ёзней, як я меркаваў,—сказаў ён.—Тут... недапушчальная рэч... Глядзіце: ляжаць і ходзяць хворыя і тут-жа здаровыя абедаюць!

Нас, чалавек дзесяць, елі крупнік з салёнай трэской і запівалі вадой. Пілі ваду з аднаго вядра, якое стаяла на лаве, і адной кружкай. З гэтайжа кружкі паілі і хворых.

— Што вы робіце?!—вырвалася ў доктара.—Аднак...—Ён махнуў рукой,—нечувана!

— А як у вас дома, пане Казлоў? У вашай, значыць, кватэры? Усе здаровы?—спытаўся ў Меламона прыстаў.

— Бог мілаваў. Ды я, як доктар сказаў тады, што хвароба прычэпная, дык я тады-ж забіў праход адсюль на чысты двор і сам прыходжу сюды ў галёшах.

— Аднак...—усміхнуўся санітар.

— Дык можа, панове, мы пойдзем да яго ды там усё і абмяркуем? а?—прапанаваў прыстаў.

— Для мяне пытанне ясна—сказаў доктар:—ачаг заразы ў наяўнасці і яго трэба лакалізаваць.

Меламон глядзеў у рот доктару. На яго ялейным твары было вялікае здзіўленне. Ён напруджана думаў.

— Ачагом заразы бяспрэчна з'яўляецца вось гэты флігель.

— І двор, і двор,—спешна дадаў санітар.

— І двор,—згадзіўся доктар.

— Такім чынам, першае, што мы павінны зрабіць, гэта—ачысціць флігель, абліць яго хлорыстай вапнай.

Меламон заміргаў вачмі.

— Далей: аддзяліць хворых ад здаровых. Здаровых перавесці ў іншае памяшканне, а хворых, зразумела, у больніцу.

— І двор зачыніць,—падказаў санітар.

— І двор, безумоўна, зачыніць месяцы на два-тры.

Меламон выцягнуўся, вочы наліліся кроўю і рукі задрыжэлі.

— Ды як-жа гэта так? Ваша высокаблагароддзе?! Ды дзе-ж гэта такі закон, каб справу зачыняць?! Гэта-ж зніштажэнне! а? Гэта-ж мне тры-ыыста рублёў страты кожны дзень! Ваша высокаблагароддзе! Пане доктар! Што-ж мне цяпер рабіць?

Меламон быў як звар'яцелы. Ён звяртаўся да ўсіх з скаргай на страты. Выйшлі ўсе на двор. Меламон ішоў адзаду і гаварыў гарадавым.

— Двор будзе зачынен, а я кармі хлопцаў? Яны думаюць, што яны начальства, дык могуць усё...

Да яго падышоў Скапец, тарганўў яго за рукаў і завішчэў:

— Перастань балбатаць. А вы чаго тут?!—накінуўся ён на нас.

Двор зачынілі. Работа спынілася.

Раніцою, гадзіны каля восьмай прыехаў вучастковы ўрач з фельдшарам і двума гарадавымі. Пачаў нас усіх аглядаць. Да паўдня ён адабраў 16 хворых, для адпраўкі ў больніцу, а нас, здаровых, загадаў звадзіць у лазню і ў гэту кватэру больш не пускаць.

Меламон клапатлівы і вынаходлівы, калі ўсё ішло добра, цяпер перад такой нечаканай бядой зусім апусціў рукі. Толькі Скапец па ранейшаму быў працавіты. Ён рухаўся на сваіх кароткіх нагах нібы на калёсіках. Ён катэгарычна абвясціў Меламону, што сорак чалавек здаровых хлопцаў адправіць у вёску да бацькоў, на ўсё лета.

— Да места. Зразумеў? Памогуць у полі, а ў восень забярэм сюды. А пакупцы?... Заарандуем у Пратасава задні двор. Зляпаем пару паддашнікаў—і гані тавар, хлопцы. Мыццё летам не страшна і на двары...

Спачатку ўсіх хлопцаў зганялі ў лазню, дзе яны знялі з сябе прасмердлае памыйкай барахло, надзелі сваё хатняе вясковае.

Аб «Пскапскіх» хоць такія клопаты былі выяўлены: Меламон, набіраючы хлопцаў, кляўся, што як родных будзе глядзець. Аўтарытэт «дабрадзея» нельга было губляць. А я? Выпадковы прыблуда?

Кузька кліча ў вёску: у яго дома маці... добрая... Мы пасябравалі і нам абоім было сумна разлучыцца, але мне нават у сваю вёску нельга было паехаць такім залатаротцам.

Хлопцы з клумкамі за плячамі пашлі на вакзал, а я бадзяўся па двары, пакуль не сустрэў Скапца. Ён сам ведаў, што мне патрэбен разлік.

— Пойдзем!—коратка кінуў ён.

Па майму меркаванню за гаспадаром было пяць рублёў, але ўсе рахункі вёў Барбос, а яго няма. Скапец выняў з кішэні тры рублі і кінуў іх мне.

— На! Звернецца Гарасім—зойдзеш, атрымаеш.

Я пачаў прасіць, каб аддалі ўсе пяць рублёў.

— Бяры і не ный! І каб духу твайго зараз-жа не было, а то гарадавы вывядзе.

— А пашпарт?—

Скапец выняў са стала кучу пашпартоў і паклаў перада мной.

Пісьменны?

— Чытаць умею і пішу крыху.

— На, шукай.

Я знайшоў свой новенькі пашпарт і паплёўся з двара.

* * *

На вуліцы, хоць і праглядвала сакавіковае сонца, але для мяне яно не ўсміхалася, не радавала. Адразу пазбыўся я прытулку на свеце. Зноў не было куды ісці, недзе пасядзець, не было сталага прыстанішча на ноч.

Мяне нават у лазню не паслалі, нават чуней вярованых не далі, нават анучы не зменіш!

Я пашоў ціхенька па Растаннай і Волкавых могілках. У маім распараджэнні было тры рублі. Вось яны. У мяне ў руках. Што можна за іх купіць, каб змяніць свой знешні выгляд?—Нічога! Але на тры рублі можна пратрымацца месяц. Я добра ведаў, што для мяне цяпер самае важнае дачакацца цяпла.

Каля Волкавых могілак з вагончыка конкі вылезла бабулька, яна паглядзела на мяне сваімі падслепаватымі вачмі і пазнала мяне, і я яе пазнаў: прошлым летам я ў яе капаў кветнік. На Камчатцы. Яна мяне паслала тады да Шчукіна. На гародах у Шчукіна праз месяц будуць набіваць парнікі. Пра гэта мне гаварылі яго батракі.

— Работы вясной шмат: ямы ачышчаць, гной набіваць, цягаць зямлю... прыходзь, гаспадар возьме,—гаварыў батрак. І я наважыўся на свае тры рублі дацягнуць да Шчукінскіх парнікоў. Я павесялеў. Я ўжо меркаваў: папрацую на гародах—адзенуся. Можна будзе схадзіць да зямлякоў. Да Ваські Ванькова, можа ў іх у гасцініцы месца знойдзецца, а там...

Вечарэла. Трэба было ісці ў начлежку да славутай «Кабозеўны».

Я зайшоў у шынок «Дзвіну», што ў Кабозевым доме на Варонежскай, пад'еў капусты за сем капеек, а два дзевяноста тры атрымаў здачы. Тры капейкі я аддаў за начлег. А два дзевяноста ў мяне выцягнулі ноччу начлежнікі.

С. Левін

# ПІСЬМЕННІК І ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ

Пасля гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый і ўтварэння адзінага саюза совецкіх пісьменнікаў, ва ўсёй совецкай літаратуры адбыўся значны пералом. Гэтая гістарычная пастанова партыі мела непасрэднае дачыненне і да абаронных задач совецкай літаратуры. Яна адкрыла шырокія магчымасці для далейшага вырошчвання літаратурных кадраў непасрэдна з радоў Чырвонай арміі, шляхам адпаведнай арганізацыйна-творчай работы ўнутры саюза совецкіх пісьменнікаў, праз яго абаронныя камісіі.

Пытанні Чырвонай арміі, пытанні абароны нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны зрабіліся прадметам яшчэ большай творчай увагі совецкіх пісьменнікаў. Удзел совецкіх пісьменнікаў у розных масавых палітычных кампаніях, азнаямленне з гісторыяй, жыццём і работай Чырвонай арміі, азнаменавалася з'яўленнем цэлага рада вялікіх і добрых твораў, якія вырашаюць праблему абароны нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны, якія авеяны вялікай любоўю да краіны Советаў і выклікаюць пачуццё сапраўднага совецкага патрыётызма.

За апошнія гады цэлы рад беларускіх совецкіх пісьменнікаў напісалі каштоўныя творы на абаронныя тэмы. Дастаткова прыгадаць такія творы, як «Над ракою Арэсай»—**Купалы,** «Дрыгва»—**Коласа,** «Набліжэнне»—**Бядулі,** «30 год» і «Трэцяе пакаленне»—**Чорнага,** «Праз гады»—**Галавача,** рад новых апавяданняў **Лынькова, Каваля, Ліманоўскага, Мікуліча,** рад новых вершаў **Купалы, Коласа, Чарота, Александровіча, Броўкі, Глебкі, Дудара, Кляшторнага** і інш.

Але апрача гэтых беларускіх пісьменнікаў, на абаронныя тэмы пішуць таварышы, якія прышлі ў беларускую совецкую літаратуру непасрэдна з радоў Чырвонай арміі і да сёнешняга дня цесна з ёю звязаны.

З іх выяўлен цэлы рад людзей, якія на справе, сваімі творамі даказалі здольнасць працаваць на літаратурным фронце.

Такімі з'яўляюцца т. т. **Курдзін, Шарапаў, Шапавалаў, Садоўскі, Глазырын, Кручкін, Крапачоў, Дудзін** і інш.

Тав. **Курдзін**—адзін з найбольш здольных беларускіх чырвонаармейскіх пісьменнікаў-драматургаў, які вылучыўся галоўным чынам сваімі п'есамі «Контратака» і «Міжбур'е».

У гэтых п'есах тав. Курдзін завастрае ўвагу чытача і гледача на ваеннай небяспецы і заклікае да класавай пільнасці. Як па сваей агульнай ідэйнай накіраванасці, так і па свайму творчаму метаду (не гледзячы на рознароднасць тэм) абедзве п'есы блізка датыкаюцца адна да другой.

«Контратака»—паказвае супраціўленне класава-варожых элементаў хуткаму паступальнаму руху наперад соцыялістычнага будаўніцтва.

Аным з такіх класава-варожых элементаў з'яўляецца герой п'есы «Контратака»—Савіцкі. Гэта—замежны шпіон, які пад выглядам інжэнера-спецыяліста працуе на пабудове маста і наўмысле складае няправільную канструкцыю пабудовы. Вобраз Савіцкага ў п'есе «Контратака»—выражае сабою надзеі рэакцыйных, аджываючых свой век, класаў. Адзіная надзея Савіцкіх, якая змагла-б іх вырataваць ад «большэвізма»—гэта вайна, інтэрвенцыя. І нездарма ў перагаворах з прыехаўшым з-за граніцы містэрам Кольтам, Савіцкі гаворыць яму, што яны, г. зн. старыя «афіцэры запаса», гатовы выступіць у кожную хвіліну супроць заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі. Савіцкі выказвае «небяспеку», што за другую пяцігодку ў Совецкім Саюзе не будзе класаў, што будзе пабудаваны соцыялізм і таму патрабуе неадкладнай вайны.

Жонка Савіцкага, Клеапатра, «палітычна адукоўвае» сястру Савіцкага—Еўлахію, якая больш занята клопатам аб сваім камфорце, чым якімі-небудзь палітычнымі ідэямі. З інтымнай гутаркі Клеапатры з Еўлахіяй мы даведваемся, на якія сродкі жывуць у СССР «афіцэры запаса» і наогул уся «ўнутраная эміграцыя».

Апрача таго, што тав. Курдзін выкрывае інтэрвенцыяніcцкія планы класавых ворагаў, у п'есе «Контратака» ёсць яшчэ адзін дадатны момант. Гэта тое, што Чырвоная армія ў паказе тав. Курдзіна не жыве адарвана ад усяго працоўнага насельніцтва краіны. У пабудове маста, апрача чырвонаармейцаў, прымаюць актыўны ўдзел рабочыя і калгаснікі. У п'есе «Контратака» тав. Курдзіным праведзены дзве лініі, якія паміж сабою пераплятаюцца. Гэта, па-першае, завастрэнне ўвагі чытача і гледача на ваеннай небяспецы, заклік да класавай пільнасці; і, па-другое, удзел Чырвонай арміі ў соцыялістычным будаўніцтве, кіраўніцтва партыі гэтым будаўніцтвам, сяброўскія ўзаемаадносіны рабочых, калгаснікаў і чырвонаармейцаў. Іменна такі, не ізаляваны паказ Чырвонай арміі, паказ адзінства інтарэсаў усіх працоўных, паказ іх барацьбы за агульную справу трэба вітаць.

П'еса «Міжбур'е»*) як і «Контратака» таксама завастрае ўвагу чытача на класавай пільнасці.

Тав. Курдзін паказвае нам у гэтай п'есе вобразы старых афіцэраў, некаторым з якіх выпадкова ўдалося пралезці ў «чырвоныя камандзіры». На гэтых людзей яшчэ моцна давіць старая «афіцэрская закваска», яны свае старыя звычкі, набытыя ў царскіх карпусах, механічна пераносяць у Чырвоную армію.

Такім людзям асабліва цяжка правільна зразумець праблему ўзаемаадносін паміж камандзірам і чырвонаармейцам; яны не разумеюць, што камандзір з'яўляецца самым блізкім і самым лепшым таварышам чырвонаармейца.

Такім камандзірам у п'есе «Контратака» з'яўляецца начальнік штаба палка Рошчын.

Але не ўсе былыя старыя афіцэры бываюць Рошчынымі. Процілеглым вобразам Рошчыну з'яўляецца вобраз Яблонскага, начальніка палкавой школы, у мінулым таксама афіцэра. Але якая розніца паміж ім і Рошчыным! Яблонскі поўнасцю перавыхаваўся ў радах Чырвонай арміі. Ён аддаў Чырвонай арміі свае лепшыя сілы і імкненні. Ён з агідай азіраецца на сваё мінулае.

Што датычыцца да паказа другіх вобразаў у п'есе «Міжбур'е», дык трэба сказаць, што ў развагах Дыбава, у асноўным станоўчага героя, але над якім яшчэ вісіць груз рамантыкі грамадзянскай вайны, якому вельмі

*) П'еса „Міжбур'е" мае два варыянты. Тут маецца на ўвазе варыянт п'есы, прызначаны для тэатраў Чырвонай арміі.

цяжка звыкнуцца з новай баявой абстаноўкай Чырвонай арміі,—прарываюцца некаторыя няправільныя палажэнні (погляды на Чырвоную армію, на яе дысцыпліну і т. д.).

Наогул-жа трэба сказаць, што п'есы тав. Курдзіна «Контратака» і «Міжбур'е» вылучаюцца сярод другіх драматургічных твораў беларускіх чырвонаармейскіх пісьменнікаў тым, што ў іх тав. Курдзін удала пазбавіўся ад знешняй крыклівасці і лозунговасці, што вобразы і характары герояў пададзены ў яго п'есах праканаўча, што кожны паасобны герой п'есы запамінаецца, і ў чытача і гледача застаецца любоў да станоўчых герояў і ненавісць да адмоўных.

П'есы тав. Курдзіна «Контратака» і «Міжбур'е» карыстаюцца вялікай папулярнасцю і няма нічога дзіўнага, што яны ставяцца не толькі ў беларускіх дзяржаўных тэатрах, але і на ўсесаюзнай сцэне.

Цяпер тав. Курдзін напісаў новую п'есу «Азеляненне цэха».

Ад тав. Курдзіна беларуская савецкая драматургія павінна чакаць вельмі многага.

Тав. **Шарапаў**—адзін з найбольш здольных, чырвонаармейскіх паэтаў. Пра гэта сведчаць дзве кнігі яго вершаў: «Маршевый шаг» і «Две встречи». Тав. Шарапаў—лірык. Ён хоча гаварыць пра ўсе жыццёвыя з'явы цёплым і шчырым лірычным голасам.

У вершы «Лирика», змешчаным у зборніку «Маршевый шаг», тав. Шарапаў гаворыць:

„Может мало еще сноровки
Но хотел бы сказать ловчей
Как о девушке, о винтовке,
Что покоится на плече".

Тав. Шарапаў хоча быць соцыялістычным лірыкам. Ён рэзка выступае ў сваёй творчасці супроць «золоченной плесени» старых буржуазных лірыкаў, ён хоча ўключыць сваю лірыку «в общий хор моей страны». У тымжа вершы «Лирика» тав. Шарапаў гаворыць:

„Черта-ль в ней—в золоченной плесени
Я не рву сокровенной струны,
Но мои сокровенные песни—
В общем хоре моей страны".

І вось якім бадзёрым, аптымістычным акордам канчаецца апошняя старонка яго першай кнігі вершаў «Маршевый шаг».

„О край мой, край
И радостный
И милый,
Рожденный Октябрем,
Тебя-ль мне не любить?
Тебе несу я
С неуемной силой
Неизмеримое желание
Жить!"

Вялікая страстнасць—вось што выгадна вылучае тав. Шарапава сярод некаторых іншых чырвонаармейскіх паэтаў.

Галоўныя недахопы тав. Шарапава—гэта слабая паэтычная культура. Тав. Шарапаў у радзе сваіх вершаў часта некрытычна падыходзіць да старых літаратурных традыцый і змагаецца супроць старой паэзіі старым паэтычным радком.

Але за апошні час гэты свой недахоп тав. Шарапаў з поспехам перамагае.

Рад вершаў тав. Шарапава апошніх часоў («Мать», «Крым», «Паспарт» і інш.) сведчаць аб творчым росце паэта.

Адзін з лепшых вершаў тав. Шарапава—верш «Мать».

Сустрэча чэлюскінцаў... Радасна хвалюецца перон вакзала... Мора жывых кветак... Крыху ў баку ад радаснага, усхваляванага натоўпа сустракаючых стаіць маці загінуўшага чэлюскінца Барыса Магілевіча. Адзін з герояў чэлюскінскай эпапеі—лётчык Слепнёў у прачулых словах супакойвае старую маці. І старая маці нарэшце адчула, што яна не адна, што яна ў кожным з чэлюскінцаў бачыць нешта ад свайго сына:

„И дрогнуло сердце,
Зажатое горем,
И глянуло
Синее небо из глаз ..

— Родные,
Я вижу любимого Борю
И в радости вашей
И в каждом из вас.

Качнулася в марше
Людская лавина
И в первой шеренге
Героям подстать
Шагала она,
Потерявшая сына,
Шагала она—
Пролетарская мать".

Верш «Мать» тав. Шарапава выгадна адрозніваецца ад вершаў другіх паэтаў, прысвечаных чэлюскінскай эпапеі тым, што тав. Шарапаў знайшоў да гэтай тэмы нейкі свой, арыгінальны падыход. Звычайна ўсе паэты, якія пісалі аб чэлюскінскай эпапеі, высоўвалі на першы план радасць сустрэчы чэлюскінцаў і перажыванні гэтай радасці адлюстроўвалі ў сваіх вершах. У гэтым, вядома, няма нічога дрэннага. А тав. Шарапаў у адлюстраванні гэтай тэмы пайшоў крыху па іншым шляху. Галоўная мэта тав. Шарапава ў вершы «Мать»,—адлюстраваць ва ўсёй паўнаце перажыванні маці загінуўшага Барыса Магілевіча. А таму для тав. Шарапава—радасць сустрэчы чэлюскінцаў—толькі фон, на якім ён разгортвае гэты галоўны момант у сваім вершы.

Па шляху арыгінальнага і глыбокага падыхода да розных жыццёвых з'яў павінна развівацца і ў далейшым творчасць тав. Шарапава.

Тав. **Шапавалаў**—мае ўжо тры кнігі вершаў: «Товарищ», «Ян Рендя» і «Дзержинцы».

У першых двух кнігах было многа недахопаў па лініі схематызма і няправільнай вучобы ў В. Маякоўскага. Тав. Шапавалаў, як ён піша ў адным са сваіх ранніх вершаў, ненавідзіць «певцов китайских роз и завитушек локона». Але зусім правільна адштурхоўваючыся ад гэтай буржуазнай экзотыкі, тав. Шапавалаў ударыўся ў другую крайнасць. Ён пашоў па лініі схематызма, лозунгоўшчыны, голай рыторыкі, што ў выніку прывяло да звычайнай прозы. Напрыклад у вершы «Нам нужно» тав. Шапавалаў гаворыць:

„Литература—
Не книжечки просто,
Не просто стишки,
Сказочки или быль.
Это—
Одно з самых острых
Орудий
классовой борьбы".

Гэта ўсё абсалютна правільна. Але гэта далёка адыходзіць ад мастацкага верша. Паспрабуйце расціснуць рамкі гэтай страфы і перапісаць гэтыя восем радкоў у адзін. Атрымаецца ўрывак з газетнага артыкула і толькі... Значыць, справа ідаць у тым, што кожная страфа і кожны радок павінны быць вобразнымі і павінны быць канкрэтнымі ў сваёй вобразнасці.

Паэма «Ян Рендя» напісана лепш. Яна добрая па замыслу тэмы і па мастацкаму выкананню.

У гэтай паэме ёсць многа добрых строф, якія ў вобразнай і эмацыянальнай форме паказваюць перажыванні галоўнага героя паэмы—Яна Рэндзі.

Вось, напрыклад, як паказвае тав. Шапавалаў тую абстаноўку, у якой знаходзіцца Ян Рэндзя:

„Сегодня" и „вчера"—
Как две монеты,
А ночью,
Сквозь шойную раму
Окна
Вползает
Чахоточная луна,
А за стеной
Хрипит
Туберкулезный ветер..."

Апошняя кніжка вершаў тав. Шапавалава «Держинцы» сведчыць аб тым, што тав. Шапавалаў, як паэт, падняўся на вялікую ступень. З вершаў тав. Шапавалава, змешчаных у гэтай кнізе, заслугоўвае найбольшай увагі верш «Два письма». У гэтым вершы падаецца перапіска бацькі-калгасніка з сынам-пагранічнікам. У сваім лісце да сына бацька-калгаснік дае яму наступны наказ:

„Чтобы я спокойно жил, косил
Нивы и колхозные луга,
Будеш ты не мой, а сукин сын,
Коли вражья тронет их нога.
Чтоб границы нерушимо
Возвышалися стеной
Чтобы не стыдясь за сына, я
Мог сказать:
—„Там Ванька мой".

І сын адказвае на наказ бацькі:

„За сына тебе
Не придется стыдиться,
На „хор" у меня и „погран" и „полит",
И пуля
Не дальше восьмерки
Ложится,
И конь мой блестит
(Как из меди отлит)".

Усе вершы тав. Шапавалава прасякнуты вялікай бадзёрасцю, вялікім аптымізмам, вялікай непрымірымасцю да класавых ворагаў.

Вельмі добра тое, што ў большасці сваіх вершаў тав. Шапавалаў паказвае жыццё і гераічныя ўчынкі нашых пагранічнікаў «Марш пограничников», «Держинскому», «ГПУ», «О валенках и геройстве», «Два письма» і інш.).

За апошнія часы тав. Шапавалаў закончыў вялікі раман з жыцця пагранічнікаў—«Большевики границы».

Мяркуючы па ўрыўках з рамана, якія друкаваліся ў розных перыядычных выданнях (альманах «Атака», газеты «ЛіМ», «Красноармейская правда» і інш.) можна ўжо цяпер сказаць, што раман тав. Шапавалава «Большевики границы» будзе каштоўным укладам у нашу літаратуру.

За апошнія гады значна вырас тав. **Садоўскі.**

Ад яго мінулых нарысаў, раскінутых у розных перыядычных выданнях, ад яго «Записок молодого бойца» да апошняй кніжкі апавяданняў «Скрыпка і ордэн»—цэлая прорва.

Садоўскі добра ведае жыццё Чырвонай арміі, яе людзей, іх перажыванні. Таму і большасць яго апавяданняў прысвечана Чырвонай арміі.

Апавяданне «Друзья»—гэта апавяданне аб беражлівых, клапатлівых адносінах да коней. Галоўныя героі апавядання—два коні—Сірэнь і Леў.

Тав. Садоўскі ў апавяданні «Друзья» не абмяжоўваецца толькі знешнім паказам гэтых разумных жывёл, ён паказвае іх баявыя ўчынкі, паказвае якую велізарную карысць яны прыносілі ў мінулых баях.

У апавяданні «Язык» тав. Садоўскі распрацоўвае вельмі важную тэму: інтэрнацыянальную еднасць усіх працоўных. Але ў апавяданні «Язык» адчуваецца некаторая паспешнасць і недаапрацаванасць паасобных вобразаў. Так, напрыклад, недастаткова пераканаўча паказана класавае перараджэнне польскага салдата Ваңлава, які пераходзіць на бок чырвоных.

Апавяданне «Скрыпка і ордэн» цікавае тым, што ў ім тав. Садоўскі паказвае чалавека, які робіць гераічныя ўчынкі не дзякуючы сваім фізічным уласцівасцям, а дзякуючы свайму музычнаму таленту.

Апавяданне тав. Садоўскага «Рана» паказвае барацьбу чырвонаармейцаў за чыстую лазьню, што безумоўна мела вялікае значэнне ў гады грамадзянскай вайны. У гэтым апавяданні ёсць многа добрых вобразаў. Асабліва запамінаюцца вобразы кулямётчыка Мазурыка, старыка Фока і інш.

Але ў апавяданні тав. Садоўскага ёсць і недахопы, на якія трэба яму ўказаць.

Так, напрыклад, у апавяданні «Рана» ўвогуле добра пададзен вобраз старыка Фока. Але вось адна няўдалая мастацкая дэталь:

«Старык Фок пускае сінія колцы дыма, якія роўнамернымі прамежкамі бягуць адно за адным, нібы іх жартаўнік спрытна ловіць на палку».

Так курыць можа толькі дзяўчына з танцавальнага класа, а не сур'ёзны і ўдумлівы старык, якім паказан Фок у апавяданні «Рана».

Назіраецца ў тав. Садоўскага і пагоня (часамі не дрэнная!)за так званай рытмічнай прозай. Напрыклад, у тым-жа апавяданні «Рана» тав. Садоўскі піша:

«Ехалі мы дзень, ехалі мы два, тры, чатыры, месяц... Першы, другі і трэці... Раніцою бой, днём бой, уначы бой. Кулямётнаму эскадрону заўсёды знойдзецца работа. А мясцовасць цёмная і брудная».

За апошні час тав. Садоўскі паспяхова перамагае свае мінулыя недахопы і вельмі хутка расце. Як, безумоўна, дадатную рысу тав. Садоўскага, трэба адзначыць яго вялікую працаздольнасць, яго ўпартую работу над ауладаннем майстэрствам мастацкага слова.

Пры ўмове далейшай упартай творчай работы з тав. Садоўскага можа вырасці добры навеліст.

Па многіх чырвонаармейскіх апавяданнях мы ведаем тав. **Глазырына.**

Але яшчэ больш мы ведаем тав. Глазырына, як драматурга. Глазырын у сваіх п'есах амаль ніколі не паказвае Чырвонай арміі, адарвана ад агульных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Ва ўрыўках з яго п'есы «Фронт» («Полымя Рэволюцыі» № 5 1934 г.) цесна пераплятаюцца малюнкі грамадзянскай вайны (вобраз камісара Бронава) і работы на адказнейшых вучастках калгаснага будаўніцтва.

П'еса тав. Глазырына «Маладая сіла» дае яркія вобразы нашай калгаснай моладзі. Адзіны недахоп яе—слабая акрэсленасць і некаторая неза-

кончанасць вобраза Сямёна—нездаровага рамантыка, «кефірнага лётчыка», які імкнецца ў самыя напружаныя дні работы кінуць адказнейшы участак калгаснага будаўніцтва. У п'есе заўважаецца некаторая слабасць у завязванні сюжэтных вузлоў.

Не гледзячы на гэтыя недахопы, п'еса тав. Глазырына «Маладая сіла»—бадзёрая і радасная. Яна з вялікім поспехам можа быць выкарыстана нашымі калгаснымі драмгурткамі.

З апошніх твораў тав. Глазырына трэба адзначыць яго навелу «Скрыпка». Гэта добрая навела, бо на нешматлікіх яе старонках тав. Глазырыну ўдалося паказаць вельмі многа карцін і эпізодаў, якія паміж сабой цікава пераплятаюцца.

У гэтай навеле, навеле аб музыканце Конюхаве, які вымушан быў здрадзіць сваёй любімай прафесіі і зрабіцца архітэктарам, тав. Глазырын знайшоў адпаведную тэме і ідэі твора яркую і каларытную мову.

Тав. Глазырын добра ўладае пружынай твора, якая трымае ўвесь твор, не даючы яму развалліцца, добра ўладае сюжэтам і кампазіцыяй твора.

Тав. Глазырыну і ў далейшым варта пісаць невялікія апавяданні і навелы.

Тав. **Кручкін** амаль усе свае творы прысвячае паказу Чырвонай арміі. Ён адрозніваецца ад другіх чырвонаармейскіх пісьменнікаў вялікім багаццем тэм, сюжэтаў. У яго багатая жыццёвая практыка, з якой бяруцца гэтыя тэмы і сюжэты. У вершы «Путь»—раскрыта мастацкая аўтабіяграфія тав. Кручкіна:

„Пермь сегодня. Завтра на Урале.
Утром—горы. Вечером поля,
Так я рос. Бойцы меня ласкали,
Спал в степи под шопот ковыля.
Помню я, протарахтели годы,
Двадцать верст промчалась жизнь моя
И в курсантские ушел я взводы
В школу ВЦИК, за бруствера Кремля".

У тав. Кручкіна шмат каўказскіх і ўсходніх вершаў. Але ў іх няма той таннай экзотыкі і знешняй «прыгожасці», якая часта сустракаецца ў паэтаў, якія пішуць на гэтыя тэмы.

Тав. Кручкін у гэтых вершах захоўвае (і добра робіць!) некаторы нацыянальны каларыт. Але ён заўсёды робіць акцэнт на з'явах сацыяльнага парадка.

Так, напрыклад, у вершы «Продавец Мацони» тав. Кручкін надзяляе гэтага прадаўца яркай, вобразнай мовай.

Прадавец Мацоні гаворыць:

„Я тоже был безусым і кудрявым
Из бочки жизни счастья бил фонтан.
Но счастье что? Мешок дырявый
Тем, у кого сочится боль из ран".

Тав. Кручкін любіць пісаць аб гераічным мінулым Чырвонай арміі, яе паасобных палкоў, дывізій, карпусоў. Паэма «Чонгар» прысвечана паказу баявых дзеянняў Чангарскай дывізіі.

Паэма «Чангар» напісана зразумелай, песеннай мовай. Ёсць месцы вытрыманыя ў народным песенна-фальклорным стылі. Вось адно з характэрных у гэтых адносінах месц у паэме:

„Зажурился в поле
Ветер буревой,
Знать тоска о воле
Бродит над землей.
Полыхает пламя,
Пепел вьется хат.

Глумится над нами
Злобный, белый кат.
Вымерли станицы,
Извели весь свет,
Черные криницы,
Очи у сирот.
И поля не родят,
Сгинул урожай,
Барские угодья
Землю сторожат.
А помещик снова
Нашу кровь сосет.
Без земли, без крова
Голытьба живет.
Ваня Селиванов,
Рыльский и Гайдань
Партизанским станом
Подняли Кубань".

І сапраўдным, совецкім патрыятызмам прасякнуты апошнія, заключныя радкі паэмы:

Традиции Чонгарские
Куют нам молодняк,
И силой пролетарскою
Слит конницы костяк.
За знание ударное
Мы бьемся каждый миг,
Года былые, хмарные
Хранят штандарты пик.
Мы снайперской дивизией
Растем, растем,
Приказ твой будет выполнен,
Стальной Нарком!
И если снова стаею
Взметнется гул боев,
Любой чонгарец-снайпер
Итти готов на бой.
Дивизия Чонгара,
Тебе шестнадцать лет,—
Стремительным ударом
Прошла свой путь побед.

Некаторыя гавораць, што ў Кручкіна мастацкая проза атрымліваецца лепш, чым вершы. Можа гэта і так. Аб гэтым сведчыць яго аповесць «Комвзвод Шиханов». Але трэба рашуча адкінуць гутаркі тых людзей, якія раяць Кручкіну зусім закінуць вершы і паэмы. Гэта шкодныя парады. Кручкін можа працаваць з аднолькавым поспехам у абодвых жанрах. Наша крытыка павінна дапамагчы тав. Кручкіну ажыццявіць яго творчыя замыслы, бо яны паказваюць, што з яго можа вырасці таленавіты пісьменнік.

Нельга прайсці міма такога чырвонаармейскага пісьменніка, якім з'яўляецца тав. **Крапачоў.**

Ён увайшоў у совецкую літаратуру двума яго вялікімі апавяданнямі: «Песок горит» и «Шахимарданская мечеть». Спынімся на апавяданні «Шахимарданская мечеть». Гэта апавяданне аб гераічных эпізодах Чырвонай арміі, аб барацьбе з басмачаствам, з унутранай узбекскай контррэволюцыяй.

Тав. Крапачоў умее падбіраць патрэбны каларыт да апавядання, які-б найбольш поўна перадаваў абстаноўку, у якой прыходзілася дзейнічаць чырвонаармейскім часцям і адпавядаў тэме апавядання.

Тав. Крапачоў удала выкарыстоўвае рад лакальных вобразаў, пры дапамозе якіх ён найбольш поўна перадае адпаведны нацыянальны каларыт у сваіх апавяданнях.

Вось некаторыя прыклады такіх вобразаў.

«Марудна, як стары вярблюд, цягнулася жыццё далінная кішлака Імралі. Бедныя на падзеі марудна адыходзілі год за годам. Людзі, паміраючы, пакідалі пасля сябе тыя-ж палі хлапка, джугары і рыса, тыя-ж арыкі, гнёзды буслаў на плоскіх дахах мячэцей, густыя чынары, высокія, стройныя пірамідальныя таполі—усё, што так памятна ім было з самага дзяцінства».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Жыццё было бедным на падзеі, як бедныя на ваду доўга нячышчаныя арыкі».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Быў той час, калі клінком і куляй разрывалася шчыльная паранджа*) векавога кішлачнага застоя».

«Праз буйныя, белыя зубы ляцяць аднастайныя гартанныя гукі нескладанай песні аб цвітучых далінах, шумлівых горных рэчках і злосных басмачах» і т. д.

Што да падачы паасобных вобразаў людзей у апавяданні «Шахимарданская мечеть», дык найбольш удалымі з іх трэба лічыць вобразы камандзіра эскадрона Смірнова, узбека-чырвонаармейца Іргаша, кулямётчыка Надгорнага і камандзіра ўзвода Кувалдзіна.

Усё-ж лепш за ўсіх запамінаецца вобраз Смірнова.

Апавяданні тав. Крапачова «Песок горит» і «Шахимарданская мечеть» паказваюць, што ён добра ўладае матар'ялам, добра ведае тое, аб чым піша. Але ў тав. Крапачова ёсць такі недахоп: ён любіць у сваіх апавяданнях захоўваць найбольшую дакладнасць, амаль дакументальнасць паасобных падзей і эпізодаў, з-за чаго яны часам многа губляюць ў сэнсе сваёй займальнасці.

Тав. **Шапіра** мае параўнаўча мала сваёй арыгінальнай творчай прадукцыі. Ён надрукаваў толькі апавяданне «Шрубачкі» і недакончаную аповесць «Кипучие дни». У апавяданні «Шрубачкі» тав. Шапіра паказвае, што Чырвоная армія выхоўвае чалавека. Галоўны герой апавядання «Шрубачкі»—Ян Чэрнік паступае ў рады Чырвонай арміі цёмным, забітым сялянскім хлопцам, зусім няпісьменным і рэлігійным. І тав. Шапіра ўдалося праўдзіва паказаць працэс перавыхавання гэтага чалавека ў Чырвонай арміі.

У аповесці «Кипучие дни» (гл. часоп. «Напагатове» №№ 2 і 3 1932 г. і №№ 1, 2—3 1933 г.) тав. Шапіра таксама паказвае вялікае выхаваўчае значэнне Чырвонай арміі. Ён паказвае, як у радах Чырвонай арміі вучацца, растуць і загартоўваюцца нашы байцы, паказвае інтэрнацыянальную сутнасць Чырвонай арміі. Найбольш удалыя вобразы ў гэтай аповесці—гэта вобразы Панасюка і Гранчэнка. Астатнія людзі пададзены крыху слабей.

У тав. Шапіра ёсць тонкае пачуццё пейзажа. Ён любіць з лірычнай цяплынёй падаваць малюнкі прыроды. Некаторыя з іх атрымліваюцца даволі добра. Напрыклад, малюнак наступаючай зімы:

«Наступалі халодныя дні. Чорныя хмары насіліся нізка над зямлёй. На змену восені ішла, спяшалася зіма, з сваімі «белымі мухамі», суровымі марозамі, скрыпучымі дарогамі.

Тры дрэвы каля штаба палка ачысціліся ад лісця, галіны падсохлі, прыгатаваліся да зімовага сна. Яны шуршаць аб мінулых днях цвіцення, аб яркім летнім сонцы, аб ціхіх цёплых вечарах і радасным птушыным свеце».

Даваць канчатковую ацэнку аповесці тав. Шапіры «Кипучие дни» даволі цяжка, таму што яна не закончана.

Цяпер тав. Шапіра піша раман «Лимонная корка» на матар'яле гомельскага лесакамбіната імя тав. Гікало.

*) Валасяная сетка, якой жанчыны-узбечкі закрываюць твар.

Тав. **Гусеў** таксама працуе ў галіне абароннай тэматыкі. Яго апавяданні прысвечаны барацьбе Чырвонай арміі і партызанскіх атрадаў з бандытызмам, з польскай і нямецкай акупацыяй. Яны прасякнуты ненавісцю да ворагаў рабочага класа і любоўю да тых, якія сваімі грудзьмі адсталялі заваёвы Кастрычніцкай рэволюцыі. Такія яго апавяданні «Перамога», «Франтавік» і інш. У асобную катэгорыю трэба аднесці апавяданне «Стрэл». Тут грамадзянская вайна—толькі фон. Асноўная акцэнтыроўка апавядання на беражлівых адносінах чырвонаармейца да свае зброі. Адзін з герояў апавядання «Стрэл»—Любчанка, вельмі ўжо захапляецца сваім рэвальверам «сміт-вісонам», які ў яго знаходзіцца ў няспраўнасці. Не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні камандзіра, ён з яго страляе нават тады, калі ў гэтым няма асаблівай патрэбы. Гэты «сміт-вісон» адплаціў Любчанку «дрэнным жартам». Калі трэба было захапіць варожую разведку ён зусім адмовіўся страляць. Замест таго, каб пакончыць з варожымі сіламі агнястрэльнай зброяй, давялося ўступіць з імі ў рызыкоўны рукапашны бой, які, на шчасце, скончыўся перамогай для чырвоных разведчыкаў.

У тав. Гусева ёсць многа цікавага фактычнага матар'ялу, які трэба апрацаваць. А мастацкая апрацоўка не заўсёды добра яму ўдаецца. Тав. Гусеў яшчэ не ўладаў у дастатковай ступені літаратурным майстэрствам. У большасці выпадкаў матар'ял кіруе тав. Гусевым, а не тав. Гусеў кіруе матар'ялам. Часта замест мастацкага паказу тав. Гусеў збіваецца на простае расказванне.

На фармальна-мастацкую апрацоўку сваіх твораў тав. Гусеву варта звярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Тав. **Дудзін**—малады і здольны чырвонаармейскі паэт. Чым падкупляюць чытача вершы тав. Дудзіна? Яны яго падкупляюць глыбокай шчырасцю выражанай ідэі, напеўнасцю, арыгінальнымі незаштампаванымі вобразамі.

Пачаўшы друкаваць свае першыя вершы ў чырвонаармейскіх шматтыражках, тав. Дудзін хутка перайшоў на старонкі цэнтральнага друку.

У адным з сваіх ранніх твораў «Бодрость» тав. Дудзін не схематычна, а ва ўсёй складанасці і паўнаце паказвае жыццё маладых, жыццярадасных байцоў.

Аб гэтых байцах тав. Дудзін гаворыць:

„Они умеют не тужить,  
Весну своей страны любить,  
Ходить задумчиво слегка,  
Ловить дыханье ветерка.  
В руке сжимать сильней наган  
В пургу, в дожди, в сырой туман.  
В лесу разведывать врага,  
Страну свинцом оберегать"...

Гэтыя байцы не пададзены людзьмі ў «скураных куртках». Яны ўмеюць радавацца, сумаваць, любіць і ненавідзець. Яны гатовы ў патрэбную мінуту ахвяраваць жыццём для выратавання свайго баявога таварыша:

„Но если все же смерть придет,  
В бою товарищ упадет,  
Его под вражеским огнем  
Полуживого унесем,  
Его родную остановим кровь—  
Мы знаем дружбу, ненависть, любовь".

Добра напісан верш «На досуге» з цыкла «Стихи о весне». Гэты верш падкупляе чытача вялікай эмоцыянальнасцю паасобных вобразаў.

Вось якімі радкамі пачынаецца верш «На досуге»:

„Я песню начну
    И повиснет в саду,
Веселое слово
    На ветках зеленых,
За словом родные
    Ребята придут
Бойцы моего батальона.
. . . . . . . . . . . .
Весеннюю песню
    Возьмут в оборот,
Бойцы молодые
    С задором,
И песня, как пуля
    В полете пройдет
С истоков Днепровья
До Черного моря“.

З вялікай лірычнай цяплынёй, у мяккіх, сонечных фарбах, без знешняй крыклівасці, якая яшчэ мае месца ў вершах маладых і пачынаючых чырвонаармейскіх паэтаў, напісан верш тав. Дудзіна «Рябина».

Пачынаецца верш прыгожым, бадзёрым асеннім пейзажам:

„Когда листвою озолоченный
Сгорал во мгле осенний день,
В огнях цвела рябина сочная
От зябких утренних дождей“.

У наступнай страфе паказваецца, як баец разам з сваім атрадам рушыўся ў паход. І паэт удала аперыруе тым-жа вобразам рабіны. Але цяпер гэта ўжо не тая рабіна. Цяпер гэта рабіна адыгрывае ў вершы зусім іншую, соцыяльную функцыю.

„Червонный цвет и облик ласковый
Припомнишь, двинувшись в поход,
Когда рябиновыми красками
На касках звездочка цветет“.

І, нарэшце, калі баец пойдзе ў апошні рашучы бой, ён таксама прыгадае чырвоны колер рабіны, якая і тут будзе адыгрываць соцыяльную функцыю:

„Когда бойцы дорогой длинною
На бой взволнованно пойдут,
Ты снова вспомнишь цвет рябиновый,
В котором наш армейский дух“.

Такі падыход да тэмы сведчыць аб глыбокіх і ўдумлівых адносінах тав. Дудзіна да паказу розных жыццёвых з'яў.

Вершы тав. Дудзіна—сапраўдная баявая чырвонаармейская лірыка. Адзіная небяспека, якая стаіць перад маладым і здольным паэтам—некаторае захапленне паасобнымі дэталямі, у выніку чаго часамі не атрымліваецца належнага паказа і абагульнення ўсёй паказваемай з'явы.

Тав. Васілеўскі таксама вылучаецца сваімі вершамі сярод маладых чырвонаармейскіх паэтаў. Галоўная тэма, якую тав. Васілеўскі распрацоўвае ў сваёй творчасці,—гэта жыццё Чырвонай арміі ва ўсіх яго праяўленнях.

Тав. Васілеўскі, у адрозненне ад некаторых другіх маладых чырвонаармейскіх паэтаў, упарта працуе над фармальна-мастацкім бокам сваіх вершаў. Ён працiўнік наследванняў старым паэтам, ён—вораг старога рытма, заштампаванай рыфмы...

Так, напрыклад, у вершы «В вагоне» тав. Васілеўскі дае чытачу адчуць музыку хутка бягучых вагонных калёс:

„Качаясь, плывут фонари,
Колеса ритмично стучат,
Бегут, пригибаясь к земле
В тумане ветвистые клены. .
В окне в переливах зари
Я вновь принимаю парад,
Лесов и колхозных полей
Спешащих навстречу вагону"...

У вершы «Перед началом сеанса» тав. Васілеўскі падае вобраз камандзіра корпуса, паказваючы той даўгі і цяжкі шлях, які прайшоў гэты камандзір.

„—Смотри вот,—
Товарищи, можно сказать,
Со школьной скамейки знакомы.
В тот год,
Когда ржавый военный металл
К фронтам подвозили платформы,—
Я бредил Ньютоном,
Я ночи не спал,—
В плену вычислений и формул.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Однажды надолго,
Угрюмый швейцар
Закрыл за ним двери гимназии
Огнем батарей
Полыхала заря
В предчувствии бури, зловеще
Шептались историки,
профессора,
И ректор укладывал вещи .."

Сапраўдную школу гэты камандзір прайшоў у дні Кастрычніцкай рэволюцыі і грамадзянскай вайны. Тав. Васілеўскі дае наступную, арыгінальную канцоўку свайму вершу «Перед началом сеанса»:

„Героя—комкора
Приветствует зал,
Бойцы козыряют, встречая,
Но вот оживает экран,
И Урал
Гремит по ущельям,
И в бурный туман
Летит на тачанке
Чапаев".

Верш «Откровение» тав. Васілеўскага адрозніваецца тым, што ў ім паэт хоча даць філасофскую лірыку. Недахоп гэтага верша ў тым, што ў ім тав. Васілеўскі вельмі многа аперыруе абстрактнымі філасофскімі катэгорыямі, якія толькі зацямняюць сэнс усяго верша.

Ідэя верша—паказаць адыход жанчыны ад мяшчанства:

„Ссйчас обидно вспомнить даже,
Что нас с тобой не обошел
Соседский глаз замочных скважин,
Мещанский говор і смешок".

Тав. Хадыка як і другія, маладыя чырвонаармейскія паэты, бярэ тэмы для сваіх вершаў пераважна з жыцця Чырвонай арміі.

У вершы «Двое» тав. Хадыка расказвае аб маладым шчаслівым пакаленні, якое расце ў нашу цудоўную эпоху. Радасць нашаму маладому пакаленню заваявалі бацькі.

Вось цяжкі шлях аднаго з гэтых бацькоў:

„Отец твой без сна и хлеба,
В далёкие, славные годы,
Под Слуцком и Могилевом
Республику охранял.
Батрак до седьмого колена
В тяжелых, австрийских ботинках,
С трофейным деникинским кольтом
Прошел через все фронты".

Але ў творчасці тав. Хадыкі ёсць і сур'ёзныя недахопы. Так, напрыклад у адным з ранніх вершаў «Тревога» тав. Хадыка піша:

„Сложены квадратом гимнастёрки, брюки,
Вот сапог подставил теплый, черный рот
Спят сыны советские—вытянуты руки,
На груди открытой выступает пот".

Жадаючы паказаць у прыведзеным урыўку сон байцоў, тав. Хадыка такімі словамі, як «вытянуты руки», «на груди открытой выступает пот»,— стварае вельмі драматычную карціну, якая зусім не адпавядае сапраўднасці.

У творчасці Хадыкі ёсць і некаторыя палітычныя зрывы. Яны з'яўляюцца вынікам непрадуманасці некаторых вершаў. Так, напрыклад, у вершы «Командир орудия» тав. Хадыка падае вобраз узорнага камандзіра, які выконвае на «выдатна» ўсе баявыя заданні. Але паступова баявая работа пачынае ўсё менш і менш здавальняць камандзіра і ён пачынае сумаваць:

„Однажды к нему подошел секретарь,
Когда прозвучал отбой,
И тихо сказал:
—Ты давно не пел...
В чем дело?
Грустишь? Заболел?
Прищурясь,
Услышал ответ прямой:
—Хочу на завод,
Домой".

І толькі пасля вялікай растлумачальнай гутаркі сакратара з гэтым камандзірам, гутаркі аб тым, што завод знаходзіцца ў надзейных руках, што ён патрэбен і тут, у арміі,—толькі пасля гэтага камандзір узважвае свае думкі на «партыйных вясах» і піша заяву аб тым, што жадае застацца ў арміі на звыштэрміновай службе.

У чым галоўны недахоп гэтага верша, не гаворачы ўжо аб слабасці і надуманасці некаторых вобразаў? Галоўны недахоп гэтага верша ў тым, што тав. Хадыка не ўзвышае, а зніжае асноўны ворбаз верша. Сёнешні радавы баец Чырвонай арміі (не гаворачы ўжо аб камандзіры) настолькі свядомы, што ён не можа ў арміі сумаваць аб заводзе, бо разумее, што работа ў арміі з'яўляецца неадрыўнай часткай усяго соцыялістычнага будаўніцтва, што армія якраз і ахоўвае мірную працу і той завод, аб якім сумуе камандзір.

У радзе новых вершаў тав. Хадыкі нядрэнных па сваіх фармальна-

мастацкіх якасцях («Хорошей девушке», «Радостно вижу я» і інш.) маладому паэту пагражае небяспека ўпасці ў індывідуалізм, у некаторае самалюбаванне, у захапленне сваімі асабістымі перажываннямі, якія не маюць нічога агульнага з перажываннямі грамадскімі.

Тав. Цітоў прыслаў у абаронную камісію ССПБ пяць сшыткаў сваіх вершаў. Большасць гэтых вершаў яшчэ даволі сыры матар'ял, які патрабуе сур'ёзнай і стараннай апрацоўкі. Але побач з слабымі рэчамі ў гэтых паэтычных сшытках тав. Цітова ёсць і такія, якія заслугоўваюць увагі. Характэрнай рысай вершаў тав. Цітова з'яўляецца тое, што ў фармальнамастацкіх адносінах, як і многія другія маладыя чырвонаармейскія паэты, тав. Цітоў не знайшоў яшчэ сваёй уласнай (у стылявых адносінах) дарогі.

Але не гледзячы на тое, што ў тав. Цітова існуе вялікі разрыў паміж формай і зместам, тав. Цітоў у паасобных сваіх вершах умее перадаць тое, альбо іншае пачуццё, дасягае пэўнай лірычнасці, якая робіць вершы эмацыянальнымі.

Так, напрыклад, верш тав. Цітова «Прощание с другом» авеяна вялікай любоўю кавалерыста да свайго баявога сябра—каня. Верш перадае сум каня, які ўжо не будзе разам з сваім любімым гаспадаром, што канчае армейскую службу:

„Голубеют в мелколесье
Тучки с солнечных трибун,
Что-ж ты голову повесил
Черноглазый мой скакун?
Загляделся ли ты в просинь
Звонкой шири полевой,
Иль грустишь, что в эту осень
Расстаюся я с тобой".

Бязумоўна, пачуццё развітання тут ёсць. Але гэтае пачуццё ў значнай меры зніжаецца тым, што яно выражана ў старой паэтычнай форме, якая нагадвае: «что ты ржешь мой конь ретивый». Многія вершы тав. Цітова вельмі расцягнуты, маюць слабы сюжэтны касцяк і часта вялікія вершы могуць распадацца (без асаблівай шкоды) на некалькі самастойных вершаў, бо ў іх няма галоўнай, замацоўваючай пружыны, якая трымае ўвесь верш.

У некаторых вершах тав. Цітова сустракаецца проста бязсэнсіца.

Так, напрыклад, у вершы «Баллада об ОКДВА» тав. Цітоў піша:

„И взметнувшись голым телом
В солнечную высь,
Шашка звонкая алела
При паденьи вниз.
И опять взлетала сразу,
Опускаясь злясь,
Голова катилась наземь,
Бомбою дымясь".

Што тут з'яўляецца няправільным і надуманым? А тое, што шашка можа чырванець ад крыві. Шашка можа чырванець у другой страфе, калі яна ўразаецца ў цела. А ў тав. Цітова шашка чырванее раней, чым яна паспела пакрыцца кроўю.

Нядрэнна напісана паэма «Две думы». Але ў ёй тав. Цітоў недастаткова крытычна ўспрымае літаратурную спадчыну, аб чым сведчаць многія словы і вобразы гэтай паэмы.

У паэмах «Партизан Кожух» и «Ночи кабарды» тав. Цітоў спрабуе знайсці свой уласны арыгінальны стыль і ў гэтых паэмах ён робіць гэта не без поспеха.

Удумлівыя адносіны да літаратурнай спадчыны, удумлівыя адносіны да кожнай сваёй страфы, да кожнага свайго радка,—зарука далейшых творчых перамог тав. Цітова.

* * *

Мы ў кароткіх рысах разгледзелі творчасць асноўнага касцяка чырвонаармейскіх пісьменнікаў Б. В. А.

Мы не спыняемся тут на творчасці рада пачынаючых чырвонаармейскіх пісьменнікаў, якія на сёнешні дзень складаюць моцны пісьменніцкі рэзерв.

З іх трэба адзначыць т. т. **Ліпаўку, Сінані, Дубасава, Цвяткова, Ардатава, Каусмана, Вінецкага, Хахаліна, Шпакоўскага, Гараніна, Іваньковіча, Ладонкіна, Сейнава** і інш.

Загады палітычнага кіраўніцтва Б. В. А. (№ 14 і № 2), якія гавораць аб узмацненні работы над кнігай, аб тым, што комсамольцы павінны ў абавязковым парадку прачытаць лепшыя кнігі сучасных совецкіх пісьменнікаў і выдатныя творы класікаў,—выклікалі ў чырвонаармейскіх часцях Акругі велізарную цікавасць да мастацкай літаратуры.

За апошнія часы сярод байцоў нашай Акругі назіраецца вялікая зацікаўленасць беларускай совецкай літаратурай. Байцы, члены літаратурных гурткоў і аб'яднанняў пранікаюцца любоўю не толькі да пэўных кніг беларускіх совецкіх пісьменнікаў, але і да паасобных канкрэтных вобразаў, якія паказаны ў гэтых кнігах.

Так, напрыклад, дзеда Талаша,—галоўнага героя аповесці «Дрыгва» народнага паэта Рэспублікі Якуба Коласа, добра ведаюць і любяць усе байцы, таму што гэты вобраз выпісан Якубам Коласам з вялікім майстэрствам і ўвасабляе сабе велізарную любоў да нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Якія абаронныя задачы стаяць перад беларускай совецкай літаратурай?

Мы да апошняга часу ў беларускай совецкай літаратуры не маем шырокіх палоцен аб грамадзянскай вайне, імперыялістычнай вайне. Нашыя творы аб гэтых важнейшых гістарычных падзеях пакуль што яшчэ вельмі дробныя. Гэта пераважна невялікія апавяданні, нарысы, нататкі з блокнота, паасобныя мініатуры і т. д.

У беларускай совецкай літаратуры мала твораў, якія-б паказвалі Чырвоную армію аднаўленчага перыяда. Зусім недастаткова ў беларускай совецкай літаратуры паказан наш морскі і паветраны флот, роля якіх у будучых баях будзе велізарная.

Яшчэ вельмі многа тэм, галоўным чынам тэм гістарычнага парадку чакаюць сваёй мастацкай распрацоўкі. Але гэтых тэм нельга глыбока распрацаваць без ведання жыцця Чырвонай арміі, а таксама без глыбокага засваення вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна аб вайне і арміі.

Ці можа, напрыклад, пісьменнік у мастацкім творы правільна паказаць расстаноўку класавых сіл у гады імперыялістычнай вайны, не ведаючы ленінскага вучэння аб імперыялізме? Бязумоўна, не! Ленінскія творы неаднаразова ўскрывалі неправільныя тэорыі Плеханава і варожыя тэорыі Троцкага і інш. па пытаннях аб вайне. Аб важнасці вывучэння розных гістарычных матар'ялаў, вывучэння розных пастаноў і дакумантаў нашай партыі па пытанню аб вайне, ваеннай небяспецы і будаўніцтву нашай Чырвонай арміі зусім правільна піша тав. Свірын у сваёй кнізе «Мобилизация литературы».

Беларускай совецкай літаратурай не вырашана яшчэ ў дастатковай ступені многа тэм і праблем абароннага характара: праблема нацыянальнага

пытання і яго роля ў нашай перамозе над ворагамі, праблема сучаснай баявой і палітычнай вучобы чырвонаармейца, праблема быта сям'і камандзіра, праблема ўзаемаадносін паміж камандзірам і чырвонаармейцам, удзел Чырвонай арміі ў соцыялістычным будаўніцтве, вялізарная роля Леніна, Сталіна, Фрунзе і Варашылава ў справе арганізацыі ўзброеных сіл пролетарскай дзяржавы—усё гэта яшчэ чакае свайго глыбока-мастацкага вырашэння ў беларускай совецкай літаратуры.

У Маскве ў Доме Совецкага Пісьменніка на сустрэчы камандзіраў Першай Коннай Арміі з совецкімі пісьменнікамі 25-га лютага 1935 года тав. Будзённы зусім правільна кінуў папрок совецкім пісьменнікам у недастатковай увазе да пытанняў абароны краіны.

«Уся героіка гэтай эпохі—гаварыў Сямён Міхайлавіч, павінна знайсці адлюстраванне ў мастацкай літаратуры для таго, каб наша моладзь магла захапляцца прыкладамі рэволюцыйнай адвагі, знаходчывасці, ініцыятывы. Ці многа вы, таварышы-пісьменнікі, працуеце ў гэтым напрамку? Матар'ял, што называецца, пад нагамі валяецца,—нагніся, ды вазьмі! Але вы нярэдка лянуецеся парыцца ў архівах, ды сур'ёзна пагутарыць з жывымі ўдзельнікамі гэтых падзей. Як часта толькі юбілеі падводзяць вас найбольш блізка да такіх важных праблем, як паказ Чырвонай арміі. У такія дні нас усе хапаюць за полы. Ну, а пройдзе юбілей, і святочны настрой знікне».

Гэты зусім справядлівы папрок тав. Будзённага можа быць аднесен і да беларускага атрада совецкіх пісьменнікаў.

На пятым пленуме Праўлення Саюза Совецкіх Пісьменнікаў Беларусі было заслухана інфармацыйнае паведамленне сакратарыята рэдакцыі «Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі».

Колькі багацейшага і цікавейшага матар'яла з гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі! Колькі гераічных эпізодаў, якія мелі месца на Беларусі, колькі слаўных імён змаглі-б ператварыцца ў цэлыя паэмы пра гераічны совецкі патрыятызм пад пяром беларускіх совецкіх пісьменнікаў!

Пленум горача адгукнуўся на паведамленне сакратарыята рэдакцыі гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі і прыцягнуў да работы над стварэннем гэтай багацейшай гісторыі цэлы рад беларускіх совецкіх пісьменнікаў.

Наша совецкая літаратура ў ідэйных і мастацкіх адносінах з'яўляецца дыяметральна-процілеглай усёй пісаніне буржуазных літаратараў загніваючага капіталістычнага света. Велізарны ідэйна-мастацкі рост усіх нацыянальнах атрадаў совецкай літаратуры дэманстраваў першы ўсесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў.

У беларускай совецкай літаратуры ёсць яшчэ некаторыя прабелы, некаторыя цэвырашаныя праблемы. Але можна з упэўненасцю сказаць, што гэтыя прабелы будуць ліквідаваны, і што невырашаныя праблемы будуць вырашаны.

Наш совецкі літаратурны рух рос, расце і будзе расці, бо гэтым рухам кіравала, кіруе і будзе кіраваць наша комуністычная партыя на чале з правадыром сусветнага пролетарыята **Іосіфам Вісарыёнавічам Сталіным!**

Пад такім кіраўніцтвам наша совецкая літаратура будзе нястомна і імкліва ісці ўсё наперад і наперад, ад перамогі да перамогі!

Янка Шарахоўскі

# ТВОРЧАСЦЬ Я. СКРЫГАНА

Скрыган пераважна працуе ў жанры кароткага апавядання. Самыя раннія яго апавяданні датыраваны 1926 годам. Усё напісанае ім, за выключэннем твораў напісаных за апошнія тры гады, у асноўным змяшчаецца ў трох зборніках: «Затока ў бурах», «Шугае сонца» і «Недапісаны профіль».

Першы зборнік «Затока ў бурах» складаецца з твораў, напісаных у перыяд з 1926 па 1929 год. У гэты зборнік увайшлі, як першыя спробы пяра маладога пісьменніка, так і творы ўжо больш-менш мастацкі спелыя. Аднаўленчы перыяд не знайшоў мастацкага адлюстравання ў зборніку. Тэматыку гэтага перыяда Скрыган абыходзіў. Амаль усе творы зборніка напісаны на матэрыяле ўзятым з мінулага. Толькі ў трох творах гэтага зборніка ўзят матэрыял вялікага соцыяльнага значэння («Затока ў бурах», «Памятнае», «Шорсткая дарога»)—імперыялістычная вайна, лютаўская і Кастрычніцкая рэволюцыі, белапольская акупацыя. Рэшта твораў зборніка напісана на тэмы сялянскага побыту, або тэмы не маючыя грамадскага значэння, тэмы вузка-асабістага парадку.

У сваіх першых творах Скрыган выступіў пісьменнікам дробнага, пазбаўленага ўсякіх грамадскіх ідэалаў, асоцыяльнага, замкнутага ў сваіх асабістых інтарэсах чалавека—мешчаніна. Жыццё персанажаў гэтых твораў бяздумнае, самаздаволена-тупое, поўжывельнае. Яны нікуды не імкнуцца і нішто іх не хвалюе. Адзіная праблема, вырашэннем якой яны займаюцца,—гэта праблема кахання. Але і кахаць яны не ўмеюць. Для іх каханне—проста праблема ложка, яно цынічнае і грубае. У «Паэме пра Анюту», адным з першых скрыганавых твораў, гэтае каханне да таго-ж прыпраўлена ўпадніцкім смакаваннем распушчанасці. Тут цэлая мяшчанская філасофія жыцця, як смактання яго слодычы, смагі.

Рамантызацыя распушчанасці ў апавяданні праводзіцца праз трактоўку яе, як своеасаблівага ўдальства. Не даводзіцца і гаварыць пра тое, што ў апавяданні прастытуцыя зусім не раскрыта, як соцыяльнае з'явішча. Не сказана колькі-небудзь выразна, што штурхнула Анюту на шлях прастытуцыі. «Не было з чаго жыць табе»—гэта прышло пасля. Калі аўтар хацеў выкрыць агідную ролю аматараў піць «сёнешнюю смагу, не ведаючы аб заўтрашнім дні», то трэба было і твор будаваць у гэтым плане.

Апавяданне напісана ў форме ліста да Анюты. Анюта як-бы колішняя сяброўка самога пісьменніка. Пісьменнік у апавяданні ўзяў на сябе ролю добрага генія, які накіроўвае Анюту на правільны шлях. Але гэтая роля аказалася яму не па сіле. У канцы апавядання, у развязцы прастытутка Анюта пад уплывам аўтара ператвараецца ў комсамолку, у дабрачынную грамадзянку. Але канцоўка механічна прышпілена («Для ідэалогіі»), ком-

самолка Анюта паказана непераканаўча і бледна. У яе нават праслізваюць ноткі жалю аб сваім мінулым:

«Пасля ты была на фабрыцы, панура пахіліўшы галаву, ты стаяла ля свайго варштата. Можа, думала тады аб чым, можа марыла. А можа забывалася і пералівала душу ў шум шасцярэнь і пляск пасаў»...

Вулічнае-ж мінулае Анюты паказана надзвычай ярка і паказана так, што не выклікае агіды ў чытача. Таму і выходзіць, што ў творы праводзіцца рамантызацыя распушчанасці. Чаму такі ідэйны змест набыў твор? Адказ можа быць адзін. Таму, што ў самога пісьменніка быў нізкі ідэйна-палітычны ўзровень, таму што ў яго не было дастатковага ідэйнага багажу, каб зрабіць змест твору інакшым.

Таксама ў форме ліста да дзяўчыны напісана апавяданне «Таіса». Гэты твор таксама мяшчанскі. Барацьба парабкоў з эксплаататарамі-панамі ў апавяданні паказваецца, як рэўнасць да паручніка, як барацьба за панскую дачку. У сюжэтнай пабудове гэтага твора выявіўся ўплыў нацыяналістычнай літаратуры з яе штампаваным трыкутнікам: парабак, панская дачка, паніч, або: парабак, дачка селяніна, паніч. Твор гэты да прыкрасці сантыментальны. Парабак, паказаны ў ім, непераканаўчы, нежыццёвы. Надуманая і непраўдзівая матывіроўка напісання ліста да Таісы. Ліст пішацца нібы для таго, каб «напомніць аб тых пісагах, што прасякаюць маё цела і твар, а калі ты не ведаеш пра іх—расказаць».

У творы дзесяткі разоў паўтараецца, што Таіса цяпер для Пятруся праціўная, ненавісная, нялюбая. Дапусцім, што на думку аўтара, Пятрусь гэтым якраз і хацеў яе ўразіць. Але-ж словы пра нянавісць (якая тут, вядома, разумеецца, не як свядомая класавая нянавісць, а як нянавісць пакрыўджанага каханка) застаюцца толькі словамі. Сапраўды-ж, Пятрусь кахае Таісу нават пасля ўсіх з яго панскіх здзекаў. Чалавек, які ненавідзіць, не можа так гаварыць:

«О Таіса! Ты не ведаеш, колькі праліта нашай крыві. Колькі мук і ўтомы знесена намі!»

Можа Скрыган і думаў паказаць у гэтым творы барацьбу батрацтва супроць паноў, але гэта не вышла. Дыспазіцыя вобразаў гаворыць зусім пра іншае. Яна гаворыць пра магчымасць прымірэння. Тут зноў узнікае пытанне пра ідэйны багаж самога пісьменніка.

На праблеме кахання пабудован і такі твор, як «Кавалак іх жыцця». Гэта апавяданне мабыць невыпадкова не ўключана Скрыганом ні ў адзін са зборнікаў. Гэта апавяданне не толькі мяшчанскае: яно пошлае ад пачатку да канца. І горш за ўсё, што пошлыя сентэнцыі ідуць ад самога аўтара. У «Зарубчыку» зноў паўтараецца сюжэтная сітуацыя «Таісы». Парабак кахае панскую дачку і пан забівае яго за гэта. Аўтар у гэтым апавяданні выступае шукальнікам «гістарычных незвычайнасцей». Тым самым ён, можа сам таго не ведаючы, падкрэслівае, што гэтыя выключныя выпадкі не выкрываюць эксплаатацыі батрацтва панствам. Ды гэта і не магчыма зрабіць на матэрыяле кахання парабка да панскай дачкі. Патрэбна інакшая сюжэтная сітуацыя. Праўда, аўтар і не ставіў сабе задачы паказаць узаемаадносіны батрацтва і панства ў соцыяльна-класавым плане.

Другая «гістарычная незвычайнасць»—як брат зарубіў брата, каб забраць сабе ўсю гаспадарку і сенажаць. Тут ужо ёсць пэўныя соцыяльныя матывы. І сам аўтар робіць вывад з расказанае дзедам гісторыі:

«Не ўмелі людзі жыць даўней. Не ведалі, хто вінаваты ў тым, што яны бедныя».

Але гэтыя матывы выпадковыя. Не яны складаюць ідэйную дамінанту апавядання.

Калі з папярэдняга мы бачылі, што Скрыган у пачатку свайго пісьменніцкага шляху не здолеў паставіць соцыяльных праблем на матэрыяле ўзаемадачынення батрацтва і панства, то ў гэткай-жа меры ён не здолеў паказаць і эксплаататарскую сутнасць кулацтва. У апавяданні «Невядомы чалавек» кулак паказваецца, як недарэчнасць, як дурнаватая істота, як фізічнае і разумовае ўбоства.

Тры творы зборніка, у якіх узят матэрыял вялікага соцыяльнага значэння, не вызначаюцца шырынёй ахопа рэчаіснасці. Але паміж імі і мяшчанскімі апавяданнямі пра каханне вялікая дыстанцыя.

У «Памятным» на вясковым матэрыяле паказваецца белапольская акупацыя і партызанская барацьба супроць акупантаў. Скрыган дае гістарычна-верную і яркую карціну акупацыі, малюе жудасныя сцэны здзекаў і гвалту. Твор напісан сціслаю эмацыянальна-напружанай мовай. У ім адчуваецца аўтарава ненавісць да белага панства. Гэта не значыць, што ў гэтым апавяданні няма заган. У ім ёсць не мала стылістычных зрываў. Зусім слаба акрэслены персанажныя вобразы. І трэба сказаць, што гэта не толькі ў гэтым апавяданні. Ва ўсім зборніку адчуваецца скрыганова слабасць у стварэнні персанажнага вобраза. З усяго зборніка запамінаецца толькі вобраз Алесі з аповесці «Затока ў бурах».

Аповесць «Затока ў бурах»—другі твор, у якім узят матэрыял вялікага соцыяльнага значэння—ахоплівае значны перыяд часу: імперыялістычная вайна, лютаўская і Кастрычніцкая рэволюцыі, барацьба з бандытызмам. Матэрыял для аповесці ўзят надзвычай вялікі, але пісьменнік не здолеў з ім належным чынам справіцца. У аповесці не пісьменнік валодаў матэрыялам, а матэрыял пісьменнікам. Аўтар не здолеў скампанаваць матэрыял у стройны, кандэнсаваны твор. Кампазіцыйна аповесць раскідана. Гэта цесна звязана з няўмельствам Скрыгана пабудаваць персанажны вобраз, стварыць характар. У аповесці надзвычай многа эпізадычных персанажаў, якія выступаюць, як безасабовая маса, шмат эпізадычных масавых сцэн. У цэнтры аповесці пастаўлен вобраз Алесі, але аповесць сюжэтна разгортваецца незалежна ад гэтага вобраза. Выразна адчуваецца, што ў маладога аўтара не ставала майстэрства для больш складанага, чым простае апавяданне, жанра—аповесці.

У Скрыгановай вёсцы часоў імперыялістычнай вайны шмат плачу, слёз, пакут, але няма соцыяльнай завостранасці ўсяго гэтага, няма свядомага пратэста. Таму ўсё гэта не дзейнічае на чытача. Сам аўтар нават стараецца прымірыць, згладзіць соцыяльныя супярэчнасці, народжаныя вайной. Калі ў Алесі забіваюць мужа, то Скрыган канцэнтруе ўвагу чытача не на тым, што ёй цяжка спраўляцца з гаспадаркай адной, а на тым, што ёй дапамагаюць касіць суседзі. Атрымліваецца сапраўды нейкая ідылічная затока ў бурах. Дзесьці штосьці такое адбываецца, бывае, што і ў гэтую вёску даходзяць хвалі вялікіх падзей, але не надоўга, жыццё зноў астойваецца, уваходзіць у старыя нормы. Так паказваецца ўплыў імперыялістычнай вайны на вёску.

Падзеі вялікага гістарычнага значэння паказаны ў аповесці вонкава, спрошчана. Не паказан пераход ад імперыялістычнай вайны да рэволюцыі. Абедзве з'явы бытуюць асобна, не выяўлена іхная ўнутраная сувязь і ўзаемаабумоўленасць. Гэта зноў-такі звязана з тым, як паказваюцца ў аповесці людзі. Калі-б у аповесці была група персанажаў, на дзеяннях якіх будаваліся-б сюжэтныя сітуацыі, то нарастанне рэволюцыйных настрояў можна было-б паказаць, як разгортванне, як ідэалагічны рост гэтых персанажаў. Тады было-б выяўлена неўхільнасць і абумоўленасць рэволюцыйнага выбуху, спачатку лютаўскага, а пасля і Кастрыч-

ніцкага. У аповесці гэтага няма. У аповесці рэволюцыя праводзіцца праз чуткі, праз безасобныя стыхійныя масавыя сцэны, яна абязлічана.

Разгром панскага маёнтку ў часе Кастрычніцкай рэволюцыі паказан гістарычна праўдзіва. Праўда, у аўтара былі большыя магчымасці ў паказе рэволюцыі на вёсцы. Ён мог паказаць галоўнае, да чаго імкнулася сялянства—захоп зямлі ў памешчыка. Гэты працэс, як вядома, пачаўся яшчэ напярэдадні Кастрычніцкай рэволюцыі.

Пасля рэволюцыі Алесіна становішча мяняецца. Яна робіцца кіраўніком беднаты, старшынёй камбеда. Гэта паказвае, па якому шляху трэба было ісці ў паказе людзей на працягу ўсяе аповесці. Кожная значная падзея павінна мець сюжэтнае значэнне, павінна ўносіць нешта новае ў вобразы, рабіць нейкі ўплыў на жыццё і псіха-ідэалогію персанажаў і на самую іхную дыспазіцыю, расстаноўку. Чытачом гэта ўспрымалася-б, як заканамернае развіццё падзей. Соцыяльныя вытокі бандытызма таксама не паказаны. Гэта зноў-такі з прычыны невыстарчальнасці мастацкага метада пісьменніка. Бандыты ў яго нейкія невядомыя людзі, а не людзі пэўнай класавай групы, якіх штурхнула на бандытызм супраціўленне мерапрыемствам савецкай улады.

У раскрыцці вобраза Алесі таксама ёсць зрывы. Калі Алеся робіцца старшынёй камбеда, то гэта праўдзіва і натуральна, а калі Скрыган ператварае гэты надзвычай прывабны вобраз сялянкі-беднячкі ў хадульны, прэтэнцыёзны і малапераканаўчы вобраз кіраўніка атрада па барацьбе з бандытызмам, дык гэта толькі шкодзіць мастацкай праўдзівасці аповесці.

Мастацка моцна напісана апавяданне «Шорсткая дарога». Напісана яно ў тым-жа стылі, што і апавяданне «Памятнае». Твор гучыць, як кандэнсаванае мастацкае абагульненне. У апавяданні расказана жахлівае вандраванне аднаго бежанца. Пахаваў ён у дарозе жонку і сына. Загінуў яго конь. А ён з другім сынам усё ідзе. На руках у яго памірае другі сын, ён спыняецца, кладзе яго на мураву і зноў ідзе.

«Ён ідзе, блытаецца. Можа ён не хоча... Можа няма куды ісці яму, але заведзеная спрунжына яго бытнасці хоча адкруціцца да канца, каб змераць чалавечую сілу і роспач. У вушах глухі звон. Навокал смага і горач, а перад ім:—далёкая і ўпартая дарога, як далёкае і ўпартае чалавечае жыццё».

На гэтым апавяданне канчаецца. У ім надзвычай моцна выражан пратэст супроць вайны. Але гэты пратэст соцыяльна не афарбован. Аўтар не дае ніякага выйсця. Вайна, як лёс, забірае пад сваю ўладу чалавека і не выпушчае яго. Кола замкнёна і ён павінен загінуць. Апавяданне песімістычнае ў сваіх вывадах. І гэта безумоўна таму, што яно напісана з пазіцый роспачы, жаху ад вайны, з пацыфісцкіх пазіцый.

Першы зборнік паказвае, што малады пісьменнік ад чыста мяшчанскіх першых апавяданняў паступова падыходзіць да працы над соцыяльназначным матэрыялам, да мастацкага адлюстравання соцыяльных працэсаў савецкай рэчаіснасці. Гэта робіцца не без вялікіх зрываў, але кірунак ідэйна-творчага развіцця выбран правільна. Ад чалавека-мешчаніна, ад вобраза чалавека асоцыяльнага—да чалавека—грамадскага працаўніка, да вобраза беднячкі, старшыні камбеда—такая эволюцыя Скрыгана ў зборніку «Затока ў бурах».

У зборніку «Шугае сонца», другім яго зборніку, гэта тэндэнцыя значна ўзмацняецца. Гэты зборнік ахоплівае творы напісаныя за 1929—1930 г. г., гады разгортвання калектывізацыі. Перш за ўсё зборнік паказвае карэнную тэматычную перабудову пісьменніка. Скрыган перайшоў у гэтым зборніку да паказа жывой рэчаіснасці, уключыўся мастацкімі сродкамі ў работу па соцыялістычнай перабудове вёскі. Пераход на новы

матэрыял выклікаў у пісьменніка і змену жанра. Ён пачаў працаваць у дакументальным жанры, жанры нарыса. Увесь зборнік «Шугае сонца» складаецца з нарысаў або жанравых форм сярэдніх паміж апавяданнем і нарысам («Па дарозе»). Праца на дакументальным матэрыяле мела для пісьменніка вялікае станоўчае значэнне ў плане блізкага азнаямлення з соцыяльнымі працэсамі совецкай вёскі перыяда калектывізацыі.

У нарысе мастацкае абагульненне праводзіцца праз мастацкае абагульненне фактаў. Скрыган якраз і імкнуўся зрабіць свае нарысы пра калектывізацыю мастацка-абагульненымі, хацеў пазбегнуць фактаграфічнасці. У значнай ступені гэта яму ўдалося. Частка твораў зборніка гучыць мастацка-абагульнена («Па дарозе», «Подых вясны», «На грані»).

Ва ўсім зборніку толькі ў адным месцы на першай старонцы твора «Па дарозе» паказваецца праца аднаасобніка ў полі. Паказана яна ў такіх фарбах.

«Восенскі ветраны дзень. Палеткі, выгінаючыся па ўзгорках, упіраюцца ў сінь, у лясы, у сёлы. Шэрымі, галоднымі ляжаць яны. У іржэўнік парванымі, патузанымі ніткамі паўпляталася павуціннe. Адзінока па загонах скрыгоча каменнямі плуг. Чалавек нокае на каня. Паволі крочыць, не спускаючы з баразны вачэй. Сунімаецца. Крукам выгнуўшы спіну, з-пад ног вырывае камень і кідае ў камяніцу».

Безнадзейнасцю і беспрасветнасцю вее ад гэтага малюнка працы. Гэтае адмаўленне дробна-ўласніцкай гаспадаркі з'яўляецца лейтматывам усяго зборніка. Беспрасветнасць і бесперспектыўнасць дробнай гаспадаркі з'яўляецца галоўнай матывіроўкай уступлення Скрыганавага селяніна ў калгас. І гэтая матывіроўка гістарычна-праўдзівая.

Скрыганоў селянін не адразу ідзе ў калгас. Так у творы «Па дарозе» Скрыган дае вобраз сястры Ульяны, сялянкі-бяднячкі, вясковай актывісткі, якая не адважваецца пайсці ў калгас. Ёй цяжка парваць са старым, прывычным укладам жыцця.—«А хто яго ведае, дзе лепш»,—гаворыць яна. Вось гэтая неўпэўненасць з'яўляецца ў яе галоўнай перашкодай для ўступлення ў калгас, а зусім не адсутнасць разумення класавай барацьбы. Класавую барацьбу яна бачыць, але сама наглядае яе збоку, не бярэ ў ёй удзелу. Часам ёй, як вясковай актывістцы, сорамна ад гэтага.

— «Гэта-ж летась яшчэ былі прыязджалі да нас, каб арганізаваць, дык дзе там—нічога не вышла. Кулакі як сабралі да сябе паўсяла, ды як спаілі, дык ніхто і рукі не падняў. А я таксама здурнела пад старасць—маўчу. На мяне от і Янка крычыць ужо, а мне брыдка і прызнацца, што я так засталася ззаду».

У яе ўжо складаецца рашэнне ўступіць у калгас, але ў яе ўсё-такі яшчэ ёсць хістанні. Вобразу Ульяны ў нарысе проціпастаўлен вобраз калгасніка-энтузіяста калгаснай працы, які расказвае пра будаўніцтва свайго калгаса, даводзіць, што ў калгасе будзе лепш жыць. Калі Ульяна толькі яшчэ «па дарозе» ў калгас, то гэты калгаснік ужо цалкам асвоіўся з калгасным ладам жыцця і працы. Пра яго Скрыган гаворыць, што гэта новы аграмадны чалавек.

З другіх вобразаў калгаснікаў звяртае на сябе ўвагу дзед Навум у «Подыху вясны» і асабліва вобраз дбайнага старшыні калгаса комуніста Малюгі з нарыса «На грані».

Працэс калектывізацыі ўсё-ж не паказан Скрыганам з дастатковай усебаковасцю і паўнатой. Часткова гэта звязана з магчымасцямі нарыснай формы, а часткова з аўтарскай трактоўкай калектывізацыі. У зборніку ярка выяўлена недаацэнка кіраўніцтва партыі калектывізацыяй. Калгасы ў Скрыгана ўзнікаюць стыхійна, нібы выключна па ініцыятыве саміх сялян. Скрыган нават так піша:

... «Знайшоўся нейкі чалавек, назваўся Камільскім і падбухторыў парабкаў гаспадарку супольную зрабіць».

Праўда, гэта не ва ўсіх нарысах. У творы «Па дарозе» на арганізацыі калгаса настойвае не «нейкі чалавек», а свой вясковы настаўнік. У нарысе «Крокі і дні» калгас арганізоўвае спецыяльная камісія.

У зборніку «Затока ў бурах» Скрыган паказваў вёску заспакоенай, без колькі небудзь выразнай класавай барацьбы. Гэтая тэндэнцыя знайшла свой адбітак і на паказе класавага змагання ў зборніку «Шугае сонца». Калгасы ў Скрыгана арганізоўваюцца занадта мірна, без колькі небудзь актыўнага супраціўлення. У гэтым плане зусім зразумела, чаму толькі ў адным нарысе «Крокі і дні» ўпамінаецца пра раскулачванне. У зборніку «Шугае сонца» Скрыган яшчэ не выяўляе глыбока разумення класавай барацьбы. Але ў параўнанні з першым зборнікам, ён у гэтым сэнсе выяўляе вялікія зрухі. Тут пісьменнік далёка адыходзіць ад трактоўкі кулака, як фізічнага і разумовага ўбоства. У вобразе Людагоўскага Скрыган дае тып кулака, які прыбядняецца, каб пралезці ў калгас. У вобразе Бараноўскага («На грані») паказвае хітрага кулака, які цішком шкодзіць калгасу тым, што падрывае ў калгаснікаў працоўную дысцыпліну.

Усё гэта сведчыць пра ідэйна-творчы рост пісьменніка, пра больш глыбокае разуменне ім працэсаў рэчаіснасці. Зборнік «Шугае сонца» быў добрай школай для пісьменніка, як у сэнсе працы над багатай соцыяльным зместам тэматыкай, так і ў сэнсе паглыблення свайго светапогляду. Гэта не была акадэмічная вучоба. Гэта была вучоба ў самога жыцця, вучоба на матэрыяле практыкі соцыялістычнай пераробкі вёскі. Скрыган у гэтым зборніку не стварыў твораў значнага ідэйна-мастацкага значэння, але ён знайшоў героя для сваёй творчасці, чалавека працы, чалавека-творцу новых соцыялістычных форм жыцця. Скрыган не паказаў роста новай псіхаідэалогіі ў селяніна-калгасніка, але ён знайшоў каштоўны матэрыял для такога паказа.

У трэцяй кніжцы—«Недапісаны профіль» Скрыган прадоўжвае лінію дакладнага вывучэння совецкай рэчаіснасці, але ўжо на матэрыяле заводскага жыцця. Твор прысвечан паказу Гомсельмаша пэўным чынам нагадвае «Большой конвейер» Я. Ільіна пра сталінградскі трактарны. Па жанру гэта вытворчая дакументальная аповесць. Скрыган пісаў гэту аповесць на аснове рэальных фактаў, з нарыснай дакладнасцю. Гэта ў мастацкім метадзе збліжае «Недапісаны профіль» са зборнікам «Шугае сонца». «Недапісаны профіль» заслугоўвае вялікай увагі хоць-бы з тае прычыны, што гэта першы твор буйнага памера ў беларускай літаратуры пра совецкае прадпрыемства з перадавой тэхнікай. Але аповесць заслугоўвае ўвагі не толькі з гэтае прычыны.

Героямі «Недапісанага профіля» з'яўляюцца людзі соцыялістычнага будаўніцтва, творцы соцыялістычнай індустрыі. Персанажныя вобразы аповесці паказваюцца ў іхнай практыцы па тэхнічнаму асваенню завода. Іхная характарыстыка робіцца на аснове гэтай практыкі, у вытворчым плане. Само сюжэтнае разгортванне твора будуецца ў плане тэхнічнага асваення завода, барацьбы за выкананне праграмы, барацьбы за ліквідацыю зацяжнога прарыва. Гэта звужвае раскрыццё персанажных вобразаў, але затое з'яўляецца вельмі спрыяльным для перадачы атмасферы напружанай барацьбы за совецкую машыну.

Да «Недапісанага профіля» Скрыган працаваў выключна на вясковай тэматыцы. Матэрыял аповесці быў новым для пісьменніка. Ён патрабаваў ад яго дэтальнага азнаямлення з тэхнічнымі працэсамі завода і стараннага вывучэння людзей Гомсельмаша. Да абедзвюх гэтых задач Скры-

ган паставіўся вельмі сур'ёзна. Калі чытаеш аповесць, то адчуваеш, што пісьменнік вывучыў матэрыял і ведае яго.

У чым прычына прарыва?

У адсутнасці тэхнічнага вопыта, у неўмельстве арганізаваць вытворчы працэс. Скрыган гэта паказвае на асобных дэталях вытворчага працэса. Шасцёркі ў механічным зроблены, але не пададзены ў кладоўку. З-за гэтага ў зборачным прастой. Дэталі не паступаюць своечасова—паток разрываецца. Тады пачынаюць выбіраць лепшае з бракаваных валоў, каб пусціць у працу, разбіваюць бракаваныя колы, каб дастаць спіцы, бо няма паласавога жалеза на спіцы.

Прычына ў кіраўніцтве, у недастатковай кваліфікаванасці рабочых і іх адносінах да працы. Дырэктар завода Фалкін не здаволен тым, што яго крытыкуюць за прарыў. Ён нават пачынае разважаць з гэтае прычыны, як чужак.

... «Тлумачыць прарыў нават тым, што дырэктар закапаўся ў габінеце, што Фалкіна ніколі няма на заводзе. Можа Фалкіну трэба стаць каля варштату, і ў гэтым будзе здаровае кіраўніцтва? Здорава! А не ўвесь фокус у праграме? Ну, от-жа: дваццацёх пяцёх сіласарэзак мала,—трэба ўзяць трыццаць, адзінаццацёх сячкарань мала,—трэба ўзяць семнаццаць. І пасля гэтага вінават Фалкін, нездатнае кіраўніцтва, апартуністычны букет. Але я не звышчалавек, каб захапляцца гульнёй у энтузіязм».

Зусім зразумела, што з такімі адносінамі да выканання праграмы далёка не паедзеш. І справа тут зусім не ў непасільных тэмпах, бо ў далейшым гэтыя нормы былі перавышаны. На заводзе сапраўды панавала папяровае кіраўніцтва. Начальнік цэха Санаторскі не ведае, што робіцца ў яго цэху, інжынер Фельдман не ведае, што вышла паласавое жалеза і няма з чаго рабіць спіцы, начальнік механічнага Дрыц не ведае, што шасцёркі не пададзены ў кладоўку. У вобразе начальніка забеспячэння Міхайлава Скрыган паказвае очковціраценя, які запэўнівае, што ўсё ёсць і ўсё добра, у той час, калі шмат чаго не хапае. Замест таго, каб ужыць своечасовыя захады па забеспячэнню завода матэрыяламі, ён займаецца вясёлай дэкламацыяй на тэму, што ўсё добра.

У аповесці шырока паказана работа партыйнай арганізацыі і сакратара парткалектыва Генкіна. У Генкіне Скрыган дае вобраз станоўчага героя, вобраз бальшэвіка-кіраўніка рабочага калектыва. Ён настойліва змагаецца за поўны перавод завода на гаспадарчы разрахунак. Для гэтага прыязджае бухгальтар з трэста. У цэхах устанаўліваецца персанальная адказнасць за выпуск дэталей. Генкін добра разумее, што прычыны дрэннай работы завода ў людзях, у кадрах.

— «Пераварыць увесь свежы чалавечы матэрыял,—мяркуе ён,—у катле перадавога пролетарыята—гэта задача ляжыць на комуністах і яна не знімецца да таго часу, пакуль у нас будуць яшчэ тыя пласты, з якіх фармуецца пролетарыят. А работа па фармаванню чалавека—самая цяжкая. Гэта-ж ясна, што стан і ўсякай арганізацыі і ўсякага завода залежыць ад якасці чалавечага матэрыяла»...

З другіх вобразаў станоўчых герояў асабліва вылучаюцца вобразы Белабжэцкага, Аграната і асабліва Каці Лапянковай. У гэтых вобразах Скрыган паказвае адданых работнікаў, якія паспяхова авалодваюць тэхнікай і даюць высокія паказчыкі ў працы. Вобраз Каці Лапянковай вышаў таму такім поўнакроўным і поўнацэнным, што тут пісьменнік сустрэўся з больш знаёмым матэрыялам. Лапянкова прышла з вёскі.

У цэнтры аповесці пастаўлена прамова таварыша Сталіна на канферэнцыі работнікаў соцыялістычнай прамысловасці.

— «Толькі рэалізаваўшы сталінскія ўмовы,—гаворыць Генкін на за-

водскай партнарадзе,—рабочы мецьме магчымасць пачуць завод кроўным, сваім, бо ён будзе ім зацікаўлен».

Завод пачынае барацьбу за шэсць сталінскіх умоў. Пачынаецца барацьба за аперацыйнасць, за большэвіцкую арганізаванасць, за авалоданне тэхнікай. Фалкіна, які не здолеў стаць добрым дырэктарам, замяняе новы дырэктар Камаеў. Камаеў бачыць, што на заводзе ёсць энтузіязм, ёсць жаданне працаваць, але няма яшчэ ўмельства, тэхнічнага вопыта і галоўнае—большэвіцкай арганізаванасці. Ён пільна прыглядаецца да людзей, дае, спагнанні такім, як Міхайлаў, ускладвае адказнасць за выкананне загадаў на начальнікаў цэхаў. Усё гэта прыводзіць да перамогі, да ліквідацыі прарыва, завод пачынае працаваць нармальна, даходзіць да стопроцантнай выпрацоўкі.

«Недапісаны профіль»—гэта досыць яркі вобраз совецкага завода канвеернай вытворчасці ў перыяд яго тэхнічнага асваення, у пускавы перыяд. Можна гаварыць пра тое, што некаторыя вобразы аповесці схематычныя, можна паказаць і на іншыя, досыць істотныя яе заганы, як сухасць, рацыяналістычнасць мовы, ізаляваны ў пэўным сэнсе паказ Гомсельмаша, але значэнне і значнасць твора ў тым, што ў ім паказваецца індустрыяльная Беларусь, барацьба за соцыялістычную індустрыю.

Мы ўжо гаварылі, што зборнік «Шугае сонца» быў школай вялікага значэння для пісьменніка. У гэтым зборніку Скрыган знайшоў сапраўднага героя—чалавека-творцу новых соцыялістычных форм жыцця. Але ў зборніку «Шугае сонца» Скрыган працаваў у нарысным жанры. Гэта не выпадкова. У нарысе заўжды моцна выражан рацыянальны элемент. У нарыснай творчасці не абавязкова ўдзел сферы эмацыянальнай і падсвядомай. У зборніку «Шугае сонца» ў ідэйным асваенні калектывізаванай вёскі і яе людзей браў удзел у пераважнасці Скрыганоў розум. Перабудова яшчэ не захоплівала эмацыянальнай і падсвядомай сферы.

Крыху раней за «Недапісаны профіль» Скрыганом напісана надзвычай эмацыянальнае апавяданне «Смага». У гэтым апавяданні Скрыган робіць спробу перабудаваць і пачуццёвую сферу. Пісьменнік асвядомлівае, што недастаткова разумець рэчаіснасць, бачыць яе, трэба яе яшчэ і прачуць. Вырашэнне гэтай калізіі ў «Смазе» ідзе па лініі проціластаўлення горада і вёскі. Розумам пісьменнік бярэ стаўку на адмаўленне старасвецкай вёскі «з шнурамі, дзядзінцамі, лапцямі, горам, нестачаю...» Ён нават ужо бачыць, што аднаго разумовага адмаўлення яшчэ недастаткова:

... «І ўсё-ж такі можна бачыць крывую дарогу сяла—старасвецкага, дрэўнага, не любіць яго, уцякаць і хварэць з ім. Можна бачыць кіпучасць рушлівую горада, шалёную стромасць, сістэму, рытмічны поступ, ісці да яго—і крывіць дарогамі». Але ўсведамленне гэтага факта мала пісьменніку дапамагае. Спроба перабудаваць усю сваю пісьменніцкую сутнасць Скрыгану не ўдаецца. Старасвецкая вёска ўвасоблена ў апавяданні ў вобразе дзеда-селяніна ды ў музейных экспанатах. Селянін выклікае ў памяці ў пісьменніка вобразы мінулага, вобразы бачанага ў дзяцінстве.

«Гэта там—у памяці—яны сядзяць з люлькамі на прызбах або на печы, і таксама хрыпяць пасушанымі грудзямі. І таксама яны могуць гаварыць толькі з болем, з векавым нагарам, стоячы толькі на сваёй векавой дарозе».

Музейныя ўражанні робяць на пісьменніка той-жа ўплыў:

«Чарадою праходзяць у памяці лыкавая лучніковая Беларусь. І тут вось, у гэтых смыкох, у нацягічах, у берасцянках, усё яе славутае багацце, а ў кіёх, на якіх пастухі рабілі зарубкі—уся культура. Славутая, сляпая самабытнасць!»

Пісьменнік, як-бы асуджвае, адкідвае гэтую даўнасць. Але ў яго ўспамі-

нах адчуваюцца ноткі жалю, што вось усё гэта было і не паўторыцца. Яно выклікае ў яго прыемныя «ад перажытнасці хваляванні». Па сутнасці ў «Смазе» праводзіцца эстэтызацыя, рамантытазыя старасведчыны, пошукі нацыянал́істычнай раматыкі. Пісьменнік нават едзе шукаць старасветчыну ў жыцці, едзе на вёску ў пошуках гэтай нацыяналістычнай рамантыкі. Вядома, ён не знаходзіць яе. Старасвецкай, патрыярхальнай вёскі няма. Ёсць калгасная вёска, зусім не падобная на старую.

Калгаснік расказвае пісьменніку пра калгас, але ён мала яго слухае. Яго больш займае тое, што ён не знайшоў таго, чаго шукаў.

«Я прыщоў, каб у лістах знайсці сваю вясну, якую чалавек павінен насіць у памяці—і не знаходжу яе. Нават нічога не можа нагадаць яе. Па дарозе мінаюцца нейкія новыя, дасюль мною незнаныя,—а можа забытыя—сёлы. Грузна, разложыста, шырокімі сядзібамі паўсядалі яны ў зямлю. Аграмаднымі будынкамі, новым аблічам чалавечае сілы парушылася спрадвечная ідылія цішыні. Парушылася пустэльная бяскрайная роўнядзь, дзе павінны былі плакаць або крычаць згубленыя адзінотныя два кусты—у музеі. Відзен нейкі смелы размах. Калгасы».

Нацыялістычная рамантыка разбіта савецкай рэчаіснасцю. Старасвецкай вёскі няма. Пісьменнік гэта ведае, ён нават спрабуе ісці разам з жыццём, ён бачыць, што «зямля здала векавую каманду над чалавекам». Але са старым ён звязан моцнымі ніцямі і працэс пазбаўлення ад старасветчыны праходзіць у яго хваравіта, выклікае ў яго тужлівыя ноты. Парваць са старасвецкай вёскай у яго не хапае сілы. Гэта робіць «Смагу» творам кулацкім, у яе ідэйным змесце.

Горад у «Смазе» пісьменнік ўспрымае вонкава, галоўным чынам, з пункту гледжання вулічнага руху, мітусні. У Скрыганоўым успрыйманні горада, у гэтым апавяданні прарываюцца ноты кулацкага, падобнага на есенінскае ўспрыйманне горада. Горад—гэта шалёная стромасць, механіка, сістэма. Гэтая сістэма нібы і вабіць пісьменніка, але ў той-жа час, ён надзвычай баіцца яе, баіцца бяздушнасці тэхнікі, стандартызацыі жыцця. Гэтыя кулацкія ідэйкі, дзе менш, дзе больш выразна адчуваюцца за Скрыгановым успрыйманнем горада ў «Смазе».

Скрыган у зборніку «Шугае сонца» перабудаваўся тэматычна, уключыўся ў барацьбу, у практыку соцыялістычнага будаўніцтва. Але гэта перабудова не была арганічнай, яна захоплівала толькі разумовую сферу. Пісьменнік у «Смазе» спрабаваў выкрыць тое, што перашкаджала яго канчатковай перабудове, паказаць у плане адштурхоўвання ад яго з тым, каб ад яго адмовіцца. Гэта апавяданне носіць на сабе выразныя адзнакі барацьбы паміж розумам і сэрцам, паміж інтэлектуальнай, свядомай сферай і сферай пачуццёвай і падсвядомай. Але ў «Смазе» перамагло рэакцыйнае ў Скрыгане. Пісьменнік мабыць гэта адчуваў і яго спалохала гэта. Таму ў «Недапісаным профілі»—сваім наступным творы ён на новым матэрыяле вярнуўся на пазіцыі зборніка «Шугае сонца» ў сэнсе мастацкага метада. Але гэты зварот быў ненадоўга. Далейшая творчасць Скрыганава ідзе пад знакам інтуітывізма, пад знакам ідэалістычнага суб'ектывізма ў творчым метадзе. Лінія зборніка «Шугае сонца» і аповесці «Недапісаны профіль» робіцца падпарадкаванай, бакавой. Па гэтай лініі цяпер ідуць усе творы пра калгасную вёску.

У мастацкім дачыненні Скрыган у гэтых творах амаль што не ўзняўся вышэй за творы зборніка «Шугае сонца». Новага ў сэнсе паглыблення мастацкага метада яны ўносяць у яго творчасць надзвычай мала. У гэтых творах пісьменнік працуе ў тым-жа нарысным і блізкім да нарыса жанры, як і ў зборніку «Шугае сонца». Тут няма абагуленых, тыпізаваных і літа-

ратурна-пабудаваных вобразаў людзей. Гэта проста занатованыя сырыя кавалкі жыцця.

У нарысным жанры напісана «Дбайнасць». Тэма ўзята значная, пра дбайнага калгаснага брыгадзіра, пра новага чалавека соцыялістычнай вёскі. Пісаўся твор на фактычным матэрыяле. Зусім зразумела, што нарысны жарн абмяжоўваў магчымасць тыпізацыі, абагульнення вобраза Міхаіла, не даваў магчымасці стварыць стройную сюжэтную структуру. Але пісьменнік таму і пісаў гэты твор у жанры нарыса, што ў ім ён працягвае яшчэ лінію накаплення матэрыяла, вывучэнне людзей калгаснай вёскі. Таму і ў сюжэтным дачыненні твор разгортваецца, як зводка жывых уражанняў самога аўтара, уражанняў літаратурна не пераапрацаваных. Каб гэта было зроблена, то вышаў-бы не нарыс, а апавяданне, або навела.

Блізка да нарыса і апавяданне «На выселках». Тэматычна задумана яно таксама цікава. Гэта апавяданне пра дбайнасць чалавека, які яшчэ не ў калгасе, пра чалавека, які ахоўвае калгасны ўраджай, каб завяваць давер'е калгасніку і ўступіць у калгас.

Гэты чалавек, Шкаруба, раней працаваў у камбедзе, актыўна змагаўся з дэзертырствам, пасля атрымаў прырэзку і баючыся, каб зноў не збяднець, закапаўся ў чыста-гаспадарчыя клопаты, стаў скрытным, замкнёным. Калектывізацыю ўспрыняў, як замах на свой добрабыт і таму памяняўся гаспадаркай з другім селянінам, вышаў на выселкі. У першай частцы апавядання паказваюцца прыватна-ўласніцкія, кулацкія імкненні Шкарубы. Паварот яго да калектывізацыі матываваны Скрыганом чыста псіхалагічнымі прычынамі. Яго пачала заядаць адзінота, тое, што калгаснікі да яго ставіліся непрыязна, адчужана.

«А добры чалавек не заглядаў да яго на двор, нібы на ім ляжала нейкая нязмыўная пляма. Звычайна ў такія часіны людзі шукаюць уцехі ў сям'і».

Але і сям'я ўцехі не давала. Вырасла дачка, ёй трэба было быць сярод моладзі, трэба было думаць пра сваё будучае жыццё. Моладзь была ў калгасе, і яе цягнула да калгаснікаў. У сям'і намячалася шчыліна. Шкаруба гэта бачыў і яму было шкада дачкі, што яна ўсё адна, што нядобра ёй у адзіноцтве. І ён вырашыў ісці ў калгас. Але сваімі ранейшымі паводзінамі ён скампраметаваў сябе перад калгаснікамі і яны не хацелі яго прымаць. Тады ён дауміўся ахоўваць калгасны ўраджай. У калгас яго прымаюць. Так канчаецца апавяданне.

У сюжэтным плане гэта ўжо не нарыс, а блізкае да нарыса па сродках мастацкага раскрыцця тэмы апавяданне. На гэтым апавяданні відаць недастатковае знаёмства пісьменніка з калгаснай вёскай. Гэта выяўляецца ў слабасці матывіроўкі ўступлення Шкарубы ў калгас. Гэтая матывіроўка чыста псіхалагічная. Хутарская практыка Шкарубы матывавана больш моцна, там не толькі псіхалогія, але і гаспадарчыя меркаванні. Залішне паспешна прымаюць Шкарубу ў калгас,—як толькі даведаліся пра факт аховы калгаснага ўраджая. Яго проста такі запрашаюць у калгас. Гэта занадта ідылічна і недастаткова пераканаўча.

У апавяданні паказваецца цікавы старшыня калгасу стары Леўка. Ён успамінае пра маладосць, параўноўвае яе з цяперашнім, захапляецца тым, што ён старшыня.

Звычайна Скрыган піша без клічнікаў. У яго няма моцнага выражэння пачуццяў і вобразаў людзей з моцнымі пачуццямі. У гэтым апавяданні сям-там праслізваюць лірычныя моманты. Але лірычны зварот яшчэ накіраваны на нейтральны матэрыял, на вясковы пейзаж.

«Чорт на цябе, якая слаўная ты, сёлавая, вечна маладая і вечна пявучая раніца!»

У зборніку «Шугае сонца» сярод нарысаў ёсць адно апавяданне «Па дарозе». Раней за апавяданне «На выселках» ім напісана апавяданне «Зноў па дарозе», дзе тыя-ж самыя людзі паказваюцца на больш высокай ступені ідэалагічнага станаўлення. Тут адзін з персанажаў Гарасім ужо гаворыць пра калгасную дбайнасць. Ён высока цэніць працу і таму дбайнасць матывуе тым, што на калгас шмат пакладзена працы.

«Прышлі на карчы, на імшары, колькі поту, пакуты разам паклалі, пакуль разбілі, дык дзе ты цяпер пакінеш, гэта ўжо ўсё адно, як сваё».

Апавяданне ў сюжэтным плане таксама, як і ранейшыя напісана ў плане запісаў жывых уражанняў ад калгаснага жыцця. Лірычнае адступленне тут таксама, як і ў апавяданні «На выселках», лірычны зварот, выклікаецца пейзажам—жытнёвым полем. Падача адступлення ў плане таго, што «зямля здала каманду над чалавекам» і чалавек стварае шчаслівае, харошае жыццё.

«Эх, як шырока, аднак, можна дыхаць, так от жытнёвымі хвалямі плысці, і каб ўсюды багатымі сокамі пахла зямля! Не, шчаслівы ты чалавек, калі можаш, от так, от шырока, над усім гэтым стоячы, жыць!»

Цёпла-лірычна гучыць і канцоўка апавядання:

«Вот пайшлі яны спаць і панеслі з сабою руплівасць пра заўтра. Гэта ў людзей нарадзілася новая якасць—дбайнасць».

Я падкрэсліваю лірычныя мясціны ў апавяданнях пра калгасную вёску таму, што гэтыя мясціны маюць прынцыповае значэнне ў сэнсе арганічнай перабудовы Скрыгана. Лірычна сагрэтая распрацоўка калгаснай тэмы і падача вобразаў калгаснікаў паказвалі Скрыгану плённы творчы шлях ліквідацыі разлада паміж розумам і сэрцам. Але Скрыган не пашоў гэтым шляхам. Ён пераключыўся на інакшы матэрыял і зрабіў паварот у бок ідэалістычнага суб'ектывізма ў творчым метадзе.

Усё таго-ж плана, як відаць і па назве, апавяданне «Сустрэчы». Тут зноў, як і ў «Па дарозе» паказваецца сястра Ульяна. Яна ўжо ў калгасе. Калі гаварыць пра раскрыццё вобраза сястры, то яно не адрозніваецца ад іншых. Гэты вобраз не раскрыт больш глыбока. А між тым тут ужо нельга гаварыць пра недастатковае знаёмства з вобразам. У апавяданні паказан старшыня калгаса Грыбаль, комуніст, з якім аўтар калісці разам вучыўся. Вобраз таксама досыць знаёмы яму, і ўсё-ж недастаткова разгорнуты. Справа тут у тым, што гэтыя вобразы знаёмы пісьменніку па іхнаму мінуламу і мала знаёмы, як калгаснікі. Інакш кажучы, тут усё яшчэ працягваецца лінія азнаямлення з матэрыялам і з людзьмі калгаснай вёскі.

Апошнім па часу апавяданнем пра калгасную вёску з'яўляецца апавяданне «Законы». Прыём сюжэтнага разгортвання і тут традыцыйны для Скрыгана. Калгаснік Бенька апавядае яму пра сваё жыццё. Але трэба зазначыць, што яно не вытрымана ў адным сюжэтным плане. Спачатку апавядае Бенька, пасля неўзаметку аўтар пачынае апавядаць ад сябе. Гэта апавяданне пра законы класавай барацьбы. Але Скрыган не выяўляе арыгінальнай, глыбокай трактоўкі гэтага пытання. Ён выбраў найбольш простае,—біяграфічную лінію—і на аснове яе будуе сюжэтную сітуацыю. Бенькава жонка Анэта—дачка стражніка. Пасля яна робіцца шкодніцай у калгасе. Пісьменнік шукае ў гэтым законамернасці. І ён яе знаходзіць. Але гэта законамернасць не гаворыць пра глыбокае разуменне пісьменнікам законаў класавай барацьбы. Для пастаноўкі складанага пытання ён узяў нізкаякасны матэрыял. Анэта чалавек цёмны, не адукаваны і пра высока-свядомую класавую барацьбу тут гаварыць не даводзіцца. Між

тым калі апавяданне спецыяльна будуецца на раскрыцці праблемы класавай барацьбы, то зусім натуральна патрабаваць ад пісьменніка раскрыцця яе вышэйшых форм, форм высока-свядомай класавай барацьбы.На апавяданні «Законы» лінія зборніка «Шугае сонца» і аповесці «Недапісаны профіль», лінія паказа людзей соцыялістычнага будаўніцтва абрываецца.

За апавяданнем «Смага» паследваў цэлы рад апавяданняў з цыкла «Смага». З іх у лінію калгасных апавяданняў уваходзіць толькі «Зноў па дарозе» і «Сустрэчны». Усе-ж астатнія, як і апавяданне «Смага», характэрны ўстаноўкай на інтуіцыйную творчасць, на творчасць, якая не звязана з папярэднім дакладным вучэннем жыцця. Гэту лінію Скрыган робіць галоўнай лініяй сваёй творчасці. Зусім зразумела, што гэты паварот адбіваецца на яго творчасці надзвычай адмоўна. Гэта паварот у бок значнага ўзмацнення рэакцыйных алементаў у яго творчасці.

Паварот у бок інтуітывізма ў скрыгановай творчасці ідзе пад знакам вучобы ў Ю. Олешы, перыяда «Вишневой косточки». Пад непасрэдным уплывам Ю. Олешы напісаны «Запіскі майго суседа». Характэрна, што з пераарыентацыяй мастацкага метада ў творчасці Скрыгана знікае герой зборніка «Шугае сонца» і аповесці «Недапісаны профіль»—непасрэдны ўдзельнік соцыялістычнага будаўніцтва, чалавек працы.

Галоўнае месца цяпер пачынае займаць інтэлігент, які часта невядома з чаго жыве і чым займаецца. Ад няма чаго рабіць гэтыя інтэлігенты выдаюць сябе за глыбокадумных людзей, за філосафаў. Яны разважаюць пры ўсякім зручным і незручным выпадку. Два такіх дзівакі Балтазар і Шэф паказаны ў «Запісках майго суседа». Дарэчы: Шэф вельмі нагадвае дальтоніка Ю. Олешы з апавядання «Любовь».

Сам аўтар таксама робіць стаўку на філасафічнасць, ён шмат разважае. Але гэта не сапраўдная філасафічнасць, у ёй няма глыбіні думкі. Напрыклад, ён гаворыць пра тое, што чалавек заўсёды павінен шукаць, але яму не дадзена знаходзіць нічога такога, на чым-бы ён мог суняцца. Ды і ўрэшце аказваецца, што ўсе шуканні—гэта толькі шуканні самога сябе, свае поўнасці. Тут зноў выплывае матыў вядомы па ранняму Скрыгану, па мяшчанскаму апавяданню «Кавалак іх жыцця». І разуменне гэтае поўнасці адно і тое-ж. Скрыган пісаў пра Шкарубу, што ён шукаў уцехі ў сям'і. Для пісьменніка сям'я таксама не можа быць ратункам. Пісьменнік—чалавек сугуба грамадскі.

Вядома гэта не азначае, што нельга наогул пісаць пра пошукі дзяўчыны, пра пытанні сям'і. Многія з гэтых пытанняў якраз чакаюць свайго мастака. Усё залежыць ад таго, як ставіць праблемы сям'і і як іх вырашаць. Калі пісьменнік шукае ў сям'і ціхай затокі, у якой можна было-б схавацца ад жыццёвых бур, то зусім зразумела, што такія пошукі для пролетарскай грамадкасці не прыймальны. Совецкага чытача не можа задаволіць вобраз дзяўчыны, вядомы з буржуазнай літаратуры, вобраз дзяўчыны, якая павінна выключна займацца справамі кахання і мае прызначэнне быць хатняй гаспадыняй, або кухаркай. Совецкі чытач хоча бачыць совецкую дзяўчыну, як поўнапраўнага члена грамадства, ідэйнага чалавека, як удзельніка вялікай работы па стварэнню соцыялістычнага грамадства.

У апавяданні «Старасць», апавяданні той-жа стылевой лініі, што і «Запіскі майго суседа», ставіцца праблема творчасці. Стары прафесар скульптар робіць скульптуру дзяўчыны. Гэтая скульптура з'яўляецца сімвалам маладосці ў апавяданні. Яна сюжэтна абыгрываецца, як процілегласць старому скульптару. Ён і выляпіў яе, як пачуў першыя прыметы старасці. Выляпіў, каб забыцца на старасць. Але гэта яму не ўдаецца.

У гэтым апавяданні ў вобразе Спадарожніка паўтараецца дзівак-каментатар, які быў у «Запісках майго суседа» ў вобразах Балтазара і Шэфа.

Уведзен ён у апавяданне ў той-жа функцыі. Трэба сказаць, што гэтыя персанажы нежыццёвыя, штучныя па сваёй структуры, штучныя і сюжэтныя сітуацыі, што ствараюцца з іхным удзелам. Апавяданне «Старасць» крыху выратоўвае тое, што ў ім паяўляецца сапраўдная, жывая савецкая дзяўчына.

Калі скульптар-прафесар паказаў скульптуру дзяўчыне Алі, і калі Спадарожнік сказаў ёй: «А вось гэта ў скульптуры ты», то яна адказала: «Я не хачу быць такою». Пасля яна тлумачыць чаму. Яна гаворыць:

«Вы расставілі кругом старадаўнасць. Нават Найда ваша чужая, з антычнасці. Прыгожае цела і толькі. Гэтак трактавалі жанчыну ад самага пачатку нараджэння мастацтва. А дзе-ж у ёй наша эпоха? Дзе душа новага часу? Вы жывеце аддзельна ад веку, прафесар. Вы хочаце жыць над класамі і гэтым астаецеся ззаду. Вы не бачыце сапраўднага чалавека, каторы непараўнальна багацшы за вашу мару. І ваша Найда не жывая, прафесар. Чужая. Я не хачу быць такою».

Трэба сказаць, што тут выказана глыбокая думка. Скульптар адчуў праўду Аліных слоў. Ён убачыў у Алі новую Найду, якую ён павінен выляпіць.

«Скульптар вярнуўся радасны, буйны. Майстэрня здалася яму шырокаю, поўнаю сонца і наплывам дзіўных, тонкіх пахошчаў. І ў гэтым новым шырокім святле фігура Найды здавалася не сваёю, далёкаю: яна нічога не мела агульнага з жывою Найдаю, дыханне якой яшчэ пачувалася ў кожнай драбніцы. І ён ужо бачыў, як гэты новы вобраз ён выляпіць—рэальны, невычэрпна багаты, у каторым гарэцьме душа самага шчаслівага, самага разумнага ў жыцці пакалення. І недзе прапала, разбілася ўдрызг нядаўная мулкасць трывогі за старасць.

Маладосць, што прышла з жывога жыцця да скульптара ў вобразе савецкай дзяўчыны, перамагла яго старасць. Яна дала яму багаты, змястоўны матэрыял для творчасці. Як сапраўдны мастак ён адчуў гэта.

Апавяданне «Старасць» каштоўна сваім замыслам. Яно глыбокае паводле ідэйнай установкі. Глыбокае наўпярок запазычанаму ў Олешы суб'ектывізму, наўпярок штучна надуманым сітуацыям, літаратуршчыне. Творчасць павінна ісці з глыбі самога жыцця. Яна павінна быць шчыльна звязана з рэчаіснасцю. Такава ідэя «Старасці». Ідэйная ўстаноўка «Старасці» сведчыць пра тое, што Скрыган мог-бы ствараць сапраўдную літаратуру.

У Скрыгана выяўляюцца дзве крайнасці. Калі ён бярэ яркі соцыяльназначны матэрыял, матэрыял самога жыцця, то ён звычайна яго падае фактаграфічна, амаль што без творчай перапрацоўкі. Матэрыял яго як-бы падаўляе. Калі-ж ён дае літаратурна-пабудаваныя вобразы, то яны аказваюцца выдуманымі, нерэальнымі, аказваюцца не літаратурай, а літаратуршчынай. Гэта ярка выяўляецца ў творах, напісаных пад непасрэдным уплывам Ю. Олешы.

Скрыган залішне многа займаецца ўспамінамі пра дзяцінства. Гэта ідзе ў яго ад нястачы матэрыяла. Ён слаба звязан з жыццём. Але гэтыя ўспаміны, проста кажучы, толькі шкодзяць яго творчасці. Гэта можна бачыць хоць-бы на апавяданні «У тэатры». Тут мы маем паданыя ў своеасаблівай форме (як успрыйманне вобразаў «Бацькаўшчыны» Кузьмы Чорнага) успаміны пра старасвецкую вёску. Успаміны таго-ж плана, як і ў «Смазе». І ідэйная пазіцыя тут тая самая. Трэба сказаць, што ўстаноўка на ўспаміны падобнага плана можа прывесці да буйных нацыяналістычных зрываў у творчасці пісьменніка. І агаворкі пра народніцтва, як гэта робіцца ў «Смазе», справе не дапамогуць. Савецкага чытача ў першую чаргу цікавіць,

калі гаварыць пра вёску, як фармуюцца новыя людзі ў соцыялістычнай вёсцы, як нараджаецца новая псіхаідэалогія, новыя працоўныя суадносіны, калгасны побыт, як ствараецца заможнае жыццё ў большэвіцкіх калгасах. Гэта цяпер галоўнае і на гэтым павінен канцэнтраваць увагу совецкі пісьменнік.

У апошніх апавяданнях Скрыган выяўляе значнае павышэнне літаратурна-тэхнічнага майстэрства. Але не заўсёды ён умее знайсці глыбокую значную тэму. Такія апавяданні, як «Слепата», «Развітанне» можа і цікавы ў пэўным сэнсе, але яны суб'ектывістычны, нязначны ў ідэйным дачыненні. Урэшце Скрыган павінен зразумець, што ён можа расці, як пісьменнік толькі на грамадаска-значным матэрыяле, на пастаноўцы і вырашэнні праблем совецкай сучаснасці. Эпоха тых не прызнае, хто не імкнецца яе пазнаць.

Калі пісьменнік будзе пісаць на матэрыяле жывой рэчаіснасці, пісаць не скажаючы яе, то ўвесь яго інтуітывізм знікне, як дым. Совецкая дзяўчына Аля ў «Старасці» не падпарадкавалася інтуітывізму. Гэты вобраз выпадае з стыля апавядання, ён наўпярок скрыганову мастацкаму метаду паказан рэалістычна.

У апавяданнях «Гордасць» і «Слава» Скрыган паказвае, што ён мог-бы браць свежую арыгінальную і значную тэматыку. Абодвы апавяданні напісаны на тэму пра совецкі патрыётызм. Апавяданне «Гордасць» пабудавана ў плане паказа невядомаму чалавеку, які калісці даўно жыў у Менску, поспехаў Менскага гарадскога будаўніцтва. Можна гаварыць пра слабую мастацкую матывіроўку паказвання, але важна, што пісьменнік узяў значную тэму, таму вялікай соцыяльнай вартасці. Значнасць матэрыяла ў апавяданні пераважвае заганы мастацкага метада ў сэнсе стаўшых шаблонам у Скрыгана і створаных па рэцэптах Ю. Олешы, мастацка не матываваных і маючых за аснову выпадковасць сюжэтных сітуацый.

У апавяданні «Слава» тэма раскрываецца больш рэалістычна. Яна раскрываецца праз мары пра сына, які пытае ў аўтара пра рэволюцыю, праз вобраз ордэнаноснага студэнта—героя грамадзянскай вайны, праз успрыйманне фільма «Чапаеў». Пісьменнік гаворыць пра дзяцей:

«Так, гэта будзе іхная радасць. Яны будуць пытацца пра нас, яны будуць берагчы памяць пра нашы дні, як сваю славу».

Пісьменнік у гэтым апавяданні ўспамінае сваю маладосць. Але гэты ўспамін выступае ў новай функцыі. Пісьменнік супастаўляе сваё дзяцінства з дзяцінствам цяперашніх, совецкіх дзяцей. Ён успамінае сваё дзяцінства, каб сказаць:

«Мой сын! Ты бачыш, якія малыя мае заслугі і як упарта трэба іх дасягаць. Я таксама быў тады дзіцянём і зайздрошчу геройствам другіх. Але я іх бачыў і адчуваў. Я нашу іх у сабе, як ганаровы падарунак майго дзяцінства, каб некалі пра іх расказаць і табе».

Тэма пра заслугі перад рэволюцыяй разгорнута ў самастойнае апавяданне ў творы «Бацькі і дзеці». У гэтым апавяданні паказваецца школьнік Колька, які пытаецца ў маці пра бацькавы заслугі перад рэволюцыяй. Маці ашукала яго, расказаўшы няпраўду пра мінулае бацькі. Пасля ў школе гэта высветлілася і Кольку гэта было вельмі балюча. Яму не было чым пахваліцца. Ён зайздросціў сваім сябрам, у якіх бацькі былі заслужаныя перад рэволюцыяй. І ён не хацеў чытаць перад класам хлусню.

— «У мяне няма бацькі. Я не хачу мець такога!—з крыўдаю выкрыкнуў ён і ўпаўшы галавою на кулачкі, горка заплакаў».

Калі ў ранейшых творах з соцыяльна-значнай тэматыкай, у творах шчыльна звязаных з совецкай рэчаістасцю Скрыганова мастацкая мова была сухая, рацыяналістычная, калі ў яго толькі ў паасобных творах пра-

рываліся лірычныя ноты, то ў «Славе» і «Бацьках і дзецях» мы бачым мастацкую тканіну, наскрозь прасякнутую пачуццём. Гэтыя творы паказваюць пісьменніку шляхі арганічнай перабудовы, шляхі адмаўлення ад інтуітывізма, шляхі працы над матэрыялам вялікага соцыяльнага значэння. У гэтых творах Скрыган знайшоў і значную і эмацыяльна афарбаваную тэму.

У сваіх апошніх па часу апавяданнях Скрыган досыць тонкі стыліст. Ён шмат працуе над выразлівасцю мастацкага слова. Самае галоўнае, што цяпер патрэбна Скрыгану і чаго яшчэ ў яго няма, гэта ўмельства бачыць у жыцці новага чалавека, бачыць яго ва ўсёй складанасці і—паказаць яго ў літаратуры, стварыць высока-мастацкі, тыпізаваны яго вобраз. Трэба працаваць і над майстэрствам сюжэтнага разгортвання твора, бо ў скрыгановых апавяданнях апошняга часу занадта аднастайная сюжэтная пабудова. Адны з іх будуюцца ў плане занатоўвання жывых уражанняў ад рэчаіснасці, сырых кавалкаў жыцця, другія—грунтуюцца на памылковасці першага ўражання (у мініятурах).

Скрыган прайшоў досыць складаны ідэйна-творчы шлях. Яго мастацкаму метаду ўласцівы ідэйна-палітычныя зігзагі. Выраўняць лінію, працаваць над тым, што хвалюе лепшых людзей совецкай краіны, працаваць метадам праўдзівага паказа—метадам соцыялістычнага рэалізма, залежыць ад яго самога. Калі гаварыць у плане здольнасцей, то ў Скрыгана ёсць перспектывы творчага роста. Трэба толькі ліквідаваць разгубленасць перад совецкай рэчаіснасцю, ліквідаваць замыканне ў свет асабістых праблемак і перажыванняў, загаварыць дужым голасам совецкага пісьменніка, пісьменніка—рэволюцыянера.

І памятаць—галоўнае людзі, новы соцыялістычны чалавек.

---

Адказны рэдактар *М. ЛЫНЬКОЎ*.



АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка.**

Рэдактар *М. Лынькоў* Тэхрэдактар *І. Мілешка*

Здана ў друкарню 15/VII—35 г. Падпісана да друку 17/VIII—35 г. Аб'ём 10 друкаваных аркушаў.
Папера 72×105 1/16. Знакаў у друкаваным аркушы 64.000. Тыраж 2.000 экз. Зак. № 673.
Уп. Галоўлітбела № Б 3380.

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, .

